# ПОЛЫМЯ

СТУДЗЕНЬ

№ 2

МЕНСК — 1923

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ПОЛЫМЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, КУЛЬТУРЫ, ЭКАНОМІКІ Й ПУБЛІЦЫСТЫКІ



**№ 2**

СТУДЗЕНЬ 1923

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“. МЕНСК, 1923.

# Люблю.

Балотам сьнежным праз сасоньнік,
Які смалёвым пахам вабіць,
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць.

Люблю, як кусьцік нізкарослы,
Калі з саней назад паглянеш,
Нібы, адкінуўшы ён вёслы,
Плыве на белым акіяне.

Пукаты стог люблю аб'ехаць,
Сьляды наўкол зрабіць палозьзем.
І сена, выскубнуўшы вехаць,
Люблю раскідаць па дарозе.

Люблю, як санкі мчацца з плачам,
Пісклявы гымн зіме заводзяць,
А конь падкуты чортам скача,
Нібы па шкле, па гладкім лёдзе.

Люблю захутацца кажухам,
Згайсаць ад меж да меж краіну
І крыкнуць гучна завірухам,
Што ў хвалях белых не загіну.

І зноў ляцець... Дуга хай звоніць,
Пакуль конь лейцы не аслабіць...
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць...

**М. Чарот.**

25-XII-22 г.

* * *

*Ц. Гартнаму*

Поле ціха шаптала калосьсем,
Як находзіла ворагаў рацъ...
Гэта ты у чырвоную восень
Сонны край свой пачаў вартаваць.

На шляху, на прыбітым гасьцінцы,
На здратованых коньмі палёх,—
Гучны кліч твой, як водбліск зарніцы,
Адгалосам жывучым разьлёг...

Кургану не пяяліся песьні,—
Кім насыпаны, хто там ляжыць,—
У зямлі, спачываць ім ня цесна,
Не гнятуць іх гнілыя крыжы.

Ты вярбою шумеў пры дарозе,
Гольлем вабячы неба блакіт,
Да тых гоняў хіліўся бярозай,
Дзе прастор быў крывёю заліт.

Шмат разоў ты у полымі жыцьця
Захліпнуцца зьбіраўся бяз сьлёз,
Калі вецер пажоўклае лісьце
Па загонах спустошаных нёс.

І на хвалях вады ружаватай
Човен твой пераплыў ужо мель,
Разагнаў ты штандарам узьнятым
Над балотам туманную бель.

**М. Чарот.**

25-XII-22 г.

# Крык вуліцы.

Агонь і кроў. Як пчолы, кулі
Са сьвістам лётаюць ля вух.
Наш дзень прыйшоў,—ой, гулі-гулі—
Паўстань, спагарджаны наш дух!
Над намі кпілі, зьдзек над намі
Тварылі ўсе, забыўшы грэх.
Цяпер мы робім над панамі
Апошні суд, суд не на сьмех...
Агонь і кроў—вось наша кара.
Няхай дрыжыць і гіне кат!
Наш час—ня сон, наш час—ня мара.—
Ня будзе пан і сонцу рад!
Упаў таварыш... вянок славы
Ён атрымае ў лепшы час.
Няхай сьмяюцца ваўкадавы,
Што меней стала, меней нас.
Гарaць дамы, гараць архівы.
А ў іх здабыткі ўсіх вякоў.
Ну што-ж? Затое палахлівых
Ня будзе духу йржавых коў!
Гэй, хто ня ўмёр, гэй, сябар працы!
Бяры аружжа і—ў агонь,
Каб адабраць усе палацы,
Што паўзьняла твая далонь!

**Аркадзь Моркаўка.**

# Сьцены.

Цаглінка к цаглінцы і—сьцены паўсталі...
Старайцеся, брацьці, дык стане і століь!
Ня дарма бяз жалю мы рукі хвасталі,
Ня дарма гняце нясутрымны іх боль.

Зірнеце на сьцены: яны бы з крышталю,
У іх адбіваецца казка і сон;
У іх адбіваюцца сінія далі,
Малюнкі чароўных і сонечных дзён.

На сьценах каляды і дзівы купальля,
На сьценах дэвізы—адзнакі вякоў.
А радам, бы сонца чароўнае, пральля
Працуе ля кроснаў, ля іх чаўнакоў.

Купальскія кветкі малюнак багацяць,
І сонца праменьні залоцяць усход...
Ці-ж шкода той моцы, на сьцены што страціць,
Будуючы дзівы, працоўны народ?!

**Аркадзь Моркаўка.**

# На руінах.

(*Апавяданьне*).

I.

Машына падыходзіла к станцыі Зябы: ход яе пamаленьку сьціхаў.

Несьцер ляжаў на верхняй лаўцы ў вагоне і думаў. У галаве яго зьбіраліся розныя думкі і ўспаміны таго, што ён бачыў і пеpaжыў, пачынаючы ад дзіцячых гадоў і да апошняга часу. Выразьней усяго ўставалі вобразы перажытага за доўгія гады вайсковае службы: спачатку ў царскай арміі, а потым у чырвонай. Перад ім прамігнулі: царская вайна з усімі сваімі страхамі, першая і другая рэвалюцыі, паўстанцкія атрады, вайна з Калчаком, Дзянікіным, Юдэнічам і, урэшце, з Врангелем. Усяк здаралася. Шмат разоў жыцьцё вісела на валаску. Тухла вера ўбачыць бацькоў, брата, сястру. Што рабілася там, у яго краіне, Несьцер толькі дагадваўся з тых кароткіх і няпэўных чутак, якія вычытваў з газэт ці даставаў выпадкова ад таварышаў. Весткі гэтыя, адрыўна, патрошку далятаўшыя да яго, казалі, што там далёка, на бацькаўшчыне, дзеецца нешта страшнае, што няма ведама, ці застануцца жывымі бацькі, сваякі.

Кожны раз, дастаўшы сьвежую вестку з Беларусі, Несьцера ахапляла жаданьне вырвацца на які час і наведаць сваю краіну, але ён не хацеў дзеля гэтага выкарыстаць нячэсны спосаб—прыкінуцца хворым, ці стаць дэзэртырам. Не, Несьцер быў чэсным чалавекам і чэсна адданым справе рэвалюцыі салдатам. Думаючы аб доме і бацьках, ён чакаў гэткага выпадку, калі можна будзе бяз усякай шкоды для свае часьці выпрасіцца дамоў. Такі выпадак падышоў у той час, як чырвоная армія аслабаніла Крым ад Врангеля, і іх полк супыніўся ў Сэвастопалю, каб далей нясьці мірнае жыцьцё. У вадзін дзень ён напісаў заяву паліткому й копію камандзіру і

праз некалькі дзён дастаў паўтарамесячны водпуск. З якою радасьцю ён сабраўся ў дарогу! Яго не палохалі ўсе клопаты далёкага пераезду, не задумоўваўся ён і над тым, ці ўдасца яму наогул дастаць у дому тую душэўную суцеху, да якой ён так доўга прогся.

Зьвязаўшы клункі, Несьцер ушчапіў іх на плечы і пайшоў на вакзал. І як толькі сеў у вагон, зараз-жа пачаў выбражаць сабе ўсе падрабязгі свае наступнае стрэчы з бацькамі, братам, знаёмымі. У яго галаве мімавольна паўставалі пытаньні: а што там у дому? Як жывуць бацькі? Мо ўжо забылі мяне... А мо ўжо й іх няма? Столькі часу ня быў я там! А колькі розных дзеяў начаўплося там за гэтыя гады! Гэта-ж сьвет мог перакруціцца ўверх галавою...

II.

Чым бліжэй ён пад‘яжджаў да роднага месца, тым болей і болей забірала яго нейкая трывожнасьць, перамешаная з салодкасьцю ўцехі, з адчуваньнем прыемнасьці спатканьня, з прыемнасьцю пабачыць родную глебу пасьля доўгай разлукі. Бацька й маці, мабыць, старэнькія цяпер—нявыказна абрадуюцца і з абсьлезенымі вачыма кінуцца цалаваць, абнімаць, будуць уміляцца. Бо ня жартачкі,—цэлых сем гадоў ён іх ня бачыў—усё служыў ды служыў у войску. Праўда, у першыя гады службы Несьцер шмат пасылаў лістоў дадому: стараўся паведамляць бацькоў аб сабе, суцяшаць іх весткамі. Але мяркуючыся з тым, што яму толькі разоў тры ўдалося дастаць адказ з дому, ён вылічваў, што яго лісты не даходзяць да дому, ці дома, мабыць, нешта нядобрае здарылася. Далей, прычыну таго, што бацькі не адпісвалі на яго лісты, Несьцер бачыў у тэй агульнай завірусе, якая ўзьнялася з пачаткам царскае вайны. Гэта яго непакоіла й наводзіла на розныя думкі. „Хто яго знае, што магло стацца з бацькамі, жывучы каля фронту“, думаў Несьцер: „немцы наступаюць, тысячы й дзесяткі тысячаў уцекачоў бягуць з краю, куды вочы глядзяць. Сотнямі мруць штодня: Ці-ж не магло стацца, што й мае бацькі рушылі з месца і па дарозе дзе небудзь згінулі? А калі ня сталася так, то ці мала іншых здарэньняў траплялася за гэты час? І немцы, і паны, і балахоўцы... Разбоі, зьдзекі. Чаго добрага—й бацькі папалі ў лік гэтых ахвяр.—Столькі часу—такога буйнага, неспакойнага і трывожнага жыцьця. Што найду я цяпер дома? Хто з родных яшчэ жывы, а хто памёр? Калі жывы, то ці ёсьць у іх які-небудзь прытулак, і ці там ён стаіць, дзе яго я калісьці пакінуў?“

Скрозь радасны настрой і вясёлае пачуцьцё, якія ахапілі Несьцера, упарта прабіваліся ўсе гэтыя сумныя пытаньні. Ахоплены імі, Несьцер пачуваў сябе ў нейкім надзвычайна маркотным становішчы, ён нудзеў і нявыразна глядзеў на ўсё тое, чым жыў да гэтага часу і да чаго ён імкнуўся.

— Таварышы, якая станцыя? — запытаў ён бяз адрасу, калі машына спынілася.

— Зябы! Зябы!—адказала разам некалькі галасоў.

Несьцер хутчэй падняўся і пасьпешна пачаў зьбірацца: адзеў шынэль, падперазаўся, узлажыў шапку і старанна завязаў два клункі; потым праверыў на лаўцы, ці не забыўся чаго, і, разьвітаўшыся з суседзямі, хутка выйшаў з вагону.

## Ш.

На станцыі перад вачамі Несьцера паказаўся цяжкі малюнак. Калісьці, ён помніць, гэта станцыя была шумнай і бойкай. Новы, з чырвонае цэглы, мастацка зложаны будынак станцыі цешыў сваім прыгожым выглядам. Высока паднімалася, як вежа, вадакачка. Народу заўсёды так і кішэла. А цяпер... Ох-ха! Як нейкі згбыты вартаўнік, стаіць пабітаю, пашарпанаю з паваленаю страхою тая-ж вадакачка, а ад будынку станцыі – адны разьбітыя падмуры. Для прыпынку пражджаючых зьбіты насьпех з дошчак барак. У вагонах месьціцца й білетная, і камэндант, і начальнік станцыі. Зусім выпадкова засталіся няпрыметныя лямпавыя ліхтары, якія маркотна сьвіраць то там, то сям на пушчэльным абшары. Несьцер, акінуўшы вачмі гэты абшар, неяк ужахнуўся. Праўда, ён скеміў, што гэта плён вайны, але хацеў праведаць, чыіх рук гэта праца: немцаў ці палякаў. Ён падыйшоў к двум чыгуначнікам, якія гутарылі паміж сабою, і запытаў:

— Скажэце, дзядзькі, хто гэта так пастараўся?

Адзін з чыгуначнікаў, рыжы дзядуля, ухмыльнуўся і адказаў:

— Аласьне ты, нябожа, нічога ня ведаеш?

— Не, дзедку, я здалёку вяртаюся і нічога ня ведаю, —адказаў Несьцер.

— Польскія паны, нябожа, усё гэта нарабілі. Ня толькі адны Зябы, а скрозь усе станцыі ў нашым краі дашчэнту зьнішчаны і зруйнаваны імі. Вось хоць бы паехаць к Менску і далей—дык быццам ток навокала. Ня толькі станцыі, а ўся наша Беларусь цяпер—тыя-ж самыя Зябы—пустыр, руіны, ток. Паны, нябожа, пастараліся добра. Ой, як добра-а-а! Пакінулі аб сабе добрую памятку ў нашым народзе...

— Ах, погань ліхая,—абурана праказаў Несьцер.

Тымчасам на дварэ пачынала расьсьвітаць. Смуглыя ліхтары пачалі сумець і тухнуць адзін за другім. Машына, прамарудзіўшы хвілін з дваццаць, нясьпешна рушыла далей.

Несьцер некалькі часу прастаяў на адным месцы, каля пахіленага ліхтара, там, дзе спыніўся запытаць у чыгуначнікаў аб вінавайцах разбурэньня станцыі, потым пахіліўся ўбок і зрабіў некалькі крокаў узад ды уперад.

Зрэдку снавалі па плятформе пасажыры. Бегалі клапатліва служачыя станцыі.

„Куды-ж іці?"—запытаўся ён сам сябе: „няўжо пусьціцца пешкі сорак вёрст да Верацён?"

Раптам да яго падыйшоў нейкі мужчына, з вялікай чорнай барадою, з адрослымі лахматымі бакамі на яшчэ нестарым, але змучаным твары. Адзеты ён быў у паношаную вопратку напалову цывільную, напалову вайсковую. На руцэ ў яго вісеў паўпусты мяшок, а з боку торбачка.

— Ці няма закурыць?—запытаў ён Несьцера.

— Няма, браточку,—адказаў той.

— А куды едзеш?

Несьцер пільна акінуў падыйшоўшага з ног да галавы, крыху памаўчаў, потым адказаў.

— Нашто табе?.. А сам куды едзеш?

— Я прыехаў сюды, а адсюль трэба сьцігаць вярстоў сорак да Верацён?

— Да Веряцён? За Хрэпы?

— Але.

Несьцер пільна ўставіўся ў незнаёмага, паглядзеў колькі хвілін на яго і потым раптоўна штосьці падмеціў: незнаёмы выглядаў знаёмым чалавекам, якога Несьцер дзесьці і калісьці бачыў.

— Я так сама йду ў Верацёны,—адказаў Несьцер:—а ты адкуль прыехаў?

— Я... Я...—і гэты, з свайго боку, штосьці знаёмае запрымеціў у Несьцеры.

— Слухай, таварыш, як тваё прозьвішча? Мне, здаецца, што я цябе дзесьці бачыў?—загаварыў Несьцер.

— Я—Гарасім Грэбень,—рашуча адказаў незнаёмы.

Перад Несьцерам тут-жа нібы неба адчынілася.

— Братка мой, родны мой, дык гэта-ж ты! Як-жа ты зьмяніўся! Ажно й не пазнаць цябе... Я... твой брат, Несьцер. Якое нечаканае спатканьне! — растрывожана праказаў Несьцер.

— Ці можа-ж то быць?—са сьлязьмі ў вачох праказаў Герасім.

Далей ніводзін з іх ня мог гаварыць, і яны міжвольна, ахопленыя радасьцю, кінуліся адзін другому на шыю і моцна ды шчыра пацалаваліся. Выпадковыя падарожныя кідалі на іх свае неразумеючыя погляды.

— Ну, дык ідзем, брат,—пасьля некаторага часу, запрапанаваў праз сьлёзы ўмільнасьці Несьцер.

Гарасім нічога не адказаў: ён быў згодзен.

## IV.

Узрушаныя нечаканаю стрэчаю, яны моўчкі крануліся з месца і доўга не знаходзілі слоў да аднаўленьня гутаркі. А тымчасам кожнаму здавалася, што ён-бы бясьсьціханьня гутарыў з братам, апавядаючы яму ўсе здарэньні жыцьця ў часы разлукі; думкі нястрымным роем націскалі ў галавы, словы заміралі на языкох.

Браты перайшлі рэйкі і выбраліся на дарогу, якая ад станцыі вяла на павятовы горад.

Рэдкія будынкі станцыйных служачых, раскіданыя паабапал шашы, сумна глядзелі на іх цёмнымі закрэпленымі ймглою вокнамі.

У некаторых вокнах яшчэ сьвірэлі агоньчыкі; траха не ва ўсіх палілася ў печы і з камінаў гнаў слупамі дым.

Між будынкамі віднеліся вогнішчы з высокімі комінамі і чорнабелымі камлямі дрэў.

Пры шашы наўскосах валяліся пакіданыя драцяныя загарадзі, вывернутыя слупы з тэлеграфу, пападаліся зламаныя вайсковыя драбіны-вазы, кускі колаў.

Грабянёў гэта ня цікавіла: знаёмыя вобразы, такія надаедныя, такія агідныя...

Яны йшлі далей, уталопіўшы наперад свае празрыстыя вочы, якія зьялі нявыразнай радасьцю, і маўчалі...

Доўга ніводзін ня мог, ці мо не асьмеліваўся першым пачаць гамонку, нібы баючыся зварушыць тую ўрачыстасьць іх раптоўнай стрэчы, якая вітала над імі.

Але скора, як у Несьцера, так і ў Гарасіма, пачало на задні плян адыходзіць усё іншае, апрача патрэбнасьці гутарыць, казаць ці сьпяваць.

К таму-ж акалічная абшарнасьць, якая ўставала з мроку, пачала ў іх абуджаць старыя ўспаміны. Колькі разоў ім абодвым траплялася йсьці гэтым гасьцінцам, глядзець і любавацца прыгожасьцю родных вобразаў. Праўда, цяпер, пась-

ля вялікіх перамен, зьвязаных з перажытым, многа чаго ў вобразах зьмянілася. Дубраўкі й гайкі высечаны, толькі зрэдку сіратамі стаяць адзінокія дубкі ды бярозкі. Здаецца нават, што й шмат якія вёскі згінулі, а якія засталіся, ляжаць ціха, спакойна, прытуліўшыся да зямлі, каб ня быць прымечанымі. Аднака смутак акалічнай мясцовасьці не перашкодзіў Грэбеням перайсьці да ажыўленае гутаркі.

— Гарасім, браток, скажы-ж ты мне, адкуль ты трапіў сюды?—неяк нерашуча пачаў Несьцер.

Гарасім зрабіў мяккую міну на твары, паглядзеў на брата і адказаў:

— А як ты думаеш?

— Як думаеш? Як ты цяпер будзеш думаць! Усё шыварат-навыварат цяпер робіцца. Столькі ўсякае прымхі, столькі выпадковасьці, што губішся ў іх дашчэнту. Хацеў-бы думаць так, хацеў-бы гэтак дагадывацца, а глядзіш, яно зусім іначай складаецца. Так і гэта.—Як я магу думаць? Я баюся думаць...

— Праўду, браце, кажаш; зусім праўду. Ніколі табе не дагадацца, як і што са мною траплялася апошнімі гадамі, і якім выпадкам я папаў сюды, каб сустрэцца з табою. А цікавага так многа, што табе нялішне будзе паслухаць.

Несьцера забрала цікавасьць. Ён крыху памаўчаў. Потым сьцішыў хаду й сказаў брату:

— Гарасім, давай перакусім чаго-небудзь, а тады ты мне ўсё раскажаш аб сабе і аб сваім жыцьці.

— Вось трэ' пашукаць на чым сесьці.

Яны ўваходзілі ў лясок. Шугаўшы зьлёгку ветрык заціх. Высокія абеленыя шэраняй хвоі й густыя, лахматыя ёлкі сталі ціхутка, нібы прытаіўшыся, нібы зачараваныя.

Абодва хадакі кінулі навокал вачыма і разам угледзілі з левага боку дарогі тоўстую бураломіну.

— Давай прысядзем,—сказаў Гарасім.

Яны зьвярнулі з дарогі, падыйшлі к ляжаку, зьмялі з яго сьнег і паселі.

Несьцер зьняў клунак, разьвязаў, дастаў акраец хлеба і невялікі кусок сала.

— Хахлацкае, брат, еж!—падаючы брату сала, сказаў Несьцер.

Гарасім быў галодны і прагна хапіўся за любую страву. Гледзячы на яго, не адставаў і Несьцер. Хутка аддзеленая порцыя была кончана абодвымі.

— Давай цяпер пойдзем цішэй і па дарозе пагутарым аб нашым жыцьці,—сказаў Гарасім.

Яны падняліся, вышлі на шашу, зірнулі на неба і пайшлі. Тымчасам неба стала праясьняцца, і праз рэдкую хмару ўхмыльнулася сонца.

— Весела будзе йсьці,—сказаў Гарасім.

— Так,—адказваў Несьцер.

Грэбні прайшлі моўчкі яшчэ сажняў з дзесяць. І толькі на граніцы ляску Гарасім рашыў пачаць сваё апавяданьне.

— Цяпер, браточку, то яно і цікаўна ўсё ўспомніць ды расказаць, а перажываць было ня так лёгка. Проста дзіўлюся я, як так удалося выхаяцца і вось цяпер ісьці з табою.

— Ну, ну, кажы спачатку,—прасіў Несьцер.

А спачатку было так. Праз два гады, як цябе здалі, вайна выцягнула з дому і мяне. Як другаразраднік, я быў забраны ў пятнаццатым годзе, якраз перад наступам немцаў. Пакінуў жонку сваю, і трое дзетак і як вышаў з Верацён,—дык два з паловай гады неадлучна сядзеў то на фронце, то ў тылу, то йзноў на фронце. Тры разы быў ранены, выцерпеў пекла мук. Думаў, што ня быць мне й жывому, але акрыяў і пасьля акцябарскае рэвалюцыі вярнуўся да дому. Быў вельмі рад гэтаму, бо ўбачыўся з бацькамі, з жонкаю, з дзеткамі... толькі з двума з іх, бо трэйцяе памёрла ў маю адсутнасьць. Ой, Несьцерка, колькі яны за тыя два гады працярпелі мук і бяды! Перш сабраліся выехаць, як і іншыя, частку дабра распрадалі, частку павязьлі. Потым стары раздумаў, угаварыў жанок і засталіся. Пад вёскаю і ў самых Верацёнах была бітва. Палавіна вёскі згарэла, але наш будынак неяк ацалеў.

— Ну, скажы-ж, Гарасім, а ты ня пытаўся бацькоў,—ад мяне лісты яны даставалі, ці не?—перабіў брата Несьцер.

— Не, брат. Ніякіх лістоў. Лічылі цябе прапаўшым. Маці плакала, бацька нудзеў. Я іх суцяшаў, хоць і сам ня верыў. Але слухай, брат. Пражыў я дома каля трох месяцаў. Думаў перш аставацца і надалей, а мо' і назаўсёды. Але якраз нашым мейсцам пачаў наступаць немец. Крыху напалохаўшыся яго, а часьцю з надышоўшай злосьці на рабаўнікоў нашае зямелькі, я, доўга ня думаючы, прылучыўся да нашых атрадаў і адступіў з імі. Бацька крычаў за гэта на мяне, кляла жонка, але нянавісьць да немцаў і ваяўнічы запал узялі верх. Такім чынам я адступіў да Смаленску. А ў Смаленску я захварэў на тыфус.

Праляжаў блізка два месяцы і ледзь жывы, адзін шкілет, устаў пасьля Вялікадня. Служыць больш я ня мог, пайшоў да начальства й кажу: „Пускайце да дому, а то ня выжыву“... „А як-жа ты дабярэшся?“—пытаюць.—„Дабяруся, кажу“. Вось мне далі водпуск на тры месяцы. Узяў я лахі пад пахі, сеў

на цягнік, прыехаў да Воршы, а там рознымі выхілясамі, праз вёскі да праз ляскі і—дабраўся дамоў. Прыходжу, а там ужо мяне чакаюць, чакаюць ня толькі бацькі, а й немцы... Ух, нагаварылі на мяне ўсе гэтыя Цьвіркі, Ласы, Цьмені, што я ня толькі бальшавік камісар, але й самы старэйшы з бальшавікоў. А немцам гэта наруку; ды яны ўжо да майго звароту забралі ў бацькі карову, дзьве авечкі, дзесяць пудоў збожа і яшчэ грэзіліся далей „падчышчаць". Дык вось, не пасьпеў я ўвайсьці ў Верацёны, як мяне, раба божага, так і абламзалі. Замест дому, я мусіў першую-ж ночку начаваць у камэнданцкай. А далей... Пашлі дапыткі, адпраўка ў лягер, жыцьцё ў лягеры ледзь ня цэлы месяц.., Ай-яй—Гарасім за голаву хапіўся, колькі мукі перанёс... А потым, не знашоўшы віны, узялі і выпусьцілі. І я жыў пасьля гэтага ажно да наступу палякоў. Гаралі з бацькам два гады поле, кармілі жывёлу і—толькі. Немцы мала чапалі, а прыйшла савецкая ўлада, мы ўзялі яшчэ панскіх пяць дзесяцін засеялі. Так-бы яно мо' і йшло-б, ды на бяду—гэтыя паны. Якраз у самае жніва так і пашлі яны наступам. Усе ўцякаюць, савецкія работнікі выбіраюцца. Ня ехаць мне страшна, бо і ў савет, ведаеш, мяне выбралі, і камісарам Зьліхоцкага маёнтку назначылі, ды ў дадатак, як казаў ужо, пяць дзесяцін панскае зямлі я для сябе падрэзаў ды дрэва на гумно навазіў. Як-жа тут застацца!

— Вядома, вядома,—паддакваў Несьцер.

— І я выехаў разам з іспалкомам. Паехалі йзноў у Смаленск, дзе я пражыў з месяц, а потым рашыў пайсьці ў чырвоную армію, на фронт, каб біцца з палякамі. Ведаеш, братка, неяк абуяла мною помста к паном за іх напад на наш край, і я ажно цэлы год быў у войску. Заўсёды меркаваў быць у першых радох. Хадзіў часта ў разьведку, ніколі не адставаў, каб не пайсьці ў наступ з нейкай, ведаеш, нязьведанай ахвотай пёрся на паноў. Страляў з асобнай уцехай. Бывала, у разьведцы напаткаеш паноў і ўжо хіба, на іх шчасьце, куля праміне, або пасьпеюць схавацца. Заўсёды, як ішоў у наступ, прыпамінаў дзедавы сказы, як паны былі прыгоншчыкамі і зьдзекаваліся над ім. Эх, толькі гарыць, бывала помста, чэшуцца рукі! Ніякага страху ня маеш, ідзеш. Пазнаў я ўсе мяйсцовасьці і каля Барысава і каля Ігуменя і каля Бабруйска. Часамі пройдзе тыдзень—другі бяз чыннасьці, і сам ня ведаеш, дзе дзецца ад нуды. Падыдзеш к камандзіру і дурыш яму голаву: «Таварыш камандзір! Ці-ж ужо вайна скончылася, што мы так доўга аддыхаем? Ці мо' мы рашылі аддаць паном да Барысава і толькі далей ня пускаць іх, чакаючы пакуль яны пачнуць наступаць»? Так скажаш камандзіру, а ён

толькі ўхмыльнецца й адкажа: „Пачакай, браток, яшчэ панюхаеш пораху. Вось ідзе вясна, пачнецца дзела“. Мне то было не вялікай уцехай. Але ўсё-ткі прыходзіліся з нецярплівасьцю чакаць вясны. І... дачакалі. Праўда, то ўжо было ў маі ды чэрвені. Як пачалася гарачка—дык толькі трымайся. К гэтаму часу я папаў пад Полацак, адкуль нашы наступалі. Вось як ударылі раз на палякоў—дык к Маладэчну загналі зразу. Потым, гады, аправіліся яны і нас назад к Полацку адапхнулі.

Затое ў другі раз як пайшлі мы, дык толькі трымайся. Ня спыніцца. І я ў першых радох дакаціўся ажно да Варшавы, дзе й быў перахвачаны панамі. Ледзьве ўцяклі к немцам.

Гарасім закашляўся й сплюнуў. Несьцер азірнуўся навакол.

Яны йшлі цяпер шляхам, які замыславата вярцеўся то сюды, то туды, нібы шукаючы лепшых мясцоў для сябе. Наўкруг ляжала белае поле, перасечанае ўзгоркамі. То сям, то там віднеліся засьценкі, фальваркі і сіняцёмныя плямы невялікіх ляскоў. Шляхам, на дзіва, ніхто ня йшоў і ня ехаў. Зрэдку праляталі вароны і перабегалі ім дарогу па адным, мабыць, заблудшыя сабакі.

— А скажы, браток Гарасім, ты не запісаны ў партыю камуністаў,—запытаў Несьцер чамусьці.

— Не,—адказаў Гарасім:--але ўсёроўна я камуніст. Мо' нават лепшы яшчэ за тых, якія й запісаны. Ведаеш, братка, я вельмі спачуваю цяперашняму ладу, бо бачу, што толькі ён дае магчымасьць нашаму брату-мужыку стаць сапраўдным чалавекам, і калі мы гэтага не патрапім выкарыстаць для сябе—дык мы нічога не варты. Савецкая ўлада нас прызвала к дзяржаўнаму акзамену, дала нам, як кажуць, матар'ял у рукі і сказала: рабі. Вось мы й павінны паказаць, што мы рабіць умеем, што мы такія самыя людзі, як і нашы абірацелі—сябе ў крыўду не дамо...

Несьцер паддаваўся братнім словам і цешыўся, што брат яго дайшоў да разуменьня ўсяго таго, аб чым яму тлумачыць. У яго сэрцы расла ўцеха тым, што ён мае сабе гэткага слаўнага і разумнага брата.

Я так сама, браце, стаю жыцьцём за цяперашні лад,—пасьпяшыў выказаць і сваю думку Несьцер.—І так-сама, дарагі мой, шмат панёс за ахову свабоды. Дасталося ўсяго, усяго, што і казаць... Толькі мне вельмі добра, я вельмі рад, Гарасім, што і ты маіх думак. Пацярпелі многа, ну толькі-ж ёсьць за вошта...

— Дык слухай, Несьцер, я дакажу табе да канца, што пачаў,—перапыніў брата Гарасім.

— Кажы, кажы.

Яны абмінулі яміну, якая раптам устала перад імі, адначасова азірнуліся назад і па бакох, і Гарасім загутарыў.

— Вось, калі мы папалі на нямецкую зямлю і немцы нас разброілі ды парассылалі па лагерах, я, ведаеш, заняпаў духам. Як тут сядзець бязьдзейна у цяжкіх варунках, галоднаму і толькі чуць, як там на ўсходзе йдзе змаганьне за край і свабоду. Дзеравянаму трэба быць чалавеку, бяздушнаму... Стала браць мяне, нецярплівасьць. Зарухалі думкі ў галаве, забудаваліся пляны розныя. „Уцяку,“—парашыў і стаў чакаць удачнага выпадку. Праўда ён хутка сам мяне знайшоў... Не аднаго мяне, а нас некалькіх. На шчасьце, у нас якраз зьмянілі варту. Папаўся немец—свой чалавек. Пазналіся з ім, пагутарылі раз, другі, а на трэйці—«бяжэце» кажа. І мы ўтраіх сярод дня ўлучылі хвіліну й далі ходу. Праз дзень з лішнім былі ў Літве, а яшчэ спусьціўшы дзён тры, я апынуўся, як бачыш, вось дзе. У штабе арміі мне далі пропуск дамоў, і я з гэтым пропускам еду. Глядзі, на вошта я падобен: валацуга ды й годзі. Вось парашыў наведаць дом і сям'ю, супачыць крыху і йзноў на фронт...

— Так, так... Здорава дасталося, браце. Ну цяпер ужо патрэбна супачыць месяцаў колькі. Ды на фронт, бадай, мо' і не давядзецца: чуваць, што замірэньне з Польшчаю...

— Э! Якое там замірэньне? Ворагаў брат у нас гібель. Кончылі з Польшчаю – новыя найдуцца.

Тымчасам на дварэ падыходзіла к вечару. Грэбяні за гутаркаю ня прымецілі, колькі яны прайшлі дарогі і ці многа ім яшчэ засталося йсьці. Аднак для іх абодвух пачала адчувацца ўтома, крыху дзеля таго, што ўжо яны многа сягоньня прайшлі, а болей таму, што доўгі дарожны час адабраў у іх сілы і зьвярэдзіў іх. Хацелася так сама й есьці абодвым. Якраз яны падыходзілі к Галапечачнай карчме, якая стаяла ў дваццаці вярстох ад Верацён. Гаспадары карчмы калісьці былі знаёмы абодвым братом. Калі яны й цяпер там жывуць, то можна разьлічваць паесьці і супачыць. Ды хоць і іншыя гаспадары—ўсёроўна карчма карчмою. І Грэбяні ўскорылі хаду, каб хутчэй дайсьці да карчмы. Выйшаўшы на ўзгорак, яны ўбачылі ў вокнах старой уросшай у зямлю будыніны цямлівы агоньчык. Зачуўшы іх пабліжэньне, забрахаў асіпшым голасам карчомны сабака. Відаць было ім, як у стадоле адчыняліся вароты, і знадворку ў стадолу ўехала колькі падводаў. Стаяў гоман, гучны і дзелавы. З коміна карчмы йшоў дым, які фарбаваўся ў чырвоны колер ад праглянуўшай на заходзе променнае палоскі неба. Ваддалёк карчмы, вярстох у дзьвёх

зьлева, ляжаў засьценак. І з яго да Грэбняў даносіліся ўсё чутней і ясьней розныя скрыпы, выгукі, рыканьне кароў і сабачы брэх.

— А як мы зробім, Несьцер, заначуем тут, ці пойдзем дадому, спачыўшы? Яшчэ цэлых дваццаць вёрст, а тут, хто яго ведае, мо' і небясьпечна?—запытаў Гарасім.

— Праўду табе сказаць, я ўжо ўтаміўся. Еду з Севастопалю і вось болей тыдню, як не паспаў і не паеў палюдзку. Памойму, варта было-б супачыць, калі знойдзецца на чым. Гэта выгадней і таму, што мы прыдзем днём, а ня ноччу,—адказаў Несьцер.

— Нічога проці ня маю. Гарбаты-б папіць...

Яны падыйшлі к карчме. Сабака сьціх брахаць. Ля варот стадолы стаяла маладая жыдовачка і пільным поглядам аглядзела Грэбеняў. Несьцер з хвіліну ў упор паглядзеў на яе, і ў яе твары ўгледзіў штосьці знаёмае.

— Можна зайсьці да вас?—дабрадушна запытаўся ён.

Жыдовачка ўхмыльнулася і мякка, гасьцінна адказала:

— Калі ласка!

— А мо' й пераначаваць можна будзе ў вас?

— Там пабачым,—ахвотна адказала яна.

Грэбяні ўверана адчынілі дзьверы і ўвайшлі ў карчму. Ім дыхнула густым цёплым паветрам, перапоўненым дымам. Была пятніца і зайшоў шабас, так што на стале гарэлі тры сьвечкі, і стары гаспадар карчмы, як пазналі яго з першагаж погляду Гарасім і Несьцер, згорблены Шмуйла сьлібізаваў модлы. За сьценкаю ў каморцы крахцела яшчэ адно старое. Два хлапчукі, адзін ужо дзяцюк, і дзьве сталыя дзяўчыны бегалі з каморкі ў каморку. Лазіў па хаце і віляў хвастом пярэсты сабака, той самы, што брахаў на Грэбянёў. На лаўках сядзела з пяць сялян у жоўтых кажухох, падперазаных саматканымі паясамі; усе яны трымалі ў зубах люлькі, маўчалі і пускалі на хату гібель дыму ад свойскага „багданчыку“ і—„мультану“. Раз-по-разу яны азіраліся ў вокны і адзін другому нашэптвалі штосьці на вуха.

— Дзень добры ў хату!..

— Добры вечар!—паправіў Гарасім.

— Добры вечар!—адказаў Шмуйла, не пакідаючы маліцца.

Мейсца сядзець хапала, і абодва Грэбяні ўселіся.

— Ці нельга было-б папрасіць гарбаткі?—хапіўшы далікатна за рукаў адну дзяўчыну, запытаў Несьцер.

— Можна, зараз,—адказала яна, мякка ўхмыльнуўшыся.

Несьцер пачаў разьвязваць клунак. Гарасім моўчкі сядзеў і сачыў нязьмігутна за гарэньнем сьвечак. Тымчасам

Шмуйла кінуў маліцца і сеў за стол. Адна з дзяўчат падбегла к сталу, заслала абрусом і пачала гатавацца к вячэры. Шмуйла адламаў кусочак хлеба і, жуючы, пачаў глядзець на хату.

Вочы старога, яшчэ зоркія і празрыстыя, шпарка бегалі па ўсіх бакох, не прапускаючы самых дробных рэчаў. Потым яго погляд спыніўся на Гарасіму і ня болей хвіліны аглядаючы яго постаць зьверху ўніз, Шмуйла штосьці замармытаў, павярнуўся і сказаў:

— Ці я абмыляюся, ці то так і ёсьць: здаецца ты будзеш Янкаў сын, Грэбеня?

Гарасім усьміхнуўся і сказаў:

— Так, Шмуйла, угадаў. Добрая ў цябе памяць.

— Але, добрая памяць, дадаў Несьцер,—але мяне дык бадай не пазнае.

— Ён пытальна паглядзеў на Шмуйлу.

— Не, цябе ня помню. Мо калі й ведаў, толькі выйшла з памяці,—адказаў Шмуйла.

— Ну, і дзіва няма,—умяшаўся адзін з сялян, паважна раскурваючы люльку:—наша рэч старыкоўская: што дзень—і памяці меней.

— Вядома, вядома, дзядзька. Вось і таму дзіва, што Шмуйла мяне помніць. Таксама гадоў з-чатыры не сустракаліся,—сказаў Гарасім.

— Гадоў чатыры—то глупства. Затое раней я добра знаўся з вашай раднёю. Бывала, Янка што тыдзень у мяне, а я ў яго. У нас, дзякуй богу, шмат чаго хаўруснага рабілася. Го, твой бацька, то чалавек, якіх мала знойдзеш. Разумніца,—хітры,—сьмікалісты, прайдзі-сьвет, ня вам раўня. Бывала, што мы з ім не вытваралі, якіх дзялоў не вялі. Хай сам скажа!

Гарасім і Несьцер усьміхаліся.

— Чаму-ж не, бываюць такія ўдаюцца,—ваткнуў сваё слова той-жа селянін.

— А вось хоць бы наш Нічыпар, чым не такі?—дадаў яго сусед.

— Старасьвецкія людзі ўсе хітрэйшыя за сучасных, няма чаго казаць,—згадзіўся трэці.

Пакуль ішла гутарка, на стале апынулася вячэра, і сям'я Шмуйлы, семера душ, сядзела за сталом. Старэйшая дачка, тая, што сустрэлася з Грабянямі на вуліцы, была за гаспадыню і падавала на стол.

Звычайная шабасовая вячэра адзначалася багацтвам страваў. Крупнік, цымас, бульба, мяса, хвасоля, хала, кава і інш., ня гледзячы на цяжкія часы, у той-жа порцыі, як і ў бывалаш-

нія гады, напаўняла стол. Недахват яды, голад, з якім добра пазналіся й Гарасім і Несьцер, тут ня чуліся. Вось пазіраючы за зьменай страваў, абодва Грабяні пераглядаліся між сабою, праводзячы зіркам на стол кожную міску. Сялянам-жа гэта было няцікаўна.

— Адкуль вас бог нясе?—пасьля некаторага часу маўчаньня, скончыўшы вячэру, запытаўся Шмуйла. Далей, не чакаючы адказу, ён зьвярнуўся к дачцэ:

— Вялі паставіць людзям самавар, яны замёрзьлі з дарогі.

— Добра, зараз, зараз—адказала дзяўчына.

— Адкуль вас Бог нясе?—перапытаў Шмуйла ў другі раз.

— Ох, з усяго сьвету,—адказаў Гарасім.

— Здалёку кажаце?

— Дый што казаць, вядома, што здалёку,—пацьвярдзіў Несьцер:

— Вось парадуйце нас, што гэта ў вас чутно?

— Шмуйла пагладзіў бораду, замармытаў нешта і сумна адказаў:

— Ды ў нас ня вельмі добра. Эх...—ён матнуў рукамі. У гэты час папашчыкі-сяляне штосьці перагутарылі між сабою і пачалі зьбірацца к выхаду.

Што, едзеце мужчыны?—пацікавіўся Шмуйла.

— Так, пара; коні досыць супачылі і папасьвіліся. А нам трэба к раніцы быць у Сажным. Пойдзем, браткі—адказаў адзін з сялян.

І ўже яны вышлі з хаты. За імі ў стадолу, запаліўшы сьвірэлку, вышаў і хлапец Шмуйлы. Скрып дзьвярэй і пацягнуўшае з стадолы халоднае, пахнучае гноем паветра напоўнілі на хвілю карчму.

Зачыняйце хутчэй! —гукнуў Шмуйла:—дроў лішніх няма, павінна быць дарага цяпло.

І потым загутарыў ні то з сабою, ні то з Грэбянмі:

— Ні дроў няма, нічога няма. Зьнішчылі, агалілі край уканец. Як ток зрабілі. Каб тут і колькі было ўсякага дабра, дык выкрадуць, выхапаюць. Жарты—цэлых шэсьць гадоў нішчыць—то й зямлю можна раскрасьці ўсю. Адзін прыдзе—бярэ сабе, сьцяпае, другі прыдзе—бярэ далей і вязе к сябе, трэці і дзесяты—бяруць і бяруць.... А даць - ніхто:

— Кепска, кажаш Шмуйла?—перабіў Гарасім.

— Яшчэ як, браток, дрэнна, выказаць нельга. Можа прыглядаліся, ідучы дарогаю: слупы павернуты, дрот валяецца... Так і па ўсяму краю—усё павернута і ўсё валяецца....

— Сапраўды кажучы—валяецца толькі тое, што нікому ня трэба, як нявартае. Усё тое, што мела хоць малую цану, падабрана нашымі прыяцелямі немцамі, палякамі, балахоўцамі і чорт іх ведае кім. Падабрана і падчышчана, як належыць.

— Усюды гэтак, усюды адны руіны,—загаварыў Несьцер. —Вось я еду з Украіны, і, каб вы бачылі толькі, што там робіцца: масты паўзрываны, чыгункі папсаваны, вёскі папалены...

— Так, вядома... Але-ж у нас гэта зроблена куды мудрэй. Там прайшлі раз-два й толькі. А ў нас тут—нясьціхана шэсьць гадоў тое й рабілі, што бралі, шукалі, даставалі й звозілі. Проста сэрца рвецца на кавалачкі, калі паглядзіш на край, якім ён стаўся...

— І якім бы мог стаць, каб яго пакінулі ў спакою і аддалі людзям на адбудову,—уставіў Гарасім.

— Во-во, і я хацеў гэта сказаць,—падхапіў Шмуйла.

— А я бачу, што гаспадар карчмы ненарокам любіць наш край, хоць здаецца і няродны ён яму,—нясьмела праказаў Несьцер, баючыся, каб гэтым не пакрыўдзіць Шмуйлу. Але той, нават і намёку ня даў на крыўду: наадварот, гэта яго вызвала на выказ тых думак, якія, бадай, ці былі-б ім выказаны бяз Несьцеравых слоў.

— Братка ты мой,—поўным шчырасьці голасам завёў Шмуйла:—Ці-ж можна наш край ня любіць? Дзе-ж ты найдзеш лепшых, спакайнейшых і працавіцейшых людзёў? Дзе ты сустрэнеш выгляд лепшы, дабрату большую? Праўда, я родам ня згэтуль, але, дзякуй богу, жыву тут болей трыццаці гадоў. Ці-ж нельга прывыкнуць і парадніцца? Я ўжо пасьля першага азнаямленьня з людзьмі стаў сынам яго. Каму ці льга зжыцца, а чалавек ня злосьлівы, памяркоўны, ужыўчывы—хутка зжывецца. Так, я скора парадніўся і з краем, і з людзьмі. Скора й палюбіў іх.

Несьцер пільна выслухаў Шмуйлу, крыху памаўчаў, а потым к брату зьвярнуўся з гэткімі словамі:

— Вось чуеш, Гарасім, як людзі кажуць. Што-ж за наўда, калі я праз увесь час так моцна смуткаваў па бацькаўшчыне. Так, браце, смуткаваў і жалеў, што й выказаць нельга. Ні грукат гармат, ні жар змаганьня, ні страх перад сьмерцьцю не маглі заглушыць гэтага болю. Ідзеш у наступ, вакол сыплюцца кулі, разрываюцца снарады, сьмерць глядзіць у вочы, а сэрца так і ные, так і ные да дому ймкнецца: хоць бы паглядзець на сваіх людзей, пагутарыць на сваёй мове, пабываць у лясох, на палёх... Хоць бы сабе й сьмерць—але пасьля

пабыўкі дома... І гэтак праз увесь час, праз цэлых чатырыпяць гадоў. Ссох, сьпятрэў у журбе па дому.

У гэты час дзяўчына прынясла самавар.

— Прачакаліся мужчыны,—сказала яна, ставячы яго на стол.

— Нічога, нічога,—адказаў далікатна Несьцер, якому сапраўды дакучыла чакаць.

Абодва Грэбяні пасьпешна распрануліся, дасталі з клункаў яду, вылажылі яе на стол. Потым уселіся за вячэру.

Шмуйла вылез з-за стала й пачаў маліцца.

На нейкі час у хаце стала ціха. Толькі крэкт бабулі ў запечку казаў, што ў карчме ёсьць жывыя людзі. За вакном сьвістаў вецер. Зачыненыя вакяньніцы хавалі панадворак... Аднак Шмуйла пачасту ўзіраўся ў вулічнае вакно, выбіраючы шчылінку. Нагнецца, прыгледзіцца, потым ізноў адыдзе.

— Цямноцьце на дварэ,—праказаў падканец Шмуйла.

— Мы думаем начаваць у вас,—сказаў Гарасім.

— Чаму не, зрабеце ласку, месца хопіць,—адказаў Шмуйла. Куды-ж ісьці гэтай цемрай? Ды нябось, здарожыліся?

— Так, патаміліся, ня спаўшы колькі ночак... Хоць яно й вельмі хочацца скарэй папасьці дамоў, праведаць-бы, што і як там.

— Пасьпееце й заўтра,—угаварваў Шмуйла.—Не вялікае шчасьце вы дома знойдзеце, дзень раней ці дзень пазьней.

— Ну, а скажы, Шмуйла, ты часамі ня чуў пра Верацёны нічога? Ці ціха ўсё там, ці мо што й нядобрае траплялася?—пацікавіўся Гарасім.

— Праўду скажу: ня ведаю. Штосьці баялі аб Верацёнах, але я, прызнацца, не прыслухоўваўся. А самаму, вось, не здаралася быць... Хто яго ведае, тут усякай усячыны было й розных здарэньняў... І пагромы, і грабежствы, і забойствы, і пажары. Вядома—як на вайне... Магло ўсё стацца і з вашымі.

Словы Шмуйлы занепакоілі Грабянёў. У іх абодвых зашчымела гострае хаценьне забыць і спачынак і начлег і сьпяшыць дамоў. Але ўтома й санлівасьць моцна сьціснулі іх. Дрымота сплюшчвала іх вочы, балючая вяласьць расплывалася па ўсёй істоце, моцна шчымела боль у нагах і ў паясьніцы.

— У нас ноччу хадзіць мала бясьпечна—ці надумана, ці чыстасардэчна прамовіў Шмуйла:—Усякіх людзей на гасьцінцы трапляецца: і балахоўцы нейкія, як кажуць, і дэзэртыры і проста жулікі-бандыты. Калі ўжо нельга ні ў якім ра-

зе адлажыць—тады мусіцьмешісьці. Ды й то можна якколечы скруціць... Не... ляпей зробіце, калі пераначуеце...

— Хая,—пазваў ён:—пасьцялі мужчынам.

— Добра,—пачулася з суседняе каморкі.

Хутка дзяўчына паслала дзьве пасьцелі—адну на тапчане, другую на канапе.

Шмуйла сам убавіў у лямпе агонь, і Грабянёў пакінулі адных. Як Несьцер, гэтак і Гарасім, разьдзеліся, бы дома, і палеглі.

Палёгшы, яны папрабавалі яшчэ аб сім аб тым перагутарыць, але з таго нічога ня выйшла:—словы ў горле гразьлі. І яны, сьціхшы, хутка паснулі.

V.

Назаўтра, чуць сьвет, прачнуўся Гарасім і пабудзіў брата. Шмуйла ўжо таксама ня спаў: ён чагосьці клапатліва хадзіў па каморцы і марматаў сабе пад нос.

— Будзем зьбірацца ў дарогу,—сказаў Несьцер.

— Гарбаты пап'еце,—параіў Шмуйла.

— Куды ўжо там: дома няхай,—адказаў Гарасім.

Яны хутка ўсталі, адзеліся, памыліся і сталі зьбірацца.

— Двaццаць вярстоў лёгка ўбяром,—пахваліўся Несьцер.

— Так, адпачылі крыху,—згадзіўся Гарасім:—гадзін з восім паспалі.

— Толькі перакусіць не шкодзіла-б,—раіў Шмуйла.

Аднак Грэбяні гэтага ня думалі: імі валодаў рымст—як найхутчэй пасьпець да дому і праведаць там аб дамашніх. Сабраўшыся акуратна, надзеўшы клункі і падперазаўшыся, яны падзякавалі Шмуйле за начлег, расплаціліся і выйшлі з карчмы.

На вуліцы было ціха. Браў лёгкі марозік, і за ноч выпала багата шэраню. Кусьцікі лазьняку і ялоўцу, аскабалачкі, кускі дроту і рэдкія платы былі пекна ўбраны белымі, пухкімі анталяжамі лёгкага сьнегу. Чыстае паветра сьвяжыла й бадзёрыла. Лёгкі туман, заўсёды справодзячы шэрань, гусьціўся па бакох, робячы навакол Грэбянёў неразрыўнае кольца. Уверсе, якраз над галавамі іх, віднелася прагаліна сіняга неба з рэдкім налётам туману, а на ўсходзе ад праменьняў узыходзячага сонца туман быў чырвоным. Убітая дарога, аблягчала пуціну, і Грабяні лёгка, з новымі сіламі маршавалі па ёй.

— Хаця-бы сапраўды чаго кепскага там ня сталася,—сумняваўся Несьцер:—тады хоць бяры й канчай самагубствам.

Дальбог, ня вынесьці будзе гора. Усе мукі чаканьняў, і хаценьняў—разьляцяцца дымам...

— Кінь думаць дрэнна,—суцяшаў Гарасім:—чаму ты думаеш, што нядобрае трапіла к нашым?

— Ой, дзіўны ты, а хто разьбіраўся? Прыяцеляў такіх досыць маецца, якія ахвотна-б падказалі, нацкавалі ці палякоў ці балахоўцаў. Стараста Ёрш, сальнік Сёмка, ці яшчэ які гад—ад іх доўга не чакаць: «Іх два сыны бальшавікі, распраўцеся з імі першымі». Напэўна, брат, там магло стацца штосьці ліхое,—неяк занадта ўжо трывожыцца маё сэрца.

Несьцер кідаў смутны пагляд на твар брата і нібы перадаваў таму мукі сумленьня й трывогі.

— Магло стацца, гэткія ўжо часы,—з няпэўнасьцю загаварыў Гарасім:—А сталася—што зробіш, не паправіш. Тады аб іншым прыдзецца думаць: кідай усё і ўсіх—і на памшчэньне.

— Толькі так. Усё жыцьцё пасьвяціць непазбыўнаму змаганьню за свабоду і бязьмернай помсьце за зьдзекі і глум над краем і людзьмі.

— Так-то яно, мо' й так. Толькі ўсё роўна браце, ня вернеш таго што табе дорага і што цягне цябе за тысячы вярстоў, бы магнэсам... Вось у чым хаваецца сэнс—разважаў Несьцер.

Тымчасам яны ўвыйшлі ў лес. Гэта пачынаўся ў сямі вярстох ад Верацён вядомы ў тых мясцох лес Кісьлячага, вялікага багацея і маёнтніка. Калісь, помняць абодва Грабяні, у Кісьлячынскім лесе вадзіліся мядзьведзі, ласі й гібель ваўкоў. Ня раз на ваўкоў рабіліся аблавы, і тады зганяліся на іх сяляне ўсіх ваколічных вёсак. Верацёнаўцы хадзілі разам з іншымі. Даводзілася некалькі разоў прымаць удзел у аблавах Несьцеру й Гарасіму. Пасьля, у 1905 годзе, Верацёнаўцы разам з іншымі езьдзілі самачынна ў Кісьлячынскі лес сячы дровы. Многа ў тыя часы высяклі сяляне памешчыцкага лесу. Затое многа й караў прышлося панесьці. Каля дзесяці адсядзелі па два гады ў вастрозе, а траха ня ўсе разам з сялянамі суседніх вёсак мусілі плаціць пану Кісьлячаму стратныя. Казакі й жандары часта наведвалі Верацёны і добра даліся ў знакі. Далей, яшчэ помніць і Несьцер, памешчык Кісьлячы памёр, лес яго застаўся ў спадчыну далёкім родзічам, якія хутка прыняліся яго распрадаваць. Надышоўшая вайна прашкодзіла ўканец спляжыць Кісьляцкі лес, але нямецкая акупацыя, а потым польская—многа выцерабіла гэтага багацтва: і цяпер прадаўжалі работу палякоў ізноў тыя-ж сяляне ваколічных вёсак. Аднак, ня гледзячы на ўсе гэтыя стараньні, лесу яшчэ было досыць. Паабапал гасьцінцу, хоць

і рэдка, але многа яшчэ паднімалася ўгору тоўстых, многавечных хвояў і елак. Між іх, па сяброўску, блізка і на воддаль стаялі тоўстыя разьвіслыя дубы, ясені, высокія, стройныя, белыя бярозы і шэрыя алешыны. Іх кароны, спляпаючыся ўверсе чуць не пад самым небам, рабілі густую сетку, хаваючую неба і сонца... Ніжэй, між рэдкіх устояў старога лесу гушчэў маладняк. Падгалістыя роўныя елкі, галінастыя дубцы арэшніку й альшаньніку толькі й пачулі сабе разгарненьне, калі людзі пастараліся над высечкаю старога лесу. Праўда, разам з выйгрышам, маладняку дасталася ня мала й пацярпець. Падаючыя дрэвы няшчадна ламалі яго і ўсьцілалі ім свае магілы; секлі яго таксама й сяляне—на калы, а то й так, каб пралажыць дарожкі.

Грабяні нейкі час моўчкі йшлі лесам, пазіраючы абапал дарогі. Урачыстая ціша, зрэдку зварушвана стукам дзятлаў у дуплістыя дубы й патрэсківаньнем ад марозу сучкоў і галінак, наводзіла іх на спакойны раздум і ўспаміны. Зрэдку ўставалі зусім чужыя перажыванаму імі пачуцьцю думкі і згладжвалі гострасьць перажытку. Ішлося дарогаю міжвольна, бязмэтна... Але гэткі настрой нядоўга ўладаў братамі. Дайшоўшы да сярэдзіны лесу, яны маглі ўбачыць, хоць і далёка, поле і гал. Зусім ужо блізка ад іх заставаліся Верацёны. Мэта іх дарогі з рэзкай выяўнасьцю адбілася ў думках, а далей захапіла сабою і пачуцьцё, расплыўшыся па ўсёй істоце. Нейкая дрыготка нецярплівасьці падганяла Грабянёў, каб яны пасьпяшней ішлі.

— Ну, як ты адчуваеш, Гарасім, добра будзе, ці не?—першы зварушыў маўклівасьць Несьцер.

— Ведаеш, браце, я неяк супакоіўся: як будзе, так няхай будзе. Вось ідзі і толькі—адказаў Гарасім.

— А я страшэнна непакоюся.

— Дарэмна, Несьцер. Калі што сталася—дык мне болей і дастанецца, жонка і дзеці яшчэ ў мяне ў дадатак да бацькоў.

Несьцер нічога не адпавёў.

Яны выходзілі з лесу. Ранешні туман на многа парадзеў. Сіняе, пацягнутае бялесым палотнішчам неба, было заліта праменьнем халоднага, нізка-сядзячага сонца. Нібы ад таго, што яму было разгарненьне асьвятляць зямлю, Грабяні пачулі большую цеплату. Зьмененае гэтым пачуцьцё яшчэ болей прымала новыя ўплывы, калі іх вачом ухмыльнулася белая цэркаўка, стройна стаячая на ўзгорку, за якім ляжалі Верацёны. Грабяні мімавольна ўскорылі хаду, ня спускаючы вочы з цэркві. Роўная лажбіна наабапал гасьцінцу, пачынаючы ад граніцы Кісьляцкага, пекная сваёю зялянiстаю коў-

драю ўлетку, цяпер ня цікавіла нічыйго вока. Укрытая сьнегам, запярэшчаная рэдкімі кусьцікамі, яна засмучвала сваёю аднакасьцю і мярцьвечынай.

— А цэркаў, бачыш, Гарасім,—стаіць, як вартаўнік, нязьменна, так-нібы яе ўчора паставілі—сказаў Несьцер.

— Калі ўсё у такім становішчы, тады й добра,—адказаў Гарасім.

— Але падыходзячы к грудку, на якім стаяла царква, яны не маглі ня прыкмеціць, як гэты грудок навакол быў акопан ровам і агароджан рэдкімі каламі, пераплеценымі калючым дротам. Загарадзь-жа вакол цэркві была зламана, і ў самай цэркві кінуліся ім у вочы пабітыя і застаўленыя дошчачкамі вокны. На бярозках і лазінках вісеў дрот тэлефону, у некаторых мясцох перарэзаны.

— Відаць сьляды завірухі,—сказаў Гарасім.

— І яшчэ якой!—падмацаваў Несьцер.

Далей гутарыць яны не маглі. Выглянуўшыя Верацёны аднялі ў іх гэту мажлівасьць. Ды й сапраўды, на вошта ім было дагадвацца, перадсказываць і гэтым толькі раздражняць у сабе боль няпэўнаеьці, калі яшчэ хвіля, яшчэ квадранец, і яны ўсё пачуюць ад жывых сьведак. Вось-жа, як рукой падаць, і дом. Старыя, а дзе й новыя хаткі родных Верацён, закінутых у лагчыну вялікай Беларусі, па старому стаялі на сваіх выбраных колісьці мясцох. Летам яны абрасталі дзірваном з кожным годам гусьцеючым і садамі ўнізу, а мохам на стрэхах, цяпер-жа былі акрыты сьнежным прасьціpадлам.

Яшчэ была раніца. Грабяні ўвабралі дваццаць вярстоў блізка што за тры гадзіны. Але Верацёны ўжо жылі поўным жыцьцём. З каміноў чуць ня ўсіх хат нёсься празрысты сівы дымок; у гумнах чуўся стукат цапоў, скрыпелі вочапы калодзезяў, рыпалі вароты ў дварох і дзьверы ў хатах. Праўда, звычайнасьць вобразу нарушалі пажарышчы з левага краю, акурат у тым месцы, дзе стаяла колісь і хата Грабяняў. Кожнаму падходзячаму к Верацёнам выразна кідаліся ў вочы голыя печы з пахіленымі комінамі, чорныя абсмаленыя шулы і раскіданыя па зямлі абгарэлыя галавешкі.

Гарасім і Несьцер зразу спыніліся на іх сваімі поглядамі, і, відаць было па кожнаму з іх, што сэрцы іхнія балюча забіліся: ногі затрасліся і ўсьцішылі хаду. Ніводзін з іх ня мог выказаць і слова, ажно пакуль не ўвайшлі ў самую вёску.

Параўняўшыся з крайняю хатаю, іх стрэў сам дзядуля Сук, стаючы ў дварэ ля вешніц, нібы чакаючы іх.

— Го-о-о! Гарасімка, Несьцерка! завёў ён:—Адкуль жа вы, небажаткі, зьявіліся, ды ўдваіх разам?

Дзядуля падбег к Грабянём і па чарзе пацалаваў іх. Сукі заўсёды жылі з Грабянямі ў ласцы і памяркоўна. Лічачыся далёкімі сваякамі, яны даражылі гэтым сваяцтвам і ставілі яго ў прыклад другім. Вайна, немцы, а потым палякі, якія прынесьлі столькі бяды краю і іх родным Верацёнам, шмат гастрэй датыркалі Сукоў яшчэ й таму, што забралі з дому Грабянёў, ад старых бацькоў і дзяцей, двух мужчын. Доўгія гады няведаньня аб іх і ў асобку аб Несьцеру, трывожыла разам з старымі Грабянямі і сям'ю Сукоў. Шчасьлівыя тым, што іх сям'я блізка што ўся складалася з дзяўчат і з гэтае прычыны не зачэплена была вайною, Сукі вялікую ўвагу аддавалі Грабянём. Часта хадзілі яны к старым, суцяшалі іх, памагалі, чым маглі. Вось ня дзіва, што стары Сымон так радасна спаткаў Гарасіма і Несьцера. Абрадаваліся гэтаму й абодва Грабяні. Спыніўшыся з дзядулем Сукам, яны на момант забылі пра сваіх, пачаўшы прывітальную гутарку і зьвязаныя з ёю роспыты аб тым і аб другім. А пакуль кончылася гэта цэрамонія, да іх зьбеглася яшчэ колькі мужчын, жанок і дзяцей. Кожны прывітваў Грабянёў, але ніхто не казаў ім аб іх дамашніх справах.

— Пойдам у хатку, дзеткі,—пазваў іх стары Сымон.

Гарасім і Несьцер пайшлі за ім, а ўсе іншыя пачалі расходзіцца па хатах.

— Вось што, небажаткі,—сказаў Сымон ідучы ў хату:— невясёлыя весткі вас стрэцілі дома.

— Што-о-о??—ў вадзін голас трывожна запыталі Несьцер і Гарасім.

— Захадзеце ў хату, там скажу аба ўсім.

Грабяні раптам пасумнелі і прыгатаваліся к горшаму. Гарасім мала нэрваваўся і выглядаў спакайней. Несьцер-жа вельмі блізка прыняў вестку Сука да сэрца і ажна зьмяніўся ў твары ад нейкага мярцьвячага спугу і адранцьвеньня. Тымчасам яны ўвайшлі ў хату.

Хата была прасторная, але траха не палавіна яе была застаўлена цэбрамі, бочкамі, карытамі і рознымі гаршкамі ды чыгунамі.

На стале ляжала некалькі баханоў хлеба.

Гарасім і Несьцер прыселі на лаве і пачалі азіраць хату. Кінуўшы вачмі ў запек, яны адначасна ўгледзілі на палку ляжаўшую матку, і раптоўна схамянуліся.

— М-м-а-...-хацелі пазваць Грабяні, але Сымон перабіў іх.

— Яна вельмі нядужая. Няхай сьпіць. Вось сёньня ранкам ёй стала лягчэй. Увесь час толькі й думала аб вас, толь-

кі й марыла. І ноччу, і ўдзень нясьціхана заве: Гарасімка, Несьцерка...

Грабяні нібы супакоіліся.

— Чаго-ж яна ў вас?—запытаў Гарасім.

— А бацька дзе?—дадаў Несьцер.

— Чакайце. Перш усяго разьдзеньцеся. Хутка Паруля згатовіць абед...

Аднак Грабяні незварушна сядзелі.

— Будзьце рады, небажата, што хоць маці зможа вас угледзіць. Куды там думаць аб большым?

У гэты момант убеглі ў хату зараз трое дочак Сымона. За імі ўвайшла жонка, старая Юзя. Усе яны чынна падыйшлі перш к Гарасіму, потым к Несьцеру, пацалаваліся, перакінуліся пытаньнямі і адыйшлі к мыцяльніку. Бабуля-ж села на ўслоне й пачала пільна азіраць гасьцёў. Сымон падагнаў Парулю, каб яна хутчэй запаліла ў печы й гатавала абед.

— Дык слухайце, небажата,—прадаўжаў Сымон, раз по разу вымаючы з роту люльку і пазіраючы ў запечак і—такоўскія справы. Як бачыце, думаю, што вы прымецілі, хата ваша згарэла разам з другімі. Насілу выбавілі мацеру—ўсё зьнішчылася. Яшчэ толькі твае Васіль ды Саламея сумелі Матруны пакойніцы куфэрак выцягнуць з агню.

— Мае? Васіль і Саламея?—здзіўлена запытаў Гарасім.

— Так, сынок, яны цяпер у школе ў Сьцепанічах,— уставіла Юзя:—Заўтра нядзелька, і яны прыбягуць да дому.

— Ну, а Матрунка дзе?—трывожна запытаўся Гарасім.

— Ох!—сашчапіла рукі Юзя: няма чаго й казаць... Ведаеш Гарасімка, замучылі паны. Так-такі й замучылі: жыўцом загналі ў магілу. Наказалі, вядома, ім вашы прыяцелі, і ноччу, за месяц да адходу іх, увалілася ў хату дзесяцёра легіянэраў. Глуміліся, зьдзекаваліся з Матруны, ажно й выказаць нельга... Напаўжывую зрабілі. Пасьля гэтага яна ледзьве пражыла тыдзень. У муках цяжкіх умёрла небарака....

— А дзе пахавалі?—з каменным спакоем запытаўся Гарасім.

— У Сьцепанічах. Прасіла гэтага,—адказала Юзя.

— Ну, што-ж зрабіць, вечны пакой ёй,—поўны ледзьве стрыманага адчаю—праказаў Гарасім.

Сымон пераняў яго:

— Так, толькі так, небажата. Ня думайце, што з вамі аднымі гэткае няшчасьце... Не. Гэткая доля сустрэла шмат каго. У кожным сяле, у ва ўсёй губэрні, у цэлым краі.... Польская навала йшла з агнём і мячом, грабавала, паліла,

забівала, руйнавала.... Знарок было пастаўлена панамі—зьнішчыць дашчэнту край, зруйнаваць яго ўканец....

Але, што-ж вы думаеце: паны гэтым многа выйгралі? Ні званьня, ні беднага. Увесь народ страшэнна на іх абураны. Нядарам многа хто кідалі дом, сям'ю, бралі зброю, якая пападалася, і йшлі на фронт. Старыя, малыя, сталыя, здаровыя і хворыя....—Сымон крыху спыніўся.—Пашоў і ваш бацька, іншым голасам праказаў ён. „Сыны“—кажа, па некалькі гадоў змагаюцца за свабоду, можа ўжо іх абодвых і ў жывых няма. А чым я іх горшы? Ці-ж менш іх пацярпеў на сваім веку зьдзеку і прыгнёту? Ці мала перанёс усякае крыўды за сваё мужыцтва, за паднявольнасьць чорных працоўных людзёў? Ці мала выбалеў няволі?—разважыў гэтак ён, паблагаславіў вашу матку, унучкаў, папрасіў у выпадку вашага прыходу—перадаць вам ад яго благаславеньне і.... пашоў....

— Няўжо?—ні-то ўзрадаваўся, ні-то спалохаўся Несьцер.

— Так... Маці ўпрашала астацца, я ня раіў пакідаць іх, а ён—як намогся ні рады. „Больш не магу чакаць. Можа, кажа, так затым і дастаецца краю і яго людзям, што яны вельмі падатлівы, пакорлівы і маўчлівы. Можа, кажа, затым і бяды столькі на яго валіцца, што няма ў нас ахвоты і храбрасьці абараняць яго“. Узяў і пашоў з атрадам чырвонаармейцаў.... Вось ужо больш двух месяцаў.... Расказвалі, надоячы, што хтосьці яго бачыў пад Калыгамі: біўся побач з чырвонаармейцамі. Адважны, кажа, усіх заахвочвае й толькі. Няведама цяпер, жыве ён, ці не......

— Бачыш ты!—ні то зрадавана, ні то зьдзіўлена праказаў Гарасім Несьцеру.

— Што-ж скажа-ж, нам рабіць?—На яго твары загарэлася адвага:—ісьці, толькі ісьці ў чырвонае войска і аддацца ахове свабоды. Адно выйсьце.

— Так прыходзіцца, не прывыкаць. Вось толькі яно думалася, што пасьля дому абновіш сілы, набярэшся бадзёрасьці. Стаміўся вельмі. Але трэ варочацца назад. Будзем цягнуць далей.

— А што вы думаеце? Чым гэтак жыць, дык лепей слаўна ўмерці,—сказаў Сымон. Нам, старым, дзела такоўскае, а вам тое й рабіць, што шукаць лепшага й шчасьнейшага жыцьця. На вашым мейсцы не сядзеў-бы я спакойна.... Хто-ж за вас пастараецца? Шукайце, дабівайцеся самі.

— У запечку пачуўся крэкт і стогн хворай.

— Гарасім і Несьцер адначасна падняліся з месца і зрабілі па кроку к мацеры. Юзя разгарнілася і заплакала.

Каб зьмягчыць раптоўнасьць стрэчы, Сымон махнуў ру-

кой на Грабянёў, спыняючы іх, а сам падышоў к палку, нагнуўся к хворай і перадаў ёй радасную вестку.

— Го-о-спад мой!... Сы-ын-кі-ы вы-і мае-э-э!—пачаўся яе голас.

— Схіліўшы головы, направіліся і Несьцер і Гарасім да маткі.

— Якія слаўныя хлопцы! Якія ваякі дружныя!—загукала Юзя:—Ціж бы яны даліся паном у крыўду, каб былі дома. Эх, эх! Ці ж бы яны пусьцілі бацьку?

— Дзе ты, Янка, чаму ты ня бачыш у гэты момант сваіх сыноў. Плакаў колькі па іх-вось яны....

— Нічога, яны знойдуць і бацьку, з пэўнасьцю праказаў Сымон, гледзячы, як матка цалуецца па чарзе з Несьцерам і Гарасімам. Яны знойдуць бацьку, знойдуць лепшае жыцьцё.

Празрыстае сонца ўлівалася сваімі праменьмі ва ўсе чатыры вакны хаты, змываючы са шкла шыбаў прыгожыя ўзоры марозу.

**Цішка Гартны.**

13-Ш.—21 г.

## Сямімільнымі крокамі.

Беражысь, беражысь!
Па табе я ўразгон сямімільнымі крокамі,
Беларусь, Беларусь...
Што рабіць? Засьпяваць?
Загудзець старажытна прарокамі,
Ці ва вырай зьбірацца,
Як гусь?

* * *

Крок за крокам, крок за крокам.
Не, ня хочу быць прарокам!
Што прарочыць? Долю? Волю?
Лепей ходу даць свавольлю
Кій у рукі, добры кій!
Поту хопіць: лій, ды лій!
На вырай?
Не, пачакай! Пакуль валадаю я лірай,
Ад гэтых узгоркаў, ляскоў,
Ад смагнучых гэтых пяскоў
Я не палячу!
Лепш засьпяваю
Ў студні па маю
Бо маю нахіл да сьпеваў і волі
Але сьпевы мае не бяз солі!

* * *

Гасьцінцам пакуль што іду,
Нібы-то тым самым гасьцінцам.
Вітае мяне толькі лес,
А хаты пакуль-што чужынцам
Лічаць мяне. Нішто.
Іду, браточкі, адзінцам.

Але уперад сямімільна
Патрабуе час наш пільна.
О, я пэўны, няпрыхільна
Тут спаткаюць. Вокны шчыльна
Пазачыняць, пазамкнуцца,—
Кінь, бо ёсьць куды імкнуцца,
Калі ходзіш сямімільна!

* * *

Праз грэблі, праз вёскі,
Як госьць той нябоскі,
Іду, узьнімаючы пыл.
Бярозак фарботы
Прыдбаюць ахвоты,
Праз дрыгву і дроты.
Калючыя дроты,—
Ўскок.
Мне добра. Навошта мне боты?
Ужо босы:
Добрыя боты на ўласны капыл,
Добра у іх узьнімаецца пыл,—
Крок—у—крок!

* * *

Пах. Над палямі пануючы пах.
Пах дажынкавай працы.
Дажынкі, дажынкі ідуць!
Спаднічак дружынкі
У снопікі,
Як бязвольныя попікі.
Каля іх—Марысі, Парасачкі,
Гэтых вёсак працоўных маіх
Пекнагойныя красачкі,—
Усё жнуць, усё жнуць!

* * *

Утаплюся ў табе, Беларусь,
Утаплюсь!
Утаплюся ў тваім азярынцы—балоцейку,
Запягнуся пад раску-чарот,
Зачаплюся нагою бязботай за плоцейка
За калючы, за дрот.
О, мае вёскі-бярозкі гасьцінныя!
О, мае сьпевы серпова-дажынныя!
Потныя пахі, працоўна-няспынныя—
Янка, Сымонка, Габрусь!

* * *

Але, кінь, лірнік, лірнічаць лірычна,
Сьпявай мацней;
Смык нацягні а драматычна
А весялей!
Алею лій, алею хопіць
Ў душы тваёй.
Ты бачыш: зацьвілі канопли,
Ўсё сіняквстныя каноплі
А над ральлёй.
Алеем тым кроплі спыні—
Крываточыны кроплі,
Раны вякоў.
Зірні у іх, лірнік, зірні:
То ужо не каноплі,
А сьцяг парабкоў.
Батракі, батракі!
Бураломных часоў ветракі,—
Разьвярнецеся крыламі,
Панапрудзьцеся пасамі—жыламі,
Патагонных вякоў крапакі!
Ад вятроў ужо гнецца чарот.
Будзе вам, ветракі, умалот,
На вякі вам дастане мукі.
Вось пяюць, вось пяюць батракі:

* * *

«Паўстань, працоўных кляс загнаны,
Руйнуй дашчэнту сьвет стары.
Калі ты будзеш згуртаваны,—
Палягуць ў пыл гаспадары.
Уецца сьцяг наш чырвоны
Над шасьцінай зямлі.
Не знайсьці абароны
Вам, рублёў каралі...
«Заместа грошы ды чырвонцаў,
З кляўцом на крыж злучым мы серп;
Над імі сноп, над імі сонца,—
Вось наш батрацкі новы гэрб.
Ўзьвйся сьцяг наш чырвоны
І над рэштай зямлі;
Затрасецеся троны,
У пыл хутчэй, каралі!

«Зьмявіўшы вечнае батрацтва
На сьпеў паўстаўшых, вольны сьпеў,
Жыцьцё мы зробім справай брацтва
І зьнішчым вечны людзкі гнеў...
Вось, гэты батрацкі сьпеў,
Як дажынкавы пах,
Над палямі пануе.
Ён часамі прыводзіць у жах,
У закляты, скрыгочачы жах
Тых, хто сьпявае дасюль: алелюя!
А мая Беларусь дык сьмяецца.
Ёй здаецца, што сьпеў парабкоў
Разам з пахам дажынным зьліецца.
І я сьмяюся з табой, Беларусь,
Бо ты—ня толькі мінулая,
Ты—сучасныя, шматчулая,
Ты і будучына бязьмежная
З іншымі працоўнымі сумежная,
Вялікая,
Бязпрытульным—прытульная.

* * *

О, Купала, мой родны Купала!—
Пракукуй, пракукуй ты пра нас,
Як зязюлька табе кукавала,
Калі маці калыску качала,—
Пракукуй пра цікавы наш час!
О, мой Колас, мой ціхі Якуба!
Я ў куток прытулюсь, прытулюсь
І чакаць буду новага шлюбу,
Што з'яднае атрамант Якуба
І працоўных Зямлю—Беларусь!
Ясакарык—Бядуля,—
Гулы, гулы ідуць аб табе,
Як ля вульля.
Ты зьбіраеш у соты,
У поўныя соты творчасьць народную;
У цябе дзьве істоты, вялікіх істоты.
Зразумеў ты працуючых цноты
І паняў ты зямельку угнойную, родную.
Гартны, Гартны, пясьняр пролетарыяў,
Што злучаліся вось ад татары.
Ты сьпяваеш аб тых, што ад Нёману
Загудуць, загудуць новым гоманам.

Ты куеш для іх вершы згартнелыя,
Кавалёў, гарбароў сьпевы сьмелыя!
А ты, наш Чароцік зялёны,
Кудзелька, вазёрны чарот,—
Ужо ставіш паэмам законы,
Перайшоў старажытнасьці коны,
Вольны, босы,—у брод, усё ў брод!
Дудары—песьняры мілагучныя!
Разам з тым вазярком, дзе купаецца гусь,
Разам з тым хвайнячком,
Разам з рэчкамі злучнымі,
З пролетарскімі сьпевамі ўключнымі
Вы—мая Беларусь!
Загляджуся я тут, патаплюсь!
Калі-ж не, дык ізноў сямімільнымі крокамі
Праз цябе, праз цябе!
Загудзець пра наступнае тымі прарокамі
Ды ісьці за кляўцом ў барацьбе!
Праз капліцы, праз балоты,
Дзе хістаюцца чароты,
Абадраўшыся аб дроты,
Сямімільна крок-у-крок,—
Не глядзі ужо у бок!
Лепш скідай сваю кашулю,
Што табе дала матуля,
Падарожнічай бядуляй.
На кашулі кроў,—дык сьцяг
Будзе добры, гэта-ж Жах!
Ды у рукі добры кій.
Поту хопіць,—лій, ды лій!—
Мо' па хатах няпрыхільна
Тут спаткаюць. Вокны шчыльна
Пазачыняць, пазамкнуцца—
Кінь! Бо ёсьць куды імкнуцца,
Дык імкніся сямімільна!

**Міхайла Грамыка.**

# Ромео й Джульета на Беларусі.

## I.

Ясны марозны вечар даўно ўжо спусьціўся на зямлю. Ружовая вагністая зара зрабілася блядою і прапала зусім. Усё неба задрамцела сінімі, зеленаватымі, жоўтымі зьвёздачкамі, якія, нібы вясёлыя вочы, падміргвалі адна другой і нашай цёмнай зямлі. Прыслухаешся і здаецца, што чуеш, як спатыкаюцца праменьні іх, падымаюць шолах у нязьмерных абшарах неба, быццам вядучы таемную гутарку між сабою. Поўны месяц падняўся ўжо высока над лесам, абліў белае поле сіняю хварбаю, пасыпаў яго іскаркамі срэбра й алмазу, а на ўбраным у белую фату дзераве запаліў ружовыя, сінія, зялёныя агоньчыкі. Ціха на вёсцы. Толькі дзе-ня-дзе за ваколіцаю пачуецца скрып сьнегу пад саньмі, а потым на вуліцы зарагоча журавель над калодзежам: то варочаецца з лесу й поіць каня спазьніўшыся гаспадар. Уся вёска прытулілася на ўзгорку, агарнулася сьнегавою коўдраю й нібы сьпіць даўно, ніколі ня прачыналася й не варушылася. Мароз добра закітаваў вокны ў хатах, і трэба добра прыглядзецца, каб прымеціць знадворку, што там яшчэ ня сьпяць, што праз тоўстыя шыбы блішчыць кволы агонь.

Клямка ў малых варотцах са двара Васіля Хлэмкі лёгка бразнула, і на вуліцы мігнуў цень, які хутка схаваўся на прызьбе пад страхою з левага боку ад варотаў. То была дачка Васіля—Алеся. Сеўшы на прызбу, яна азірнулася ў абодвы бакі вуліцы, а потым, паправіўшы на галаве хустку-шаліноўку, зьнішчылася. Але доўга сядзець на месцы яна не магла: вочы яе то падымаліся к цёмнаму зьвязьдзістаму небу, то ўглядаліся ўдоўж вуліцы, як толькі чуўся дзе-небудзь рып сьнегу. Часамі яна ўскаквала на ногі, адыходзіла на некалькі крокаў ад прызбы і доўга прыслухоўвалася, пазіраючы ў левы канец вуліцы. Шолах. злоўлены яе вухам. хутка зьнікаў і рабілася

йзноў так ціха, што чутно было, як падаў на зямлю шэрань з дзерава.

— Няўжо-ж ён ня прыйдзе? Няўжо ён схлусіў?—думала Алеся, і пры гэтай думцы, ня гледзячы на моцны мароз, твар яе пабялеў, а між брывамі залягла глыбокая маршчына. Яна йзноў села на прызбу. Перад ёю на другім баку вуліцы стаялі ўсе белыя ад шэрані бярозы, кудры якіх блішчалі тысячамі розных іскарак, неба пела ціхімі галасамі мільёнаў зьвёздачак, але павабнае хараство зімняе ночы не прыцягала да сябе Алесі: здавалася, што вочы яе глядзелі ў глыб яе душы...

— Ай, хто тут!?

— Што, спалохалася, мая зорка? Не чакала мяне?

— Ах, гэта ты, Ясік! Не чакала я цябе—чаго-ж я тут сяджу?

— Ну, выбачай, выбачай, што запазьніўся, сказаў Ясь, садзячыся на прызбу пабач з Алесяю.

Разам твар яе зачырванеўся, як сьпелая вішня, вочы заблішчалі, як зоркі на небе і, прыхіліўшыся блізка к Ясю, яна запытала:

— Дзе-ж ты быў так доўга? Я думала ўжо, што ня прыдзеш, хоць і не хацелася мецьу галаве гэтае думкі.

— І ня трэба мець яе ніколі, бо я толькі аб тым і думаю, каб быць заўсёды каля цябе, глядзець на цябе, цешыцца тваім хараством, тваёю ласкаю. Калі-ж я ня бачу цябе, то твой адбітак, як жывы, стаіць у маіх вачох, усюды йдзе за мною.

— Ясю мой, даражэнькі! Як рэдка мы бачымся з табою, як рэдка перакідаемся словам! І не сярдуй, мілы, што мне калісь надыходзіць у галаву дрэнная думка: ты мяне мала любіш, калі цябе ня цягне пабачыцца са мною.

— Алеся, родная! Ці-ж можна так казаць? Ты бачыш, што я ўсё адкінуў—веру, варажнасьць майго бацькі, наш звычайны шляхецкі гонар—і йду да цябе, толькі да цябе. Многа на сьвеце дзяўчат, прыгожых, багатых, але такое, як ты, для мяне няма.

Алеся ўздрыгнула ўсім целам, прыціснулася да Яся і нібы замерла. Ясь прыгарнуў яе сваёю рукою, адкінуў рог хусткі і гарачымі губамі прынік к яе губам, па якім пралятала дробная трапятаньне. У небе запеў арган зорак, дыямэнтавыя агоньчыкі з зямлі, з дзерава пераліваліся ўсімі тонкімі хварбамі красулі й сваімі праменьнямі цалавалі ў вочы Алесю.

— Каб заўсёды так,—прамовіла Алеся.

— Будзе, дарагая, заўсёды,—супакоіў яе Ясь.

— На сэрцы ў мяне, Ясю, бывае часта так цяжка, так млосна! Мне ўсё здаецца, што з нашых любошчаў нічога ня будзе. Вось колькі ўжо часу, як мы любімся таемна ад усіх. Але-ж век так не пражывеш. Пайці-ж да шлюбу з табою нам нельга, бо мы не аднае веры.

— Чаму-ж ня можам мы пажаніцца, цудоўная ты? Ці-ж ты не пашла-б за мяне, хоць я й каталіком лічуся?

— Ня мы адны з табою прыхільны да гэтае справы. Ты ведаеш, што мой бацька—вораг каталікоў, а твой—лічыць нас недавяркамі й мужыкамі. Так дзе-ж там у іх знойдзеш згоду? А без бацькоў, ведама, нічога ня будзе.

— Ах ты, дзявочая душа! Кахаць—кахаеш, а як да справы даткнецца, дык і крыла апусьціла. Ня трэба напускаць смутку ў галаву.

— Ды й сам ты гаворыш так толькі для таго, каб пацешыць мяне, а сапраўды-ж ведаеш, што дабра нам чакаць не ад каго.

— Ну, так слухай! Я сягоньня й спазьніўся сюды, бо меў з бацькам доўгую і гострую гамонку. На змроку прыехаў ён з лесу й вось за вячэраю накіраваў гутарку на тое, каб ажаніць мяне ў гэты месаед. Ён прыпамянуў мне, што працаваць яму на лета ўжо будзе цяжка па старасьці, што мая сястра Гэля яшчэ нясталая дзяўчына і што трэба, каб к вясьне я быў жанатым. Тады я адказаў, што жаніцца не хачу, а калі бацьку так трэба, каб я быў жанатым, то няхай ён пашле сватоў да Васіля Хлэмкі. Бацька вытарашчыў вочы і доўга глядзеў на мяне, нібы не разумеў таго, што я сказаў. „Як да Хлэмкі?“ запытаўся ён напасьледак. „Ці-ж ты ня ведаеш, што ён недавярак? Не, гэтаму ніколі ня быць“. „Добра, тады я ніколі й не ажанюся“, адказаў я. Доўга бацька пералічваў мне знаёмых паненак-каталічак, хваліў іх пекнасьць, іх бацькоў, але ўсё дарэмна. Урэшце, бачачы, што нічым ён мяне ня ўломіць, запытаўся: „Што-ж будзе з гаспадаркаю?“—„Мне ўсё роўна“, адказаў я, „кіну яе і паеду куды-небудзь у горад на работу“. Доўга бацька маўчаў, не хацеў на мяне й зірнуць, потым прыказаў: „Не спадзяваўся я, што на котлішчы маіх бацькоў сядуць некалі схізматыкі, але лепш няхай гэта будуць свае, чымся чужыя“. Далей ён прапанаваў мне заўтра-ж паслаць сватоў да вас і зразу зрабіць вялікія заручыны, каб да канца месаеду справіць і вясельле.

— Заўтра заручыны, заўтра? ціха й сумна прамовіла Алеся.

— Што-ж ты ня рада таму?

— Не, ня тое, Ясю. Як яшчэ скажуць мае старыя. Прый-

дуць вашы сваты, а мой бацька й на парог іх ня пусьціць. Вось тады будзе цацка. У яго гонару так сама шмат: не дарэмна ён ведаецца і з папом, і з настаўнікам, і з іншым начальствам у мястэчку.

— Ну, дык вось што, Алеся! Мы зараз разыдземся, і ты як-небудзь бокам сягоньня скажы сваім аб сватох ад нас.

— Чаго-ж там бокам? Проста скажу, што даўно кахаю цябе й папрашу, каб прынялі сватоў і аддалі мяне замуж. Няхай будзе, што будзе!

— Усё добра будзе! Ясь каля варотаў абняў і моцна пацалаваў на разьвітаньне Алесю.

Яна глядзела яму ўсьлед да тых часоў, пакуль ён не зьвярнуў з вуліцы ў завулак на свой выселак. Потым ціха-ціха павярнулася ў вароты, нясьмелымі крокамі прайшла двор і доўга трымалася за клямку сенешніх дзьвярэй перад тым, як адчыніць іх.

— Няхай будзе, што будзе! — дзьверы бразнулі й зачыніліся.

Хата Васіля Хлэмкі была вялікая й чыстая. Побач з дзьвярыма стаяла вялізарная печ, абложаная белаю кахляю; з другога боку ад дзьвярэй знаходзілася шырокая шафа, праз шыбкі якое відаць былі грудкі талерак, місак, шклянак і іншае пасуды. Каля сьцяны, дзе была печ, далей стаялі два ці тры ложкі, пакрытыя саматканымі коўдрамі з сінімі, чырвонымі й жоўтымі палосамі. Дзьве пярэднія сьцены абвешаны былі малымі й вялікімі абразамі, якія ў самым кутку йшлі ў некалькі радкоў. Паглядзеўшы, здавалася, што гэта выстаўка партрэтаў папоў да манахаў. У кутку пад абразамі стаяў моцны стол, пакрыты чыстым абрусом з чырвоным акрайчыкам навакол. Шырокія дубовыя лавы паўз абедзьве пярэднія сьцены ды некалькі зэдлікаў у розных мясцох хаты дапаўнялі ўсю мэблю.

Алесіна маці, Тацяна, яшчэ малажавая, але з пакутным тварам кабеціна, сядзела за прасьцінаю і пільна выводзіла тонкія ніткі кужалю. Бацька Васіль, плячысты, рослы чалавек з шырокаю чорнаю барадою, крыху сіваватаю, сядзеў на нізенькай калодачцы і, зацісноўшы між нагамі чурбак для начовак, дзёўб яго цяслою, бармочучы сабе пад нос нейкі сьпеў з набажэнства. Дзеці—хлапчук і дзяўчынка—будавалі з лучыны хлеў, рабілі з паперы коні, авечкі і заганялі іх туды. У іх падымаўся піск, як толькі хлеў абварочваўся і столь і страха ляцелі на скаціну.

— Дзе гэта ты была, дачушка? запыталася Тацяна, як толькі Алеся ўвайшла ў хату й пачала распранацца.

— Пасядзела трохі ў Піліпёнкавых,—неахвотна адказала Алеся.

— Яно-б то нічога, што ты там пасядзела, але работы шмат; сама ведаеш, што пражля ў нас з табою ліха ведае колькі засталося. Ад людзей сорам будзе, як іншыя будуць ткаць, а мы будзема за прасьніцамі сядзець.

Алеся знайшла ў запечку сваю прасьніцу, прыладзіла к ёй кудзелі й села на зэдліку недалёка ад мацеры. Але работа ў яе ня ладзілася: то кудзелю скубла яна нацяма й нітка йшла тоўстаю, то верацяно саскаквала з ніткі канцом і ляцела пад стол, то проста яна забывалася, што сядзіць за работаю й рукі яе ляжалі на каленах, а вочы пазіралі ў нейкі бязьмерны абшар, далей свае сям'і, хаты й кудзелі. Раптам яна ачыналася й бралася йзноў за пражу, але работа ня лепшылася.

— Татка... да нас заўтра... сваты прыдуць, ледва вымавіла яна.

— Сваты? Ад каго-ж гэта? запытаўся Васіль, устаючы з калодачкі й разгінаючы сьпіну.

— Ад Пранціся Ляшкевіча,—раптам выпаліла Алеся й зразу пабялела, як палатно.

— Ты ў сваёй галаве ці не? Ад Пранціся сваты ў маю хату, ка мне, к Хлэмку? Праўду кажуць, што ва ўсякае бабы розум курыны. Хто гэта пакпіў так над табою?

— Кпінкаў тут, тата, ніякіх няма. Я схлусіла, што была ў Піліпёнкавых. Я бачылася цяпер на вуліцы з Ясем: ён знарок прыходзіў сказаць, што прыдзе да нас заўтра са сватамі.

— Ні адзін яшчэ з гэтае дрэннае шляхты дагэтуль не пераступаў майго парогу, а тут--на табе—нават, ў радню лезуць. Не, ніколі ня будзе маім зяцем каталік.

— Татачка, пашкадуй і мяне! Мы з Ясем даўно любімся, ніхто аб гэтым ня ведаў, вось толькі цяпер я сказала першы раз. Гэта Ясь пераламаў гонар свайго бацькі й прымусіў яго на сватаўство да нас.

— Ну, добра! Ён прымусіў свайго бацьку, а ты мяне ня прымусіш,—злосна сказаў Васіль і тупнуў нагою.

— Няўжо-ж ты ня прымеш сватоў? запыталася Тацяна.

— Не! Недавяркава дачка знойдзе сабе недавярка. Нам панская вера не патрэбна.

У хаце зрабілася ціха. Дзеці пакінулі пасьвіць сваю скаціну; маці сядзела на тым самым месцы, апусьціўшы рукі; Васіль шырокімі крокамі хадзіў па хаце, злосна адпіхаючы з-пад ног трэскі. Алеся адышла к запечку й сьлёзы, першыя жаночыя сьлёзы, хлынулі ў яе з вачэй.

— Татка, хто-ж вінават, што Яся ахрысьцілі каталіком, а мяне праваслаўнаю? Ды й ня ўсё роўна, як хто моліцца ці зусім ня моліцца богу? Толькі-б чалавек добры быў, а лепш Яся для мяне нікога няма.

— Вось да чаго ты дайшла! Усё роўна моліцца ці ня моліцца! Пачакай, я навучу цябе маліцца.

— Аддай мяне, татачка, за Яся, аддай! з прыпадкам новых сьлёз і кінуўшыся на калены перад бацькам, узмалілася Алеся.

— Слухай, дачка! Ты прыгожая дзяўчына, пасаг у нас для цябе ёсьць. Маладых хлопцаў шмат, нават, наш настаўнік ці дзяк з ахвотаю пасваталіся-б да цябе.

— Ды й праўда, кінь ты гэтага Яся, падтрымала мужа Тацяна: ну, ажэніцеся вы, войдзеш ты ў чужую хату, дзе ўсе будуць глядзець на цябе, як на недавярка, дзе дух самы зусім другі, ня наш. Што гэта будзе за жыцьцё? Выкінь ты, Алеська, з галавы сваю думку.

— Не магу, матачка! Усё роўна, калі не аддасьцё мяне за Яся, весь век прасяджу дзеўкаю.

Алеся паднялася з кален і села йзноў за прасьніцу. Твар яе быццам акамянеў, вочы сталі шклянымі, губы пабялелі, як сьнег. Сьціснуўшы іх, яна маўчала, як дзерава, і рукі яе самі рабілі звычайную работу. Праз нейкі час Тацяна пачала зьбіраць вячэру, усе селі за стол. Алеся, палажыўшы сваю прасьніцу, падыйшла да ложка й лягла, адвярнуўшыся да сьцяны.

— Алеся, йдзі вячэраць! Вось шашаль у нас залез,—паклікаў Васіль. Алеся не прамовіла ні слова.

За сталом між бацькам і маці зачаліся спрэчкі. Маці пачала ўгаварваць Васіля прыняць сватоў і зрабіць увагу дачцэ. Васіль доўга спрачаўся, але з часам яго ўпартасьць усё меншылася. К канцу вячэры ён згадзіўся аддаць Алесю за Ляшкеўшчыка, але даклераваў, што ніякага пасагу ня дасьць. Маці падышла к Алесі, штурханула яе й шапнула ёй на вуха. Алеся ўскочыла і, ўся зачырванеўшыся, кінулася бацьку на шыю.

— Ведаеце,—зашчабятала яна,—заўтра зразу будуць вялікія заручыны, без малых. Пранцісь хоча хутчэй справіць вясельле.

— Вось як, ну тады гатуйся, Тацяна! сказаў Васіль.

Далёка за поўнач у хаце Хлэмкі гарэў агонь, і Тацяна з Алесяю пяклі хлеб, гатавалі мяса, каўбасы й іншыя стравы. Алеся лягла апошняю, і доўга сон уцякаў ад яе.

На другі дзень зранку пачалася вясёлая работа дзеля

малодшых Васілёвых дзяцей. Яны цэлы дзень шуравалі па вуліцы, склікаючы на заручыны ўсіх суседзяў і тых сваякоў, якія жылі бліжэй, у гэтай-жа вёсцы. Да тых, хто жыў у другіх вёсках, паехала сама Алеся ў санях. Хлэмка быў багатым чалавекам і меў шмат сваякоў, як па сваёй радні, так і па жончынай. Было-б вялікаю крыўдаю, каб Васіль абмінуў паклікаць каго-небудзь з іх на заручыны. Сам ён паехаў у мястэчка купіць чаго-кольвечы з далікатнага, а так сама й на ўсякі трапунак гарэлкі. Тацяна, застаўшыся дома адна, мыла, прыбірала і надта была нездаволена, як часам заходзілі з двара дзеці і наносілі сьнегу.

Каля паўдня ня было ніводнага чалавека ў Ляццох, хто-б ня ведаў, што ў Алесі будуць заручыны. Дзяўчаты й маладзіцы, сышоўшыся ці каля калодзежа ці проста каля варот доўга сакаталі між сабою, шапталіся й словы „Алеся“ ды „Ясь“ ня сыходзілі ў іх з гутаркі. Як толькі Алеся праехала па вуліцы, варочаючыся з другое вёскі, дык усе ляцелі к вокнам ці к варотам паглядзець на яе, хоць дагэтуль кожны дзень бачылі яе й нічога цўдоўнага ў ёй ня было. Потым кожны прогся хутчэй выказаць сваю здагадку, куды й к каму езьдзіла Алеся, каго яна клікала на заручыны, з кім Васіль ня ў ладзе, каго не паклічуць і г. д.

Надыходзіў вечар. У хатах замялькалі агоньчыкі. Дзяўчаты й хлопцы прыбіраліся на заручыны, кліканыя і някліканыя. Каля Васілёвай хаты цэлым натоўпам стаяла дзетвара й чакала пачатку. У хаце ўсё было прыбрана ад гаршкоў да самых гаспадароў. Ні бацькі ні Алеся ня ведалі, што рабіць і моўчкі таўкліся па хаце. Толькі малыя швэндаліся то на двор, то ў хату. Гадзіне а сёмай вароты з вуліцы забразгалі, і Васіль устаў з лавы, падышоўшы к дзьвярам.

— Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!

Васіль адступіў на крок назад: перад ім стаяў сам Пранціська, а ззаду за ім ужо сватам Пабіян Сулкоўскі й Ясь.

— Добры, добры вечар! адказаў Васіль.

— Што-ж ты, пане Базылю, ня хочаш і прывітаць нас, як падабае? гледзячы насуплена, сказаў Пранцісь.

— Выбачайце, браточкі, я й забыўся, што вам трэ' было адказаць „на векі векаў—аман“. Выбачайце!

Сваты селі каля стала. Алеся-ж парупілася хутчэй склізнуць з хаты. Ня доўга чакаючы, пачалі сыходзіцца званыя з жанкамі, хата папоўнілася гасьцьмі ў святочнай вопратцы, пачалася гамонка, як у вульлі пшчол.

Сені, адкуль былі вынесены знарок куфры й пасы, хутка напоўнілася хлопцамі і дзяўчатамі. Дзеці, як машкара, віліся й

блыталіся пад нагамі. Касы на адно вока музыка Мекраш запілікаў скрыпкаю, настроаваючы яе. Вось зацяў ён лявоніху, і пар з пятнаццаць пусьціліся ў круг.

— Пачакайце, пачакайце! Дзе-ж Ясь з Алесяю? У першую пару іх трэба!

Танец прыпыніўся. Алеся сорамна падышла да Яся й выклікала яго ў сені. Адзетая ў чырвоную суконную спадніцу, вышываную сарочку і сіні гарсэт, яна ўся так і зьяла шчасьцём, трымаючыся за Яся й гатуючыся сказаць. Мекраш зайграў ізноў, і Алеся, як зачараваная пайшла ў круг. Нічога ня бачачы, апроч твару свайго каханага, яна лёгка насілася па сенях... Першая лявоніха скончылася, і дзяўчаты абкружылі яе, засьпяваўшы вясельную песьню...

У хаце так сама станавілася ўсё весялей. Як першыя ўмовы былі зроблены, госьці расьселіся за сталамі, растаўленымі ўздоўж дзьвёх пярэдніх сьцен. Гарэлка й багатая закуска зрабілі ўсіх добрымі, гаманлівымі. Пачуліся жарты, сьмех; маладзіцы й старыя, нават, бабы зацягнулі песьні, а некаторыя пад гэтыя песьні пусьціліся ў скокі. Мужчыны апавядалі адзін другому свае гаспадарскія справы, гаманілі аб навінах й чутках, якія хто дзе даведаўся.

За сталом у пакуці сядзелі Пранцісь, сват, Васіль і найбольш старыя й паважныя з гасьцей. Тут гутарка йшла сур'ёзная, аб бывалых справах і здарэньнях, якія былі з кім у колішнія часы. Дзед Кісель, якому ўжо было гадоў пад восемдзесят, без канца гаманіў, як ён плыў на кані праз Дунай у Турэцкую вайну, як пешкі рабіў пераход з Крыму ў Польшчу ў 70 годзе. Другі сьмешны дзед у дзесяты раз пераказваў, як ён быў у Кралеўцы з барлінамі, і як яму, замест шапкі, немец прадаў капялюш. У кожнага знаходзілася сказаць з свайго жыцьця.

Васіль, зьвярнуўшыся да Пранціся, гаварыў:

— Ліха ведае, як зроблена на сьвеце, што людзі жывуць пасуседцтву, а глядзяць адзін на другога ваўкамі. Вось хоць мы з табою, Пранцісь: здаецца за весь век не зрабілі ніякае шкоды, ніякае пагарды адзін другому, а на-ж табе!—да гэтага дню й спаткацца не хацелі.

— Але, але, сваце! І што-ж такое, калі я малюся ў касьцёле, а ты ў сваёй царкве?

Праўду кажаш, сваце! Давай вып'ема за нашых дзетак.

Сваты налілі сабе па добраму кілішку й выпілі. У галаве пачынала круціцца, з губ зрываліся вясёлыя словы, жарты самі так і лезьлі на язык. Дзеды траскучымі галасамі зацягнулі старую песьню „пра гарабь'я“, яшчэ выпілі, ізноў заня-

ліся раздабарамі. Шмат казак было сказана, шмат жартоўных апавяданьняў абляцела стол.

Васіль так сама разышоўся і прапанаваў выслухаць яго сказ. Усе павярнуліся да яго, гатуючыся пачуць што-кольвечы сьмешнае.

— Усе вы ведаеце старую цэркаў у Мурагох. Цяпер яна мае толькі сьцены, а дах яе й званьніца даўно ўжо праваліліся й згнілі; цьвінтар зарос чартапалохам, крапівою і іншымі бруднымі зёлкамі. У даўные-ж часы гэта быў вялікі й далёка вядомы касьцёл. Убранства яго было багатае, ксяндзоў туды пасылалі самых лепшых. Але ня гэта цягнула ў касьцёл людзей з усіх бакоў і, нават, здалёку: у касьцёле быў лічбан сьв. Антонія, які памагаў і ад хваробы, і ад беднасьці і, нават, ад сьмерці. Пасьля скасаваньня уніяцтва, касьцёл быў перароблены ў цэркву. Прыехаў і поп—Завідовіч, здаецца,—і ўсё каталіцкае выкінуў, толькі сьв. Антоні застаўся. У бліжэйшыя-ж гады поп Завідовіч зразумеў, што абмылкі ён не зрабіў, пакінуўшы ў цэркві лічбан: у адзін дзень сьвята Антонія папу даставалася столькі дабра, колькі ён не зарабляў за год. Рад быў поп, і кожны год на Антонія склікаў да сябе ў госьці знаць ледзь не з усяго павету: і папоў, і ксяндзоў, і паноў, і рознае начальства. Добра жыў поп і гора ня бачыў. Вось адзін раз уваходзіць ён у цэркаў, глядзь—няма Антонія на месцы. Туды-сюды:—няма. Як на бяду заставалася толькі дзён тры ці чатыры да сьвята Антонія. Што рабіць? Бяз лічбана й сьвята ня ў сьвята—усе грошы і іншыя падарункі прапалі. Думаў-думаў з дзяком Завідовіч, ды й надумалі. Раніцаю ў сьвята яны падпрасілі аднаго старога селяніна, які абліччамі і доўгаю барадою паходзіў на лічбана Антонія, разьдзелі яго, паставілі на пастамэнт, дзе стаяў лічбан, падвязалі яму абрус ніжэй чэрава і папрасілі стаяць нярухома ўсю ймшу. Добра! Усё пашло па парадку: шмат папоў правілі ймшу, народу процьма і ў цэркві і каля цэркві. Сьвечкамі ўстаўлены ўвесь абруч перад Антоніям. Вось нейкая кабеціна, праціснуўшыся з сьвечкаю ў зубах да самога «Антонія», стала шукаць месца, куды-б прыладзіць яе. Ня доўга думаючы, яна запаліла сьвечку і, нагнуўшы канец з эгнём к назе „Антонія“, пачала капаць воск, каб прыляпіць там і самую сьвечку. „Антоні“ ня вытрымаў, дрыгануў нагою, ды так моцна, што добра такі штурхануў кабету. „Цуда!“ загаласіла яна на ўсю царкву...

— Куды ты, сваце?

— Што-ж, я прышоў да цябе, каб ты зьдзекаваўся з мяне? хрыпла вымавіў Пранціся: дык не, годзе! Недаверак ты

быў, недаверак і ёсьць! Хадзем, пан Сулкоўскі. Ясь, хадзем да дому!

— Ніхто цябе й ня клікаў, сам прыйшоў,—ускіпеў Васіль.

— Татка, што тут зрабілася? шпарна увайшоўшы ў хату, запытаўся Ясь.

— Зрабілася тое, што шляхціц Ляшкевіч ня хоча радні з брудным мужыком. Вясельле ня будзе!

— Ну, і дзякуй Богу! Нам не па дарозе з шляхецкаю верашчакаю,—уставіў Васіль.

Пранцісь з сватам хутка вышлі з хаты, ні з кім не разьвітаўшыся й ня зірнуўшы ні на каго. Гасьцём стала ніякава: трохі памяўшыся, адзін за другім, нібы аблаяныя, яны пачалі разыходзіцца да дому. Дзяўчаты й хлопцы, даведаўшыся ў чым справа, так сама змоўклі й разышліся. Хутка ўся хата апусьцела, засталіся толькі свае ды Ясь.

Алеся спалоханымі вачмі пазірала на бацьку й не магла ўцяміць, што зрабілася. Васіль, пачырванеўшы ад злосьці, бойнымі крокамі таптаўся па хаце. Маці, падпёршы галаву рукою, моўчкі сядзела каля стала.

— Дзядзька Васіль, што вы тут нарабілі? запытаўся Ясь.

— Ідзі й ты за сваім бацькам, табе тут месца няма, прабурчаў Васіль.

— Чаго-ж вы на мяне злуеце? Я вам кепскага нічога не зрабіў. Калі вы ня хочаце паладзіць з маім бацькам, дык можна абысьціся і без яго. Аддайце мне Алесю, я жанюся без бацькавай волі.

— Эх, галубе, прамовіла Тацяна,--якое-ж гэта будзе жыцьцё, калі твой бацька будзе заўсёды павоўчы глядзець на Алесю. Не, так нельга рабіць.

— Да чаго там слухаць! Ці бацька ці Ясь—аднаго поля ягада. Алеся пойдзе за свайго, каталікоў і нам ня трэба,—сказаў Васіль і адвярнуўся ад Яся.

Алеся стаяла ні жывая ні мёртвая. У яе галаве ніяк не ўкладалася тая злыдная перамена, якая раптам прыкончыла ўсё яе шчасьце. Яна ня бачыла, як Ясь, зірнуўшы на яе, вышаў з хаты з паніклаю галавою, ня чула, як маці аклікнула яе памагчы прыбраць са сталоў пакінутую яду й бутэлькі. Дзеля яе вясёлы шчасны вечар перамяніўся ў хаўтурны. Зразу стала так пуста і ў хаце і на душы. Нават і сьлёзы не паказваліся на вачох. Апрануўшыся й ня слухаючы маці, выйшла яна за вароты на прызбу. Доўга глядзела яна на паўночныя зоркі, быццам хацела аддаць ім часьцінку тае пакуты, якая гнула ёй душу й не давала супакою.

II

Быў другі дзень Сёмухі. У мястэчку Дунаеўцах, дзе быў стары й далёка вядомы касьцёл, у гэты дзень штогодна адбываўся кірмаш. Многа народу—і каталікоў, і праваслаўных, і жыдоў- -з'яжджалася ў Дунаеўцы вёрст за дваццаць пяць ці трыццаць: адны ехалі гандляваць; другія купіць што-небудзь з гаспадарчых спраў, трэція паслухаць набажэнства ў знатным касьцёле, але больш ехала сюды проста пабыць на людзях. З ранку ўжо вялікі пляц мястэчка ўстаўляўся вазамі з паднятымі ўгору аглоблямі; на вазох паказваліся парасяты, куры, сала, яйцы, сярпы, косы, восі, аглоблі; тут-жа, дзе-небудзь збоку прыляпляўся „рускі" з абразамі, крэсьцікамі, чысьлянікамі, брытвамі, нажамі; далей прадавалі дзёгаць, смалу, квас, цыроп, абаранкі. Усюды чутна была лаенка за цану, насіўся гоман натоўпу людзей, рзалі коні і над усім гэтым тлумам пішчаў гармонік, іграўшы невядома дзеля чаго. Бабы, маладзіцы й мужчыны пераходзілі ад воза к возу, прыглядаліся, мацалі, таргаваліся да хрыпаты і йшлі далей. Можа хто з іх за цэлы дзень нічога й ня купіў, але хадзіў, таргаваўся, быццам усё меў купіць. Дзяўчаты, пабраўшыся за рукі, шнуравалі ўзад і ўперад па прагалах між вазамі, запыняючыся там, дзе прадаваліся ўборы. Калі якой што надта спадабалася, яна ляцела шукаць бацькі ці маці й вяла іх паглядзець і купіць тую рэч. Хлопцы, сабраўшыся гурткамі, сядзелі дзе-небудзь з краю пляцу, жартавалі, не прапускалі ні аднае дзяўчыны, не паскаліўшы над ёю зубы. Дзеці віліся ўсюды, як мошкі, і падымалі страшэнны піск, хто гліняным конікам, хто дзеравянаю дудкаю, хто валавяным пеўнікам. Сталыя хлопцы, каб пакпіць з якое-небудзь ганаровае дзяўчыны, падвучвалі малых хлапчукоў вымазаць няпрыметна коламазьзю спадніцу; як гэта ўдавалася, рогат падымаўся наўкола, а бедная дзяўчына ня ведала, куды вочы дзяваць ад сораму.

Імша ўжо даўно скончылася. Недалёка ад касьцёлу сярод вялізарнага саду стаяў плебань ксендза пробашча Галеўскага. Сам пробашч—высокі, сыты з чыстым белым тварам чалавек—і малады, тонкі вікарны ксёндз, які часова служыў арганістам, шпацыравалі па садзе. Быццам пабеленыя малаком ігрушы й яблыні, зялёная чыстая мурава пад імі, раскіданыя ўсюды ў прачалах клумбы розных кветак, перамовы дробных птушак, зык невядомых мошак над кветкамі, няясны гоман з кірмашу, глыбока-сіняе неба бяз ніводнае хмаркі й праменьні яснага сонца—ўсё гэта навявала на душу радасьць, выклікала сьветлыя думкі, звала да поўнасьці жыцьця. Пробашч у дадатак

к гэтаму быў яшчэ пад уладаю ўспаміну аб натоўпу народу ў старым таемным касьцёле, высокасьці набажэнства й сьвятых гуках аргану.

— Хвала найвышшаму пану богу, які залажыў усё гэта на радасьць свайму люду,--гаварыў пробашч. Гэтае сонца, прыгожыя кветкі, сьпевы птушак і поўны жыцьця гоман мірыядаў мошак кажуць чалавеку, што бог яго не пакідае, пасылае яму ўцеху. Ня дзіва, што так верыць яму, наймацнейшаму, чалавек, будуе ў хвалу яму палацы-касьцёлы, складае літаньні й гымны. Бяз веры й сонца не сьвяціла-б і гэтыя кветкі ня мелі-б свае дзіўнае вопраткі.

— Ня так народу патрэбна вера, як нам,—смутна адказаў малады ксёндз. — Зірнеце туды на пляц: ці трэба каму вера? Мазь, хустка, боты -- вось што ім трэба. Ад веку звычайна цягне іх у касьцёл ці ў цэркаў адзін раз у тыдзень прасіць ад нейкага бога дапамогі, якая каму трэба. Вера трэба нам дзеля гэтага быдла.

— Нех пан бог бэндзе з намі—што пан ксёндз кажа?

— Праўду кажу, вось што. Ці-ж вы ня бачыце, пан пробашч, што ў апошнія часы моладзь адыходзіць ад нас? Ці ня ведаеце, што адны, прагучыся атрымаць прывілеі праваслаўя, пераходзяць у папоўскую веру, другія-ж, зусім новыя, ня вераць ні нам ні папом — ні богу ні д'яблу? Сонца-ж ім так сама сьвеціць і кветкі квітнуць дзеля іх, як і тым, хто не прапускае ні аднае ймшы.

— Мне й слухаць вас страшна, пане ксёнджа.

— Кіньце вы дзяцініццы. Нам трэба трымаць веру, каб утрымаць сябе... Вось пасьля ймшы вам падалі сакрэтны ліст ад біскупа. Ён піша, што трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на моладзь і рахуе, нават, працаваць нам побач з папамі й імпэрскімі чынамі.

— Пан ксёндз мусіць не рабіць так, як кажа біскуп. Якая-ж згода між каталіком і праваслаўным: наша сьвятая вера...

— Кажу, што вера—наша справа, і мы павінны ёю кіраваць. Мусім-жа мы памагчы скасаваць той дух вольнасьці, які пачаў залазіць у галовы народу, каб самім затрымаць моц у сваіх руках.

Пробашч нічога ня меў адказаць на гэты аргумэнт і нясьмела глядзеў у вочы свайго памочніка.

— Вось што! Заўтра вы паедзеце па гэтым справам ад мяне ў павет. Што рабіць і казаць у чыноў, будзеце ведаць. Цяпер пара супачыць.

Увайшоўшы к сабе ў пакой, пробашч ня лёг спачываць.

Ён адамкнуў шуфлядку ў стале, дастаў адтуль ліст біскупа і яшчэ раз перачытаў. Потым устаў нахмураным і пачаў хадзіць з кутка ў куток.

— Можна да пана ксяндза? пачуўся жаночы голас з сумежнага пакою, і праз хвіліну ўвайшла прыгожая й маладая ахмістрыня—панна Мальвіна.

Пахмурнасьць і несупакой, як рукою, зьняло з твару пана Галеўскага. Ён прыветна кіўнуў галавою Мальвіне й сеў у шырокае крэсла.

— Пан ксёндз здаецца засмучаны чымсь-то? Такі ўдатны дзень сягоньня, так добра йшла ймша... А казаньне? Ну, проста пан ксёндз да сьлёз давёў увесь народ. Ды й народу колькі было, яблыку недзе упасьці.

— Што ж, дзіцятка, што шмат народу было? Паслухалі ймшу, казаньне ды разышліся кожны са сваёю ўласнаю думкаю, сваёю радасьцю ці горам, а той, хто выклікаў у іх сьлёзы ўміласьліўленьня, застаўся адзін бяз радасьці й гора.

— А бог з вамі.

— Бог... дзе там богу дзела да мізэрнага аднаго чалавека? Мне жыцьця трэба, таго жыцьця, якім жыве сад, квітнуць кветкі, жывуць людзі. У мяне няма жыцьця.

— Грэшна вам так казаць, пане ксёнджа.

— Ніякага грэху няма, Мальвіна.

Ксёндз устаў, блізка-блізка падышоў к Мальвіне.

— Ці-ж грэх глядзець у гэтыя вочкі, ці-ж грэшна гладзіць гэтую ружовенькую руку... Мальвіна!

Мальвіна хіснулася ў бок, але ксёндз, быццам падтрымаць яе, ахапіў пад сярэдзіну й губамі прынік к яе голай шыі.

— Што вы робіце? Пусьцеце! ледва чутно прагаварыла яна.

Пакрываючы пацалункамі твар, шыю, плечы Мальвіны, ксёндз падняў яе на рухі і панёс на софу . . . . .

. . . . . . . . . . . . .

— Ай-яй! Хтось сюды йдзе! спалохана шапнула Мальвіна й асклізнула з софы, папраўляючы дрыжаўшымі рукамі гарнітур і шып на галаве. Ксёндз з каменна-супакойным тварам трымаў у руках польскі пераклад Sermons Босьсюэта.

У пакой увайшоў Ясь і нясьмела прыпыніўся каля дзьвярэй. Ксёндз кінуў на яго гостры пагляд і прышчурыў вочы, углядаючыся і ўспамінаючы, хто-б гэта быў. Ясь пад колючым вокам ксяндза павярнуў галаву ў бок і чакаў.

— Здаецца пан будзе сын Пранціся Ляшкевіча? запытаўся ксёндз.

— Але, пане ксёнджа,—адказаў Ясь.

— Ня схожы вы са сваім бацькам. Ваш бацька добры і

шчыры католік, вы-ж ня ходзіце да касьцёлу, не паважаеце свайго духоўнага айца—нават, прывітаць мяне, ўвайшоўшы сюды, ня лічыце патрэбным.

— Я ня сьмею, пане... Я прышоў прасіць...

— Вы сацыяліст?

— Як вы сказалі, пане ксёнджа? Я не разумею?

— Той, хто ня ходзіць да касьцёлу, ня сымае пану шапкі, ня слухае бацькі, робіць сваю волю—вось хто сацыяліст і бунтар.

— Ну, і што-ж з гэтага?

— А тое, што такіх людзей пакарае ня толькі бог, але й яго намесьнік на землі.

— Пане ксёнджа, няхай карае мяне, хто хоча. Я прышоў да вашае міласьці прасіць аб аднэй справе.

— Якая ў вас да мяне справа? Я з нехрысьцем спраў не вяду.

— Уперад выслухайце мяне, а потым ужо будзеце ці сварыцца ці зьлітуецеся нада мною.

— Кажы.

— Пан ксёндз, мусіць, ведае, што я засылаў сватоў да лятцоўскага Хлэмкі?

Ксёндз аж падскочыў на крэсьле, страціўшы на момант увесь свой супакой. Але раптам твар яго зрабіўся йзноў каменным, толькі па губах лятаў зьлыдны посьмех.

— Чаму-ж пан не ажаніўся? Часу, здаецца, было досыць пасьля заручын?

— Ведаеце, пане ксёнджа, што нашы бацькі ўпартыя, як быкі: уцямілі сабе, што калі рознае веры людзі, дык ім і жаніцца нельга. Я-ж не хачу мець жонкаю сабе нікога, апроч Хлэмкавае дачкі, хоць яна й праваслаўная.

— Не паганьце свайго бацькі, вы яго ня варты. Чаго вы прышлі да мяне?

— Я прышоў прасіць вас пашлюбаваць мяне з Алесяю й без дазволу бацькоў.

— Без дазволу? Да і каб твой бацька, гунсваце ты, прышоў прасіць мяне аб гэтым, то й тады я-б адчыніў яму дзьверы. Як асьмеліўся ты казаць гэта?

— Пане ксёнджа, зьмілуйцеся... выслухайце.

Ксёндз ускочыў на ногі і, як вецер, пачаў насіцца па пакоі, блытаючы на падлозе дарожкі і шкуры. Потым, прыпыніўшыся супроць Яся і ўтупіўшы ў яго твар свае блішчастыя ад гневу вочы, не сваім тонкім голасам закрычаў:

— Ты забыўся, адцураўся ад нашае веры! Д'ябал зьвязаў цябе з дачкою недаверка, усе дзеці вашы будуць недаверкамі!

Не, я не падыму рукі даць благаславенства нашага бога нехрысьцям!

Прэч адсюль, з гэтага сьвятога месца!

— Пане ксёнджа, паслухайце...

Ксёндз адвярнуўся ад Яся, падышоў к вакну, прастаяў некалькі хвілін, і калі ён павярнуўся йзноў назад, твар яго быў сьветлы, вочы лісьлівыя, на губах добры посьмех.

— Ну, добра,—сказаў ён.—Калі табе ўжо так хочацца жаніцца на гэтай дзяўчыне, я дапамагу табе. Бог, якому я служу, павялеў быць людзям добрымі. Але ён прымае пад сваю аброну толькі тых, хто добры да яго. Слухай, пан Ясь! Калі Алеся твая пярэйдзе ў нашу веру, то хоць сягоньня я вас ажаню. Табе бог пашле адпушчэньне грахоў за тое, што ты прывядзеш да яго няверную душу. Ідзі, дзіця маё, і прыводзь сюды сваю дзяўчыну—і праз некалькі гадзін вы пашлюбуецеся.

Пры апошніх словах ксяндза Ясь устрапянуўся, твар яго пачырванеў, у вачох заблішчала радасьць. Але гэта было ня больш, як хвіліну. Смутак ізноў наляцеў на яго; ён ніжэй апусьціў галаву й некалькі разоў пераступіў з нагі на нагу. Потым ён падняў вочы на ксяндза й прамовіў, выразна кажучы кожнае слова:

— Не, пане ксёнджа! Я ня згодзен атрымаць падзяку на небе, што прымушу стрымаць іншую веру таго, каго я кахаю незалежна ад веры. Калі будзе ваша ласка, дык зрабеце маё каханьне поўным, як я прашу.

— Ты кахаеш, кахаеш даўно—і за грэх гэта ня лічыш! задрыжаўшы ад злосьці, закрычаў ксёндз.—Гэта распуста, блуд! Сьвяты касьцёл выкіне цябе, як вялікага грэшніка, з сям'і верных каталікоў! Як выгнанец, ты нідзе ня будзеш мець прыстанішча—ні ў сваіх ні ў чужых.

— Я мысьліў, ксёнджа, што знайду ў цябе падтрыманьне, як у служкі найвышэйшага бога, якому ўсё роўна вера, дзеля якога ўсе людзі—дзеці. Вы-ж мяне праганяеце ад сябе, як брудную сабаку.

— Ня дзіця ты бога, а д'ябла! Мне некалі й не аб чым больш гаварыць з табою. Вось дзьверы!

Ясь нічога ня кажучы, павярнуўся, абкаціў халодным паглядам ксяндза з ног да галавы і моўчкі вышаў з пакою.

На пляцы кірмаш кішэў вясёлым, клапатлівым народам. У бакавых вулках каля хат мяшчан з усіх канцоў нясьліся сьпевы, музыка. Па дарозе пападалася шмат падвыпіўшых мужчын і, нават, кабет, якія моцна рагаталі і галосна гаварылі між сабою. Сонца было ўжо на адвячорку, але яшчэ

высока. Ясь ішоў, ня бачачы ні людзкае радасьці, ні сьветлага сонца. Тая надзея, з якою ён раніцою сьпяшаўся на кірмаш і якая грэла яго сэрца да сустрэчы з ксяндзом, у сучасны момант патухла і перад ім стаяла йзноў няведамая будучына. Што рабіць, дзе знайці канец—ён ня мог даць сам сабе адказу. Як у цяжкім сьне праціскаўся ён к Бэркавай карчме, дзе ўмовіўся сустрэцца з Алесяю, каб паведаміць яе аб справе з ксяндзом.

Бэркава карчма стаяла на рагу пляцу, адкуль разыходзіліся два гасьцінцы. Пры карчме была добрая стадола і, апроч агульнае хаты для заежджых, было некалькі маленькіх, як клеткі, „нумароў"—баксвак. Сам Бэрка гандляваў гарэлкаю, трымаў некалькі балаголаў, займаўся камісіянэрствам. Заўсёды хто-небудзь да быў у яго. На гэты раз у агульнай хаце поўна было хлопцаў, якія балагурылі, пілі гарэлку й бязконца жартавалі.

Як толькі Алесь пераступіў парог, на яго паляцелі з усіх бакоў.

— Га, вось і Ясь сюды!

— Да што гэта ты—лісьніку наеўся ці што? Такі дзень, а ён сонны, раскіслы.

— Трэба лісьнік гарэлкаю выгнаць!

Яся пацягнулі за стол і пачалі наганяць яму веселасьць гарэлкаю.

Але ён заставаўся засмучаным і нічога не памагала—ні жарты ні песьні сяброў.

— Мусіць ізноў цябе засмуціла Алеся? запытаўся адзін з лятцоўскіх хлопцаў.—Кінь ты з ёю валандацца, да і з бацькам такім я-б ня жыў. Ці сьвет малы? Плюнуў бы на яго гаспадарку ў такім разе і ў горад.

Ясь нічога не адказаў і сядзеў, як апушчаны ў ваду. Хлопцы кінулі зьвяртаць на яго ўвагу, бо ўсе, як вясёлыя дзеці, хутка пераходзілі к іншым інтарэсам і настроям. Бэрка падышоў к Ясю і ціха, нібы крадучыся, сказаў, што пана Яся просяць у бакоўку. Яны адышлі ад стала, чаго ніхто і ня прымеціў, і праз хвіліну Бэрка ўвёў Яся ў «нумар", а потым са значным і хітрым пасьмехам зачыніў за ім ззаду дзьверы.

На зэдліку каля стала, накрытага гразкаю і абадранаю цыратаю, сядзела Алеся. Як толькі Ясь увайшоў, яна ўс очыла на ногі і кінулася да яго, але так і прыпынілася, ўгледзіўшыся ў яго твар.

— Ну што? без надзеі ў голасе запыталася яна.

— Што-ж? Нічога, як я й казаў уперад,—ледва вымавіў Ясь.

— Што-ж рабіць, Яська, мой родны?

— Пераламаць іх усіх мы пакуль што ня зможам. Бацькі нашы цёмныя, розум у іх забіты, а з панствам зьвяжашся — нічога ня будзе. Аблыталі нас вераю, установамі й трымаюць, як павукі мухаў у гэтай блытаніцы. Я табе ўжо казаў: давай жыць разам бяз шлюбу.

— Ай што ты, Ясю! Ну, падумай толькі: ні твой ні мой бацька нас ня прымуць да сябе; паехаць куды далёка—добра, але за каго я буду лічыцца? Усюды людзі, мусіць, крыва глядзяць на палюбоўніцу. Ці-ж мала было сораму мне з гэтымі нашымі заручынамі? Але там пасварыліся, разышліся—ды толькі. Калі-ж я стану палюбоўніцаю, кожны будзе паказваць на мяне пальцам.

— Яно-то можна было дарахавацца з ксяндзом.

— Чаму-ж ты не дарахаваўся?

— Ён хацеў, каб ты стала каталічкаю. Тады ён згаджаўся вянчаць, хоць сягоньня.

— Мне ўсё роўна вера, і я дзеля цябе пайшла-б на што хочаш. Чаму ты ня ўладзіўся, Ясю?

— Я не хацеў сілком навязваць табе тое, што мне самому моташна.

Ды цяпер ужо й няма патрэбы гаварыць аб гэтым: ксёндз так помстуе на мяне, што ня хутка забудзецца.

— Вось што, Ясь! Схадзі яшчэ да тутэйшага папа. Табе нічога, што можа вянчаць праваслаўны поп? Нічога? Ну, дык добра! Хутка йдзі да яго—ён ня мае такога гонару, як ксёндз. Я-ж цябе яшчэ пачакаю, але сьпяшайся.

Ясь, здавалася, хацеў спрачацца, але, схапіўшы капялюш, барджджэй кінуўся з бакоўкі. Цэрква была на другім канцы мястэчка. Народу тут было шмат менш, чымся на пляцы, і мала хто цікавіўся тым, як Ясь трухам ляцеў да цэрквы. Падышоўшы к дому папа, Ясь трохі прыпыніўся, прымеціўшы праз адчыненыя вокны шмат гасьцёў там. Але справа не дазваляла доўга думаць, і ён узышоў на шырокі ганак.

— Каго табе трэба?

Ясь азірнуўся. На плеценым крэсьле, разваліўшыся, сядзела тоўстая пані, мусі быць сама пападзьдзя.

— У мяне ёсьць пільная справа да бацюшкі.

Пападзьдзя грузна паднялася, аж заскрыпала падлога, падышла к аднаму з вокан і паклікала:

— Бацюшка! К табе прышлі, выйдзі сюды!

Спусьціўшы некалькі хвілін на ганак высунуўся дзябёлы бацюшка з тоўстым чэравам і чырвоным потным тварам. Усеў-

шыся, ён пакадлубаў перш пёркам зубы, а потым кіўнуў пальцам Ясю, падклікаючы гэтым яго да сябе.

— Адкуль ты хлопец,—запытаўся поп Завідовіч.

— Я лятцоўскі,—адказаў Ясь.

— Лятцоўскі? Я там траха ня усіх ведаю, цябе-ж штось ня прызнаю.

— Вы мяне, бацюшка, і не павінны ведаць, бо я каталік, сын Пранціся Ляшкевіча.

— Сын Пранціся? Дык гэта ты сватаўся да дачкі Васіля Хлэмкі? А маладчына Васіль—так тонка адбрыў твайго бацьку.

Поп зарагатаў і жывот яго, як мяшок сена, затросься пад яго сінім халатом. Уняўшыся, ён запытаўся:

— Чаго-ж ты прыйшоў да мяне?

— Па важнай справе. Трэба было-б вам аднаму сказаць.

— Ня бойся! Матушка нам не пашкодзіць.

— Я хачу ўсё-ж такі жаніцца на Алесі, хоць нашы бацькі нам і не дазваляюць.

— Як-жа гэта вы жэніцеся без бацькоўскага дазволу?

— А так: няхай бацюшка паванчае нас таемна.

— Да ты што, хлопча, сваю галаву на плечах носіш? Без дазволу бацькі, ды яшчэ за каталіка аддам я дзяўчыну? Не, ідзі сабе да дому й не марудзь дарэмна часу.

Бацюшка ўстаў, мяркуючы ісьці да сваіх гасьцей.

— Бацюшка, ці-ж здабра я прышоў да вас? Я прашу зрабіць нас абаіх шчасьлівымі!

Матушка пачала шаптаць на вуха папу.

— Ну, добра! Я згодзен на тваю просьбу, хоць і бяру грэх на сваю душу. Трэба шмат прасіць бога, каб адмаліць мне гэты грэх, ад цябе так сама патрэбна належная афяра яму. Калі заплаціш сто рублёў, то я павянчаю вас.

— Што, сто рублёў? умяшалася матушка. Хлопец жэніцца бяз бацькавае гаспадарскае волі, дык ён табе ні жывёлы, ні гасьцінцаў, ні начыньне ня дасьць, а дасьць толькі чыстымі грашмі. Лічы паўтары сотні, ды годзе.

— Праўду кажаш, матушка. але дзе-ж хлопец знойдзе столькі грошай?

— Бацюшка, і сто для мяне многа, я-ж яшчэ не гаспадар.

— Вось і тое-ж, каб ты быў самавіты гаспадар, можа мы і на менш сышліся-б.

— Скіньце бацюшка.

— Не, ні аднаго гроша, як хочаш.

— Што-ж рабіць? Прашчайце, аставайцеся здаровы.

Нібы пабіты і аплёваны, Ясь сыходзіў з ганку. Поп паклікаў яго назад.

— Ну, я скідаю табе дзесяць рублёў. Вярніся, сказаў ён.

— Эх, што будзе--то будзе! Я згоден,—павесялеўшы сказаў Ясь.—Толькі ня ўсе грошы зразу.

— Э, не! Ня толькі зразу, але і ўперад, да вянцу.

Ясь, ня кажучы ні слова, павярнуўся і са зьнікшай галавою пакінуў папоўскі дом.

Сонца ўжо спусьцілася зусім нізка. Пляц, дзе быў кірмаш, апусьцеў. Крамнікі разьбіралі свае часовыя будкі. Толькі расьцярушаная салома й сена паказвалі, што тут нядаўна быў кірмаш. Алеся, чакаючы Яся, бачыла, як раз'яжджаліся людзі, як моладзь зьбіралася на вуліцы для гулянкі, і ёй стала нудна сядзець у прагорклай бакоўцы Бэркавае карчмы. Некалькі разоў яна высоўвалася ў вакно й паглядала ў бок цэрквы. Вось і Ясь, але йдзе ён такі самы смутны, як і ад ксяндза. Алеся, сустрэўшы яго, ужо і ня пыталася аб выніках перамоваў з папом. Некалькі хвілін прасядзелі яны моўчкі, засмучаныя, бяз думак, бяз волі. Потым Ясь устрапянуўся, ўстаў. прайшоў разы два па каморцы і, падышоўшы к Алесі, ўзяў яе за руку.

— Годзе нам тут сядзець, годзе чакаць дапамогі ад людзей! Кланяцца да прасіць я больш ніколі ня буду і ні аб чым. Калі людзі абыходзяцца з намі павоўчы, то й мы павінны так рабіць, іначай нас загрызуць. Быў я ў папа: сто рублёў вылажы, як капеечку, і ўсё зробіць. Дык калі-ж за грошы яны ўсё прадаюць—і бога і людзей—то я здабуду гэтыя грошы. Кіну я свайго бацьку, паеду ў які-небудзь горад, зараблю грошы і адкуплюся ад бога і іх служкаў. Толькі ці будзеш ты чакаць мяне, Алеся?

— Хоць усё жыцьцё чакаць, абы потым быць назаўсёды з табою!

— Ах, зязюля мая!

— Мне так ня хочацца разыходзіцца з табою, што й да хаты ісьці не хацелася-б.

Ну, пасунься ка мне, вось так блізка-блізка. Пакажы свае вочы, няма ў іх смутку? Не, няма... Зараблю я грошай, прыеду сюды; ажэнімся мы з табою й паедзем адсюль назаўсёды, каб жыць сваім шчасьцем сярод лепшых людзей, а ня тут між атручанымі злосьцю, ашуканствам і цемраю.. Верыш мне й кахаеш ты мяне, Алеся?

Замест адказу, Алеся абгарнула рукамі шыю Яся й палажыла яму на плячо сваю галаву. Так яны доўга сядзелі, маўчалі й шчасьце сваімі крыламі веела над імі.

— Пойдзем, Алеся, на гулянку да паскачам так, каб усе жылы задрыжалі.

Яны ўсталі. Алеся паправіла на сабе копту, паглядзелася ў маленькае люстэрка. Крануліся йсьці. Раптам пачуўся бразгат і голас за сьцяною: „Дзе мой Ясь?“

Пранцісь Ляшкевіч быў не такі чалавек, каб прапусьціць такое вялікае сьвята, не паехаўшы да касьцёлу. Устаўшы рана, ён быў трохі зьдзўлены, што Ясія ўжо ня было дома. Гэта не спадабалася Пранцісю, бо ён любіў ехаць на кірмаш і да касьцёлу, як мае быць, з сям'ёю. Недастачу жонкі ў апошнія гады запаўняў Ясь. Але з часу заручын у Хлэмкавых між Пранцісём і яго сынам ладу ня было. Праз гэта Пранцісь, выяжджаючы на кірмаш адзін, ня рупіўся шукаць сына.

Прыехаўшы ў Дунаеўцы так рана, што касьцёл яшчэ не адчыняўся, Пранцісь адвёў каня на двор да свайго лепшага прыяцеля Казімера Душынскага. Апошні, як і Пранцісь, быў надта набожны чалавек, лічыўся першым грамадзянінам у ксендза й не дарэмна ганараваў гэтым. Абодва—і Казімер і Пранцісь—паважалі адзін другога, звалі ня йначай, як „паночку“ і часта гасьцявалі. І на гэты раз Казімер прыемна сустрэў свайго старога прыяцеля й пашкадаваў, што з апошнім няма яго сына.

Прастаяўшы ў касьцёле ўсю доўгую знарочыстую ймшу, Казімер з Пранцісем, заклікаўшы яшчэ некалькі прыехаўшых з вёсак добра знаёмых „шляхціцаў“, гуртам пайшлі ў дом сьвяткаваць. Казімер раскашэліўся, і пачостка зацягнулася траха не на ўвесь дзень. Гарэлка нядоўга затрымоўвалася на стале, і гаспадар даставаў пляшку за пляшкаю. У яго, нават. не хапіла прыпасёнае, і ён паслаў хлопца ў карчму да Бэркі. Прынёсшы гарэлку, хлопец сказаў Пранцісю, што бачыў у карчме Яся. На гэта Пранцісь зьвярнуў надта мала ўвагі. Тым часам гаспадар, добра ўжо падвыпіўшы і сам, хамянуўся, што добра было-б у такую ладную кампанію паклікаць і пана ксяндза. Усім гэта вельмі спадабалася, і Казімер пачаў зьбірацца ісьці да ксяндзовае гасподы.

— Пачакайце мяне, паночку Казімеру, папрасіў Пранцісь:—у мяне ёсьць ладны гасьцінец для пана ксяндза.

Ён вышаў разам з Казімерам на двор, дастаў з воза з тоўстага шкла бутэльку з мёдам, і яны абодва пайшлі к дому ксяндза.

— Дзень добры, пане Ляшкевіч,—прывітаў ксёндз:—як маецца ваш сын?

— Дзякую, вы надта добры для нас, пане ксёнджа,—адказаў Пранцісь.

— Не ажанілі яшчэ сына?

— Не, пане ксёнджа, ён ня хоча.

— Вось і бацька! Ня ведае, што сын яго робіць. Да ваш сын Ясь быў сягоньня ў мяне й прасіў пашлюбаваць яго й, нават, бяз вашага дазволу.

— Пашлюбаваць? Мусіць з Хлэмкаваю дачкою.

— Мусіць, мусіць... стары дурань! Прэч з маіх вачэй, пакуль сына чалавекам ня зробіш.

Каб гром трэснуў над галавою Пранціся, ён ня так бы аглушыў яго, як гэты прыём. Ня чуючы ног пад сабою, з бутэлькаю ў руках вылецеў ён з ксяндзоўскага дому. Яго, старога чалавека, паважанага католіка, ксёндз выгнаў з дому! І за каго? За гэтага праклятага сына. Што-ж варты цяпер ён, стары Ляшкевіч, калі яму ні адзін шляхціц не падасьць, нават, рукі? А ўсё з-за гэтага недавярка. Пачакай, пачакай... але дзе ён? Ага, ў Бэркі!

— Дзе мой Ясь? накінуўся ён на Бэрка, ўварваўшыся ў карчму.

Бэрка спалохаўся й правёў яго да бакоўкі, дзе былі Ясь і Алеся. Угледзіўшы твар Пранціся, Алеся жахнулася й падалася ў куток управа ад дзьвярэй.

— Вось ты дзе, гужваце! Вось куды, недавярак, жаніцца прышоў! хрыпатым голасам закрычаў Пранцісь на сына.

— Што вам, татка, да таго, дзе я? увесь бляды сказаў Ясь.

— Спаганіў маё імя, збэсьціў увесь наш род! Мяне, мяне выгнаў ксёндз! На старасьці! Цяпер кожны можа пляваць мне ў вочы, і я не пасьмею падняць іх ні на каго! У, пагібелі на цябе няма!

Бачыць сына яму стала адваротна, і ён павярнуў галаву...

— А, і ты, сьцерва, тут! Гэта ты адабрала ў мяне сына і маё імя і чэсьць! Ты, паганая!

— Бацька, не падыходзь, не чапай яе: яна не вінавата!

Ясь стаў між Алесяю й бацькам. Губы Пранціся дрыжалі, на іх выступіла пена. З працягнутаю леваю рукою, ён быццам прогся дастаць Алесю.

— Не чапай! зыкнуў страшным голасам Ясь і падняў руку загарадзіць Алесю.

— Прэч! Прэч ад гэтае подлае! хрыпеў Пранцісь.

Правая рука Пранціся сутаржна паднялася; ён размахнуўся ёю, і тоўстае шкло дна бутэлькі з мёдам глыбока ўрэзалася ў вісок Яся.

III

Васіль Хлэмка прачнуўся ад бразгату ў вароты. Сонца ўжо ўзышло, але было яшчэ халаднавата. Накінуўшы сярмяжку на плечы, ён пайшоў адчыняць.

— Дзе гэта ты бадзялася ўсю ноч? вымаючы затычку й адчыняючы варотцы, пытаўся ён.

Перад ім стаяў балагольшчык ад Бэркі, а недалёка ад варот і самая балагола.

— А, каб цябе паветра ўзяло, чаго ты тут езьдзіш у такую рань?

— Вазьмеце сваю дачку, я прывёз; да заплацеце грошы за фурманку.

Балагольшчык падышоў к возу, памог вылезьці Алесі й разьвязаў ёй рукі, сьцягнутыя зрэбным ручніком. Валасы на ёй былі ўскудлачаны, адзежа ўся зьмятая й перапэцканая гразьзю й кроўю, на твары ні аднае крывінкі, вочы шкляныя.

— Ах, як было весела на гэтым вясельлі! загаварыла яна, ня міргаючы вачмі. Гарэлка цёплая, чырвоная. Ха-ха-ха! Ха-ха-ха! А як скакалі мы з Ясем, каб вы бачылі, мае ўдалыя: вось так!

Яна ўзялася рукамі ў бокі й пачала выраблять нагамі нейкі скок, сьмяючыся рэжучым голасам. Васіль, аслупянеўшы, пазіраў на сваю дачку й ня мог зразумець, што з ёю зрабілася і як з ёю быць. Крыху апомніўшыся ён зірнуў на балагольшчыка.

— Пранцісяў Ясь забіты, і яна гэта бачыла,—шапнуў той.

Алеся-ж, кінуўшы скокі, голасна запела на ўсю вёску. Васіль узяў яе за руку й павёў у хату. Яна йшла, але ня відаць было, каб яна знала, хто з ёю й дзе яна.

—Душна тут,—гаварыла яна, увайшоўшы ў хату.—Ясь, адчыні вакно, мне лепей відаць будзе кірмаш... Ай, Ясік, якая ў цябе пекная чырвоная йстужка на капялюшы! Ясь! Ясь! Вось ён, блізка, страшна, вочы ў яго, як вугальлё ў печы!... Ясь, ратуй, ратуй! Ага, не дастанеш! Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

Ад гэтага сьмеху прачнулася Тацяна й дзеці незразумела глядзелі на Алесю. Але Тацяна, як прайшоў першы сполах, загаласіла на ўсю хату, а за ёю зараўлі й дзеці. Алеся пачала прыслухоўвацца й крыху супакоілася. Маці боязна падышла да яе, кратанула за руку і, паклікаўшы Васіля на падлогу, павяла яе к ложку. Цэлы дзень праспала Алеся, сутарга часта трасла яе, на твары выступаў пот.

Толькі на трэці дзень яна на нейкі час адышла й стала пазнаваць сваіх. У гэты дзень усе Лятцы каля паўдня вы-

сыпалі на вуліцу. Па дарозе на мястэчка ехаў нейкі чын з блішчастымі гузікамі і з шашкаю на баку. За ім на фурманцы вязьлі Пранціся Ляшкевіча, рукі якога былі зьвязаны ззаду вяроўкаю; паабапал яго сядзелі так сама блішчастыя гузікі. За фурманкаю йшлі сяляне-панятыя, а за імі траха ня ўся вёска. Алеся сядзела ў хаце каля вакна і бяздушнымі вачмі глядзела на вуліцу. Раптам яна ўскочыла і ўперад, чымся маці апомнілася, яна ўжо была каля воза, на якім вязьлі старога Ляшкевіча. Ухапіўшыся за аглабліну, яна ўпілася вачмі ў твар Пранціся.

— Гэта ён, ён забіў Яся! не сваім голасам закрычала яна.

Жандары прагліся адарваць ад воза яе рукі, але дарэмна. Тады яны пагналі коняй у галёп. Алеся трымалася моцна, бегла побач з возам і ня спускала вачэй з Пранціся. На выезьдзе за аколіцу ногі яе зачапіліся за слуп, яна атарвалася ад воза і кумялём паляцела на зямлю. Хутка яе дагналі й павялі да дому.

— Не, гэта ня ён! Скажэце, людцы, скажэце, добрыя, хто яго забіў? Хто забіў Яся?—галасіла Алеся народу.

Але, хто яго забіў?

Дні праходзілі за днямі. Стаўпун, найшоўшы йзноў на Алесю пасьля таго, як яна ўбачыла і на некалькі хвілін пазнала Пранціся, цягнуўся не адзін і ня два тыдні. Цэлымі днямі яна хадзіла па хаце з нічога ня бачачымі шырока адчыненымі вачмі. Усе дамашнія цішком абыходзілі яе, а маці Тацяна прыпамінала ўсе свае грахі й грахі сваіх бацькоў і дзядоў, за якія бог пакараў яе, даўшы такую дачку. Для Васіля здарэньне з Алесяю так сама не прайшло дарэмна, тым больш, што ў сярэдзіне нейкі голас заўсёды шаптаў яму, што гэта ён сам давёў дачку да такое напасьці. Увесь яго колешні пэнт і зайздрасьць прапал, і ён стаў хадзіць сагнуўшыся, быццам яму на шыю прывязалі вялізарную ценжар.

Прайшло шмат часу да таго, як Алеся атрымала магчымасьць разумець. Адзін раз раніцаю яна ўстала і на радасьць усіх запытала зусім разумна ў маці:

— Матка, скажэце, дзе яго пахавалі?

— Каго, дзетка?

— Яся, майго Яся!—і першы раз з зацемненьня яе розума яна залілася сьлязьмі.

У той дзень маці прымушана была павясьці яе на могліцы й паказаць магілку Яся. З гэтага часу Алеся ледзь ня кожны дзень хадзіла на магілку й праседжвала там да ночы, убіраючы яе кветкамі, паліваючы іх вадою. Але стаўбняк ня

зусім пакінуў яе. Прыходзячы з могілак, яна часта ўваходзіла ў хату з вясёлым тварам і бліщчастымі вачмі.

— Я сёньні бачылася з Ясем. Ён казаў, што зараз заробіць шмат грошай і забярэ мяне з сабою. Казаў яшчэ, каб ніколі я ня йшла да папа, бо ён кепскі і злыдны, як ведзьма... Татка, чуеце, гатуйце гарэлку, клічце гасьцей, бо Ясь увечары прыйдзе ў сваты да мяне.

Яна пачынала скакаць па хаце й пець вясёлыя песьні. У вачох-жа яе стаяла сьмерць і страшна глядзела ўсім у душу.

**Неманскі.**

30/XII—22
Менск.

## З цыклю „Сучасны Бэрлін“.

III.

**Siegesallee***) (*Алея Перамогі*).

Шырокай йстужкаю яна
Кладзе разгон праз Сад Зьвяроў—
Ад сьценгў вулічных муроў
Да Königplatz'a**) палатна.

Пад шатай ветлівых дзярэў—
Дубоў вяковых, ясеняў і ліп,—
Што побач робяць да ёй лёгкі згіб,
Стаяць рады марморавых цароў.

І з іх вачэй, з маркотных твараў іх
Глядзяць здарэньні тыя, што былі
Ў жыцьці-быцьці нямецкае зямлі
Ў часы мінуўшчыны, з вякоў былых;

І ў кожнай складцы царавых маршчын,
Ў замёрлых бліках хмурых іх вачоў—
Глядзіць намер крывавы палачоў
Знайсьці канцы няведаных прычын.

Якія рэзкім махам сьцялі ход
Жыцьця ў няволі, ў горы і бядзе,
Наўпроць якому новае вядзе
Паўстаўшы ўз'юшаны вакол народ.

Але што дзень, то болей вісьне смуць
На твары грозныя цароў-ўладык,
І вочаў іх захмураны азірк
Бязмоцны ў сэнс сучаснасьці зірнуць.

**Цішка Гартны.**

## Ты ўзбудзіў...

Ты ўзбудзіў маё сэрца, пясьняр малады:
Дзіўнай песьняй аб шчасьці, аб волі
Разагнаў мае думкі жальбы ды нуды,
Мае стогны ад горкай нядолі.

---

*) Глаўная алея ў парку Tiergarten.
**) Пляц караля каля райстагу.

Ты душу ўскалыхнуў мне, музыка—дудар.
Ты паклікаў мяне да змаганьня;
Аджывіў у грудзёх маладых маіх жар,
Запаліў ў маім сэрцы каханьне.

Ты вярнуў мне вясновыя мары мае
Сваёй дзіўнаю, шчаснаю песьняй,—
І душа за табою аб шчасьці пяе,
Нібы птушка ў палёх на прадвесьні.

Разьвярнуў прада мной ты бязьмежны абшар,
Асьвяціў мае сумныя вочы;
Разагнаў чараду гэтых жудасных хмар,
Што заслалі мне сонца, бы ў ночы.

Ты зялезныя краты турмы паламаў,
Растапіў крыгу лёду цяжкую;
Сваёй песьняй душу мне да дна ўсхваляваў
І забыці яе не магу я.

Гэту песьню я чую на яве, ўва сьне,
І на сэрцы так лёгка, прыемна!
Я складаю ў душы гымн каханьню, вясьне,
Да цябе лячу думкай таемнай.

Так сьпявай-жа, сьпявай, мой пясьняр-чарадзей—
Хай забуду пра долю цяжкую.
Кліч да шчасьця мяне, кліч да жыцьця грамчэй—
І з табою паўсюды пайду я.

**Хмарка.**

## Мой Край.

Край мой там, дзе сонца вечна
Рвецца зьяць сваёй красой;
Там, дзе я магу бясьпечна
Аддыхнуць сваёй душой.

Край мой там, дзе вечна хвалі
К жыцьцю новаму плывуць,
Дзе ня стогнуць нудна далі,—
Песьню-ж вольную пяюць.

Край мой там, дзе поўны колас
За паклонам б'е паклон,
І жняі шчасьлівы голас
Заглушае сэрца звон.

Край мой там, дзе Нёман льецца
Серабрыстай паласой,
Дзе ўсё, усё сьмяецца,
Дзе зіяе ўсё красой!

**А. Гурло.**

# На сваім запраудным месцы.

## (Сусьветная сацыял-дэмократыя на службе ў капітала).

Нашу годнасьць прадстаўнікоў пролетарскай партыі мы маем ад саміх сябе і ні ад кога іншага. Але паўнамоцтва гэта падмацована нязвычайнай і агульнай ненавісьцю, якую адчуваюць да нас усе фракцыі старога сьвету.

*(К. Маркс, 18 мая 1895 г.)*

І расейскія меншавікі і іх заграничныя сябры страшэнна абураюцца, калі мы, камуністы, хрысьцім іх назовай «слуг сусьветнага капіталу». Яны ўважаюць вялізнай для сябе абразай (прынамсі на словах) назову паслугачоў сусьветнага капіталу, рыцараў залатога балвана.

З пенай на вуснах яны стараюцца давесьці, што яны—і толькі яны—зьяўляюцца самымі запраўднымі абаронцамі інтарэсаў пролетарыяту, што толькі яны здольны вывесьці пролетарыят з таго страшэнна цяжкага становішча, у якім ён апынуўся.

Паміж довадаў «ад супраціўнага», якія яны прыводзяць, шмат месца займаюць выпіскі з біографіяў або жыцьцяпісаў, якія павінны перакапаць горшых скептыкаў у іх «запраўднай» рэвалюцыйнасьці.

І ня толькі ад меншавікоў, але часта і беспартыйнага рабочага і асабліва інтэлегэнта нам прыходзіцца выслухоўваць гэткія самыя адказы—як могуць меншавікі быць паслугачамі сусьветнага капіталу, калі кожны з іх паасобку аддаў многа лет свайго жыцьця па абарону інтарэсаў пролетарыяту.

Зразумела, калі да ацэнкі партыі падыходзіць з пагляду суб'ектыўнай рэвалюцыйнасьці і чэснасьці таго ці іншага індывідуума (тае ці іншае асобы), тады, яно пэўна, можа атрымацца ацэнка пажаданая для меншавікоў, але гэта будзе ацэнка ня партыі, а асоб, ацэнка асабістых якасьцяў, а не партыйнай праграмы і тактыкі.

Мы зусім ня хочам сказаць, што Мартаў, Дан або, нават, Вандэрвэльдэ асабіста паставілі перад сабой мэту—выдаць інтарэсы працоўнае клясы (хаця і гэта магчыма). Мы ня менш за іншых ведаем, што асабіста і Мартаў, і Дан, і Абрамовіч—людзі чэсныя ў абывательскім сэнсе гэтага слова, але дзеля ацэнкі чыннасьці партыі гэта ня мае рашучага значэньня.

Нас цікавіць ні Мартаў, ні Дан, ні Абрамовіч і, нават, не Каўцкі і ўся іншая кампанія, як асобы,—нас цікавіць партыя ў цэлым, так як яна выяўляецца ў сваіх праграмных выступленьнях, у сваёй кольлектыўнай (зборнай) чыннасьці, як партыя.

Як бы меншавікі розных масьцей і адценьняў ня крычалі: мы—самыя сьвятыя, мы—і толькі мы—варты трымаць марксавы табліцы і вясьці пролетарыят у Мэкку сацыялізму,—мы ўсё-ткі застанемся пры сваім і на падставе фактаў і дакумантаў будзем даводзіць, што меншавікі і ўся сусьветная сацыял-дэмократыя цяпер завяршыла поўны круг свайго здрадніцтва і канчаткова замацавала за сабой пазыцыю на левым крыле гуляючай у лібэральнасьць буржуазіі, адрозьніваючыся ад запраўдных буржуяў толькі тым, што буржуазія фармальна ніяк ня хоча іх прызнаць «сваімі» запраўднымі ахоўцамі біржавых акул.

Сусьветны меншавізм да апошняга часу, калі выключыць афіцыяльных рэфармістаў тыпу Бэрнштэйна, выступаў вельмі шчыра пад марксіцкім сьцягам. Кожнае сваё выступленьне яны стараліся падмацаваць выпіскамі з Маркса, Энгэльса. Здавалася, што няма больш праўдзівых марксістаў, як меншавікі.

Быў пэрыяд, зусім нядаўна, калі меншавікі, і расійскія, і нямецкія (незалежнікі) і француская (лёнгетысты) стараліся ўсіх пераканаць, што яны стаяць на грунце рэвалюцыі, што яны прызнаюць сучасную эпоху, як эпоху рэвалюцыі.

Недарма-ж і нямецкія незалежнікі ўлучылі ў сваю праграму верхаводзтва (дыктатуру) рабочае клясы і пэўны час вялі прапаганду за тое, каб недакладна захапіць уладу і перайсьці да Савецкага ладу.

І расійскія меншавікі ў пачатку 1919 г. пад уплывам рэвалюцыі ў Няммеччыне і распаду Эўропы выкідаюць з сваёй праграмы лёзунг „устаноўчага сойму, сваю новую плятформу, вядомую пад загалоўкам «Што рабіць» («Что делать»), грунтуюць на сусьветнай сацыяльнай рэвалюцыі.

Прыймачы, як фундамант новы лад у Расіі, яны толькі хацелі яго крыху рэфармаваць, зрабіць, як яны выражаліся, «лучше, приличнее, несколько мягче».

Яны вымагалі адмовіцца ад «плянаў усеагульных безадкладных нацыяналізацый, наладжаньня тае трывалае згоды наміж пролетарыятам і сялянствам, якая была нарушана харчовай і зямельнай палітыкай бальшавіцкага камунізму» (Соц. Вестник № 19).

Вось якімі былі скромныя пажаданьні меншавікоў у пэрыяд рэвалюцыйнай завірухі, калі ўсё руйнавалася, калі, нават, лібэральная буржуазія расьпісвалася у сваёй прыхільнасьці да сацыялізму, калі пан Лёйд-Джордж не пераставаў дэклямаваць аб тым, каб у першы чарод прыслухоўвацца да голасу пролетарыяту.

Сусьветны меншавізм у момант агульнага запалу ня сьмеў выступаць супроць праграмы камунізму наогул. Занадта моцны быў уплыў ідэй камунізму на шырокія грамады, занадта многа было рэвалюцыйнага жару ў радох дэмабілізаванага пролетарыяту і сялянства, каб дазволіць сабе прыходзіць да яго з вымаганьнем службы капіталу.

Але сусьветны пролетарыят улады не захапіў. Арганізаваная меншасьць рэвалюцыйнага пролетарыяту ня мела сіл правільна заўладаць стыхійнымі рэвалюцыйнымі настроямі мас, камуністычныя партыі паказалі сябе занадта слабымі к моманту скончаньня вайны і дэмабілізацыі прамысловасьці, і скуткам гэтага можна лічыць тое, што захоп улады ў найбольш наступовых капіталістычных краёх адцягнены на даволі доўгі час.

Сусьветны меншавізм ужо не патрабуе хавацца ў чужой вопратцы. Рэвалюцыйная фраза ўжо не абавязковы атрыбут уплыву на масы. Цяпер ужо можна прыйсьці да рабочых з адкрытым тварам, сказаць яму запраўднае «сацыял-дэмократычнае» слова.

І гэта слова гавораць—гавораць по рознаму: санавітыя журналісты і

пісадзёры на старонках журналаў і газэт, людзі чыннасьці—шляхам прагулак па плечах рабочых у таварыстве агнястрэльных забавак.

Цяпер нас больш за ўсё цікавіць ідэолёгічная праца меншавізму, яго, калі можна так выразіцца, праграмны твар.

Што выяўляе з сябе ў сучасны момант меншавізм, які той ідэолёгічны фундамант, на якім будуюць сваю працу партыі другога і двох-спалавіннага інтэрнацыяналу, цяпер ужо фактычнага злучанага?*)

Прасочым пазыцыю меншавікоў у творах яго буйнейшых тэорэтычных правадыроў—Каўцкага, Мартава, Абрамовіча і інш.

У радох старой сацыял-дэмократыі Каўцкі заўсёды лічыўся прызнаным ідэолёгам. Ён сам сябе заўсёды залічаў да лягеру ортодоксальных марксістаў.

Пабачым, як гэты, пабялеўшы на популярызацыі Маркса, верхавод тлумачыць Маркса.

Маркс у сваім артыкуле «Да крытыкі праграмы сацыял-дэмократычнай партыі» піша:

> «Капіталістычнае і камуністычнае грамадзянства аддзелены адно ад другога момантам рэвалюцыйнага ператварэньня аднаго ў другое. Гэтаму адпавядае пераходны палітычны пэрыяд, дзяржаўны лад якога ня можа быць нічым іншым, як рэвалюцыйнай дыктатурай пролетарыяту».

Здавалася выразна. Асаблівых паясьненьняў ня трэба. Ня толькі дрэнныя бальшавікі, але, нават, сам Маркс, імем якога сацыял-дэмократы не перастаюць увесь час клясца, гэтак сама гаворыць аб неабходнасьці дыктатуры пролетарыяту.

Усё гэта было ясна і для Каўцкага да нядаўнага часу. У творах Каўцкага даваеннага пэрыяду мы знойдзем не адно месца, дзе популярызуецца гэтая думка К. Маркса.

Зусім ня тое цяпер. Цяпер Каўцкі ў сваёй новай кнізе «Пролетарская рэвалюцыя і яе праграма» лічыць неабходным зрабіць сякія-такія папраўкі ў думку Маркса.

Вось гэтыя папраўкі:

> «Думку Маркса, на падставе практыкі апошніх год, у пытаньні аб форме ўлады мы можам зьмяніць наступным чынам: эпоха дэмократычнае дзяржавы з чыста буржуазным урадам і эпоха гэткае-ж дзяржавы з чыста пролетарскім аддзяляюцца адна ад другой момантам ператварэньня ўраду аднаго ў другі. Гэтаму дапамагае палітычны пераходны пэрыяд, у часе якога ўлада, як агульнае правіла, утварае сабою коаліцыйны ўрад.
>
> „Гэтак будзе ўсюды, гдзе пролетарыят захапляе палітычную ўладу шляхам дэмократычным, і гэта нармальны шлях пасьля ўпадку буйных ваенных манархій. Хто й дагэтуль прынцыпова адкідае коаліцыйную палітыку, той сьляпы да паказаў часу, той не дарос да вырашэньня сучасных заданьняў“.

І далей:

> «Дзяржаўная конституцыя, якая зьявілася ў рэзультаце рэвалюцыі, нягледзячы на свае недахваты, дае даволі магчымасьці

*) Мы гаворым аб меншавізме наогул, бо цяпер ужо фактычна адбылося аб'еднаньне другога і двох-спалавіннага інтэрнацыяналу. Нашы вывады мы грунтуем выключна на выступленьнях верхаводаў другога і двох. спалавіннага інтэрнацыяналаў.

(Каўцкі цяпер гэтак сама лічыцца гэткім).

для сацыялістычнага пролетарыяту — мірным шляхам заваяваць палітычную ўладу».

Якой насьмешкай над сусьветным пролетарыятам, над яго рэвалюцыйным змаганьнем гучаць гэтыя словы якраз цяпер, пасьля захопу ўлады фашыстамі ў Італіі, пасьля арганізацыі кабінета Куно-Стыннэса ў Нямеччыне, у момант усё больш злоснага наступленьня капіталу.

І ўсё-ткі пасвойму Каўцкі праў. Нельга клікаць рабочых адмовіцца ад скрайнасьцяў бальшавізму, нельга адцягваць іх ад Савецкай Расіі, не давёўшы тэорэтычна, што дыктатура пролетарыяту ёсьць самая шкадлівая выдумка з усіх іншых.

Чатыры дзесяткі лет навучаў Каўцкі нямецкіх пролетарыяў, што дыктатура пролетарыяту—неабходны пераходны этап да камунізму, чатыры дзесяткі лет ён даводзіў, што ўладу трэба захапляць, што бяз гэтага рабочы ня зможа зламаць упор буржуазіі—цяпер-жа яму прыходзіцца адцягваць рабочых ад тае барацьбы, да якое ён раней заклікаў.

І зразумела, што ўдача такой махінацыі павінна быць зьвязана з апляваньнем таго, чаму раней Каўцкі пакланяўся.

Каўцкі робіць сваю здрадніцкую справу адкрыта, як-бы, нават, компромітуючы сваіх сяброў па партыі.

Мы, зразумела, рады з гэтай шчырасьці, якая дае нам магчымасьць весьці спрэчку адразу на грунце прынцыповым, а не займацца абвяржэньнем глупых плёшак, на манер таго, што камуністы арганізоўваюць расправу над буржуазіяй дзеля таго, што любяць кроў, і ўсякае іншае блявузганьне.

Мы ня лічым патрэбным прыводзіць што—колечы ў адказ Каўцкаму—даволі надрукаваць некалькі выпісак з яго кнігі, паставіць іх радам з тым, што цяпер запраўды дзеецца ў Эўропе, каб адразу стала ясна, што словы лішні, што Каўцкі ў сваёй новай тэорыі лье ваду на капіталістычную мельніцу ў колькасьці зусім неспадзяванай, нават, для самой буржуазіі.

Каўцкі баіцца рэвалюцыі: ён баіцца, што ў агні грамадзянскай вайны будуць пашкоджаны яго старыя косьці і будзе патрапана яго «бацькаўшчына» Нямеччына. І з гэтае прычыны ён кліча ад рэвалюцыі, усімі спосабамі стараючыся давесьці, што рэвалюцыя непатрэбна, што яна лішняя.

У Нямеччыне ўвесь час змагаліся ў сярэдзіне сацыял-дэмократыі два крылы—рэвалюцыйнае на чале з Лібкнэхтам і Розай Люксэмбург і правае на чале з Бэрнштэйнам, Давідам і інш. Пазыцыю залатой сярэдзіны займала ўвесь час партыя ў цэлым, фармальна выступаючы то супроць Бэрнштэйна, то супроць Лібкнэхта. Галоўная спрэчка адбывалася ўвесь час навакол пытаньняў—патрэбна ці не рэвалюцыя.

Каўцкі лічыць, што цяпер „самы прадмет спрэчкі ўхіляецца тым, што ў жыцьці адбылася тая самая рэвалюцыя, якой хацелі ўнікнуць шляхам рэформ“.

У Эўропе ёсьць толькі дзьве дзяржавы, дзе неабходна:

> «запраўдная народная рэвалюцыя», каб зваліць агідны бюрократычна-паразітны арганізм. Гэта Францыя і ў большай яшчэ меры Расія—гэта царская дзяржава без цара“.
>
> „З слоў Маркса выяўляецца, што зьніштажэньне істнуючага ў Расіі дзяржаўнага мэханізму — ёсьць канечная перадпасылка якога-б ня было пролетарскага ўздыму“.

У гэтай пытаце праглядвае дробны нямецкі бюргэр, які ніяк ня можа зраўняць свой хатні балянс, дзеля націску Францыі, дзеля заўсёднага хістаньня маркі.

Але гэтая дырэктыва дробнага бюргэра ёсьць і праграма нашага ра-

сійскага меншавізму. Бальшавізм трэба скінуць—вось той лёзунг, які становіцца галоўным у праграме нашых расійскіх меншавікоў.

Трэба канечна захаваць сусьветную роўнавагу, нельга дапусьціць да рэвалюцыі, трэба захаваць уладу ў руках сусьветнага капіталу, барацьбу за сацыялізм трэба вясьці ў рамках капіталістычнага грамадзянства, не рэвалюцыя, а рэформа,—вось той шлях, па якім павінен ісьці пролетарыят паводлуг рады меншавікоў.

Але на гэтым шляху маецца вялікая перашкода—у Расіі трымаюць уладу ў руках бальшавікі, пролетарыят—гэты прыклад заразьлівы. Бальшавікі ня толькі скінулі памешчыкаў і капіталістаў, ня толькі прымусілі сусьветны капітал адмовіцца ад усякіх спробаў скінуць уладу працаўнікоў, але і ўзяліся за арганізацыю гаспадаркі на новых асновах.

Расійскі пролетарыят наперакор усякім тэорыям, усякім плёткам, практыкай сваёй працы кажа ўсім пролетарыям сьвету: ня слухайце вашых «правадыроў», якія прадаюць вашы інтарэсы сусьветнаму капіталу, глядзеце на нас і рабеце па нашаму прыкладу. Толькі ўлада саветаў можа збавіць вас ад галоднай сьмерці.

Савецкая Расія — гэта бяльмо на воку сусьветнага капіталу, бяльмо даволі значнае, якое можа зачыніць цалкам вочы сусьветнай буржуазіі.

Але факт існаваньня пролетарскае дзяржавы ёсьць ня меншае бяльмо на воку сусьветнага меншавізму.

Каб ня было Савецкай Расіі—ня было-б Камінтэрну, а каб ня было Камінтэрну, сусьветная сацыял-дэмократыя была-б па за межамі ўсякай небясьпекі—вось ход думак сацыял-дэмократаў.

Лёгіка выпадкаў мусіць прывесьці сусьветны меншавізм да адзінага магчымага для іх вываду: далоў Камінтэрн, далоў уладу Саветаў, няхай жыве улада капіталу і дэмократыі ў Расіі.

І нашы меншавікі бяруцца вельмі наважна за справу зваленьня ўлады Саветаў.

Зразумела, у іх саміх ня хопе дзеля гэтага сілы. У Расіі няма у іх нікога, німа ніводнай рабочай групы, якая-б пашла за імі, але справа ня ў гэтым.

Меншавіком трэба давесьці ўсяму сьвету, а перш за усё працаўнікам, што справа зваленьня ўлады Саветаў ёсьць самая «рэвалюцыйная» справа, і што яна найбольш патрэбна дзеля інтарэсаў якраз расійскіх рабочых.

Скідаць будуць, зразумела, не меншавікі: скідаць будуць капіталісты; меншавікі толькі рыхтуюць вяроўку для бальшавікоў, яны падгатаўляюць толькі грунт, расчышчаюць шлях самай рэакцыйнай часьці сусьветнай буржуазіі ў кампаніі з расійскімі манархістамі.

І ўзноў—такі зусім ня мае значэньня, як адносяцца меншавікі да факту зваленьня ўлады Саветаў—няхай яны запэўняюць, што іх новая пазыцыя «зусім не зьмяняе нашых абсолютна-адмоўных адносін да лёзунгу рэвалюцыйнага зваленьня Савецкай улады і ўсякай тактыкі, якая об'ектыўна прывяла-б да такога зваленьня» (Соц. Вестник).

Нас ня цікавяць суб'ектыўныя пажаданьні меншавікоў.—Ім, зразумела, хацелася-б, каб бальшавікі самі адмовіліся ад улады, або каб улада перайшла да іх мірным шляхам, ну хаця-б пастановаю Усерасійскага Зьезду Саветаў (Мартов. Соц. Вестник).

Але ў гісторыі такіх камэдыйных пераваротаў ня бывае. Калі гавораць а пераварoце, аб яго неабходнасьці, то гэта азначае, што за гэты пераварот трэба змагацца і змагацца з усіх сіл.

Меншавікі і прабуюць гэта рабіць. Як практычныя палітыкі, яны пачынаюць з таго, што стараюцца ў пэўным асьвятленьні прадставіць унутранае

становішча ў Расіі. Тут і гутаркі аб Савецкім імпэрыялізьме, аб імкненьнях Савецкай улады распачаць новую вайну за старую праграму Мілюкова Дарданэльскага, тут і паведамленьні аб пасылцы войск к Дарданэльлям і г. д. (Соц. Вестн. № 19).

Тут і заявы аб тым, што

> «Дыктатура камуністычнай партыі ходам расійскай рэвалюцыі і ў умовах капіталістычнага акружэньня пастаўленая на службу буржуазнай арганізацыі гаспадаркі, перажывае драму сваёй гістарычнай мэтаморфозы. Пануючыя колы, дзякуючы прымусоваму кірунку сваёй гаспадарчай чыннасьці і дзякуючы нутраным умовам тэррорыстычнага рэжыму, усё больш перараджваюцца. Пад вывескай даўнейшай ідэолёгіі і ў барацьбе з рэшткамі рэвалюцыйна-пролетарскіх настрояў унутры сябе яны апрацоўваюць «гаспадарчую» антыпролетарскую псыхолёгію і бонапартыстычны антыдэмократычны сьветагляд». (Соц. Вестн.).

І ня менш характэрна, што

> «Перажываны пэрыяд разам з тым характарызуецца далейшым узмацненьнем дэспотычных элемэнтаў бягучай палітыкі *і амаль выключным накіраваньнем рэпрэсый супроць пролетарыяту*, што зьяўляецца беспасрэднім выяўленьнем усёй глыбіні супярэччаў і бясьсільля бальшавіцкай дыктатуры і паасобку—усё большага растварэньня яе ва ўласьніцкай стыхіі».

І ўжо запраўды надзвычайна, што

> «адзіным сродкам, каб спыніць і перамагчы «бонапартызацыю» расійскай рэвалюцыі, зьяўляецца безадкладнае ўтварэньне элемэнтарных умоў, якія-б забясьпечылі... зварот народным масам, *у тым ліку і пролетарыяту* (вось як міласьцівы меншавікі—яны згодны вярнуць палітычныя правы ўсім і ў тым ліку і пролетарыяту) грамадзянскіх і палітычных правоў і свабоды самачыннасьці».

Па кольку ў Расіі асноўнае заданьне «перамагчы пагрозу «бонапартызма» і «пагрозу бонапартыстычнай контр-рэвалюцыі», то тады ўжо зусім зразумелы лёзунг—назад да буржуазнай дэмократыі, бо калі прыходзіцца выбіраць паміж Бонапартам, ну хаця-б у выглядзе Троцкага на белым кані і, нават, не Чарновым, а толькі Мілюковым, то, зразумела, што Мілюкоў куды лепшы.

Гэткая падгатоўка, гэткае асьвятленьне ўнутранага становішча Расіі павінна, і па думцы меншавікоў у поўнай меры, спраўдзіць іх паварот, тую рэвізію, якую яны зрабілі.

І пасьля такой падгатоўкі яны бяруць быка за рогі і ставяць усе кропкі над «і»:

> «Мэтай арганізаванай барацьбы, як і раней, зьяўляецца асьцярожны пераход ад рэжыму дыктатуры бальшавіцкай клікі да рэжыму дэмократычнай рэспублікі. Каб пераход гэты быў далікатны, каб унікнуць новай грамадзянскай вайны, партыя мусіць выстаўляць тактычныя пераходныя лёзунгі: свабодныя саветы, спаўненьне савецкай конституцыі і г. д., сьвядомасьць, што іх зьдзейсьненьне і, нават, толькі барацьба за зьдзейсьненьне палегчыць шлях да далейшай глыбокай дэмократызацыі».
>
> «Але мэта застаецца ранейшай—дэмократычная рэспубліка, як палітычная форма, пры якой запраўды можа зьдзейсьніцца запраўдная ўлада працоўных кляс, калі апошнія праявяць выстар-

чаючае разуменьне сваіх інтарэсаў» (гэта піша Мартаў у артыкуле „Наша платформа“. Соц. Вестн. 19).

А стары сябра Мартава, каранаваны меншавіцкі дыплёмат, учасьнік знамянітай тройцы—Гоцлібердан—гаспадзін Дан дае афіцыяльнае тлумачэньне, што азначае барацьба за дэмократыю.

> «Дэмократыя працаўнікоў будзе толькі этапам на шляху да пашырэньня паступовай дэмократыі на ўсіх грамадзян без выключэньня. Цяпер, іменна, фармальная дэмократыя павінна стаць нашай найбліжэйшай мэтай таму, што ў абставінах уваскрасаючага капіталізму, у яго прыватнай і дзяржаўнай форме і буржуазнабюрократычнага выраджэньня бальшавіцкай улады, усе нарушэньні фармальнага дэмократызму будуць пер-на-перш і найбольш балюча ўдараць па рабочай клясе»

> «Такія чарговыя лёзунгі, як свабода для працаўнікоў. павінны дзеля гэтага зусім быць выкінуты з нашай агітацыі і замяніцца ясным і выразным вымаганьнем палітычнай свабоды і палітычных правоў для ўсіх».

Тое, чаго не дагаварваеМартаў і аб чым дыплёматычна маўчыць Дан, высьвятляе нецэнтравік, работнік меншага калібру ў параўнаньні з Мартавым, знаёмы нам менчанін Аронсон.

> «Калі заданьнем дня абвяшчаецца барацьба за фармальную дэмократыю, за роўнасьць палітычных правоў, за дэмократычную рэспубліку, то трэба мець адвагу разьвінуць формулу дэмократыі і выступіць з выразнымі і простымі адказамі на хвалюючыя сучаснасьць пытаньні».

Г. зн. вярнуцца да старога лёзунгу «Устаноўчы Сойм», бо

> «Што ўласна непакоіць таварышоў, якія прымаюць дэмократычную рэспубліку ў лёзунгу „Устаноўчы сойм». Запраўды іх довады пахнуць плесеньню». (Соц. Вестн. № 21).

Праўду, тысячу раз праўду, піша Аронсон, калі ўжо, што называецца, пастурацць на службу да буржуазіі, то ўжо з усімі дасьпехамі; няма чаго хаваць нешта з старога багажа, асабліва такія шаты, як «У. С».

Зусім зразумела, што новая палітычная праграма немагчыма бяз новай эканамічнай праграмы. Дэмократыя, як нас яшчэ зусім нядаўна навучаў Мартаў, гэта—фактычная ўлада капіталу—а значыць, і эканамічны наш уклад павінен быць грунтоўным чынам зьменены.

З гэтае прычыны Мартаў лічыць, што

> „Партыя павінна апірацца на той пагляд, што адбудаваньне зруйнованае народнае гаспадаркі ў Расіі будзе адбывацца пераважна на капіталістычных пачатках.»

> «Дзеля гэтага павінна быць агульным правілам, каб прыцягаць прыватны капітал ва ўсіх формах, аж да перадачы яму прадпрыемстваў поўнасьцю, і каб інтарэсы пролетарыяў былі забясьпечаны рацыянальным кантролем дзяржавы над вытворчасьцю».

Канчатковы вывад сам сабою напрацваецца і тысячу раз іноў праў найбольш шчыры з меншавікоў гаспадзін Аронсон, заяўляючы ў адказ на дэклямацыю Мартава і Дана, што яны супроць таго, каб гвалтам скідаць бальшавікоў.

> «Няўжо сацыял-дэмократ. партыя, якая арганізуе пролетарыят і пролетарскі авангард, якая стаіць на чале народных мас у барацьбе за дэмократыю, павінна ўхіліцца ад паступовай рэвалюцыйнай тактыкі (г. зн. ад удзелу ў паўстаньні). Не! Тут

толькі непаступовасьць у думках, прадыктаваная лішняй устрыманасьцю фармуліровак» (Соц. Вестник № 21).

Так, няма ніякага сумненьня, што меншавікі сваёй новай плятформай адрэзалі сабе дарэшты і назаўсёды шлях да рабочае клясы; іх шлях цяпер ляжыць радам з шляхам сусьветнага фашызму, монархізму, буржуазнай контр-рэвалюцыі.

Сусьветны капітал уступае ў апошнюю бойку з сусьветным пролетарыятам. Камінтэрн арганізуе рэвалюцыйныя батальёны ў барацьбе з буржуазнай рэакцыяй, якая усё больш становіцца заядлай.

Дробная абуржуажаная інтэлегэнцыя, якая йшла ў першы пэрыяд барацьбы з пролетарыятам, цяпер пакідае яго рады, пераходзіць у рады сусьветнай буржуазіі. Часьць з іх наймаецца на службу да сусьветнага капіталу за грошы, другая служыць дзеля прынцыпу. Для сусьветнага пролетарыяту зусім усё роўна, якія матывы тэй ці іншай сацыял-дэмократычнай групы, што йдзе на службу да капіталу. Для яго важны факт.

І ўсёй сацыял-дэмократыі сусьветны пролетарыят адказвае: з нашых радоў мы вас выплёўваем. Мы вітаем вашу шчырасьць, бо яна дапамагае нам канчаткова ўстанавіць мяжу, якая аддзяляе нас і нашых прыецеляў ад нашых ворагаў і тых, што, стараючыся застацца ў нашых радох, служаць нашым клясавым ворагам—сусьветнаму капіталу.

Сусьветная сацыял-дэмократыя, як галіна рабочага руху, ідэолёгічна ўжо сябе пахавала. Няважна, колькі часу працягнецца працэс ачышчэньня ад сацыял-дэмократычнага мяшчанства і контр-рэвалюцыі ў радох рабочага руху,—важна найперш тое, што ідэолёгічна сацыял-дэмократыі, як рабочай партыі, больш ня існуе, яна існуе толькі, як партыя лібэральнай опозыцыі ў радох рабочае клясы.

Барацьба з сусьветнай сацыял-дэмократыяй ёсьць цяпер выключна барацьба з горшай формай буржуазнай арганізацыі, з найбольш скрытай формай прапаганды «вечнасьці і непарушнасьці» падставаў капіталізму і прыватнай уласнасьці.

**В. Нодэль.**

# Беларускі Парнас у новай вопратцы.

*(Абегла-крытычны нарыс).*

Перад нашымі вачыма праходзіць досыць цікавае й досыць выдатнае зьявішча: мы зьяўляемся сьведкамі і ўдзельнікамі вялікага працэсу нясупыннага пашырэньня й паглыбленьня заваёў Кастрычнікавай рэвалюцыі й замацаваньня беларускае Савецкае Рэспублікі. Выразна адзначаецца, як ува ўсіх галінах жыцьця Савецкае Беларусі ў вочавідкі вырастае ад працы беларускіх рабочых і сялян багатае вытварэньне новых вялікіх каштоўнасьцяў іх сілы і іх кольлектыўнага грамадзянскага духу.

Шпаркім разьмахам ідзе аднаўленьне гаспадарства й прамысловасьці; крэпне й мацнее дзяржаўная арганізацыя; расьце й паглыбляецца аснова і моц рабоча-сялянскага валадарства.

Але выразьней і шпарчэй ніж у іншых галінах жыцьця, клякочуць хвалі ў дзядзіне духоўнага, культурнага ўзросту разьвіцьця. Цяга да культуры, да навукі літаральна ахапіла ня толькі горад, а і вёску. Нястрыманаю хваляю вясковая моладзь хлыне ў гарады, дагонам за навукаю. Напаўняе усялякія вучылішчы й курсы. Няма ніякае магчымасьці здаволіць прагу ўсіх да веды, да пазнаньня.

Разам з пагоняю за асьветаю ў вучылішчах, вышэйшых і ніжэйшых, і на курсах, выбіваецца бурлівая цяга й да самаразьвіцьця праз розныя колкі, гурткі, грамадкі. Як у гарадох, гэтак і ў сёлах, мэрам грыбы растуць культурна-асьветныя гурткі, дасьледчыя аб'еднаньні, тэатральныя колкі. Работніча-сялянская інтэлегэнцыя, вучні й студэнты ладзяць вечарынкі, лекцыі, літаратурныя дыспуты. Нявыказная прага культурнага разьвіцьця б'е бурліваю хваляю па абшарах Савецкае Беларусі.

Разам з цікавасьцю да культурнай працы ўзрастае вялікая цікавасьць да беларускай літаратуры. Цікавасьць гэта займае пераважную ролю ў моладзі, заўсюды настроенай натхненна, заўсюды палкай да прыгожага й разам да завучага,—чым заўсёды зьяўлялася, як расійская, гэтак і беларуская літаратура. Лекцыі й дыспуты на літаратур-

ныя тэмы выклікаюць жывы водгук. Трэба спраўляць памінкі памёршага пісьменьніка ці рабіць даклад аб творах жывога; трэба ўладзіць літаратурны вечар, як вагромныя салі бітком напаўняюцца слухачамі. Літаратурныя тэмы—пераважны і ў працы культурна-асьветных гурткоў. Цяга да прыгожай пісьменнасьці выказваецца яшчэ й масавым пісаньнем вершаў, якое вядзе вучнёўская моладзь.

Што-ж робіцца ў галіне літаратурнай творчасьці? Якаво праходзіць жыцьцё на высях беларускага Парнасу? Чым ён адклікаецца на той рух, што бурліць і клякоча вакол яго падвалін, цягнучыся прагавіта ўгору? Ці чуе Парнас водгукі маладых сілаў скіфскага войску, якое разганяецца падблізіць Парнас да сваіх гушчаў, ак Промэтэй нябесны агонь.

Каб аглядзець і выявіць сабе сучаснае жыцьцё на ўзвышшы беларускага Парнасу—трэба акінупь паглядам тэрмін недалёкага мінулага, усьцяж апошніх сямі-васьмі гадоў часу і прасачыць хаду яго разьвіцьця за гэту пору.

Пералом у разьвіцьці беларускае літаратуры якраз прышоўся з момантам абвяшчэньня сусьветнай вайны. З гэтаю вайною Беларусь у лішні раз падпала пад ярмо нявыказных бядотаў, нішчэньня й глумленьня. На яе раўнінах мусіла адбыцца нявіданае крывавае пабоішча. Лёс працоўных грамадаў павярнуўся ў бок цяжкіх пакутаў; стала пад пытаньнем і доля блізкага яго адраджэньня. Руіны ці ў лепшым выпадку зьнішчэньне на палову—вось што залунала ў паветры над змучанаю, змардаванаю, здратаванаю вякамі краінаю. Тыя блізкія праведы сьветлага вызваленьня,якія к часу абвяшчэньня сусьветнай вайны прынялі досыць шырокія адзнакі і нясупынна захоплівалі ўсё новыя слаі й абшары, завалакліся шэраю хмараю...

Сьпёртае духатою і пахам крыві паветра не давала мажлівасьці вольна дыхаць. Куды-ж было да таго, каб пяяць? І муза беларускай творчасьці раптам прыцішыла свае песьні. Многія песьняры, замест меры, па прымусу ўзяліся за стрэльбы й мячы. Бразг сталі замяніў музычныя зыкі нядаўна грымучай, крылатай песьні. Другія, абмінуўшы ўдзел у крывавай людзкой байніцы, павінны былі моўчкі перажыць першыя праявы ваеннай навалы. З заміраньнем душы глядзелі яны, як варожая людзкому стану справа, гібельная вайна, якую распачалі багацеі і цары, маравым паветрам засьцілала Беларусь. Страхацьцё яе расло з дня на дзень. Перш пераход праз Беларусь мільённых арміяў войску, а пасьля бязьлітаснае высяленьне з краю беларускіх працоўных грамадаў. Тысячы й соткі тысячаў выгнанцаў пацяглося ў неспадзяваную падарож, кінуўшы хаткі й нівы і здабыты крывавым потам —цяжарнаю работаю—статак. Уперадзе—няведаны край, цёмнае бяздом'е—а з-заду пажары, зьнішчэньне. Падарожная, бяздомная Беларусь—якава твая мэта?

Гэтыя пытаньні чорнымі страшнымі птахамі завіліся перад ваччу беларускіх пісьменьнікаў, атрутнымі нажамі паранілі іх сэрцы. Ніводнае жывое, прасьветлае думкі, ні каліва надзеі на будучыну. Смутак. стогн—вось што выбаўлялі іх надтрэснутыя меры.

— Што за віхар закруціўся,—
Ў зямлю ўрыўся, ў неба ўзьбіўся,
Бухнуў іскрамі пажару
На сялібы, на папары?
— Гэта бітва йдзе сусьветна
Між сьвятлом і апраметнай...
А хто ўскрэсьне, а хто ляжа...

(„Праявы"—Спадчына, ст. 26).

Так пісаў Янка Купала ў пачатку вайны. «Сусьветная бітва" выяўляецца перад паэтаю праклятаю начніцаю, якую ён заклінае моцнымі пралёнамі.

Сярод разьюшаных сатрапаў,
Паганы зладзіўшы хаўрус,
Свае таргуюць і чужыя
Табой, няшчасны беларус...
На зьдзек прадажныя праро̂кі
І на гніцьцё у царсцьве цьмы
Вядуць аплучаныя тоўпы
Пад стогны вечныя турмы.
Над пакаленьнем неакрэпшым,
Над бедным краем-сіратой
Груган з начніцаю сьляпою
Банкет спраўляюць чорны свой...

(„Спадчына"—39 ст.)

У вершы „Волат" паэта Ясакар (З. Бядуля) гэтак малюе тагочасны настрой страха й атруты:

Чырвоныя коні пад небам нясуцца.
Пярун і грымоты ўвакруг раздаюцца,
І страх і атрута ўвесь сьвет абляглі...
І нішчыцца ўсё на зямлі.,.
І кроў... і руіны...

У вершы «Праводзіны» Алесь Гарун празывае вайну сорамам людзей:

Сорам і ганьба для сьвету вайна,
Як не мяркуй, ня судзі.
І радзіць салдату быць спагадным да ворага:
Будзе праціўнік пабіты ляжаць,—
Ты пашкадуй яго, брат!

Цішку Гартнага скаланула зьявішча сходу з свае зямлі дзесяткаў тысяч працоўнага народу. Мукі ў падарожы, тысячы сьмерцяў ад хваробаў і голаду, згубленьне бацькамі дзяцей, дзяцьмі бацкоў—вось той нячуваны згубіцельны віхор, што паставіў над шчасьцем Беларусі запытаньне.

Перайшоў—перабег над старонкай маей
Нябывалы даўно, нячуваны віхор,
І заліў, бы вадой, зямлю сьлёзкай з вачэй
І спугнуў-страсягнуў больлю нутрыны гор.

Паэта праклінае вайну, але верыць, што яна не загубіць яго краю.

Промень страшны агню ад Прыпяці к Дзьвіне—
Стараны мае рэчкі адбіце ў вадзе.
Хай патомак загляне й яго пракляне,
А аб шчасьці людзкім рэч сваю павядзе.

Гэта шчасьце прыдзе і беларускі працоўны народ будзе мець
Долю шчасную й жыцьцё, поўнае красы.

Фактычна беларускі Парнас быў замарожан страшнымі зьявамі вайны, і яго насельнікі адчувалі гэта цяжкае становішча яго—як крызыс, як заняпад.

Далей, вокам—як магіла...
Сонца круг свой зацямніла:
Ноччу глянула ў дзень белы
На жыцьцё ўсё, на сьвет цэлы.

(«Песьня вайны»—Я. Купала).

Нагнёт гэтага крызысу каменіў сэрцы беларускіх пісьменьнікаў да таго балюча, што ў іх застыла ўсякая радасьць і сьветласьць надзей. Набат адмёрла мажлівасьць адчуваць далейшы бег здарэньняў. І выбухнуўшая рэвалюцыя не магла ажывіць іх, як сьлед, не магла выклікаць водгуку на свой праменны, сягаючы, іскрасты размах. Большасьць з песьняроў не маглі, не знайшлі сілы, каб пранікнуць у яе сэнс, каб зьясьніць яе мэты й пыталі ў Рэвалюцыі, як і ў Вайны: Ці ня тыя толькі заданьні ў цябе, якія былі і ў вайны? У кожным разе, што таіш ты ў сабе? Ці дасі тое, чаго чакалася? Ці вернеш згубленую вайною Беларусь? Ці паставіш яе разьвіцьцё на тыя-ж рэйкі, з якіх спыхнула вайна? Ці ўзьвядзеш на новыя?—Сьціснуўшы сэрца, аглушаныя вайною беларускія песьняры не маглі ўбачыць тых шыраў і даляў, якія ўжо тады раскідаліся перад вачыма навакол, толькі-б паглядзець пільна. Але не хапіла пранікасьці, не найшлося сьмеласьці... І песьні-творы, якія ўсё-ж вытыркала душа беларускіх песьняроў аставалсія шэрымі, адсталымі, пазагуменнымі ад урачыстай працэсіі сышоўшага вызваленьня нявольнікаў. Мала жыцьця й пэнту

пачарпалі беларускія пісьменьнікі і ў тым развою беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, які таксама атрымаў надзвычайна магутны імпульс ад рэвалюцыйнага выбуху. Глыбіна руху, яго роднасьць агульналюдзкому вызваленьню, яго інтэрнацыянальная ахварбоўка цалкам гінулі ў вачох ашаламяненых, спанталыжаных—а яшчэ нядаўна бадзёра завучых бардаў.

У гэткім становішчы захапіла Парнас рэвалюцыя кастрычніка. Сышоўшы на зямлю ў промені свабоды й поўнага вызваленьня працоўных, прынёсшы з сабою волю прыгнечаным усіх народаў, агаламэньня іх правоў і ўваскросшай дзяржаўнасьці—гэту найбагатшую нізку дараў—яна не ажывіла, не разьвесяліла напеваў беларускіх песьняроў. Ня ўгледзілі кроўныя народнікі нічога для сябе ўздымаючага, нічога натхненнага й сьвятога ў запраўднай збавіцельскі працоўных гушчаў, чым выявіла сябе пры нараджэньні пролетарская рэвалюцыя. Цяжкі ўціск з пачаткаў вайны даваў сябе адчуваць, трымаючы выбражэньне й пачуцьцё насельнікаў беларускага Парнасу. Бура за бурою, шэраг громагучных зьявішчаў, нескончоны бляск празрыстых маланак, праводзячых завіруху ўзьюшанага жыцьця, не давалі аслабіцца ўвазе, перашкаджалі ім агледзіцца, сабрацца з думкамі, улавіць блізкую сабе ноту... Гамма грукочучых акордаў, іх хвалюючая перманэнтная цеганіна глушыла кволае пачуцьцё не пасьпеўшых апамятавацца беларускіх лернікаў.

І нараджэньне чырвонага Кастрычніка за нязначнай выключнасьцю (Цішка Гартны, Ф. Шантыр) не адбілася на струнах беларускае леры. Тое натхненьне, што лунала над вызваленымі народамі, праменным вянком убіраючы дарогу пролетарскай рэвалюцыі, не чапіла прытупленай чуласьці парнаскага сьвету.

Ці то аднімала палкасьць пазыву не праясьненнасьць хмар, што цягнулі вісець над заходняй Беларусьсю і якіх рэвалюцыя Кастрычніка ня ў сілах была разагнаць. З першых дзён свайго жыцьця, ці то ажыцьцяўлялася агульная ісьціна, якая кажа: што муза маўчыць, калі гавораць гарматы—гаданна. Пэўней, адно й другое разам мелі свой уплыў на маўчаньне беларускіх песьняроў пры іх стрэчы з чырвоным Кастрычнікам. Мо'б адпаялі яны за свае й бліжэйшыя дні пролетарскай рэвалюцыі, калі-б пэўней у іх ваччу вымаляваўся яе твар, калі-б прыціхла тая завіруха, што праводзіла нараджэньне громазычнага Кастрычніка. Можа...

Але здарэньні не пайшлі ў сваім разьвіцьці па тым шляху, да якога мы адносім свае гадкі. Рэвалюцыя кастрычніка не магла замацаваць свае ўлады на Беларусі. Чорная сіла рэакцыі ў выглядзе нямецкага імпэрыялізму перамагла на нейкі час маладое стварэньне працоўных гушчаў і падгібала пад сваю пяту вызвалены край. Ізноў над ім завіліся хмары загубы, а пад гэтымі хмарамі залётамі розныя нячыстыя птахі. Скасаваная бегам кастрычнікавай рэвалюцыі ідэя выз-

валеньня Беларусі рукамі буржуазіі й securityнай погані, знайшла сабе падтрыманьне з боку новых захопнікаў змучанае краіны. Беларуская рада, прытоеная да наступу немцаў, вылезла з сваіх куткоў на сьвет і захапіла гэту ідэю для спэкуляцыі на ёй. Захапіла й пайшла з ёю, як ходзяць дзеці на шчадрыца з зьвяздаю, на жабраваньне да новых уладароў краю—нямецкіх гэнэралаў. «Вось вам ідэя, вакол якое можна злучыць усё супроць рэвалюцыйнае. Давайце грошы, і мы, пускаючы туман у вочы рабочых і сялян, паможам вам утрымаць у сваіх руках Беларусь».

Гэта звалася „працаю для адраджэньня й вызваленьня сярмяжнай Беларусі.» Фальшывы пакост выдаваўся за слаўныя традыцыі працоўнай дэмократыі. Ранейшыя лёзунгі прывешваліся, дзе зарвала. Дрындушкамі зьвінелі тысячы крылатых, нібы шчырых слоў аб змаганьні, аб мэце незалежнасьці... І воблачкі рыжовага дымку віліся над беларускім Парнасам. «Вось дзе крыніца натхненьня! Вось якая пуціна да пастаўленых баларускай поэзіяй мэтаў! Леры ў рукі—і за песьні, парнасцы.» Адзін за адным прылажылі беларускія песьняры свае рукі да настроеных лераў. Прылажылі ды зайгралі. І на табе! з-пад іх пальцаў атрымаліся глыбока мінорныя, балючыя едкім сумам напевы. І раскрылі тады гэты напевы ўвесь чорны смутак, які грудзіўся ў нутры песьнпроў беларускага працоўнага народу, запрыгоненага, пагарджанага, забранага на зьдзекі. Становішча, якое авантурныя радаўцы выдавалі за «дасяганьне вольнай незалежнай Беларусі», запраўды выказвала сабою вастрог для гэтай Беларусі... Яе-ж песьняры былі надломлены душою ў цёмнай яме гэтага вастрогу. І пялі песьні змучаных вастрожнікаў, думаючы, што ў гэтых песьнях у іх ёсьць жаданьні й надзеі:

**Янка Купала** пяяў:

Паглядзі, сусед, на пушчу,
Як трапчаць галіны.—
Там, у самую ўжо гушчу
Вецер сілы кінуў...

. . . . . . . . .

Ах, што гэта?.. Праз узгоркі...
Ці-ж то к нам?.. Ой, ногі!..

(«Спадчына»)

**Якуб Колас** падобна:

Я кожан год свой дзень радзінаў
Прывык ў раздум'і ўспамінаць;
Якіх праяў, якіх навінаў
На год мне новы пажадаць?

(«Водгульле»)

Або яшчэ:

Паглядзі, падзівісь,
Што за цемень вакруг!
Месяц ў хмары уплыў
І бляск зорак патух.
Ня чуваць галасоў
Сьвежых, вольных, жывых—
Толькі совы крычаць
Па трушчобах глухіх;
А ім ўторыць пугач—
Абыватаць дупла...
Паглядзі, падзівісь,
**Што за цем, што за мгла!**

(„Комрадзь"—Вол. Бел. № 18, 18 г.)

**Алесь Гарун** вось як:

Сяджу я адзін у сьвятліцы
З душою, агорнутай сумам.
Гадзіньнік стары на паліцы
Ўтуруе самотлівым думам...

. . . . . . . . . . .

Бяз сьледу, бяз знаку, цень цевьню
Праз жыцьце ідзеш у труну ты,
Якое-ж найлепшае меньне
Твае, чалавеча?—«Мінюты!»

(«У ноч па Новы год»—Вол. Бел. № 1, 1918 г.)

І яшчэ адчаеньней:

Ці дзялю я свой сум з цішынёю,
Ці жартую з сябрамі над чарай,—
Перад мысьлю таемнай маёю
Неадступнай назойлівай марай,
Як жывы, як-бы ўзяты з натуры,
Ўсё малюецца вобраз пануры.

Як калосьсе ў жытнім полі,
Стаяць людзі на раўніне;
Бытцам вецер каласочкі,—
Гэтак сум іх прыхіляе.
Ані шэпту, часам толькі
Маць—зямліца уздыхае:
*«Ой, пагіне... Ўсё пагіне!»*

(«Настроі»—Вол. Бел. № 9, 18 г.)

**З. Бядуля (ясакар)** так сама:

Дзе тут неба, дзе зямля?
Вее—стогне. Вее—плача.
Дзе тут вёскі, дзе паля?
Гурба—дуба, гурба скача.
Ведзьмы клічуць тайны сход,
Сход вясельля дзікай ночы;
Ведзьмы ладзяць карагод
І пускаюць дым у вочы...

(«Казка зімовай ночы»—Вол. Бел. № 3)

**Макар Краўцоў** не адставаў:

...Я тамлюся,
Пакараючыся цяжкай судзьбе.
Чі-ж ня будзе якой перамены?

(„Уснамін"—Вол. Бел. № 13, 18 г.)

**Конст. Буйло** ў сваю чаргу:

Вы просіце песьні—ды сэрца збалела
І болей ўжо іх не пяе;
Душа пад цяжарам цярпеньня самлела
І песьні ня льюцца зяе...

(Вол. Бел. № 29, 18 г.)

Нібы згаварыліся ўсе гэты песьняры выпеяць хорам пахаваньне таму, чаго чакалі і што прадракалі ў часы гнятучага царызму. Бо чымжа, як не пахавальнаю песьняю нясе ад іх напеваў? Сэрца нікне ад чорнае, ліпкае нэндзы, хочацца ўцякаць ад іх песень... цяжка... і ў той час дзіўна робіцца, да чаго зышла ў той час беларуская пісьменнасьць! Якім заняпадам веяла ад яе! І гэта на працягу амаль ня цэлага году, на працягу году, у які на ўсходзе нясупынна клятамі бурлівыя хвалі рэвалюцыйнага выбуху, стукаючы ў сьцены Беларусі і знаходзячы пад прасам акупацыі водгукі ў глухім руху бунтаўнага духу... Губіцельная сіла яго пагрозна насілася над лёсам канаючага юнкерства; дыхала повеем буры чырвонага лістападу*); калыхалася зямля пад нагамі крывавых Фалькенгайнаў**) і апякунчай ім Беларускай Радай—але нічога гэтага не заўважалася беларускімі песьнярамі ў іх пераважнай большасьці... Беларускі Парнас быў зацягнуты чорным полагам, як сажа, за якім губіліся празрыстыя праменьні ўстаючага вызваленьня Беларускага працоўнага народу.

Першы студзень 1919 году, які прынёс Беларусі гэта вызваленьне, даўшы да таго безымяннай, пагарджанай, разбуранай краіне зыркаблісвае імя—Беларуская незалежная Савецкая Рэспубліка—кан-

*) Дзень, у які сталася нямецкая рэвалюцыя.
**) Начальнік акупацыйных войскаў у Беларусі.

стытуцыю, сацыялістычную працоўную дзяржаўнасьць... У громе, у блісkавіцы, цудоўнаю казкаю з Апакаліпсысу пранясла гісторыя гэта нараджэньне, асьляпіўшы яго вялікасьцю волата зямлі, гаспадара жыцьця—працоўнага беларускага народу.

Колькі сілы, колькі музыкі, колькі неахопнай красы й магутнасьці трымалі ў сабе гэтыя здарэньні! Палкім агнём абурэньня растаплялася ўсё нуднае, прымёршае, запуджанае... Як агнядыхаючы Везуві клекатала рэвалюцыйным морам працоўная сіла беларускіх абшараў.

А беларускі Парнас ні зарухаў, ні маленькім рухам не адказаў на нячуваную зьяву. Над ім насіўся ледзяны повеў зьмярцьвеньня. Гістарычныя зьявішчы, што пісалі злотавогненнымі літарамі вялікую памятку вызваленьня мільёнаў беларускіх працаўнікоў выглядалі іх ваччу сібернай бурай—навалай, якая «праз узгоркі» каціліся на іх „ногі“, грозячы раздавіць іх, ці была «цеменьню, у якой

„Месяц ў хмары уплыў
І бляск зорак натух“.

Для беларускіх пісьменьнікаў незразумелым было (а некаторым і ёсьць) тое гэроічнае, першае сьвядомае змаганьне працоўных грамадаў за сваю Сацыялістычную радзіму, Беларусь. Кроў і ахвяру тых беларускіх сялян і рабочых, чые мукі раней натхнявалі беларускіх парнасцаў, цяпер ня кралі здзеравянелых сэрцаў, запуджаных песьняроў. Яны або маўчалі, або ў потайку, як шашаль у дзераве, рыпелі тонамі будзёных дзён, тонамі васеньніх скрыпак, тонамі нуды, безнадзейнасьці. У гэтых тонах пуглівa праглядалі пытаньні: Для чаго трух і калатня? Для чые карысьці? Ці ня згубіць страшэнны размах бунтуючай сілы спакойлівага бытаваньня, якое-бы дазваляла пяяць на матыў:

Куды ты рвешся ў зьнемажэньні,
Дзіцё нядолі, цемнаты!
Цярпі, няшчаснае стварэньне,—
Цярпець бо толькі ўмееш ты.

(*Янка Купала*—Спадчына, ст. 43).

або:

І цішыня і змрок спляліся між сабою—
Пад сьвіткаю журбы дзьве варажбіткі ночы.
На скрыдлах кажавоў мільгаюць над ракою,
Глядзяць на сьвец нямы з шкляных савіных вочаў.

(*З. Бядуля*, Пад родным небам—ст. 48).

Пад гэткі настрой беларускіх песьняроў мінуў гэроічны, поўны казачных дзіў, абмыты рэвалюцыйным натхненьнем нядоўгі тэрмін кіпеньня нацыянальна-сацыяльнага адраджэньня беларускіх працоўных

грамадаў. Далейшы яго працяг супыніла чорная навала новае бяды—польская панская акупацыя. Цяжкі камень загаціў бурлячую рэчку беларускай рэвалюцыі. Другі раз занасіліся чорныя хмары над абшарамі йзноў скутае краіны. Другі раз з цёмных норак вылезла досыць знаёмая нечысьць і погань. Другі раз пацягнула гнільлю зьмены, прадажы, зьдзеку над працоўным народам. Глухі стогн, енк, плач пакрыў Беларусь...

І—на дзіва—гэтыя ненармальныя, хворыя ўмовы мелі сілу раскатурхаць жыцьцё беларускага Парнасу.

Янка Купала, Алесь Гарун, З. Бядуля і інш. знайшлі для сябе натхненьне і нібы ваяцкае.

І мы ў шапку спаць ня будзем,
І пакажам сьвету, людзям,
Як баронім межы родны
Ад напасьці ад нягоднай,
Як баронім, як баронім...

(**Янка Купала**).

Удаленькага хлапчыну
Выправіла ў бой дзяўчына
І пры гэтым зашаптала:
«Калі хочаш, каб кахала—
Ад чужынцаў барані
Волю нашае зямлі».
Раз, два, тры!
Ад зары і да зары
Будзем біцца,
Весяліцца(!)

(**Ясакар—З. Бядуля**).

Я—жаўнер малады,
Я--дзяцюк хоць куды.
І бяз меры я дуж,
Зваць мяне Беларус.

(**Родзевіч**).

Гэткая заліхвацкасьць часамі, нават, пераводзіла Янку Купалу да хвілёвага натхненьня.
Песьняр пяяў:

Гэй, вольныя птахі, патомкі крывічаў!
Да неба! Па зоры і гром пяруновы...
Час выляцець к славе з пагібельнай плесьні
І песьняй агністай зьдзівіці народы...

(*„У вырай“*. Рунь—№ 1, 1920 г.)

Аднак Янка Купала адчула ня высьняў мэты сваіх оклічаў: яны

ў яго былі павіты тулем туману... І праз сілу ўзьнятаенатхненьне—то проста была штучная падправа для нудзячай, абманутай зданнымі агенчыкамі яго душы. Натхненьне—здань, а запраўды паэту сьцерагла назойлівая нэндза, праз якую выгляд ла бяда:

Ой, вяду бяду, а бяда мяне
Водзе вечным сьледам;
Гэтак ходзім мы за адным адно,
Як той дзед за дзедам.

*(Ой, вяду бяду*—«Рунь» № 3, 20 г.)

Ад яе паэта ня ведаў, дзе схавацца і ў бязмоцнасьці крычаў:

Ах, як страшна мне гэта бяссонная ноч!
Сколькі мукі, пярпеньня прыносіць з сабой!
Я змагаюся з ёй, ад сябе ганю проч,
Ды самлела ўпадаю з сваёй барацьбой.

*(У бяссонную ноч.* Беларусь № 1, 21 г.)

Гэта ноч хавала ад Янкі Купалы ня толькі Менск, які зрэдку паддаваў «ваяцкага настрою», а і Ўсходнюю Беларусь, дзе запраўды насілася на вогненных крылах птушка свабоды, руйнуючы векавы прыгон і будуючы падмурак сусьветнага вызваленьня. Яго надорванай душы здавалася, што

Ночка ўвесь сьвет пакрывае,
Па белай ад сьнегу зямельцы снуе;
Мяцеліца ў полі сапе, завывае,
Сьвіст ветру спакойна заснуць не дае.

*(Калядная ноч*—Рунь).

Мары гэтай ночы, якая пралезла ў істоту жыцьця беларускага Парнасу ў моманты «згібеньня Беларусі ў буры вайны крывавага царызму», і якую старалася праясьніць Беларуская Рада з дапамогаю паноў, неадступна пільнавалі і Ясакара (З. Бядулю).

У каморцы сплю я нібы;
Б'ецца птушка ціха ў шыбы.
Гэта птушка—ночы мары...
Чорным скрыдлам ледзь шасьпіць;
Сумны сьпеў і кліч яе
Ў цёмну даль завуць мяне.
Кажа птушка: „я заклята!".

*(Сьмяртэльная сьведка*—Беларусь № 20, 1920 г.).

Ясакар (З Бядуля) у сполаху кідаецца за ратункам да бога, да ажыцьцёўленых ім зямлі, неба, сонца:

«Дзякую божаньку, зямельцы, небу, сонейку, месячыку, што яны дапамагаюць мне ў маёй працы».

*(Рунь*—Рунь № 1, 1920 г.).

Тым болей хіліўся у нейкую цёмную бяздоннасьць Алесь Гарун, якога не акрыляла й калівам надзеі „беларускае войска“, што ён арганізаваў праз ласку і кошт абмануўшых яго паноў, каб абараняць свой край:

Сьціха, паволі
Старэеш, слабееш, цяжэеш ты,
Аж у рэшце ледзьве ногі абедзьве
Дацягнеш неяк да той варсты...

(*„Жыцьцё“* Беларусь—№ 32, 20 г.)

Было гэткае становішча:

Стаяў беларускі Парнас абвешаны заслонаю, пад якою гультайка ружала жыцьцё, а ў падвалінах Парнасу

На ўсход і на заход, як можа абняць вока
Зарослы травой поле, дзікая сенажаць;
Плача вецер і травы высокія шумяць,
Зямля пустынная цягнецца ў сьвет.

(*С. Шыманоускі*—«Скрыўджаная зямля». Беларусь—№ 23, 20 г.)

І ад гэткага выгляду вакольнасьці, ня дзіва, што ў насельцаў Парнасу неадгонна стаялі балючыя пытаньні:

Чаму гэтак сэрца
Ў грудзёх маіх ные?
Лягу спаць—ня сьпіцца:
Думка сон трывожа...

(*М. Р.*—Беларусь № 17—20 г.)

Куды-б завяло гэткае становішча беларускую літаратуру? Што-б сталася з ёю ў умовах гнілога атрутнага паветру, у якім ня было крупінкі патрэбнай для яе разьвіцьця глебы? Цяжкая будучына насьцігла-бы яе—то можна сьмела сказаць.

Але йзноў на падмогу падасьпела вялікая збавіцельніца—рэвалюцыя. Яе напор у трэці раз разбурыў моцную сьцяну-перашкоду у выглядзе панскай акупацыі. Па многапакутных абшарах Беларусі пранясьліся яе жыцьцёдаўчыя хвалі. Беларускія працоўнік і селянін, зьняўшы «агульным выбухам сваім» ярмо панскай акупацыі, вярнулі сваёй краіне яе ймя—Савецкая Рэспубліка—а сабе волю й правы яе грамадзян.

Нейкі тэрмін перад беларускімі працоўнымі грамадамі былі адчыняты шырокія мажлівасьці для творчага будаўніцтва суцэльнай Савецкай Беларусі ажно да водаў Буга... Але размах рэвалюцыйных хваляў, якія напіралі на захад, быў часова спынены ўзмацнеўшай контр-рэвалюцыяй. У скутку—рыжскае заміраньне парэзала Беларусь на часткі. І на захад ад парэзу нанова запанавала няволя. На міль-

ёны беларускіх працаўнікоў ізноў былі надзеты ланцугі пакуты й прыгнячэньня. Пачуўся стогн.

Затое на ўсход ад рыжаскага парэза асталася Беларусь Савецкай. І хутка, сямімільнымі крокамі пашло ў ёй руплівае творчае жыцьцё ва ўсіх галінах: пачалося залечваньне тых ранаў, якія зрабіла царская вайна, нямецкая й польская акупацыі; пачалося гаспадарчае й культурнае будаўніцтва; пачалася творчая арганізацыя сацыялістычнай дзяржаўнасьці. А ўсё гэта ажыцьцяўляла сабою тую доўгацеплую думку, якая ў 1905 г. радзіла беларускіх песьняроў і дала напевы для іх музы.

Гэтыя апошнія здарэньні, не маглі не адбіцца на застойным жыцьці беларускага Парнасу. Яно, гэта жыцьцё, не магло астацца гэткім, якім яно бывала ў апошнія часы. Яно мусіла крута заламаць уперад, каб зьліцца з жыцьцём працоўных грамадаў, з бурным, кіпучым, творчым жыцьцём. Так яно і сталася.

З гэтага моманту парнаскія насельнікі пачалі прыслухоўвацца да голасу сучаснасьці, да голасу рэвалюцыі. Праўда, ня ўсе разам, а адынкамі, асьцярожна, але што далей—больш і сьмялей.

Першым з гэткіх быў Ясакар (З. Бядуля). Яго чулая, адзыўная душа не магла не скалыхнуцца перад выглядам абураючых здарэньняў, якія вяла за сабою рэвалюцыя на Беларусі. Пяючы да таго пераважна смутнымі напевамі, З. Бядуля пераменіў тон, прыслухаўся да пэнту жыцьця, азірнуўся на тых рэдкіх сваіх сяброў, якія ў сваіх творах да яго доўгі час адбівалі цудоўна-магутныя зьявы вызваленчага змаганьня, і запяяў зычна й горда:

Выходзь, пясьняр, выходзь, дудар,
У вольны гай, у родны гай!
І кожны з вас на весь абшар
Няхай пяе пра вольны край!

(*Кліч волі*—Сав. Бел. № 16—20 г.)

Гэтыя яго цьвёрдыя, завучыя напевы выказваюць зусім ня тое, што ўкладаў З. Бядуля ў свае сантыментальныя, кволыя ваяцкія песьні. Паэта пазнаў праз доўгі горкі вопыт—да чаго кіруе жыцьцё і ў чым яго сэнс. У подыху рэвалюцыі З. Бядуля падмеціў бліжэйшае ажыцьцяўленьне сваіх заветных мэтаў, якія вядуць да вызваленьня працоўных грамадаў Беларусі. Паэта іх заве

Пад сьцяг чырвоны,
Пад гукі-звоны
Асілкаў волі
У бітвы поле.

Ратай, рабочы,
Хто волі хоча,
Ідзеце ў бой
Ўсёй грамадой!

(*Пад сьцяг Чырвоны*.—Савец. Бел. № 21—20 г.)

Праўда, запаліўшыся рэвалюцыйным настроем, З. Бядуля пакуль

ня мог падтрымоўваць яго пэрманэнтнасьці; час ад часу яны ў яго перабіваліся мінорнымі напевамі ці аддаваліся ў ахвяру лёгкім адцягненым матывам. Але пэнт жыцьця, нясупыннасьць яго прагавітасьці, бесьперарыўнасьць выбухаў маленак рэвалюцый, наварочвалі паэту да сябе, і З. Бядуля ўсё болей і болей з імі яднаўся.

У гэты момант, якраз на сконе 20 году, болей крута парваў з сумнасьцю напеваў і другі беларускі пясьняр—М. Чарот. Гэты паэта меў за шчасьлівы выпадак у росквіту свайго таленту напаткаць гэткі дзіўны час, якім выпаў канец 1920 г. Іначай кажучы, рэвалюцыя сваім агнём апаліла настрой М. Чарота і ўлажыла ў яго песьні гарт і бадзёрую надзею, пэнт паўстаньня. І калі нядобры повей з заходу на момант спыніў размах рэвалюцыі, даўшы магчымасьць польскім паном зрабіць апошнюю хвілінную вызыту ў Менск, што часова перабіла палкасьць З. Бядулі, М. Чарот цьвярдзіў:

За народ, за яго волю
Буду сьмела біцца.

(*«Разьвітаньне»*—Сав. Беларусь № 23—20 г.)

З яго рашучасьцю не здавацца гадзіўся й Цішка Гартны, які на працягу ўсяе рэвалюцыі стаяў цьвёрда на грунце прызыву да змаганьня.

Устаньце ўсе, ад края к краю
І пад вольны йдзеце сьцяг!

(*„Устаньце“*—Сав. Бел. № 24—20 г.)

З пачаткам 1921 г. развой новай бадзёрай плыні ў беларускай пісьменнасьці робіцца ўсё больш і больш значным. Ён захоплівае і старых, ужо зложаных песьняроў, і новых, якія яшчэ не пасьпелі скласьціся. У кароткі час іх знаходзіцца цэлая пляяда: М. Грамыка, З. Бядуля, Цішка Гартны, Янук Журба—са старых, М. Чарот, М. Сявец, Адам Чырвоны—з новых. Разам яны шыюць беларускаму Парнасу новую вопратку, убіраюць яго. І ён ажывае, модэрнізуецца, робіцца сучасным і праводзіць увесь 1921 год гэткім. На працягу ўсяго гэтага году з яго высотаў раздаецца жывы, завучы голас. А чым далей—тым гэты голас робіцца выразьнейшым, мацнейшым, больш і больш прыцягае да сябе ўвагі. Ім на момант захопліваецца і стаўшы ў баку бягучага жыцьця Янка Купала, які падымаецца да глыбокай праменнай песьні на сьмерць С. Булата і да Інтэрнацыяналу, пераклаўшы яго мастацкі на беларускую мову.

Праўда, Янка Купала на гэтым спыніўся. Але спыніўшыся, і ён, разам з усімі, бачыў, як дружнаю гардаю ступою яго палкія пасьлядоўцы мінулі яго і з рэвалюцыйным натхненьнем пераступілі парог 1922 г. Пераступілі і ўсё ўвераней ды настойней пачалі прадоўжваць сваё падблізканьне да вымаганьняў новага жыцьця. І дух аднаўленьня, дух новага руху запанавалі ў ёй.

Таму, хто яшчэ нядаўна стараўся хаваць яе ў магілу, якая прыгатавана для ўсяго аджыўшага, прышлося адскочыць назад, прыкусіўшы губы. І ня дзіва, бо было-бы дзівам, каб магло памерці тое, што стварылі працоўныя грамады, што хрысьцілася іх мукамі, гартавалася цярпеньнем і пакутамі. Ажыцьцяўляюцца надзеі працоўных грамадаў — мусіць крэпнуць і квітнуць праца іх духу. Беларуская пісьменнасьць — праводзячы для духоўнай працы беларускіх працоўных грамадаў. У кольлектыўнай творчасьці грамадаў, у іхнім панаваньні над жыцьцём — задатак разьвіцьця беларускай пісьменнасьці.

1922 год выразна адзначыў, якімі спорымі крокамі йшло гэта разьвіцьцё, як увогуле беларускай культуры, гэтак, увасобку, і яе галіны — беларускай пісьменнасьці. 1922 г. паказаў так сама і той напрамак, па якому пайшло яе разьвіцьцё. А яно пайшло разам з разьвіцьцём самое рэвалюцыі, адказна духоўным запатрабаваньням беларускіх працоўных гушчаў і злучна з ідэямі камуністычнага руху.

Каб пераканацца ў праўдзівасьці гэтых даказаў, варта прасачыць за беларускаю пісьменнасьцю у той яе частцы, якая выяўлялася на працягу 1922 г. перад жыцьцём і перад сваімі чытачамі. Амаль ня ў кожным творы, амаль ня ўсіх беларускіх пісьменьнікаў і песьняроў выразна выглядае навізна формы, глыбіня здольнасьці, шырыня рэвалюцыйнага размаху, уступ на шлях кольлектыўнай творчасьці.

Бяром М. Чарота і бачым, што паэта зрабіў вялізарны крок наперад. З-пад яго пяра выходзіць шмат новых формаю, зьместам і хварбамі вершаў; ён-жа піша і выдае нашумеўшую, прыцёгшую да сябе многа ўвагі, дыхаючую навізною рытму і палкасьці, багатую хварбамі паэму «Босыя на вогнішчы».

Бяром М. Грамыку, дагэтуль мала даўшага для беларускай пісьменнасьці: паэта неспадзявана для многіх выяўляе ў сабе нязвычайныя здольнасьці, якія выпукла ўстаюць у яго надрукаваных паэмах «Крылан» («Адраджэньне» № 1) і «Гвалт над формаю» («Полымя» № 1). Як і М. Чарот, М. Грамыка парывае з усім старым, імкнецца да новага і дае першыя скуткі, досыць багатыя, сваіх шуканьняў. На шкоду — паэта заглыбака ўдараецца ў пагоню за формай, даючы ёй у ахвяру сэнс і выразнасьць вобразаў.

Амаль не канчаткова расстаецца са сваімі ранейшымі сюжэтамі і адпаведным да іх настроем — лёгкім і сантыментальным — мілагучны З. Бядуля (Ясакар). Дух бадзёрасьці, шуканьня новых, сучасных матываў праводзяць яго пазьнейшыя творы. Часьцей й часьцей прабіваюцца ноткі пролетарскай грамадзкасьці.

І Алесь Гурло — з паэты смутных надзей і жаданьняў — пераходзіць да блізкай яму музыкі малатоў і калёс. Стаенае ў яго душы пачуцьцё жыцьця заводу, яго машын і печаў, вынікае напаверх і ўхарошвае яго апошнія вершы («Савецкая Беларусь» 1922 г., «Полымя» № 1). Тым-жа цьвёрдым, рашучым складам не перастае біць па

струнах свае леры Янук Журба. На многа паглыбляе і абагачае свой досыць прыметны талент малады белетрыста—Адам Бабарэка. І зусім выпадкова, нечакана, нават, выдае сябе, як здольнага бытавіка-пісьменьніка («Над кромаматьню», «Полымя» № 1) Неманскі. На падгатаванай глебе вырастае калючая крапіва—багаты задаткамі паэта злобадневік, які надарае нас у «Савецкай Беларусі» цікавымі вершамі.

Вось ён, беларускі Парнас, які апрануўся на працягу 1921—1922 г. у новую вопратку, Парнас, якога азіяла праменьне сонца рэвалюцыі!

Парнас з новым, маладым жыцьцём, з песьнямі, у якіх чутно:

„Ўставай, хто сьпіць!“ „На бой крывавы!“
Уперад, к сонцу, мур жыцьця узводзіць новы,
На землю зьняць з высотаў дзень праменны.

У якіх:

...Пыша радасьць вызваленьня,
Аб вольнай працы ў іх бурляць напевы
Нявольнікаў, парваўшых путы, ў іх натхненьне
І буйны водгук ўсьпененага гневу.

(*«Полымя»* № *1*. Цішка Гартны—Па дарозе да будучыны).

Парнас, над якім:

Радзіўся раніцы нябачаны усход...
Вясёла зашумеў адвечна сумны бор...
Дзень новы асьвяціў жыцьця ўсяго прастор,
А вецер з полымем над соннымі палямі
Свабоды ткуць ужо чаруючы узор.

(*„Жыцьцё»*—М. Чарот. «Завіруха», ст. 5).

Парнас, над якім:

І арлы узьняліся над грудзямі ральлі,
І арлы на арлах
У гару узьвіліся:
Перад рыцарствам хмар, што нізін каралі?

Парнас, які:

Пануе над логам, над морам—ўладар
У вышыні, як арол,
Як мітычны Ікар...

(*«Крылан»*—М. Грамыка. «Адраджэньне № 1).

На гэткім Парнасе, само сабою, кожны голас, кожны рух—то рух і голас маладога, вакольнага яму жыцьця, якое куецца малатамі працоўных грамадаў:

Стукаюць цяжкія молат за молатам,
Сыплюцца іскры, як золата,
Бляскі кладуць на зямлі...
Цяжкаю працаю заняты волаты—
Жыцьцё куюць кавалі.

(«*У жыцьцевай кузьні*»—А. Гурло. «Полымя» № 1).

Кожны парнасец ловіць сваім чуцьцём подых гэтага жыцьця, што «куюць яго волаты», якіх абудзілі вялікія правадыры паўстаньня сваім гучным воклічам.

На гучны рог пайшоў араты задумёны...
Абшар ральні, лугоў праціскалі пісьмёны
Завостраных плугоў, загартаваных ног.
Асілкі два зямлі—рабочы і араты—
Віхурамі плылі па гмахах багачоў,
Насілі долю ўсім на вастрынёх мячоў.

(«*Перад помнікам К. Марксу*»—З. Бядуля. «Сав. Бел.» № 247—22 г.)

А жыцьцё вакол—так і кіпіць, так і мкнецца. Ажно ня могуць струны леры ня дрыжаць ад яго хваляваньня. Дрыжаць струны лераў і дрыжыць чулая душа паэты. Бо кругом яго

„Чуецца імкненьне да новага, сьветлага й лепшага... Б'ецца жывое жыцьцё. Гэтаму й жыць, а другому, іншаму, з нэндзаю, трэба ўжо памерці. І яно неўзаметку памірае, як гніль асядае на дно, а наверсе чыстая бурліць рэчанька“.

(«*Максім Трапкач*»—А. Бабарэка. «Сав. Бел.» № 619—22 г.)

Гэта—скутак таго, што
Ўзьняўся волат—вялікан,
Парваў адвечныя ён путы
І над жыцьцём сваім стаў пан...

(«*Гасп. Зямлі Белар.*»—Я. Журба. «Савец. Бел.» № 684—22 г.)

Беларускі Парнас зьліўся з рэвалюцыйным жыцьцём. Ён бадзёрым, жыцьцярадым спускаецца на сустрэч грамадам, што мкнуцца ўлавіць яго новыя песьні. Яго насельнікі выпінаюць новыя, бадзёрыя зыкі, завучыя напевы, будзячыя тоны.

У доўгіх муках сваё краіны, у цяжкіх пакутах беларускага працаўніка згартаваліся гэты тоны, прынялі новы настрой і запалонілі душы песьняроў. Выбух рэвалюцыі, што прынёс Беларусі шчасьлівы лёс, адкрыў яе твар, даў волю яе рабочым і сялянам—гэты выбух апаліў натхненьне большасьці беларускіх парнасцаў, працягнуў між імі і рэвалюцыйным поступам цесныя ніткі і даў у іх рукі кіраўніцтва беларускаю пісьменнасьцю. Тэю пісьменнасьцю, над якою наўсьцяж шасьці—сямі гадоў вісела закляцьце ўроку.

1922 год паказаў, што далейшы шлях беларускай пісьменнасьці цесна зьвязан са шляхам рэвалюцыі па дарозе да яе канчатковага запанаваньня. Поруч ідучы, беларускія песьняры сваімі песьнямі будуць бадзёрыць і ўзмацняць ваякаў за сьветлую будучыну, будуць запальваць новыя маякі і зьніжаць іх сьвятло ў працоўныя гушчы...

Беларускі Парнас—у новай вопратцы.

**З. Жылуновіч.**

## Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год.

Мінулы 1922 год быў самым ураджайным годам у справе росквіту беларускага друкаванага слова. Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ, навуковых і прыгожага пісьменства. Каб лягчэй было абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі працяг часу, які зьяўляецца адзін год, мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час, а пасьля, па магчымасьці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.

### Сьпіс кніг, надрукаваных у працягу 1922 году.

| №№ па парадку. | Назва выдавецтва, прозьвішча аўтара і назва кнігі. | Лік старонак у кнізе. | Лік аркушаў. | Лік экзэмпляраў. | Агульны лік аркушаў. |
|---|---|---|---|---|---|
| | I. ВЫДАНЬНІ б. ВЫДАВЕЦТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ". | | | | |
| 1 | *Багушэвіч Ф.*—Дудка Беларуская і Смык Беларускі (Збор твораў у воднэй кнізе). | 92 | $5^3/_4$ | 3.000 | 17.250 |
| 2 | *Колас Я.*—Водгульле. (Збор вершаў). | 112 | 7 | 3.000 | 21.000 |
| 3 | *Купала Я.*—Спадчына. (Збор вершаў). | 224 | 14 | 4.000 | 56.000 |
| 4 | *Чарот М.*—Босыя на вогнішчы. (Паэма з 10-ма малюнкамі і з крытычным нарысам Ў. Ігнатоўскага і артыкулам В. Кнорына. 48 стр. тэксту і+20 стр. малюнкаў. | 68 | $4^1/_4$ | 10.000 | 42.500 |
| 5 | *Ясакар (З. Бядуля).*—Пад родным небам. (Збор вершаў). | 136 | $8^1/_2$ | 3.000 | 25.500 |
| 6 | *Валасковіч С.* і *Лукашэвіч Т.*—Зборнік арытмэтычных задач, Ч. I-я. | 122 | $7^5/_8$ | 15.000 | 114.375 |
| 7 | „ „ „ ч. II-я. | 152 | $9^1/_2$ | 10.000 | 95.000 |
| 8 | *Лесік Я.*—Практычная граматыка, Ч. I-я. Выд.2-ое. | 104 | $6^1/_2$ | 20.000 | 130.000 |
| 9 | *Лукашэвіч Т.* і *Валасковіч С.*—Мэтодыка арытмэтыкі. | 176 | 11 | 2.000 | 22.000 |

| №№ па парадку. | Назва выдавецтва, прозьвішча аўтара і назва кнігі, | Лік страніц у кнізе. | Лік аркушаў. | Лік экзэмпляраў. | Агульны лік аркушаў. |
|---|---|---|---|---|---|
| 10 | *Некрашэвіч С.*—Роднае Слова. Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня . . . | 162 | 10$^{1}/_{8}$ | 22.000 | 222.750 |
| 11 | *Янчук Н. праф.* — Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры. Старадаўны пэрыяд . . | 120 | 7$^{1}/_{2}$ | 3.000 | 22.500 |
| 12 | *Кармовыя травы*—Сэрадэля й Пялюшка. . | 16 | $^{1}/_{2}$ | 5.000 | 2.500 |
| 13 | «Адраджэньне»— Літаратурна-навуковы весьнік Інстытуту Беларускае Культуры, Спыт. І-ы . | 330 | 20$^{5}/_{8}$ | 1.000 | 20 625 |
| 14 | «Зоркі»—Беларуская дзіцячая часопісь № 4 (10) | 52 | 3$^{1}/_{4}$ | 1.750 | 5.687$^{1}/_{2}$ |
| 15 | «Маладая Беларусь» — Навукова-літаратурны зборнік, Сшытак І-ы . . . . | 84 | 5$^{1}/_{4}$ | 2.000 | 10.250 |
| | Усяго . . | 1.950 | 121$^{3}/_{8}$ | 111750 | 807.937$^{1}/_{2}$ |
| | **II. ВЫДАНЬНІ В-ВА «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» (б. «Адраджэньне»).** | | | | |
| 16 | «Полымя»—Беларуская штомесячная часопісь літаратуры, навукі, палітыкі, культуры, эканомікі й публіцыстыкі. № 1. Сьнежань, 1922 г. . . | 92 | 5$^{3}/_{4}$ | 1.500 | 8.625 |
| | Усяго . . | 92 | 5$^{3}/_{4}$ | 1.500 | 8.625 |
| | **III. ВЫДАНЬНЕ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ.** | | | | |
| 17 | Беларуская навуковая тэрмінолегія. Выпуск І-ы. Элемэнтарная матэматыка. . . . | 52 | 3$^{1}/_{4}$ | 1.000 | 3.250 |
| | Усяго . . | 52 | 3$^{1}/_{4}$ | 1.000 | 3.250 |
| | **IV. ВЫДАНЬНІ НАВУКОВА-ЛІТАРАЦКАГА АДДЗЕЛУ НАРКАМАСЬВЕТЫ Б.С.С.Р.** | | | | |
| | *а) У Менску.* | | | | |
| 18 | «Вольны Сьцяг»—Літаратурна-мастацкая і навуковая штомесячная часопісь. № 1-ы, 1922 г. . | 44 | 5$^{1}/_{2}$ | 1.500 | 8.250 |
| 19 | «Зоркі»—Беларуская дзіцячая часопісь (З малюнкамі). № 1 (7), 1922 г. . . . | 50 | 3$^{1}/_{8}$ | 1.500 | 4.687$^{1}/_{2}$ |
| | Усяго . . | 94 | 8$^{5}/_{8}$ | 3.000 | 12.937$^{1}/_{2}$ |
| | *б) За граніцай.* | | | | |
| 20 | Беларуская разразная азбука. . . . | — | — | 15.000 | 15.000 |
| 21 | *Гартны Ц.*—Песьні працы. (Збор вершаў). . | 104 | 6$^{1}/_{2}$ | 8.000 | 52.000 |
| 22 | » » Сокі Цаліны. Раман у трох часьцях. Ч. І-я. Бацькава воля. . . . | 160 | 10 | 8.000 | 80.000 |
| 23 | *Колас Я.*—Казкі жыцьця. (Збор апавяданьняў). | 112 | 7 | 7.500 | |
| 24 | *Круталевіч А.*—Альгэбра, Ч. І-я. . . | 104 | 6$^{1}/_{2}$ | 10.000 | 65.000 |

| №№ па парадку. | Назва выдавецтва, прозьвішча аўтара і назва кнігі. | Лік страніц у кнізе. | Лік аркушаў. | Лік экзэмпляраў. | Агульны лік аркушаў. |
|---|---|---|---|---|---|
| 25 | *Лесік Я.—Наша Крыніца*. Чытаньне для беларускіх школ (З малюнкамі). . . . | 284 | 17¾ | 15.000 | 266.250 |
| 26 | *Некрашэвіч С.*—Беларускі лемантар (З малюнкамі). . . . . . . | 72 | 4½ | 50.000 | 225.000 |
| 27 | *Тарашкевіч Б.*—Беларуская граматыка для школ. | 64 | 4 | 10.000 | 40.000 |
| 28 | *Тэрраўскі Ўл.*—Беларускі Лірнік. Сьпеўнік на чатыры галасы (99 песьняў). . . . | 92 | 5¾ | 5.000 | 28.750 |
| 29 | Цыгельман К.—Аснаўныя пачаткі арытмэтыкі. | 108 | 6¾ | 10.000 | 67.500 |
| | Усяго . . | 1.100 | 68¾ | 138500 | 839.500 |
| | **V. ВЫДАНЬНІ НАРКАМАСЬВЕТЫ Б.С.С.Р.** | | | | |
| 30 | *Лесік Я.*—Практычная граматыка беларускае мовы. Ч. II-я (іп.=16⁰). . . . . | 316 | 9⅞ | 5 000 | 49.375 |
| 31 | «Зоркі»—Беларуская дзіцячая часопісь. № 2-3. 1922 г. . . . . . . . | 54 | 3⅜ | 1.500 | 5.062½ |
| 32 | Вестник Народного Комиссариата Просвещения С.С.Р.Б. Беларускі аддзел, надрукаваны ў 6-цёх выпусках, якія вышлі ў 1922 г. . . . | 186 | 11⅝ | 1.500 | 17.437½ |
| | Усяго . . | 556 | 24⅞ | 8.000 | 71.875 |
| | **VI. ВЫДАНЬНІ ГОСИЗДАТА С.С.Р.Б.** | | | | |
| 33 | *Ігнатоўскі Ў.* — Матывы лірыкі беларускага песьняра М. Чарота. (іп.=16⁰.) . . . | 64 | 2 | 1.500 | 3.000 |
| 34 | *Чарот М.*—Завіруха. (Збор вершаў), фармат 16⁰ | 140 | 4⅜ | 1.500 | 6.562½ |
| | Усяго . . | 204 | 6⅜ | 3.000 | 9.652½ |
| | **VII. ВЫДАНЬНІ ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ САВЕТАЎ.** | | | | |
| 35 | «Савецкая Беларусь»—Штодзенная газэта. . | (газ. фар.) 870 | 217½ | 1.300 | 282.750 |
| | Усяго . . | 870 | 217½ | 1.300 | 282.750 |
| | **VIII. ВЫДАНЬНІ ГЛАЎПАЛІТПРАСЬВЕТЫ С.С.Р.Б.*)** | | | | |
| 36 | Гутарка аб тым, што павінна ведаць сялянская моладзь. Брашурка ў 12 малых старонак (іп. 16⁰). | | | | |
| 37 | Проціхалерныя лістоўкі. Дзьве назвы. . . | | | | |
| 38 | Адозва Народнага Камісара Земляробства Р.С.Ф.С.Р. Лістоўка. . . . . . . | | | | |
| | Агулам усяго надрукавана. | 4.918 | 456½ | 268050 | 2.036.521 |

*) Лік экзэмпляраў, надрукаваных Глаўпалітпрасьветай лістовак, аўтар гэтага артыкулу дастаць ня змог.

Разглядаючы гэты сьпіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай, г. ё. выдаўцы ня прытрымліваліся, каб друкаваць або толькі школьныя кнігі, або прыгожае пісьменства, але наадварот: не забыліся аб усіх галінах друкаванага слова. Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна з іх зьместам.

I. *Прыгожае пісьменства.* Бяру нумары паводзе сьпісу: 1, 2, 3, 4, 5, 21, 22, 23, 34. Агулам дзевяць назваў шасьцёх розных аўтараў; лік надрукаваных страніц—1148 (!). Аўтары тут—нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Франціпак, Бядуля Зьмітрок, Гартны Цішка, Колас Якуб, Купала Янка, Чарот Міхась. Як навіну ў гэтых творах, трэба адзначыць выхад у сьвет першага беларускага рамана—гэта «Сокі Цаліны» Цішкі Гартнага і «Дудка Беларуская» і «Смык Беларускі», якія, пасьля болей як паўвяковага працягу часу, першы раз надрукаваны „гражданкай“, г. ё. рускімі літарамі (дагэтуль гэтыя кніжкі друкаваліся «лацінкай» іначай—польскімі літарамі). Апрача таго, М. Кудзелька даў паэму „Босыя на вогнішчы“, зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў, якія падзяліліся на прыхільнікаў і няпрыхільнікаў паэмы—адны хваляць, а другія ганяць. Гэта спрэчка і цяпер яшчэ ня спыняецца.

II. *Кнігі для школ.* №№ 6, 7, 8, 10, 11, 20, 24, 25, 26, 27, 29, 30. Усяго дванаццаць назваў васьмёх розных аўтараў і рознага зьместу; агульны лік страніц—1608 (!!). Кніг для чытаньня у школе дзьве—Лёсіка і Некрашэвіча; разразная азбука, лемантар Некрашэвіча; па матэматыцы—чатыры: Валасковіч і Лукашэвіч, Круталевіч, Цыгельман; па граматыцы—тры: Лёсік, Тарашкевіч; па гісторыі беларускае літаратуры—адна: праф. Янчука. З гэтых кніг асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы: з чатырох—тры з іх арыгінальныя: Арытмэтычныя задачнікі Валасковіча і Лукашэвіча—першыя задачнікі ў беларускай мове, ня тлумачаныя з чужога—і першая арыгінальная «Альгэбра» Круталевіча. Апрача таго, адзначаецца сваёй навізной першая „Беларуская разразная азбука“. Зьвяртае на сябе ўвагу так сама «Беларускі лемантар», вельмі багата ільлюстраваны. Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла і кніга праф. Янчука „Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры“. А „Практычныя граматыкі“ Я. Лёсіка ужо зрабіліся незаменнымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна, які захоча акуратна пазнаць і вывучыць сваю мову.

III. *Кнігі агульна-навуковыя і крытычныя.* №№ 9, 17, 33. Усяго тры назвы трох розных аўтараў; лік страніц—292. Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць „Мэтодыку арытмэтыкі“ Лукашэвіча і Валасковіча, якая ўкладзена паводле самых навейшых навуковых досьцігаў і якая павінна стацца незаменнай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытмэтыку. № 17, гэта—першы выпуск Інстытуту Беларускае Культуры: Беларуская навуковая тэрміналёгія. Элемэнтарная матэматыка. Хаця ў гэтай кніжцы і зьмешчаны тэрміны па *элемэнтарнай* матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элемэнтарны: вельмі ўжо многа гэтых тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся—іх толькі перапісалі беларускімі літарамі, напр.: на расійскай палавіне слоўніка стаіць: *Абсциса*, *Факториал*, на беларускай—*Абсцыса*, *Фактарыял*. А ня шкодзіла-б ужыць крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы, якія нічога ня кажуць ні розуму ні сэрцу, болей зразумелымі беларускімі наватворамі—было-б і прасьцей і мілагучней. Трэцяя кніжка—гэта крытычны нарыс У. Ігнатоўскага: „Матывы лірыкі бел. песьняра М. Чарота“. На гэты нарыс зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была прыслана

і надрукавана ў сваім часе ў расійскай газэце „Звезда“ напісаная т. Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.

IV. *Беларускія песьні з нотамі.* № 28. Гэта—сьпеўнік Тэрраўскага „Лірнік“. (92 стр. 99 песьняў). Кніжка такая вышла вельмі на часе. Усе, надрукаваныя ўперад сьпеўнікі з нотамі разышліся, а запатрабаваньне на іх вялікае, і «Лірнік», бязумоўна, хутка разойдзецца па Беларусі са сваімі й смутнымі й вясёлымі песьнямі.

V. *Кнігі па сельскай гаспадарцы.* № 12. Усяго адна кніжка і тая маленькая, усяго 16 страніц малога разьмеру. Гэта—„Кармавыя расьліны—Сэрадэля і Пялюшка“. Наша старонка не фабрычная, а земляробная, і наш Камісарыят Земляробства абавязан ня спаць у шапку, а падумаць аб тым, каб поўнасьцю задаволіць літаратурай аб сельскай гаспадарцы нашых земляробаў—фабрыкантаў хлеба й сала. Асабліва гэта ня трудна зрабіць цяпер, калі маем Інстытут сельскай гаспадаркі, дзе выкладаюць навукі прафэсары не абы якія—эўрапэйскай павагі. Трэба спадзявацца, што гэтыя прафэсары дадуць нам агульна даступную сельска-гаспадарчую літаратуру для беларускага селяніна, бо не пабяжыць-жа ён пытацца кожны раз у Інстытут, як, што і дзе лепей сеяць, як гадаваць жывёлу і г. д.

VI. *Часопісі.* №№ 13, 14, 15, 16, 18, 19, 31. Усяго выходзіла або пачало выходзіць у мінулым годзе пяць розных пэрыядычных і непэрыядычных журналаў і зборнікаў. Лік надрукаваных рознага разьмеру страніц—706. З паміж гэтых журналаў і зборнікаў перастала выходзіць у сьвет з тых ці іншых прычын чатыры, засталося адно „Полымя“, якое чытач мае перад сабой і аб вартасьці якога няма патрэбы мне гаварыць. З паміж перастаўшых жыць часопісяў трэба пажадаць, каб як найхутчэй першым чынам уваскрэсьлі „Зоркі“—ядыны журнал для беларускіх дзетак. Трэба спадзявацца, што наша руплівае выдавецтва „Савецкая Беларусь“ сёлета аб гэтым не забудзецца.

VII. *Штодзенныя газэты.* № 35. Гэта—«Савецкая Беларусь», ядыная цяпер на сьвеце штодзённая беларуская часопісь. Вышла за мінулы год 145 нумараў у чатыры старонкі і 145—у дзьве. Усяго 872 стр. Выдае газэту Ўсебеларускі Выканаўчы Камітэт Саветаў. «Савецкая Беларусь» з кожным днём робіцца цікавейшай і сваім інформацыйным зьместам і сваімі артыкуламі на розныя тэмы. Трэба толькі пажадаць ёй, каб меней цікавілася панскай Польшчай, а болей зьвяртала ўвагі на Работніцка-Сялянскую Беларусь, бо, папраўдзе, ў іншым нумары за белай Польшчай ня відаць жыцьця чырвонай Беларусі.

VIII. *Беларускае слова ў расійскіх часопісях.* № 32. Ядыная бадай расійская краёвая часопісь, якая друкуе артыкулы й пабеларуску, гэта—«Вестник Комиссариата Народного Просвещения С. С. Р. Б.» У шасьці надрукаваных за мінулы год выпусках «Вестник» удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства. На вартасьці надрукаванага ў «Вестнике» беларускага матар'ялу затрымлівацца ня будзем, бо гэта ня ўходзіць у наша заданьне; адзначу толькі, што пара ўжо «Вестнику» *Беларускага* Камісарыяту Асьветы абеларусіцца зусім. Але ўсё-ж такі дзякуй і за гэтыя старонкі, якія так адважна друкуе ў сябе тутэйшы «Вестник». Некалькі вершаў пабеларуску надрукавала і другая расійская тутэйшая часопісь «Юный Пахарь». Адзін толькі *Беларускі* Дзяржаўны Універсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну: выпусьціў за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх «Трудов», але пабеларуску ў іх ні слова.

Цяпер некалькі слоў аб нашых выдавецтвах. Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар'ялу й друкаваньні, як бачым з вышэй памешчанай табліцы, аказаліся бышы Навукова-Літаратурны Аддзел

пры Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва «Адраджэньне»—цяпер «Савецкая Беларусь».

Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў рознага зьместу рукапісаў; выхлапатаў матар'яльныя сродкі і зарганізаваў выданьне беларускіх кніг за граніцай. Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданьне як найлепей. Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.

Наладжанае ў красавіку мінулага году Коопэрацыйнае В-ва «Адраджэньне» шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці. Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі і ў працягу некалькіх месяцаў вышла ў сьвет 15 кніг, лікам страніц 1950 (121 друк. арк.). Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках, бо Поліграфаддзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасьць шрыфтаў і наборшчыкаў, пры тых перашкодах і няміласьцях, якія прыходзілася й прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго няпрыхільнікаў,—такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці «Адраджэньня» быў проста гэраічным. Шмат дапамагло гэтакай насьпешнай працы тое, што галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз, якія ўсімі сіламі дапамагалі выдавецтву матар'яльна. Апрача таго, супрацоўнікамі в-ва зьявіліся тыя людзі, якія, казаў той, працавалі не за страх, а за совесьць. І разумеецца, рэзультат працы нязвычайны. Цяпер на мейсцы «Адраджэньня» беларускую выдавецкую справу ў складзе тых самых супрацоўнікаў і з такім-жа пасьпехам вядзе В-ва «Савецкая Беларусь».

З іншых выдавецтваў прыходзіцца ўспомніць Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва—«Госиздат», якое за ўвесь год вымучыла дзьве кніжачкі—абедзьве разам $6^{3}/_{8}$ друк. арк. Паглядзім, што зробіць у гэтай справе «Белтрэстдрук», які паўстаў ад жаніцьбы Госиздата з Поліграфам. Побач з Госиздатом дрэмле й наша «Палітпрасьвета», якая надрукавала пабеларуску, як-бы адчэпнага, чатыры лістоўкі (№№ 36, 37, 38 табліцы)—і ўсё тут.

Абагульняючы ўсё сказанае а беларускай выдавецкай справе за мінулы год, трэба адзначыць, што зроблена вельмі многа. Прывяду рэзультат маленькай цыфровай спраўкі. З вышэй памешчанай табліцы мы бачым, што агулам надрукавана 268.050 кніг у ліку 2.036.527 друк аркушаў. Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы; лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стапу, атрымаем 2650 пуд., г. ё. каля трох вагонаў беларускіх выданьняў. І вось гэтыя сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб навучаць там і будзіць беларускую прыспаную думку да сьветлага радаснага беларускага і агульначалавечага жыцьця.

І трэба нам помніць тое, што гэта вялікая, культурная і творчая беларуская праца, якую мы змаглі зрабіць за мінулы год, зроблена ў Беларусі *Савецкай* і пры дапамозе Ўлады *Савецкай*.

**Ів. Луцэвіч.**

Менск 14/1—23 г.

# Белы дом толькі журыцца*)...

**(Аб «Босыя на вогнішчы» і аб меншавіцкіх акулярах).**

Успамінаю цяпер гэту памятную мінуту, калі год таму назад М. Чарот, толькі—толькі вярнуўшыся пасьля галадоўкі з Масквы, зайшоў у рэдакцыю «Савецкай Беларусі» і перадаў мне рукапіс «Босыя на вогнішчы».

Я пачаў чытаць. Быў заняты бягучымі справамі, але ня мог адарвацца, пакуль ня скончыў яе. Як зачараваны, я пачаў чытаць і зноў і йзноў. Захапляўся агнявым пафосам паўстаньня, маладым задорам паэмы.

— Новы твор, зусім новы твор,—думаў я. Зусім *не падобны* да ўсёй мінулай беларускай літаратуры...

— О, Беларусі, маладой рабоча-сялянскай Беларусі, сьмялеюшчай Беларусі толькі такія творы і патрэбны!

Ёй патрэбны людзі моцныя духам і целам,—людзі, якія ведаюць, чаго яны хочуць, людзі, якія ня хнычуць аб мінулым «шчасьці», ня марадь і снуюць, як цені, а пяюць гымн новы, магутны, гымн паўстаньня...

Успамінаю, што ў той-жа дзень я з Чаротам быў у т. Ігнатоўскага й між дзелам падсунуў яму рукапіс нібы то для прагляду. Я ня верыў свайму ўражаньню. Паэма мяне ашаламіла й мне хацелася пабачыць, якое ўражаньне яна зробіць на нашага паважанага першага крытыка «Босых на вогнішчы». т. Ігнатоўскі пачаў чытаць і так сама, як і я, забыўшыся аб бягучых справах, дачытаў яе адным махам да канца.

— О, гэта рэч! сказаў ён і моцна са шчырасьцю патрос за руку нашага песьняра...

Для мяне стала ясна, што я не памыліўся, што беларуская літаратура запраўды атрымала ў сваю скарбніцу першы твор, дастойны вялікага рэвалюцыйнага часу й рэвалюцыйнай Беларусі.

Надрукаваная ў акцябрскім нумары „С. Б.“ паэма „Босыя на вогнішчы“ зразу зьвярнула на сябе ўвагу; камуністы сустрэлі яе вельмі прыхільна. Т. Кнорын вітаў песьняра з пасьпехам. На агульным сходзе камуністаў паэму чытаў сам аўтар.

На старонках «Звезды» той-жа паважаны тав. Кнорын ахвераваў «Босым на вогнішчы» невялічкі крытычны артыкул... Але ня толькі камуністы зацікавіліся паэмаю. Настаражылі вушы і тыя, пра каго Чарот крыкнуў:

— „Пявун не прапяяў тры краты,
Вы адракліся... Супастаты!“

---

*) Глядзеце Полымя № 1, стр. 51. артыкул З. Жылуновіча «Аб крытыцы «Босыя на вогнішчы і аб самых «Босыя на вогнішчы».

— Усё добра,—казалі яны.--Паэма напісана з талентам. І форма і, нават, зьмест нішто сабе, але нашто ён напісаў гэта... пра нас.

Строгія крытыкі напэўна пачынаюць рукамі разводзіць.

— Да гэтага нейкія ўспаміны. І пры чым тут меншавіцкія акуляры? Прабачайце, сябры. Ёсьць адна старая, досыць добрая прымета.

Кажуць, што першаму ўражаньню трэба больш верыць... Яно не ашукае... І вось і я, як толькі ня мог сьцярпець гвалтаў над паэмаю і парашыў выступіць на яе абарону,—проста прыпомніў, *хто* і *як* яе сустрэў.

Прыпомніў, каб хоць трошкі падмацаваць сябе проці цяжкае «марксіцкае" артылерыі З. Жылуновіча. Зусім ня думаю спрачацца з тымі, хто глядзіць на паэму праз меншавіцкія вочы й якім не памогуць ніякія лекі, бо будуць вечныя калекі; зусім ня буду касацца формы, якія нашых паважаных крытыкаў ня цікавяць... Буду гаварыць толькі аб зьмесьце паэмы. Толькі зьмест мяне будзе цікавіць. Буду гаварыць толькі проці тых, хто „сваіх не пазнаша" і глядзіць на паэму, маючы бальшавіцкія вочы праз меншавіцкія акуляры.

Шкадую, вельмі шкадую, што мне ня прышлося быць на вечары ў клюбе Карла Маркса 3-га студзеня. Кажуць, што «Босыя на вогнішчы» там ізноў крытыкаваліся і З. Жылуновіч зьняў з іх апошнія пролетарскія порткі... Дзякуючы гэтаму, яму ўдалося перацягнуць на свой бок шмат каго і нават... паважанага т. Вайнэра.

Для характарыстыкі гэтага цікавага вечара прывяду цалкам выпіску з адчоту Шукевіча-Трэдзьякова аб гэтым вечары (глядзеце «Литературное приложение к газете Звезда» № 1, ст. 14.—«*Общий язык найден*»).

«А позднее, когда начались прения по поводу прочитанной Мих. Громыкой своей поэмы «Гвалт над формай» и критики поэта Цишки Гартного поэмы М. Чарота «Босыя на вогнішчы», в которых приняли участие ряд писателей и культурных работников, получилась любопытная картина: коммунисты «блокировались» с беспартийными против „блока" других беспартийных с коммунистами.

Шукевич ополчился на Жилуновича, Смолича и Лесика; И. Вайнер — солидаризировался с Я. Лесиком против Шукевича; Дыло не согласился ни с Лесиком, ни с Жилуновичем. Чаржынский громил Громыко, Балицкий— Ц. Гартного, Розенблюм—также и т. д.

Чему же научил нас первый вечер?

Что старые белорусские деятели „Адраджэньня" и революционные марксисты в состоянии найти общий язык. Они нашли его на устной дискуссии».

Адным словам „милые бранятся—только тешатся". А „общий язык", як відаць быў толькі ў тым, што у нашага маладога паэты Чарота «чуб трашчаў».

Як відаць становішча „Босых» стала дрэннае. Прыймаючы гэта пад увагу, хочаш ня хочаш, а трэба брацца за пяро—абараняць іх.

## Хто такія «босыя»?

Перш за ўсё—умова! Каго мы павінны разумець пад босымі?

З. Жылуновіч тлумачыць проста, літаральна. Ён кажа, што палітычная эканомія мае на вучоце такі стан людзей. «Гэта люмпэн—пролетарыят, плён фабрычна-заводзкіх раёнаў капіталізаванае краіны». Але сам-жа Жылуновіч прызнае, што такіх рэвалюцыя на Беларусі ня бачыла. Ну, дык хто-ж такі «босыя»?—„У нашым выпадку гэта толькі гэроі блёкаўскіх «Двенадцати», кажа ён; гэта хуліганы, драпежнікі, галадранцы, як кажуць украінцы, санкюлоты, як кажуць французы. Прабачайце, тав. Жылуновіч. Я лічу та-

кое тлумачэньне вельмі вольным. Перш за ўсё Чарот не палітыка-эканом, а мастак. Ён карыстае багацьці беларускае мовы. А ў беларускай мове пад словамі «босыя», «басяўкі» разумеюць наогул бедных людзей: фабрычных рабочых, батракоў—усіх, у каго няма ні кала ні двара. Заможны селянін празывае беднага селяніна так сама «басяўкай». Гэта на нашай мове, як бачыце, зусім ня люмпэн—пролетарыят і, нават, не дэмабілізаваныя салдаты. Гэта—працоўны люд. І ў Чарота яны працуюць:

На вогнішчы людзі
Жывуць босымі...
*Працуй* на пана,
*Працуй* на падпанка.

І палітычная эканомія мае на вучоце такую катэгорыю людзей (калі ўжо трэба цягнуць сюды палітычную эканомію). Гэта ў першую чаргу нашы жывыя беларускія пролетары, аб якіх гаворыць і наш крытык. Гэта ляхаўскія гарбары, барысаўскія лесапільшчыкі. Гэта нашы дрэваабдзелачнікі, пішчавікі, чыгуначнікі. Гэта не адцягненыя пролетары, а нашы жывыя, на якіх трымаецца сучасная Беларусь.

Потым гэта—вясковае батрачаства местачковыя падмайстэр'і, малазямельныя і безьзямельныя сяляне. Яны прымушаны шукаць себе працы ў заработках: у пана, у падпанка, у гандляра на плытох і г. д., г. д. Такім чынам пад „босымі“ мы павінны разумець усю гэту шматлікую катэгорыю людзей Беларусі, якой жывецца цяжка, якія прыгнечаны, эксплёатуюцца.

„Эх, жыві, як папала...

Гэта не галадранцы, якія хочуць пажывіцца целам забітых ваякаў, а ўся тая шматмільённая маса людзей, якая была прыцісчута прэсам царызму, капіталізму, абшарнікаў і якая стогнам стагнала. У недрах гэтай масы і да рэвалюцыі жыў глухі, несьвядомы пратэст супроць панства. Асабліва-ж гэты пратэст пашырыўся за часы вайны. Аб гэтым і піша наш Чарота:

„Няўжо-ж гэтак і будзе?
„Свой уласны дар
„У чужых просім мы...
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .
„Ну й ёсьць-жа людзям ахвоты?
„Крыжам-бы іх каля плота,
„Ды—трах!
„Які тут страх?!
„А ты маўчыш... . . . . . .

Гэта—парахавая бочка, якая ўспыхне полымем. Трэба толькі іскра, якая загарэлася на ўсходзе...

### Паэма «Босыя на вогнішчы»—
### —гымн ядынаму рабочаму фронту.

Ці можа паэт індывідуаліста, сымболіста зразумець пафос паўстаньня? Ці можа ён захапіцца, зьліцца з ім у адно? Ці можа ён пець гымны рэвалюцыі, жыць яе агнём?

Не. Ня можа.

А Чарот зразумеў, зьліўся з паўстаньнем. Чарот—ня Блёк. Блёк сымболіста, індывідуаліста, містык. Чарот адкрыты рэвалюцыянэр. Проста кажа. Кажа тое, што кажуць мільёны.

Мы—дзеці краіны, дзе бура бушуе...
Ма на прадвечных руінах
Працы палац пабудуем..

. . . . . . . . .

або:

Даёш Варшаву!?
Нам ня трэба гарады:
Волі сьцяг нясём туды...

. . . . . . . . .

або:

Пану даволі служыць—
Вось наша заданьне!

або:

Давайце ўсе разам змагацца,
Покуль ня зьнішчым старое.

Чарот—ня Блёк. Пра сваіх „босых“ ён кажа, што „яны—байцы вялікай раці“. Ён кажа, што бацькаўшчыны у буржуазным сэнсе ў іх няма. Яны пролетарыі. „Іх хата там, дзе ёсьць простор“, там дзе паўстаньне, барацьба. Іх радзіла „ня воля—крыўда“. „Ідуць яны да сонца, зор“. За імі йдзе, хто голы, босы, у пакуце жыў хто цэлы век. А белагвардзейшчына беларуская праз іх так адзываецца:

„Йзноў мы безгалосыя,
І цярпі, як сабака шалёны.
Ўласьць ўсю забралі босыя.
А іх тут— *мільёны*!“

Іх тут мільёны. Яны—паўстаўшая грамада, а не зладзеі...

І я цяпер запытаю ў паважанага крытыка т. З. Жылуновіча, мела ці ня мела ўся гэтая шматмільённая маса права на паўстаньне? Праўда, ня ўсіх іх, гэтых «босых», можна назваць пролетарыямі й, нават, паўпролетарыямі. Шмат сярод гэтай басаножы і сялянства, якое жыло ў нечалавечых умовах жыцьця і якое раптам паўстала і ўтварыла ядыны бурны, стыхійны фронт з рабочымі супроць паноў...

І я яшчэ запытаю, атрымаў-бы ці не атрымаў перамогу піцерскі, маскоўскі іванававазьнесенскі пролетарыят, каб яго не падтрымала гэта «басанож», якая паўстала у імя свайго сьвятога права на лепшае, чалавечае жыцьцё.

«А для жыцьця мала
«Аднаго толькі хлеба!

Тым і пролетарская паэма „Босыя на вогнішчы“, што яна ў кароткіх, выразных, вобразных, рашучых словах сьпявае гымн гэтаму ядынаму фронту ўсходу й захаду, пролетарыя з селянінам...

А ўспомніце, што нядаўна, на 4-м годзе Саветаў. гаварыла сялянства, бяднейшае сялянства Беларусі аб Саюзе Савецкіх Рэспублік, аб ядыным фронце селяніна беларускага з рабочым беларускім, аб саюзе ўсходу й захаду... Полымя рэвалюцыі палае, сьвяты агонь рэвалюцыі не патух, зага-

рэўшыся ў 1917 годзе. Гэтыя масы шматмільённыя, што раней змагаліся ў Чырвонай Арміі, а цяпер творац патроху, як могуць, „сьвет новы, дзень новы". дастойны таго, каб быць васьпетымі, каб здабыць сабе славу нл толькі ў паэме „Босыя на вогнішчы», якая зьяўляецца першаю й покуль што адзінаю паэмаю арганізаванага паўстаньня на Беларусі.

Чарот тым і пролетарскі паэта, што ён з масамі. Нават болей. Тым ён і паэта—камуніста, што ён зразумеў вялікую мудрасьць пролетарскай барацьбы, ядынага пролетарскага фронту. Зразумеў сэрцам сваім і даў усяму гэтаму мастацкі, захоплячы выраз. А саюз з сялянствам? Чыя гэта ідэя, ініцыятыва, калі ня чыстай вады пролетарыя, сьвядомага пролетарыя, які кіруе сялянскімі масамі, які павінен кіраваць імі.

Давайце ўсе *разам* змагацца—

Кліча Чарот, клічуць «Босыя» разам з камуністамі, разам з пролетарыямі, якім трэба дапамога сялянства. І йдуць. Ідуць за імі ўсе, «у пакуце жыў хто цэлы век»...

Чарот болей пролетарскі паэта, чым тыя паэты букваеды, што на кожным кроку крычаць: «пролетарская культура! пролетарская культура! «Дешево и сердито! дешево і сердито!»

Далой пролетарскае паэзачванства, пустую баўтаўню і таўкатню вады ў ступе! Дайце пролетарыю тое, чаго ён хоча, што яму патрэбна.

І Чарот дае. Дае са шчырасьцю і не падкрэсьлівае, ня бурчыць на кожным кроку, як дзяцел, „я пролетары! я пролетары!»

## Пытаньне тэррору.

Пяройдзем цяпер да тых прыкладаў, якія т. Жылуновіч бярэ з паэмы, каб даказаць сваю думку. што „Босыя на вогнішчы» гэта—проста зладзеі, „крымінальнікі, каторыя ў рэвалюцыі граюць ролю драпежных птушак, прылятаючых на збройнае поле, каб пажывіцца целам забітых ваяк». Наш крытык выхватвае з 20-й песьні такія словы:

Каго зловіш—разарві!
«Хто ня наш —таго даві!

і кажа, што сьвядомы рэвалюцыянэр ня меў і ня мог мець такога лёзунгу. А я скажу, што ў т. Жылуновіча памяць кароткая. І меў і можа мець! Калі рэвалюцыі пагражала сьмяртэльная небясьпека ад белагвардзейшчыны, то рабочыя і сялянства, наша «басанож» благаслаўляла рабочую ўладу на масавы чырвоны тэррор і актыўна дапамагала ёй у гэтым. Успомніце лёзунг т. Бухарына, які заклінаў усіх рабочых стаць чэкістамі пасьля катастрофы ў Лявонцьеўскім перавулку ў Маскве; успомніце бандытызм, успомніце настроі рабочай клясы ў часы сабатажу інтэлегэнцыі, пасьля таго, як ранілі т. Леніна і забойства Валадарскага й Урыцкага. Успомніце нарэшце папулярную сярод нас і камсамольцаў песьню—«Карманьолу», у якой прапануецца ўсіх буржуяў на фанары ўзьдзёрнуць, і якая канчаецца такім прыемным для буржуазіі прыпевам:

«Живей, живей, живей, живей!
Хватило-б только фонарей!»

На пытаньне тэррору й грамадзянскай вайны наогул ня прыстала нам глядзець праз акуляры пасыфізму, ад якіх аддае меншавізмам. Трэба добра памятаць выразны верш З. Гіппіус, якая рыхтуецца:

«Повесить вас в молчаньи».

А Чарот бальшавік, у яго пролетарская рука, пролетарскі пагляд, пролетарскі вобраз. Ён лічыць, што можна выкінуць такі лёзунг, тады, калі

Ідуць яны... Іх рукі, ногі
У крыві... Пякуцца на агні...
— Куды бягуць яны дарогай,
Дзе страшна ехаць на кані?..

Яны хочуць «пакуты крыж Чырвоным крыжам змагчы, і ў трудную мінуту, у мінуту небясьпекі яны не пакідаюць надзеі, яны на ўдар ворага адказваюць двайным ударам і двайным вершам.

Хто ня наш—таго даві...
Каго зловіш (ворага)—разарві!»

Іначай ён зробіць з табою тое-ж самае.

Для ўсіх меншавікоў і хто правей іх дваццатая песьня «Босых на вогнішчы», якую-б я назваў песьняю Чырвонага масавага тэррору—гэта песьня злдзейская.

А для рабочых і для сялян—гэтая песьня была ў свой час патрэбна, хоць яна і ў крыві ўся. Адна ўцеха, што ў варожай!

Няма чаго, т. Жылуновіч, заракацца і пляваццa ў калодзеж, з якога ваду п'еш.

* *
*

**Не мазурку-ж скакаць...**

«Для босых рэвалюцыя—чужая; яны ня здатны падняцца да настрою запраўдных пролетарыяў—рэвалюцыянэраў; босым незразумела сьвятое абурэньне супроць жыцьцёвага прыгнёту». Ім

Жыць не ахвота.

Ну, выбачайце, тав. крытык. Тут я на вас проста абураны, бо вы падтасавалі. Адчыняйце 19 стр., песьня 13. Вы бачыце такія вершы:

Застагналі вёскі, сёлы.
Брычка стаіць ля сьвятлічкі;
А горад схаваўся у касьцёле,
Моліцца, чытае кантычкі...

А што-ж загадаеце вы рабіць босым? Можа мазурку скакаць пры панскай уладзе?! Толькі вар'ят можа гэтага чакаць, бо

Босым холадна,
Абутым голадна.
Жыць не ахвота...

Масы наогул так сябе адчувалі і чакалі прыходу чырвоных. Чарот тут тады сядзеў і добра ведае настроі сялянства і рабочых. Ён не фальшывіць і разам з імі. Ён тут найпраўдзівейшы рэаліста.

**Адступаем. Не дадзім ахвотаю Новай зямлі.**

Ідзем далей. «Босыя, гэта—ахвяры сацыяльных адносін між станамі, людзі пераможаныя, сышоўшыя з дарогі змаганьня. Яны стараюцца па магчымасьці выскаўзнуць з-пад агню адкрытай барацьбы":

Калі на вогнішчы стала пячы,
На вуліцы вецер, бура...
— Трэба уцячы,
Каб была цэлая скура—
А мы босыя адступаем.

Выбачайце йзноў, тав. крытык. Тут вы проста ня ўчыталіся, не зразумелі тэксту паэмы і прыпісалі босым тое, чым яны не хварэюць. Я павінен зусім іначай растлумачыць гэтую дванаццатую песьню паэмы... Растлумачыць так, як яна ёсьць.

Уцякаюць і скуру сваю ратуюць зусім ня босыя, а прымазаньнікі, мяшчанства наогул.

А босыя гавораць нешта іншае.

А мы босыя адступаем...
Не дадзім ахвотаю Новай зямлі.
«Таварышы, страляем!
Ротаю!..
Плі!..

Проста паважаны крытык, не паглядзеўшы ў сьвятцы, і бухнуў у звон.. Босыя ў выпадку няшчасьця і няўдач, як бачыце, зарганізаваны, дружны, як адзін:

Ротаю! Плі!

Але ня ўсе могуць адступаць, а толькі невялічкая частка ўзброеных. Усе-ж, хочаш ня хочаш, павінны заставацца. Бо ня можа-ж адступіць уся зямля з чырвонымі... Яна адчувае сябе дрэнна, але зьвязана моцна з тымі, хто ўцёк.

Босыя патыліцу чухаюць,
Пазіраюць праз плот,
У кулак плачуць:
— Бач, нашы паўцякалі,
Куды дзявацца нам?

Тут Чарот дае нам праўдзівы рэальны нарыс настрояў рабочых і сялянства, якія прымушаны разьвітацца з сваёю ўладаю, з сваімі людзьмі, арганізаванымі ў Чырвоную армію, у рэўкомы, у партыю.

Тут зусім няма таго, што хоча падкрэсьліць наш крытык, які так няўдачна і скандальна нахлусіў пра босых, ня ўдумаўшыся, нават, у зьмест песьні.

**Белы дом.**

Нарэшце пару слоў не пра нашага крытыка, а пра «Белы дом, які журыцца». Прашу не сярдаваць на мяне, бо тое, пра што скажу,—«дела давно минувших дней, преданья старины глубокой.» Усё гэта даўно палыном парасло і не са злосьцю, а выключна для абароны „Босых“ павінен іначай растлумачыць песьню дзесятую (ст. 15) паэмы, якая дала повад т. Жылуновічу сказаць што „гэтыя рэвалюцыянэры“ (значыцца—босыя) ня толькі ня могуць змагацца; яны, нават, *ня ведаюць* сваіх заданьняў ды ня ўцямяць, хто яны:

А як-жа? Кім будзем звацца?
Як-жа будзе вось гэта ды тое?
А на сходзе, дык
Пасылаюць к..... мацеры.

Апошнія словы, праўда, гаварылі босыя. Зусім згодзен і разам з крытыкам і з усімі інстытуткамі магу нібы то спалохацца і ўскрыкнуць: «Ах, какое скверное выражение!» Але адкуль вы ўзялі т. Жылуновіч, што «Босыя» *ня ведаюць* сваіх заданьняў і пытаюцца, хто яны, як ім звацца, як будзе вось гэта ды тое...

Памойму, дык гэта гаварылі зусім ня босыя, а «Белы дом». Бяром, паважаны крытык, паэму, адчыняем ст. 15-ю і чытаем песьню дзесятую:

Белы дом толькі журыцца:
Ня йдуць туды на сход...
Чытаюць адны пацеры—
У бога пытаюць, як быць?
А босыя на сабраньні
Пасылаюць к... мацеры.
*Пану даволі служыць—*
*Вось наша заданьне!*
—А як-жа? Кім будзем звацца?
Як-жа будзе вось гэта ды тое?
*—Давайце ўсе разам змагацца,*
*Покуль ня зьнішчым старое!*
Змоўклі яны, ні слова.
Чакаюць другога адказу...
Толькі шэпчуць, стуліўшы галовы:
*Паслаў бог бальшавіцкую заразу...*

Я, напрыклад, ня чуў яшчэ праўдзівага тлумачэньня гэтае дзесятае песьні. Для мяне «Белы дом» дык гэта добра ўсім знаёмы дом на Захараўскай вуліцы, дзе цяперака красуецца вывеска «Беларуская Дзяржаўная бібліятэка». Там адбываліся раней, пры нямецкай акупацыі «гістарычныя», клясычныя камэдыі беларускай гісторыі. У юбілейным доме сядзелі і некаторыя з новых „пролетарскіх" крытыкаў, якія далучыліся на дыскусыйным вечары ў клюбе Маркса да т. Жылуновіча, чаму я вельмі рад. Там часам, як «Белы дом» гаманіў і шумеў, у Нямеччыне страслася рэвалюцыя—белыя сталі наступаць на Менск і забралі яго ў свае лапы. І тады «Белы дом» прыціх. Ня йдзе туды больш ніхто на сход. Толькі шэпчуцца паціху: «Паслаў бог бальшавіцкую заразу!» Клерыкалы, правая частка сядзіць дома і чытаець пацеры, у бога пытае, як быць. Левая-ж частка абітацеляў «Белага дому»—з прыходам чырвоных «босых» гатова прыстаць да іх, але пытаецца, прыстае з нажом к горлу:

«А як жа, кім будзем звацца?

А як-жа будзе вось гэта ды тое? Яны блізарукія. Праз свае меншавіцкія эсэраўскія акуляры яны ня бачаць клясавай барацьбы ў інтэрнацыянальным абхвадзе. Нацыянальнае пытаньне зацьміла ім галавы. Яны запытваюць чырвоных пра тое, якая будзе Савецкая Беларусь—як «залежная», ці «незалежная», ці можа якая іншая. Янка Купала пра гэтых інтэлегэнтаў піша тое-ж самае, што і Чарот.

Сягоньня мы жывем і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асьляпляючаю нас,
*І што сказаць самім сабе і людзям—*
*Ня ведаем, ня можам, хоць і час.*

. . . . . . . .

Там чутна „Беларусь!“ там—„незалежнасьць“,
А там—„паўстань, пракляцьцем“ Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня... разьбежнасьць...
Бяз толку крыльлем хлопаем, як цьмы. (Перад будучынай).

Параўняйце гэтыя словы з кароткім, выразным памфлетам Чарота аб «Белым доме». Сэнс іх адзін.

Розьніца паміж Чаротам і Купалам тая, што Купала не знаходзіць покуль што адказу на свае запытаньні, а Чарот знаходзіць.

Ён проста адказвае. Ён разам з «босымі»—чырвонымі:

Пану даволі служыць—
Вось наша заданьне!

. . . . . . . .

Давайце *ўсе разам* змагацца,
Покуль ня зьнішчым старое?...

Вось што гавораць босыя. І тут мне здаецца тлумачыць доўга ня трэба, бо гэтае тлумачэньне праўдзівае.

Вось і ўсе тыя снарады, якія выпусьціў т. Жылуновіч, каб даказаць, што з «Босых на вогнішчы» трэба зьняць пролетарскую вопратку і надзець хуліганскую, як бачыце, сябры крытыкі і паважаныя чытачы, ўсе гэтыя снарады набіты ня порахам, а... гарохам. Можна было-бы прывясьці яшчэ шмат, шмат прыкладаў з «Босых», якія нам гавораць аб тым, што паэма—гэта малюнак з вялікай пролетарскай рэвалюцыі на Беларусі, як праўдзівы, рэальны адбітак, а не сымболістычны, індывідуальны твор Чарота.

Падвядзем вынікі. Паэма «Босыя на вогнішчы» гэта—паэма ядынага рэвалюцыйнага фронту, які кіруецца камуністамі. З гэтага боку яна зусім *вытрыманая у пролетарскай ідэолёгіі паэма*. Пясьняр быў настолькі паэтам масавым, паэтам паўстаньня, што не забыўся, нават, і адсталых кабет, пра якіх так сама праўдзіва напісаў:

Зюзюкаюць бабы пaціху:
Цяпер мо' і нам добра будзе—
Забудзем бяду ўсю і ліха.

Няхай не сярдуе на мяне З. Жылуновіч, калі я скажу, што ён не зразумеў у паэме самага галоўнага—пафосу ядынага фронту ў часы грамадзянскай вайны, а пабачыў у босых тое, што бачаць меншавікі—«зладзеяў». Пад вывадамі яго крытыкі паднімецца любы ня толькі меншавік, а, нават, любы белагвардзеец, абы толькі накінуць цень на нашага маладога песьняра, згвалтаваць, апаганіць вялікі мастацкі твор нашага рэвалюцыйнага часу і яго героў—«босых», *якіх мільёны*, і якія маюць права паўстаць і спаліць стары сьвет, зламаць яго, зрабіць з яго вогнішча, а замест старога сьвету пабудаваць «сьвет новы, працы палац».

**М. Маразоўскі.**

# Краяведаньне і Універсітэт у Савецкай Беларусі.

Агульна ведама, як далёка стаяла школа перадрэвалюцыйных часоў ад жыцьця, як мала клапацілася аб яго патрэбах. Гэта асабліва выяўлялася ў занядбаным палажэньні краяведаньня, справы навуковых дасьледаў прыроды, экономікі, гісторыі і г. д. пасобных краінаў. Рэзультатам гэтага занядбаньня было тое, што вялікія прыродныя багацьці Расіі застаюцца і дагэтуль ня толькі нявыкарыстанымі, але і нязьведанымі; гэта-ж у свой чарод адбіваецца і ў слабым разьвіцьці прамысловасьці і наогул вытворчасьці народнае працы. Такое палажэньне мысьліма было пры панаваньні жмені эксплёататараў: свае зыскі яны атрымлівалі як з сытага працаўніка, так і з галоднага, як пры высокай прадукцыйнасьці працы, так і пры нізкай. Іначай да справы адносіцца пролетарыят, узяўшы ў свае рукі ўладу. Ён зацікаўлены ў максімальным выкарыстаньні сілаў прыроды, у максімальнай прадукцыйнасьці працы, бо гэтым дасягаецца дабрабыт працаўніка, прысьпяшаецца эканамічная эволюцыя, ствараюцца належныя варункі для поўнага зьдзейсьненьня сацыялістычнае гаспадаркі.

З гэтае-ж прычыны са дня перамогі пролетарскае рэвалюцыі пачаўся пышны росквіт краяведаньня ў Расіі. У правінцыі, там паадчынялася шмат новых вышэйшых школаў, якія распачалі навукова-дасьледчую працу, пазакладалася маса краяведных таварыстваў, журналаў і г. д., зьявілася імкненьне асьвятліць навуковым дасьледам кожны закутак, кожны кавалак зямлі. Кіраўнічыя органы работніцка-сялянскае ўлады добра разумеюць, што толькі ў такой працы адзіны спосаб падняцьця вытворчасьці ўсяе старани. Географія фізычная і эканамічная, этнографія ды іншыя сумежныя навукі прыцягнулі да сябе ўвагу ўсяго сацыялістычнага грамадзянства. Школьныя праграмы Савецкае Расіі адводзяць географіі, як найбліжэйшай да жыцьця навукі, наймацней пашыраючай кругавід дзяцей, першае мейсца. У вышэйшых школах выкладаньне гэтае навукі пашыраецца і ўрэшце ствараецца ў Петраградзе спэцыяльная вышэйшая навукова-вучэбная установа—Географічны Інститут. У ва ўсім гэтым, апрача належнае дані пэдагагічнаму зканьню географіі, відно імкненьне даць шырокі размах разьвіцьцю краяведаньня, як асновы ўсякае эканамічнае дзейнасьці.

Здавалася-б, што ў нас, у Беларусі, краяведны рух павінен-бы быў асабліва яскрава выявіцца. Нязьведнасьць нашага краю—агульна-вядомы факт. Тады, як у цэнтрал[illegible] Расіі па 50 і больш гадоў працавала земства, праводзячы цэлы шэраг найважнейшых дасьледаў (успомнім хоць-бы дасьледы грунтоў, бюджэтныя і інш.), у нас нічога падобнага ня было. Толькі ў самыя апошнія часы пачаў зьбірацца масавы статыстычны матар'ял, але і той застаецца без навуковага выкарыстаньня. У рэзультаце мы аб сваім краі, яго прыродзе, багацьцях і ўсялякіх магчымасьцях, з іх выплываючых, ня ведаем

блізка што нічога. Бо ня можна-ж лічыць за навуковае знаньне тыя абрыўкі выпадковых ведамасьцяў, якія спатыкаюцца ў нямногіх, пасьвячоных географіі Беларусі, працах. Выходзіць, словам, так, што край, дзе мы жывём і жыць зьбіраемся, дзе дакладаем працу сваю, спадзяючыся, пэўна-ж, нейкіх рэзультатаў, край гэты застаецца для нас і дагэтуль краем нязьведаным.

Якім чынам стваралася гэткае дзіўнае палажэньне—зразумець лёгка. Царскі ўрад пазакрываў усе асяродкі навукі, якія істнавалі некалісь у Беларусі. Гэтым ня толькі была спынена навуковая работа самых школаў, але была выклікана эміграцыя адукаванае маладзёжы з Беларусі ўва ўсе канцы сьвету. Маладзёж наша ехала вучыцца ў чужыя месты дый там, у большасьці, скончыўшы школы, заставалася працаваць. У Беларусі тады было ўсё прыціснута; ня было наогул ніякага мясцовага культурнага жыцьця. Давяла гэтая царская палітыка да таго, што край наш, бязумоўна багаты, прыгожы, здаровы, стаў лічыцца на сьвеце беднай, неураджайнай пусткаю, гнілым і брыдкім балотам. І нічога дзіўнага. Ня было аграномаў, інжэнэраў, дасьледчых установаў—і зямляробства ды прамысловасьць стаіць на месцы: ня было мастакоў—ня было каму цаніць і паказваць хараство Беларусі: ня было дактароў—дык лячылі знахары і хваробы панавалі над працоўнымі масамі. Гэтак палітыка царскага ўраду ў адносінах да Беларусі—і, асабліва, да яе школаў—давяла Беларусь да страшнага заняпаду.

З перамогаю пролетарыяту ўсё гэтае палажэньне павінна было моцна зьмяніцца. Беларусь атрымала магчымасьць стварыць свае вышэйшыя школы і цяпер ужо ў Менску працуе Беларускі Дзяржаўны Унівэрсітэт з цэлым радам факультэтаў і аддзяленьняў ды Беларускі Дзяржаўны Інстытут сельскае гаспадаркі. Істнуюць таксама вышэйшыя школы ў Горках, Смаленску. Некаторыя з іх працуюць ужо па некалькі гадоў і ад іх беларускае пролетарскае грамадзянства ўправе спадзявацца самае шырокае ўвагі да краяведаньня, асабліва пільных заходаў, каб наладзіць дасьледчую работу ў краі. Ляжыць гэтая задача перад усім на Беларускім Унівэрсітэце. Калі-б на яго месцы быў звычайны правінцыяльны расійскі ці польскі унівэрсітэт (як у Вільні, Смаленску), дык і ад такога унівэрсітэту можна было-б не вымагаць шырокае навуковае працы сусьветнага значэньня, але арганізацыі навукова-дасьледчае краяведнае працы вымагаць было-б можна і трэба. Тым больш гэтыя вымаганьні павінны быць пастаўлены Унівэрсітэту Беларускаму, які знаходзіцца ў сталіцы Беларусі. Ужо ў значна меншай меры гэтыя-ж вымаганьні могуць быць пастаўлены Агранамічнаму Інстытуту, прадстаўніку прыкладнае навукі, якога дзейнасьць пры належным падзеле працы заўсёды павінна выглядаць так, што, атрымліваючы ад унівэрсітэтаў гатовыя вывады чыстых навук, ён будзе дапасоўваць іх да вымогаў гаспадаркі і ў гэтым кірунку весьці самастойныя дасьледы. І толькі хіба нездаровыя варункі жыцьця дарэвалюцыйнае Расіі пераклалі бадай ці не галоўны цяжар прыроднага і эканамічнага дасьледжваньня краю на вышэйшыя сельска-гаспадарскія школы, якія (як, прыкл., Пятроўская Акадэмія) абярталіся быццам у унівэрсітэты з агранамічнай толькі спэцыялізацыяй; адною з прычынаў такога зьявішча было, мусіць, тое занядбанае палажэньне, у якое царскі ўрад ставіў прыродныя факультэты унівэрсітэтаў, бачучы ў разьвіцьці тэорэтычнага прыродазнаўства адну з найбольшых небясьпекаў для свайго панаваньня і для істнаваньня тых фундамантаў, на якія ён апіраўся. Пры вольным і шырокім разьвіцьці прырода наўства у унівэрсітэтах, апошнія будуць паказваць і расьцярэбліваць шляхі для прыкладнае навукі, і гэты падзел працы напэўна дасьць максімальны эфэкт.

Географія, краяведаньне і такія сумежныя з імі дысьцыпліны, як навука аб грунтох, мэтэоролёгія, зьяўляючыся, бязумоўна, навукамі тэорэтыч-

нымі, хаця і вельмі цесна зьвязанымі з рознымі прыкладнымі відамі, павінна знайсьці месца ў Беларускім Унівэрсітэце—і не апошняе месца.

Прыймаючы пад увагу спэцыяльныя варункі Беларусі, поўную нязьведанасьць яе прыроды, арыгінальнасьць эканамічнага ўкладу жыцьця, можна сказаць, што тут патрэбен цэлы геаграфічны факультэт, або хоць аддзяленьне пры унівэрсітэце—гэтак, як істнуюць эканамічнае, матэматычнае ды іншыя аддзяленьні. Геаграфічнае аддзяленьне нічуць ня менш патрэбна для жыцьця, для школы і пролетарскае дзяржавы, чым хоць якое з істнуючых аддзяленьняў. Калі паставіць яму заданнем толькі прыгатаўляць настаўнікаў географіі, дык і так яно будзе патрэбнейшае, прыкл., за матэматычнае аддзяленьне. Бо ў беларускіх школах з бядою папалам мог-бы выкладаць і матэматык з якога Саратаўскага або Томскага Ун—ту; але географ, незнаёмы з краем, у вучыцялі не гадзіцца. Гэтак ёсьць, калі лічыць заданьнем геаграфічнага аддзяленьня—толькі гатаваць пэдагогаў-географаў. Калі-ж уявіць сабе ўсе вялізарныя задачы, якія паставіць такой установе беларускае краяведаньне, той непачаты кут працы, якім ёсьць дасьледы нашае прыроды, эканомікі, этнографіі і г. д., дык патрэбу гэткага геаграфічнага аддзяленьня проста трэба прызнаць палючаю.

Тым часам у Беларускім Унівэрсітэце мы ня бачым ня толькі геаграфічнага факультэту ці аддзяленьня, але, нават, ні аднае катэдры па геаграфіі ці якой з яе частак, ні аднаго спэцыяліста з гэтае галіны знаньня. Мае выкладацца, праўда, курс эканамічнае геаграфіі Беларусі, але курс гэты, відаць разглядаецца, як просты дадатак да комплекту іншых эканамічных навук. На гэта паказуе адсутнасьць аснаўных геаграфічных катадраў (агульнае земляведаньне, фізычная геаграфія Беларусі і г. д.), без чаго навуковая пастаноўка курсу эканамічнае геаграфіі Беларусі немагчыма. Найгорш, аднак, тое, што пры гэтых варунках краяведаньню, ласьне, ў яго прыродазнаўчай частцы саўсім не знаходзіцца месца ў унівэрсітэце. Відавочна, што ўвесь цяжар прыродніцкага дасьледжаньня краю ляжа на Сельска-гаспадарчы Інстытут, хаця, як ужо гаворана, гэта будзе шкодна і для краяведаньня, і для Унівэрсітэту, які страціць магчымасьць моцна зьвязацца з краёвым жыцьцём, і ў канцы—для Сельска-гаспадарчага Інстытуту, якому, заместа таго, каб карыстацца гатовымі даннымі гэтае навукі, прыдзецца чыстыя данныя ўласным мазалём здабываць. Краяведная праца павінна апірацца на унівэрсітэт, на яго геаграфічныя катадры, яго габінэты і ляборатарыі, і з свайго боку ўліваць у унівэрсітэт сабраныя з усяе Беларусі маладыя дасьледчыя сілы, свае матар'ялы, колекцыі і г. д. Гэтая праца зробіць унівэрсітэт неразрыўнаю часткаю краёвага жыцьця, значна ўзмоцніць яго ўласнае становішча і вартасьць. Ясна, такім чынам, што геаграфічныя катадры павінны быць створаны пры Беларускім Унівэрсітэце і нямінуча будуць створана, Трэба толькі, каб гэта адбылося хутчэй, каб арганізацыю прыродніцкага дасьледжаньня краю унівэрсітэт паставіў сваёй найважнейшай і найпільнейшай задачай.

У даўнейшыя, перадрэвалюцыйныя часы студэнты-беларусы расійскіх вышэйшых школ, імкнучыся паправіць несправядлівасьць, пазбавіўшую іх родны край навукова-дасьледчае працы, саматугам закладалі «гурткі пазнаваньня Беларусі» і праз іх вялі працу дасьледжаньня Беларусі. У нашыя часы падобныя гурткі так сама істнуюць, але вышэйшыя школы Савецкае Расіі адносяцца да іх з самаю шчыраю прыхільнасьцяй. Беларуская студэнцкая асоцыяцыя па прызнаньню знамяніта маскоўскіх прафэсараў—ёсьць гордасьцю Пятроўскае акадэміі і з боку сваіх вучыцялёў спатыкае шырокую навуковую падмогу. Выдатнейшыя расійскія наўчоныя (Оганоўск, Бушынскі) становяцца на чале іхняе працы па дасьледжваньню Беларусі, што

выклікае самую глыбокую пашану да гэтых людзей—нічым з Беларусьсю ні зьвязаных, нічым ёй не абавязаных. Як чутно, краяведныя гурткі пачынаюць закладацца і сярод менскага студэнцтва. Лічачыся з гэтымі краяведнымі імкненьнямі студэнцтва ды з практычнымі вымогамі жыцьця і будучае дзейнасьці гадунцоў універсітэту, трэба было-б увесьці агульны курс краязнаўства (геаграфіі Беларусі) на ўсіх факультэтах універсітэту—гэтак, як ужо уведзена беларуская мова. Бо будучаму працаўніку сацыялістычнае дзяржавы, у якой-бы галіне ён ні працаваў, ведаць край, у якім ён жыве,—ня толькі цікава, але і карысна і для яго самога і—яшчэ больш—для таго дзела, якое ён робіць.

Ня можна пахваліцца, каб краяведаньне належна было пастаўлена ў ніжэйшых ступянёх нашае школы. Шмат дзе геаграфія Беларусі саўсім ня выкладаецца, шмат дзе ёй адводзіцца занадта мала часу. Аднак, дзеля абшырнасьці і паважнасьці гэтае справы, ёю трэба будзе заняцца асобна. Да таго-ж, здаецца нам, што і тут шмат залежыць ад універсітэту: калі-б там разгарэлася вогнішча краяведнае працы, дык іскры ад яго, бязумоўна, даляцелі-б і ў глухія вясковыя школы, і геаграфія атрымала-б там належнае ёй месца.

Ня трэба сумлявацца, што створаны рэвалюцыяй, гэткі чулы да вымогаў жыцьця, да патрэбаў пролетарскіх масаў Беларусі, Беларускі Дзяржаўны Універсітэт, нўзабаве возьмецца за краяведную працу і шырока яе разгорне: гэтым ён у кожным разе споўніць важнейшае дзяржаўнае заданьне.

**Ар. Смоліч.**

# Саюз Савецкіх Рэспублік.

## Прамова т. Сталіна на X Усерасійскім Зьезьдзе Саветаў.

(*Пасядж. 26 сьнежня*).

Т.т., некалькі дзён таму назад, перад адкрыцьцём гэтага зьезду, прэзыдыум УЦВК атрымаў рад пастаноў ад зьезду саветаў Закаўкаскіх рэспублік, Украіны і Беларусі аб пажаданьні і неабходнасьці аб'яднаньня гэтых рэспублік у адну саюзную дзяржаву. Прэзыдыум УЦВК разважаў над гэтым пытаньнем і выказаўся таксама за абеднаньне. У сувязі з гэтай пастановай, у парадку дня нашага зьезду стаіць пытаньне аб абеднаньні рэспублік.

Кампанія па аб'яднаньню савецкіх сацыялістычных рэспублік пачалася яшчэ 2—3 месяцы таму назад. Ініцыятыву ўзялі на сябе Азэрбэйджанская рэспубліка, Армянская і Грузінская, потым далучыліся да іх Украінская і Беларуская рэспублікі. Сэнс кампаніі заключаецца ў тым, што старыя дагаворныя стасункі — стасункі конвенцыі паміж РСФСР і іншымі савецкімі рэспублікамі, вычарпалі сябе, аказаліся невыстарчаючымі. Сэнс кампаніі ў тым, што ад старых дагаворных стасункаў неабходна трэба перайсьці да стасункаў больш цеснага аб'яднаньня—да стасункаў, якія маюць на мэце ўтварэньне адзінай саюзнай дзяржавы з адпаведнымі саюзнымі органамі выканаўчага і заканадаўчага характару, з ЦВК і Саўнаркомам саюзу—карацей: тое, што раней выконвалася эпізодычна ў рамках конвенцыйных стасункаў, цяпер падчас кампаніі прапануецца аформіць, як нешта сталае.

Якія прычыны, што пасоўваюць рэспублікі на шлях абеднаньня, якія акалічнасьці, што вызначаюць неабходнасьць абеднаньня?

Істнуюць тры групы акалічнасьцяў, паказаўшых неабходнасьць аб'яднаньня савецкіх рэспублік у адну саюзную дзяржаву. Першая група акалічнасьцяў гэта—факты датычна нашага ўнутранага гаспадарчага становішча. Па-перша, беднасьць нашых гаспадарчых рэсурсаў, якія засталіся ў рэспубліцы, дзякуючы сямёхгадовай вайне,—беднасьць, якая прымушае нас аб'яднаць гэтыя малыя сродкі дзеля больш рацыянальнага выкарыстаньня іх і развіцьця асноўных галін гаспадаркі, якія складаюць грунт савецкай улады ва ўсіх рэспубліках. Па-другое, гістарычна склаўшыся прыродны падзел працы, гаспадарчы падзел працы між рознымі раёнамі і рэспублікамі нашай фэдэрацыі. Напрыклад, поўнач дае поўдню і ўсходу мануфактуру; поўдзень і ўсход даюць поўначы хлапок, апал і інш. Вось гэты падзел працы, які істнуе між краінамі ня можа быць выкрасьлены адным росчаркам пяра: ён утварыўся гістарычна ўсім ходам гаспадарчага разьвіцьця

фэдэрацыі. І гэты падзел працы, які робіць немагчымым поўнае разьвіцьцё паасобных раёнаў, пры асобным існаваньні рэспублік, прымушае рэспублікі аб'еднацца ў гаспадарчую адзінку. Па-трэцяе, супольнасьць асноўных сродкаў камунікацыі па ўсёй фэдэрацыі, якія складаюць нэрв і падставу ўсялякага магчымага аб'яднаньня. Само сабой разумеецца, што нельга дапусьціць паасобнага існаваньня сродкаў пераезду ў распараджэньні і ў рамках інтарэсу паасобных рэспублік, бо гэта зробіць з асноўнага нэрву гаспадарчага жыцьця—транспарту—масу паасобных частак, якія выкарыстоўваюцца не па пляну. Гэтая акалічнасьць так сама кліча рэспублікі да аб'еднаньня ў адну дзяржаву. Урэшце, беднасьць нашых фінансавых сродкаў Таварышы, трэба сказаць проста, што наша фінансавае палажэньне цяпер, на шостым годзе існаваньня савецкай улады, мае куды менш магчымасьцяў разьвіцца ў вялікім масштабе, чымся, напрыклад, пры старым рэжыме, які меў гарэлку, чаго ў нас ня будзе, даваўшую пяцьсот мільёнаў у год, які меў забясьпечанымі заграпічныя крэдыты па некалькі сот мільёнаў, чаго мы таксама ня маем. Усё гэта гаворыць аб тым, што пры гэткіх слабых магчымасьцях нашага фінансавага разьвіцьця без аб'еднаньня сілаў, без складаньня фінансавых сілаў паасобных рэспублік у адно цэлае, мы не патрапім разьвязаць асноўных задач фінансавай гаспадаркі нашых рэспублік.

Гэта—першая група акалічнасьцяў, якая прымушае нашы рэспублікі да аб'еднаньня.

Другая група акалічнасьцяў гэта—факты, зьвязаныя з нашым знадворным палажэньнем. Я думаю пра наша ваеннае палажэньне. Я думаю пра нашы стасункі з заграпічным капіталам праз ўнешторг. Я думаю, ўрэшце, пра нашы дыплёматычныя стасункі з буржуазнымі дзяржавамі. Трэба, т.т., памятаць, што, ня гледзячы на шчасьлівы выхад нашых рэспублік са стану грамадзянскай вайны, магчымасьць нападу знадворку зусім ня выключана. Гэтая небясьпека патрабуе, каб наш ваенны фронт быў абсолютна адзіны, каб наша армія была бязумоўна адзінай, асабліва цяпер, калі мы ўступілі на шлях не маральнага, разумеецца, разбраеньня, а на шлях запраўднага матар'яльнага скарачэньня ўзбраеньняў. Посьле таго, як мы давялі склад войскаў да 600 тыс., асабліва цяпер неабходна мець адзіны неразрыўны ваенны фронт, які-бы мог забясьпечыць знадворную пагрозу рэспубліцы. Потым, апрача небясьпекі ваеннага характару, існуе яшчэ небясьпека эканамічнай ізоляцыі нашай фэдэрацыі. Вы ведаеце, што посьле Гэнуі і Гаагі і посьле Уркарта эканамічны байкот нашай рэспублікі, хоць і ня ўдаўся, але вялікага напłыву капіталу дзеля патрэб нашай гаспадаркі мы ня бачым. Ёсьць небясьпека эканамічнай ізоляцыі нашых рэспублік. Гэта новая форма інтэрвенцыі, ня менш небясьпечная, чымся інтэрвенцыя ваенная, можа быць усунута толькі праз утварэньне адзінага эканамічнага фронту нашых савецкіх рэспублік супроць капіталістычнага абкружэньня. Урэшце, наша дыплёматычнае становішча. Вы былі сьведкамі, як нядаўна, перад адкрыцьцём Лёзанскай конфэрэнцыі, дзяржавы Антанты па-ўсялякаму стараліся ізоляваць нашу фэдэрацыю. Дыплёматычна гэта ім не ўдалося. Арганізаваны дыплёматычны байкот, накіраваны проці нашай фэдэрацыі, быў прарваны. Антанта была прымушана лічыцца з нашай фэдэрацыяй і адыйсьці крыху.

Мы ня можам разьлічаць на тое, што гэтыя і падобныя факты дыплёматычнай ізоляцыі нашай фэдэрацыі не паўторацца. Адсюль неабходнасьць аб'еднанага фронту, ўжо па дыплёматычнай лініі.

Гэта—другая група акалічнасьцяў, прымушаючых савецкія сацыялістычныя рэспублікі аб'еднацца.

І першая і другая група акалічнасьцяў істнавалі і мелі сілу і дагэтуль, падчас усяго істнаваньня савецкай улады. І нашы гаспадарчыя патрэбы, аб якіх я толькі-што казаў, і нашы ваенна-палітычныя патрэбы ў галіне знадворнай палітыкі істнавалі, разумеецца, і раней. Але гэтыя акалічнасьці набылі выключную сілу толькі цяпер, посьле грамадзянскай вайны, калі рэспублікі першы раз атрымалі магчымасьць гаспадарчага будаўніцтва, першы раз убачылі ўсю беднасьць сваіх гаспадарчых сродкаў і ўсю неабходнасьць аб'яднаньня—як па ўнутранай гаспадарчай лініі, так і па знадворнай. Вось чаму цяпер, на шостым годзе істнаваньня савецкай улады, стаіць на чарзе пытаньне аб аб'яднаньні незалежных савецкіх сацыялістычных рэспублік.

Урэшце, трэцяя група фактаў, так сама патрабуючых аб'яднаньня, зьвязана з характарам будовы савецкай улады, з клясавай прыродай савецкай улады. Савецкая ўлада пабудавана так, што яна, інтэрнацыянальная па сваёй унутранай сутнасьці, паўсялякаму культывуе ў масах ідэю аб'яднаньня, сама піхае іх на шлях аб'яднаньня.

Калі капітал, прыватная ўласнасьць і эксплёатацыя разьдзяляюць людзеў, разьбіваючы іх на варожыя адзін другому станы, прыкладам чаго могуць служыць Англія, Францыя і, нават, такія маленькія шматнацыянальныя дзяржавы, як Польшча і паўднёвая Славакія з іхнімі ўнутранымі нацыянальнымі супярэчнасьцямі, якія разьядаюць самую аснову гэтых дзяржаў; калі, я кажу, там, на захадзе, дзе пануе капіталістычная дэмократыя і дзе дзяржавы грунтуюцца на прыватнай уласнасьці, самая аснова дзяржавы прыхільна да ўзаемнай нацыянальнай грызні, конфліктаў і змаганьня,—дык тутака, у краіне саветаў, дзе ўлада пабудавана не на капітале, а на працы, дзе ўлада пабудавана не на прыватнай уласнасьці, а на ўласнасьці кольлектыўнай, дзе ўлада пабудавана не на эксплёатацыі чалавека чалавекам, а на барацьбе з гэтай эксплёатацыяй,—тутака, наадварот, сама прырода ўлады прыхільна да таго, каб працоўныя масы натуральна імкнуліся да аб'яднаньня ў адну сацыялістычную сям'ю. Чы-ж гэта не паразьліва, што там, на захадзе, у краіне буржуазнай дэмократыі, мы маем справу з паступовым распадам шматнацыянальных дзяржаў на складаныя часткі (як, напрыклад, у Англіі, якая, ня ведаю, як яна паладзіць справу з Індыяй, Эгіптам, Ірляндыяй, або ў Польшчы, якая ізноў-такі ня ведаю, як яна паладзіць справу са сваімі беларусамі, украінцамі, немцамі, жыдамі), а тутака, у нашай фэдэрацыі, аб'яднаўшай ня менш 30 нацыянальнасьцяў, тутака, наадварот, мы маем справу з працэсам змацненьня дзяржаўных сувязяў між незалежнымі рэспублікамі, з працэсам, які вядзе да ўсё больш цеснага аб'яднаньня незалежных нацыянальнасьцяў у адну незалежную дзяржаву! Вось вам два тыпы дзяржаўных аб'яднаньняў; з якіх першы тып, капіталістычны, вядзе да разбурэньня складаных частак дзяржавы, а другі тып, савецкі, вядзе, наадварот, да паступовага, але моцнага зьбліжэньня раней незалежных нацыянальнасьцяў у адну незалежную дзяржаву.

Такая трэцяя група фактаў, вымагаючых аб'яднаньня паасобных рэспублік.

Якая-ж павінна быць форма аб'яднаньня рэспублік? Асновы аб'яднаньня намечаны ў тых рэзалюцыях, якія прэзыдыум У.Ц.В.К. атрымліваў ад савецкіх рэспублік: Украіны, Беларусі і Зак'ўказьзя.

Яднаюцца чатыры рэспублікі: РСФСР, як адзінае фэдэральнае ўтварэньне, Закаўкаская рэспубліка, таксама, як фэдэральнае утварэньне, Украіна і Беларусь. Дзьве незалежныя савецкія рэспублікі,—Хорэзма і Бухара, якія зьяўляюцца не сацыялістычнымі, а народнымі савецкімі рэспублікамі, пакуль што не ўваходзяць у аб'еднаньне толькі таму, што рэспублікі гэтыя

не зьяўляюцца яшчэ сацыялістычнымі. Я не сумляваюся і спадзяюся, таварышы, вы таксама не сумляваецеся, што гэтыя рэспублікі, па меры унутранага разьвіцьця іх у бок сацыялізму, так сама войдуць у склад саюзнай дзяржавы, якая цяпер утвараецца.

Можа паказацца, што больш мэтазгодна было-б увайсьці ў саюз рэспублік не РСФСР, як адзінаму фэдэральнаму ўтварэньню, а паасобным рэспублікам, уваходзячым у склад РСФСР, расклаўшы, само сабой, перад тым РСФСР на складаныя часткі. Я думаю, што гэты шлях не рацыянальны, не мэтазгодны і выключаецца самым ходам кампаніі. Па-перша, ён прывёў-бы да таго, што побач з працэсам, які вядзе да аб'яднаньня рэспублік, мы мелі-б працэс раз'яднаньня ўжо істнуючых фэдэральных утварэньняў,—працэс, разбурываючы запраўды рэвалюцыйны працэс аб'яднаньня рэспублік.

Па-другое, на гэтым няправільным шляху мы дайшлі-б да такога становішча, што нам трэба-б было, апрача 8 аўтаномных рэспублік, вылучыць яшчэ з РСФСР спэцыяльны расійскі УЦВК і расійскі Саўнарком, што папягнула-бы за сабой вялікае арганізацыйнае ўзбурэньне, зусім цяпер непатрэбнае і шкоднае, і што не вымагаецца ні ўнутранымі ні знадворнымі абставінамі. Вось чаму я думаю, што суб'ектамі, якія злучаюцца ў саюз, павінны быць чатыры рэспублікі: РСФСР, Закаўкаская фэдэрацыя, Украіна і Беларусь.

Асновы, якія павінны быць паложаны пры складаньні дагавору аб аб'еднаньні, павінны быць наступныя: камісарыяты — знадворнага гандлю, ваенна-морскія, чужаземных спраў., Н.К.П.С. і наркампочтэль утвараюцца толькі пры Саўнаркоме Саюзу. Наркаматы фінансаў, гаспадаркі, наркампрод, наркамтруд і інспэкцыя застаюцца ў складзе рэспублік, але з тым, каб яны працавалі згодна дырэктыў адпаведных камісарыятаў у саюзным цэнтры. Гэта патрэбна дзеля таго, каб сілы працоўных масаў рэспублікі па лініі наркамтруда, ВСНХ, наркамфіна і наркамтруда злучаліся пад кіраўніцтвам саюзнага цэнтру. Урэшце, ўсе пазасталыя камісарыяты: унутраных спраў, юстыцыі, асьветы, земляробства і г. д.—іх усяго 6,—маючыя просты стасунак да быту, абычаяў, асаблівых форм землябудаўніцтва, асаблівых форм пабудовы суду, да мовы і культуры народаў, уходзячых у склад рэспублік,—гэтыя камісарыяты павінны быць пакінуты самастойнымі, якімі будуць кіраваць Ц. В. Камітэты і Саўнаркомы даных рэспублік. Гэта неабходна, як рэальная ўмова, забясьпечваючая свабоду нацыянальнага разьвіцьця народаў, уваходзячых у склад савецкіх рэспублік.

Вось тыя асновы, на мой пагляд, якія павінны быць пакладзены фундамантам таго дагавору, які будзе заключаны між нашымі рэспублікамі. Адпаведна з гэтым я прапаную праэкт рэзалюцыі, ўхвалены прэзыдыумам У.Ц.В.К:

1. Прызнаць сваячасным аб'еднаньне Расійскай сацыялістычнай фэдэратыўнай савецкай рэспублікі, Украінскай сацыялістычнай савецкай рэспублікі, Закаўкаскай сацыялістычнай фэдэратыўнай савецкай рэспублікі і Беларускай сацыялістычнай савецкай рэспублікі ў саюз сацыялістычных савецкіх рэспублік.

2. У аснову аб'еднаньня пакласьці прынцып дабравольнасьці і раўнапраўя рэспублік з захаваньнем за кожнай з іх права вольнага выхаду з саюзу рэспублік.

3. Даручыць дэлегацыі з т.т. Калініна, Троцкага, Сталіна, Рыкава, Каменева, Цурупы, Молатава, Сакольнікава, Сапронава, Пятакова, Рудзутака, Багданава, Енукідзе, Курскага, Хыдыр-Аліева, Мэндэшова, Коркмасава, Саід-Галіева, Мухтарава, Хамкова, Янсона, Мансурава, Рахімбаева выпрацаваць супольна з дэлегацыямі Украіны, Закаўкаскай рэспублікі і Беларусі

праэкт дэклярацыі аб утварэньні саюзу рэспублік і выкласьці ў ім абставіны, дыктуючыя аб'яднаньне рэспублік у адну саюзную дзяржаву.

4. Даручыць дэлегацыі выпрацаваць умовы ўваходу РСФСР у саюз рэспублік, прымусіўшы яе пры разглядзе саюзнага дагавору бараніць наступныя пункты:

а) утварэньне адпаведных саюзных заканадаўчых і выканаўчых органаў;

б) злучэньне камісарыятаў: ваенна-морскага, камунікацыі, чужаземных спраў, знадворнага гандлю і пошты і тэлеграфу;

в) падляганьне камісарыяту фінансаў, харчаваньня, народнай гаспадаркі, працы і рабоча-сялянскай інспэкцыі даных рэспублік дырэктывам адпаведных камісарыятаў саюзных рэспублік;

г) поўнае забясьпечаньне інтарэсаў нацыянальнага разьвіцьця народаў даных рэспублік;

5. Праэкт дагавору, перад унясеньнем яго на першы зьезд саюзу рэспублік, прадставіць на ўхваленьне У.Ц.В.К. ў асобе яго Прэзыдыуму.

6. Упаўнаважыць дэлегацыю, на аснове ўхваленьня У.Ц.В. К-ам умоў аб'яднаньня, заключыць дагавор РСФСР з сацыялістычнымі савецкімі рэспублікамі Украіны, Закаўказьзя і Беларусі аб утварэньні саюзу сац. савецкіх рэспублік.

7. Дагавор прадставіць на зацьвярджэньне 1-га зьезду саюзу рэспублік.

Вось рэзалюцыя, якая прапануецца вашай увазе.

Таварышы, ад часу утварэньня савецкіх рэспублік, дзяржавы сьвету падзяліліся на два станы: на стан сацыялізму і на стан капіталізму. У стане капіталізму мы маем імпэрыялістычныя войны, нацыянальную сварку, прыгнечваньне, калёніяльную паншчыну і шовінізм. У стане саветаў, у стане сацыялізму мы маем, наадварот, узаемную веру, нацыянальную роўнасьць, супакойнае жыцьцё і братняе супрацоўніцтва народаў. Дзесяткі гадоў капіталістычная дэмократыя імкнецца разьвязаць нацыянальныя супярэчны шляхам сумяшчэньня інтарэсаў вольнага разьвіцьця нацыянальнасьцяў з сыстэмай эксплёатацыі. Але гэта не ўдалося дагэтуль і ня ўдасца. Наадварот, нацыянальныя спрэчкі ўсё больш пашыраюцца, пагражаючы сьмерцю капіталізму. Толькі тутака, у сьвеце саветаў, у стане сацыялізму ўдалося з каранямі вырваць нацыянальны ўціск і ўтварыць узаемную веру і братняе супрацоўніцтва народаў. І толькі посьле гэтага мы атрымалі магчымасьць збудаваць нашу фэдэрацыю і абараніць яе ад ворагаў, як унутраных, так і знадворных. 5 гадоў назад Савецкай уладзе ўдалося пакласьці асновы братняга супольнага жыцьця і супрацоўніцтва народаў. Цяпер, калі мы тутака разьвязваем пытаньне аб пажаданьні і неабходнасьці аб'еднаньня, нам трэба замацаваць гэтыя асновы новым будынкам, асноваю новай магутнай саюзнай працоўнай дзяржавы. Воля народаў нашых рэспублік, якія зьбіраліся на сваіх зьездах і аднадушна пастанавілі ўтварыць саюз рэспубліка,—гэтая воля з бязумоўнасьцю кажа аб тым, што справа аб'еднаньня знаходзіцца на правільным шляху, што яна грунтуецца на вялікім прынцыпе дабраахвотнасьці і роўнасьці народаў. Будзем спадзявацца, т.т., што, утвараючы нашу саюзную рэспубліку, мы збудуем моцны стан проці міжнароднага капіталізму, што новая саюзная дзяржава будзе новым рашучым крокам на шляху аб'еднаньня працоўных усяго сьвету ў адзіную сусьветную сацыялістычную савецкую рэспубліку... (доўгія воплескі, сьпяваюць Інтэрнацыянал).

# Прамова А. Р. Чарвякова.

Беларуская дэлегацыя, прыехаўшая сюды па даручэньні 4 Ўсебеларускага зьезду саветаў, упаўнаважыла мяне заявіць вам, што рабочыя й сяляне Беларусі ў асобе свайго IV Ўсебеларускага зьезду саветаў аднагалосна пастанавілі ўвайсьці ў 1 саюз сацыялістычных савецкіх рэспублік, назва якога будзе, пэўна, саюз рэспублік Эўропы і Азіі (*воплескі*). Т.т., савецкая Беларусь доўгім і вузкім шнуром ляжыць на граніцы з буржуазным сьветам. Тыя ўдары, якія наносіць савецкай уладзе буржуазны сьвет, у першую чаргу падаюць на Савецкую Беларусь і дзеля гэтага зразумела, што ў нас, на граніцы з буржуазнай краінай, раней, чымся ў іншых мясцох вынікаюць пытаньні аб перагрупоўцы нашых сілаў з мэтай зрабіць рады рабочых і сялян усіх савецкіх рэспублік больш цеснымі, больш моцнымі дзеля супольнага змаганьня і дзеля супольнай перамогі.

Савецкая Беларусь была ўтворана 1 студзеня 1919 г. У гэтыя дні рабочыя і сяляне Беларусі ўзялі свой лёс у свае рукі. Утварыўшы незалежную сацыялістычную савецкую рэспубліку, яны гэтым самым паказалі, што тыя лёзунгі, у імя якіх паўсталі рабочыя й сяляне Петраграду, Масквы і іншых пролетарскіх асяродкаў, гэтыя лёзунгі будуць з гэтага часу праводзіцца ў жыцьцё воляю і сіламі саміх рабочых і сялян Беларусі. І мы маем сьмеласьць тутака, у першы раз з гэтай трыбуны, заявіць вам, што ў той цяжкай, крывавай барацьбе, якая цягнулася некалькі гадоў пасьле 1 студзеня 1919 г., рабочыя й сяляне Беларусі з чэсьцю займалі пачэснае месца перадавых барцоў і, не шкадуючы свайго жыцьця, прынесьлі цэлы шэраг ахвяраў у імя тых ідэалаў, якія агаласіла акцябрская рэвалюцыя (*воплескі*).

Т. т., нам трэба было пад пагрозай беспасрэднага нападу з боку нашых ворагаў не адзін раз перабудовываць свае рады. У першы раз мы перабудоўвалі свае рады, рады савецкіх рэспублік тады, калі ад арганізацыі чырвонай арміі па нацыянальным адзнакам мы перайшлі да арганізацыі адзінай чырвонай арміі, з адзінай камандай і з адзінымі начальнікамі. Адразу-ж пасьле гэтага зьявіліся вынікі такой перабудоўлі. Пасьле першай неўдачы, якую рабочыя і сяляне мелі на зах. фронце ў 1919 годзе, мы, утварыўшы адзіную моцную чырвоную армію, атрымалі шэраг перамогаў над ворагам, дасягнуўшы муроў Варшавы. Так было дзякуючы таму, што мы ў час зразумелі шкадлівасьць арганізацыі арміі па нацыянальным адзнакам і неабходнасьць утварэньня адзінай моцнай чырвонай арміі.

Цяпер Савецкая Беларусь разам з усімі савецкімі рэспублікамі вядзе працу па аднаўленьні сваёй гаспадаркі. У гэтай працы мы вастрэй, чымся іншыя месцы, адчуваем тыя небясьпекі, якія пагражаюць нам на гаспадарчым фронце, дзякуючы малай сувязі нашых радоў на гаспадарчым фронце. Мы, датыкаючы я беспасрэдна з буржуазным сьветам, уходзячы з ім у сувязь, адчуваем, што, калі тое фармальнае раз'еднаньне, якое ў нас яшчэ дагэтуль істнуе, будзе цягнуцца, то справа аднаўленьня нашай гаспадаркі будзе затрымлівацца. Ёй пагражае астаноўка і дэзорганізацыя. І зразумела, што пасьле году супакойнай працы, пасьле той напруджанай працы, якую мы разам з усімі савецкімі рэспублікамі прарабілі ў прошлым годзе, мы пераканаліся ў неабходнасьці перабудоўлі нашых радоў і на гаспадарчым фронце. Патрэбна арганізацыя, пры якой быў-бы адзіны вярхоўны штаб, пры якой было-б адзінае кіраўніцтва па гаспадарчым фронце. Гэта была адна з прычын, якая прымусіла рабочых і сялян Беларусі горача абгаварваць пытаньне аб узаемных адносінах з Савецкай Расіяй. Мы рашылі цесна аб'яд-

нацць нашы рады, каб і на гаспадарчым фронце атрымаць такія самыя выдатныя перамогі, якія былі атрыманы на фронтах ваенных.

Тое аб'еднаньне, якое мы прапануем вам, непадобна да аб'еднаньня з двукосьсем, якое будуе буржуазны сьвет, імкнучыся ўцягнуць пад свой уплыў малыя народы; мы ведаем цану абяцаньняў буржуазнага сьвету. Мы на сваім карку, дзякуючы здраднай працы шовіністычных беларускіх элемэнтаў, адчулі цану абяцаньняў буржуазнага сьвету, буржуазных урадаў. Мы памятаем першыя крокі Беларускай Рады, якая абвясьціла «незалежнасьць Беларусі» сёньня, а назаўтра, пад уплывам нямецкай каманды, якая знаходзілася тады ў Менску, паслала прывітальную тэлеграму германскаму імпэратару Вільгэльму з прапазыцыяй сваіх послуг у справе ўвядзеньня паншчыны для рабочых і сялян Беларусі. Мы памятуем абяцаньні галавы польскай дэмократычнай рэспублікі Пілсудзкага, калі, заграбаўшы Беларусь, ён заявіў, што жадае ўвайсьці ў саюз з беларускім працоўным народам, як вольны з вольным, як роўны з роўным, а назаўтра пачаў палітыку паншчыны для рабочых і сялян, даўшы вольнасьць панам—земляўласьнікам. І земляўласьнікі ў нядоўгія гады свайго панаваньня 1919 і пачатку 1920 г. аднавілі эксплёатацыю працоўных, падобную да самай цяжкай формы паншчыны, якую некалісь мела Беларусь. Мы памятаем усе гэтыя абяцаньні і дзеля гэтага зусім зразумела, што рабочыя й сяляне ясна разумеюць тую розьніцу, якая істнуе між нашай дабрахвотнай прапазыцыяй, якую мы робім вялікай вольнай Савецкай Расіі і тымі прапазыцыямі, якія нам робяць буржуазныя дзяржавы, прапануючы нам прыязьнь. Мы ставім пытаньне аб дабрахвотнай згодзе і аб'еднаньні сілаў працоўных дзеля працягу таго змаганьня, якое пачалі расійскія рабочыя ў кастрычніку 1917 г.

Мы гэта разумеем, і дзеля гэтага прыходзім да вас і заяўляем аб сваім жаданьні і далей весьці тую працу і тую барацьбу, якую мы разам з вамі вялі дагэтуль. Т. т., працоўныя Беларусі будуць мець гонар, калі вы прымеце нашу прапазыцыю, дзякуючы якой рабочыя й сяляне Беларусі зробяцца адным з першых атрадаў працоўных, якія ўваходзяць у новы саюз сацыялістычных савецкіх рэспублік (*воплескі*).

Яны будуць мець гонар зьяўляцца адной з першых цэглаў у новым будынку, я і будуецца посьле 5-гадовай барацьбы працоўных заместа бышай Расійскай імпэрыі.

Т. т., дазвольце мне ад імя рабочых і сялян Беларусі запэўніць вас, што гэтая адна з першых цэглаў будзе цьвёрдай пролетарскай цэглай, на аснове якой можна будзе сьмела будаваць і весьці далейшае змаганьне дзеля разьвязаньня тых задач, у імя якіх мы паднялі сьцяг і вядзём барацьбу проці буржуазнага сьвету (*воплескі*).

# „Бѣлорусы“ Е. Ф. Карскага.*)

Бадай-што ўсе, хто толькі больш-менш цікавіцца з навуковага пагляду беларускай этнографіяй, беларускай мовай і пісьменствам, знаёмы з працамі акадэміка Е. Ф. Карскага, якія вышлі дагэтуль у 6-х кнігах і аб'еднаны агульным загалоўкам *«Бѣлорусы»*. Вышэйпамянованая кніга зьяўляецца па ліку сёмай і адначасна апошнім зьвяном у коле гэтых прац аб чым зазначае ў прадмове да яе сам аўтар:

«Настоящій 3-ій выпускъ III тома завершаетъ рядъ изслѣдованій, предпринятыхъ авторомъ по языку и словесности бѣлорусскаго племени, объединенныхъ въ 7 книгахъ изданія «Бѣлорусы».

Ужо адно тое, што гэтая кніга зьяўляецца апошнім зьвяном, прымушае нас зьвярнуць на яе асаблівую ўвагу. Бо ў натуры людзкой ёсьць звычай пры заканчэньні працы акідаць яе спачатку і да канца агульным, якбы разьвітальным паглядам, падсумоўваць найбольш выдатныя ў ёй моманты, ставіць на падставе такой працы пэўныя прогнозы ў тым ці іншым кірунку—а што найважней,—высказваць крыху шчырых слоў аб сваіх адносінах да гэтае працы і аб тым агульным уражаньні, якое застаецца пасьля яе. Усе падобныя моманты мы знаходзім і ў 3-ім выпуску III-га тому „Бѣлорусы“.

Апрача таго і характарам свайго зьместу гэтая праца прабуджае да сябе нязвычайную цікавасьць: бо ў той час, як пытаньні, разгляданыя ў ранейшых выпусках „Бѣлорусы“, мелі найчасьцей або вузка-спэцыяльны характар, або ахвярбоўку далёкай ад нас сівой мінуўшчыны—тут мы спатыкаемся з разглядам нашага краснага пісьменства новай і найноўшай пары аж да сучасных нам дзён, а наша краснае пісьменства, як вядома, зьяўляецца самай сутнасьцю і ў той-жа час скляпеньнем беларускага нацыянальна-культурнага гмаху. З другога боку, амаль-што поўная адсутнасьць у нас літаратурнай крытыкі, поўная адсутнасьць гісторыка-літаратурных навуковых прац па новай і найноўшай беларускай літаратуры (калі ня лічыць школьнага падручніка Гарэцкага „Гісторыя беларускай літаратуры“) —прымушаюць нас з падвойнай увагай і пэўнай асьцярожнасьцю адносіцца да піонэраў у гэтым кірунку.

Маючы гэта на ўвазе, мы й дазволім сабе крыху даўжэй спыніцца на агля́дзінах вышэйпамянованай працы.

Агульны плян гэтага 3-га выпуску III-га тому пабудаваны ў двох кірунках, па дзьвёх коордынатах: аўтар стараецца разьвінуць у сваіх нарысах гісторыю беларускае літаратуры, пачынаючы XIX сталецьцем—гэта адно;

---

*) Е. Ф. Карскій «Бѣлорусы». Том III. Очерки словесности бѣлорусскаго племени 3. Художественная литература на народномъ языкѣ. *Петроградъ, Россійская Академія Наукъ*, 1922 г. *стр. XVII+454 in* 1/8.

а падругое—аўтар стараецца даць нарыс, часта, нават, у дэталях, беларускага культурна-нацыянальнага руху. Такім чынам акадэмік Е. Ф. Карскі ў сваёй апошняй працы выяўляе сябе ня толькі як гісторык беларускае літаратуры, але і як гісторык беларускага нацыянальнага руху. З кожным з гэтых двох бакоў мы й пазнаёмімся паасобку.

Распачнем нашы агляд зіны найперш з боку гісторыі беларускае літаратуры.

Аб заданьнях, якія аўтар вызначыў сабе ў гэтым кірунку, мы даведваемся з самой прадмовы:

„Въ работѣ имѣлось въ виду главнымъ образомъ зарегистрировать поэтическій матеріалъ съ цѣлью ознакомленія съ нимъ читателя; критическая же оцѣнка этого матеріала съ художественной стороны; выясненіе условій творчества того или другого автора, качества его таланта, отраженія въ разсматриваемыхъ произведеніяхъ окружающей насъ дѣйствительности и мечтаній о будущемъ—только отчасти входятъ въ задачи составителя очерковъ“.

Такім чынам мы бачым, што аўтар у сваёй працы зьвяртае галоўную ўвагу на тую частку гісторыі літаратуры, якая зьяўляецца найбольш навукова-об'ектыўнай—на рэгістрацыю паэтычных матар'ялаў; аднак побач з гэтым аўтар, праўда часткова, бярэ на сябе й працу, якая мае больш-менш суб'ектыўны характар, а іменна—крытычную ацэнку з мастацкага боку і г. д. Значыць, мы ўправе вымагаць ад аўтара: каб паэтычны матар'ял быў зарэгістраваны прынамсі ў сваіх найважнейшых і найбольш характэрных момантах, а падругое—каб і крытычная ацэнка з мастацкага боку, высьвятленьне умоў творчасьці і г. д., паколькі яны зьяўляюцца частковымі, абымалі сабой найбольш істотныя, найбольш выдатныя і найбольш характэрныя ўласьцівасьці матываў, стылю, крыніц творчасьці, якасьці талентаў і г. д.

З гэтымі вымаганьнямі мы й падыйдзем да агляду памянованай працы. Найперш спынімся на тым агульным парадку, у якім разьмешчаны ў ёй матар'ял. Кніга мае гэткія разьдзелы: 1) Общій обзоръ литературы на современномъ бѣлорусскомъ языкѣ; 2) Первый періодъ бѣлорусской литературы на народномъ языкѣ,—які абымае сабою нашае пісьменства, пачынаючы з Энэіды і канчаючы 60-мі гадамі XIX в.; 3) Новыя попытки литературы на бѣлорусскомъ нарѣчіи въ концѣ XIX в.; 4) Новѣйшая бѣлорусская литература; 5) Матеріалы для словаря остальныхъ бѣлорусскихъ писателей послѣдняго времени.

Маючы на ўвазе, што кожны наогул падзел гісторыка-літаратурнага матар'ялу на пэўныя разьдзелы або пэрыяды мусіць быць у большай або меншай меры штучным і ніколі ня можа зусім правільна і цалкам супасьць з органічным разьвіцьцём літаратуры,—можна вышэй пададзены плян у агульных рысах лічыць здавальняючым. Аднак, калі мы пазнаёмімся з ім у бліжэйшых дэталях, то заўважым тут шмат недахватаў, шмат недакладнасьцяў. Возьмем, напрыклад, 4 разьдзел—«Новѣйшая бѣлорусская литература». Незразумелым для нас зьяўляецца той мэтад, паводлуг якога аўтар разьмясьціў у гэтым разьдзеле пісьменьнікаў. Калі аўтар трымаўся мэтаду літаратурнай магутнасьці, то чаму паставіў Цётку раней Я. Купалы, Альбэрта Паўловіча, Г. Леўчыка, К. Буйло раней Бядулі—Ясакара, які бязумоўна па літаратурнай вартасьці, і па колькасьці ім напісанага стаіць бязьмерна вышэй за іх? Калі-ж аўтар трымаўся хранолёгічнага прынцыпу, то чаму Альбэрт Паўловіч, Ядвігін Ш. апынуліся пасьля М. Багдановіча, К. Буйло і г. д.? А калі аўтар разьмяшчаў пісьменьнікаў паводлуг органічнай сувязі і сваяцтва матываў, стылю, крыніц творчасьці і г. д., то чаму за М. Багдановічам пастаўлен А. Паўловіч, З. Жылуновіч, Ядвігін Ш., а не Бядуля—

Ісакар, які, бязумоўна, як стылем, так і матывам і бліжэй да М. Багдановіча, чымся яны. Па нашай думцы, ужо куды лепш разьмяркованы адпаведны разьдзел у М. Гарэцкага, у яго «Гісторыі беларускай літаратуры». З другога боку, незразумела для нас і тое, чаму аўтар памінуў у гэтым разьдзеле К. Каганца (вынес яго ў матар'ялы для слоўніка беларускіх пісьменьнікаў), у той час, як ён займае ў гісторыі беларускага найноўшага пісьменства, бязумоўна, больш выдатнае месца, чымся, напрыклад, Г. Леўчык і інш., якім, аднак, удзяляецца даволі значная ўвага.

Пяройдзем цяпер да разгляду самога зьместу кнігі, маючы на ўвазе пакуль-што выключна гісторыка-літаратурны бок яе.

Распачнем з «Энэіды навыварат». Тут цікавай зьяўляецца проба акад. Е. Ф. Карскага давесьці, што беларуская Энэіда зьяўляецца ў пэўнай меры перайманьнем з расійскай Энэіды Осіпава. З гэтай мэтай аўтар падае цэлы шэраг паралельных параўнаньняў з абедзьвюх Энэід, якія часта даводзяць якраз адваротнае таму, да чаго ён імкнуўся, і ў ніякім выпадку не пацьвярджаюць гэткай сувязі, а хіба толькі сьведчаць аб тым, што абедзьве пабудаваны на ўзор Віргіліевай Энэіды, але-ж у гэтым ніхто і ня сумняваецца. Аднак аўтор робіць такі вывад:

«Всѣ эти примѣры сходства въ Энеидахъ Ровинского и Осипова, повидимому, неслучайны».

Ахарактарызаваць такую спробу можна словамі: дзе само не прыстае— там падганяй клінам.

На стр. 65, разглядаючы верш Л. Кандратовіча «Заходзіць сонца пагодняга лета», аўтар спыняецца на наступных радкох:

> «Там на Захадзе праліваюць кроў,
> Б'юцца для славы, свабоды і чэсьці
> І робяць вольных людзей з мужыкоў»—

і робіць такую ўвагу:

«Не знаю только, о свободѣ какихъ мужиковъ могла быть рѣчь въ 1848 году или въ предшествовавшее ему время: бѣлорусскіе мужики были въ рабствѣ до освобожденія ихъ Александромъ II; со стороны помѣщиковъ не было попытокъ дать имъ волю».

Акад. Е. Ф. Карскі відавочна забывае тут такія гістарычныя факты, аб якіх акадэміку хіба недазволена ня ведаць, а іменна: што ў 1848 г., пачынаючы з Францыі, рэвалюцыйная хваля пранеслася бадай што над усёй Заходняй Эўропай і знайшла сабе адбіцьцё і ў памянованым вершы Л. Кандратовіча.

Гэты выпадак сьведчыць аб тым, што многае што ў беларускім пісьменстве застанецца незразумелым, калі ўсё старацца вытлумачыць за дапамогаю такіх фактараў, як польскі памешчык—увасабленьне зла, і расійскі цар—увасабленьне дабра, якога мэтаду часта і прытрымліваецца акад. Е. Ф. Карскі (гл. яшчэ стр. 71).

Ня спыняючыся на іншых недахватах гэтага аддзелу, і адзначыўшы, што ў разгляданай працы ўсе разьдзелы, за выключэньнем найноўшай беларускай літаратуры, распрацаваны даволі поўна з боку рэгістрацыі паэтычных матар'ялаў, хаця і не заўсёды об'ектыўна, аб чым прыдзецца нам яшчэ казаць ніжэй,—пераходзім да галоўнага разьдзелу, які займае цэнтральнае месца ва ўсёй кнізе, а іменна: да найноўшай беларускай літаратуры. Пачынаецца гэты разьдзел даволі вялікім нарысам «Бѣлорусское движеніе» (стр. 151—185). Тут аўтар стае ўжо перад намі не як гісторык літаратуры, а выключна як гісторык беларускага руху. На ім мы спынімся, як ужо адзначылі, ніжэй. Затым пачынаецца нарыс «Новѣйшіе белорусскіе писатели».

На першым месцы тут, як і належыць, стаіць Ф. Багушэвіч. Разглядзеўшы верш «Мая дудка», аутар робіць такую агульную характарыстыку творчасьці Ф. Багушэвіча:

«При такомъ желчно-озлобленномъ настроеніи автора трудно предположить, чтобы и изображаемая имъ народная жизнь была представлена вполнѣ об'ективно: много дурного въ ней, но не все так плохо, какъ полагаетъ Ф. Богушевичъ». (стр. 196).

«Желчнымъ озлобленіемъ» акад. Е. Ф. Карскі адважваецца назваць той сьвяты экстаз паэтыцкага духу, тое магутнае пажарышча каханьня бацькаўшчыны, тую велiч біблейна-прарочага натхненьня, якімі спавіты і атулены то грымотна-пяруновыя, то квола-жаласныя гукі «Дудкі», калі яна галосіць над сконам народу, над сконам бацькаўшчыны. Сілай пачуцьця, узьнёсласьцю ідэі, гартам і бляскам мастацкай формы гэты твор Ф. Багушэвіча падымаецца на ўзровень нямногалікіх пэрлаў літаратурнага мастацтва ў сусьветным маштабе. Гэта раз. А з другога боку, кожны, хто беспасрэдна знаёмы з творамі Ф. Багушэвіча, ведае, што народнае жыцьцё можа нідзе ў беларускай літаратуры не адбіта гэтак рэальна, гэтак об'ектыўна, як у яго творчасьці. І тут акад. Е. Ф. Карскі, бязумоўна, моцна памыляецца.

Гэтак сама памыляецца паважаны аўтар, тлумачачы VI «Песьню» («Смык») гэткім чынам:

«Оказывается, что «дурны, як варона, мужык» не лишенъ хитрости и извѣстной доли находчивости, сообразительности» (стр. 198).

Наадварот, Ф. Багушэвіч у гэтым вершы далёк быў ад думкі выяўляць *хітрасьць* «мужыка», а даў нам толькі цалкам об'ектыўны і рэальны вобраз сацыяльнага становішча, сацыяльнага зла, у ўмовах якога прыходзіцца жыць гэтаму «мужыку».

Ня зусім правільна зразумеў аўтар і ідэю «Калысанкі», абмінуўшы яе сымболічны характар (стр. 204).

З другога боку, апрача павярхоўнага пералічэньня твораў, з часта няправільнымі, як мы вышэй пераканаліся, комэнтарыямі, аўтар ніякіх агульных концэпцый як у стасунку да крыніц творчасьці Ф. Багушэвіча, так і ў стасунку да іх мастацкага боку ня робіць. Не падкрэсьлена і тое значэньне і ўплыў, якое меў Ф. Багушэвіч у стасунку да творчасьці пазьнейшых нашых пісьменьнікаў.

Памінуўшы Няслухоўскага, затрымаемся на Цётцы. На стр. 221 чытаем:

«Подобно Богушевічу, и Пашкевичъ старается прежде всего изобразить белорусскую природу, *хотя она и бѣдна и неприглядна* (Курсіў наш). Вотъ какъ, напр., представлено лѣто въ Бѣлоруссіи («Лета»):

Ніва шуміць каласамі
Жыта сьпелага, аўса,
Ўся прыбрана васількамі,
Як дзяўчына да вянца.
Вецярок па ёй гуляе,
Клоніць колас да зямлі,
Сонца зерне налівае,
Бусл клякоча на гумні.
А гляні за нашу вёску:
Весь палетак аж гарыць!» і г. д.

Папраўдзе «бѣдная и неприглядная» прырода!

Іншыя пагляды аўтара ў стасунку да творчасьці Цёткі даволі справядлівы.

Янка Купала, як цэнтральная фігура ў нашым найноўшым пісьменстве, разгледжан найбольш дэтальна. Але затое і ак. Е. Ф. Карскі не зрабіў нідзе больш памылак, нідзе ня выявіў сябе гэтак неасьведамленым у пытаньнях краснага пісьменства наогул, і беларускага паасобку,—як тут.

Каб даць хоць-бы павярхоўны нарыс, хоць-бы бледны малюнак таго ці іншага пісьменьніка або паэты, каб хоць часткова выявіць яго суб'ектыўны ідэал, крыніцы яго творчасьці, яго мастацкую вартасьць і г. д. (а ўсё гэта, як мы бачылі з «Прадмовы», уваходзіла ў пляны аўтара), трэба перш самому зразумець паэту ў яго істотных і характэрных матывах, настроях і ідэях, трэба зразумець самому істотныя рысы яго стылю, яго жанру, мастацкіх спосабаў і г. д. З другога боку трэба ўмець прасачыць тую лінію, па якой адбываецца эволюцыя творчасьці, трэба адшукаць і кірунак гэтай лініі. Адным словам, трэба мець нейкі ключ к разуменьню паэты.

З таго нарысу аб Я. Купале, які даў нам у сваёй працы акад. Е. Ф. Карскі, мы пераконваемся, што ён ня мэў гэткага ключа, а дзеля гэтага ня мог і адамкнуць паэтыцкага духу, ня мог заглянуць у сьвятое сьвятых яго творчасьці. А скуткам гэтага было тое, што аўтар паказаў нам у творчасьці Я. Купалы толькі ўторазначнае, толькі прыпадковае.

Гэтак, напрыклад, аўтар бачыць біографію там, дзе маецца толькі тыповая лірыка. На 6 старонках сваёй працы (231- 236) падае адрыўкі вершаў з сваімі комэнтарыямі да іх, дзе тужыцца ўбачыць біографію Я. Купалы, хаця ў гэтых вершах, як тыпова лірычных, можна заўважыць і пагляды на паэзію і яе заданьні, і ідэалы паэты, і грамадзянскія матывы і г. д. Хіба-ж, напрыклад, у наступным вершы можна ўбачыць хаця-б намяненьне на біографію паэты:

> Як вецер, і я-б так ляцеў,
> Як вецер, аб тым самым пеў,
> Як вецер, свабодны мой дух,
> Хоць гора цягаю ланцуг...
> Як сокал, і я-б мкнуў да зор:
> Там сонца, раздольле, прастор.. і г. д.

Там, дзе аўтар стараецца выявіць пагляды Я Купалы на паэзію і паэту, ён падбірае прыклады з самых раньніх твораў („Жалейка“ і „Гусьляр“), прыклады слабыя, прыклады неяскравыя, нехарактэрныя, а праходзіць паміма такіх вершаў, дзе можна запраўды знайсьці больш-менш поўны адказ на даную тэму. Чаму, напрыклад аўтар памінуў верш „Песьня званара“ («Шляхам жыцьця», стр. 15)? Гэты адзін верш бяз жадных комэнтарыяў адбівае ў сабе пагляды Я. Купала на паэзію і поэту лепш, глыбей і справядлівей, чымся тры старонкі працы аўтара (237—239). Або чаму аўтар не зьвярнуў увагі на другі верш у тым-жа родзе—«Мой дом» (Шл. Ж. стр. 19)?

Элемэнты прыроды займаюць у творчасьці Я. К. ня надта шмат месца. Але аўтар, малюючы Я. Купалу, як апісальніка прыроды, ізноў прапусьціў самае тыповае, прадставіўшы Я. К. выключна як апісальніка «древесныхъ породъ» (гл. стр. 241)—дуба, ліпы, грушы, явара, каліны і вербы. З гэтых прыкладаў Я. К. нідзе не выступае, як пэйзажыста, у той час, як у яго маюцца вершы папраўдзе пэйзажнага характару. Напр. „Мой край“ (Шл. Ж. стр. 56), «Рэчка» (ів. стр. 62), «На сенажаці» (паэма «Яна і Я.» „Спадчына“ стр. 119) і інш.

Далей спыніўшыся на порах году ў творах Я. К., аўтар не зразумеў сымболікі ў такіх вершах, як «Слуцу», «Зіма», «Беларусь», а дае ім літа-

ральнае тлумачэньне (гл. стр. 252, 259). Вось які, напр., комэнтарый папераджае вядомыя сымболічныя вершы Я. К. пад заг. «Зіма».

«Изъ свойствъ зимы отмѣчаются (Жал., 34) морозы, холода, ослабленіе дѣйствія солнца, запустѣніе на поляхъ, обиліе снѣга и мятелей, ледъ на рѣкахъ. Изъ лѣсовъ выходятъ волки, которые не прочь нападать на людей".

I тут-жа, як ілюстрацыя, падаецца наступны адрывак:

Ой жудасна халодная
 Ўзгулялася зіма,
Цярпі, зямелька родная,
 Німа жыцьця, німа,
Цярпі, старонка родная,
 Мучэньні пій да дна,
Міне зіма нягодная
 I ўскрэсьне зноў вясна".

I непасьвячоны ў таямніцы гісторыка-літаратурнай навукі зразумее, што не пару году меў на ўвазе тут паэта, а цяжкую, чорную пару палітычнай рэакцыі, якая была навісла над „роднай старонкай".

Гаворачы аб тыпізацыі беларускай вёскі і беларуса-селяніна ў творах Я. К., аўтар гэтак сама прапушчае часта самае характэрнае і тыповае ў гэтым родзе, прымае за рэалізм сымболіку і г. д.

А вось якую ацэнку дае аўтар вядомай па сваёй мастацкай вартасьці паэме «Яна і Я»:

„Эта идиллія замѣчательна въ разныхъ отношеніяхъ: и по простотѣ изображенія близкой къ природѣ жизни, *и по обилію разныхъ матеріальныхъ данныхъ, цѣнныхъ при составленіи бѣлорусскаго словаря* (курсіў наш. Ул. Дз.) и по тому задушевному чувству"... і г. д. (гл. стр. 271).

Арыгінальная ацэнка! З меркай „матеріальныхъ данныхъ цѣнныхъ при составленіи бѣлорусскаго словаря" падходзіць аўтар да мастацкага твору!

Зрабіўшы агляд драмы „Раскіданае гняздо", аўтар прыходзіць да такога вываду:

«Такимъ образомъ въ этомъ произведеніи Луцевичъ обнаруживаетъ въ себѣ *нѣкоторую склонность* (курсіў наш. Ул. Дз.) къ символизму...»

Як мы бачым, акад. Е. Ф. Карскі заўважыў у Я. Купалы «нѣкоторую склонность къ символизму» толькі ў драме «Раскіданае гняздо»! I гэта ў той час, як значная частка Купалаўскай лірыкі (аб чым мы мелі выпадак ужо казаць вышэй), значная частка яго эпосу («Адвечная песьня», «Сон на кургане») наскрозь прасякнуты сымболізмам, не гаворачы ўжо аб драме «Раскіданае гняздо», якая цалкам пабудавана на сымболізьме. Я. Купала ня толькі «обнаруживаетъ нѣкоторую склонность къ символизму», а часта ў сваіх творах стае перад намі, як тыповы сымболіста, і гэтага нельга ня ведаць гісторыку беларускай літаратуры, якім у сваёй працы імкнецца быць акад. Е. Ф. Карскі.

У стасунку да тэхнікі вершаў Я. Купалы, аўтар робіць такія ўвагі:

«Иногда впрочемъ нашъ авторъ и довольно небрежно относится къ рифмамъ: можно указать и немало погрѣшностей въ этомъ отношеніи. Сюда принадлежатъ случаи:

1) Когда риѳмуется простой согласный съ удвоеннымъ или усиленнымъ въ произношеніи, что всегда рѣжет ухо, напр.:

прабачэ*ньня*—*жменя* Шл., 1,
ас*іле*—кры*льля* Шл., 2,
стру*ны*—сумны Шл., 45 и под.;

2) когда съ конечнымъ безударнымъ неопредѣленнымъ гласнымъ, иногда произносимымъ довольно явственно, риѳмуется неопредѣленный гласный въ соединенiи съ согласнымъ или неслоговыми *ў* и *й*, напр.:

любі*лі*—асі*лі*ў Гусл., 73,
здар*овы*—слов*аў* Шл., 1,
прын*ука*—зарук*ай* Шл.. 1,
м*еры*—дзьвер*аў* Шл., 21,
халод*най*—гал*одны* Жал., 87,
ня *хітра*—мі*трай* Шл. 1 и т. д.

3) Есть случаи, въ которыхъ собственно нѣтъ рыѳмъ, а есть лишь ассонансъ, каковой прiемъ въ нашемъ стихотворствѣ врядъ ли можетъ быть прiемлемъ. Таковы случаи:

са стужамі—я дужаю. Адв. п.. 25,
дзяціна—дзяўчына Гусл. 73 і т. д.

З гэтымі ўвагамі ў ніякім разе нельга згадзіцца. Рыфмаваньне простага зычнага з удвоеным—рэч звычайная. Такія рыфмы мы спатыкаем у такіх расійскіх стылістаў, як Брусаў, Бальмонт і інш. Справа ў тым, што ў выгаварваньні падвойны зычны можа сьцягвацца і ўпадабляцца адзіночнаму зычнаму. Дый з вышэйпрыведзеных прыкладаў мы бачым, што там рыфмы як-раз здавальняючыя, і калі нельга назваць іх узорам дасканаласьці, то гэтак сама нельга іх і зганіць, нельга назваць шурпатымі. Тое самае можна больш-менш сказаць і ў стасунку да другой увагі аўтара. Канцавы безнаціскові галосны сьмела можа рыфмавацца з галосным адзінкавай цьвёрдасьці або мяккасьці ў злучэньні з нескладовым галосным. У такога гатунку рыфмы могуць быць вельмі гладкімі і багатымі. Чым-жа дрэнна, напр., вышэйпрыведзеная рыфма—*ня хітра—мітрай*, або: *халоднай—галодны?* Апошнюю рыфму можна лічыць, нават, дасканалай. Пры рытмічным чытаньні вершу апошні нескладовы галосны звычайна сьцягваецца, а канцавы безнаціскові галосны гэтак сама выгаварваецца нявыразна, захоўваючы толькі сваю цьвёрдасьць ці мяккасьць.

Што-ж датыча трэцяй увагі аўтара ў стасунку да асонансаў, то мы толькі адзначым тое, што як у найноўшай расійскай паэзіі, так і ў нямецкай і інш. асонансы звычайная рэч. Трэба толькі ўмець адрозьніць асонанс ад дрэннай няўдалай рыфмы. А з пададзеных вышэй прыкладаў відаць, што аўтар не заўсёды ўмее заўважыць такую розьніцу, чым і належыць тлумачыць яго такі няпрыхільны прысуд асонансам.

А як-жа выглядае наогул характарыстыка Я. Купалы? На гэта адкажам фігурна: акад. Е. Ф. Карскі ў сваёй працы нарысаваў толькі кляпы і гузікі ад Купалавага сурдута, старанна абмінуўшы рэшту постаці Я. Купалы. Прачытаўшы гэты нарыс, нельга вынесьці ніякага ўражаньня ні аб ідэёвым кірунку ў творчасьці Я. К., ні аб галоўных стымулях яе, ні аб пануючых матывах, ні аб об'ектывізацыі паэтам жыцьця, ні, нават, аб мастацкай вартасьці паэты,—бо паданыя аўтарам узоры, усе як нападбор, слабыя, ўторазначныя. Увесь нарыс пабудаван на найслабейшых мясцох з найранейшых твораў Я. К., а яго пазьнейшыя творы бадай-што цалкам засталіся ў староньцы.

З другога боку, аўтар у апісаньні прытрымліваецца нейкага дзіўнага мэтаду. Возьмем хаця-б разьмяшчэньне паэтычнага матар'ялу паводлуг пор году. Тут навокал гэтых пор пашчэпліваны рэчы, якія паміж сабой ня маюць аніякай сувязі. Тут і адраджэнцкія матывы (якіх, праўда, аўтар ня прымеціў, дзякуючы іх сымболічнай вопратцы), і бытавыя абразкі, і лірыч-

на-настраёвыя тоны, і сацыяльныя адбіткі, і апісаньні прыроды. І ўсё гэта зьвязана, гвалтам упхнута ў рамкі аднэй якой - колечы пары году. Дзякуючы гэткаму мэтаду атрымліваецца нейкае хаотычнае ўражаньне, нейкі сумбур.

На іншых недахватах спыняцца ня будзем, а пяройдзем да разгляду чарговага аддзелу працы, у якім аўтар апісвае творчасьць Я. Коласа (Тараса Гушчы).

Ужо на самым пачатку аўтар дае такую агульную характарыстыку Я. Коласа:

«По направленію и общему характеру своей поэзіи очень близокъ къ Купалѣ-Луцевичу его современникъ К. М. Мицкевичъ...» (стр. 282).

Гэткая характарыстыка бязумоўна ня вытрымлівае ніякай крытыкі. Праўда, Я. Коласа нельга назваць антыподам Я. Купалы, але яшчэ больш немагчыма назваць яго вельмі блізкім да апошняга. Бо хіба-ж на падставе таго, што яны абодва ў сваіх творах любяць аднака моцна бацькаўшчыну, што яны абодва жадаюць яе нацыянальнага і сацыяльнага адраджэньня, што яны абодва імкнуцца ў сваіх творах адбіць сацыяльны быт беларускага селяніна—можна назваць іх вельмі блізкімі да сябе? Але-ж у такім разе мы мелі-б роўнае права назваць вельмі блізкімі да сябе Гэрцэна, Аксакавых і Талстога, бо ўсе яны аднака моцна любяць сваю бацькаўшчыну Расію!

Аднак на такім чыста надворным падабенстве некаторых матываў і тэм можа быць можна было-б мяркаваць а большай ці меншай блізкасьці публіцыстаў, палітыкаў, але ў жадным разе не паэтаў. Справа ў тым, што поэзія ня вычэрпваецца тэмай, ня вычэрпваецца сюжэтам. Паэзія—перш-наперш мастацтва. А Якуб Колас і Янка Купала, як мастакі, калі і не знаходзяцца на розных полюсах беларускай літаратуры, то ў кожным разе разьмясьціліся ў розных яе шыротах. Узяць хоць-бы мастацкі стыль, жанр у абодвых паэтаў, або об'ектывізацыю і тыпізацыю жыцьця, прыроды ў іх творах, ці, ўрэшце, іх ідэолёгічную надбудоўку. Якая паміж імі розьніца! Кароткі, рэцэнзыйнага характару, артыкул не дае магчымасьці нам спыніцца на гэтай розьніцы, але мы і так пэўны, што кожны, хто знаёмы беспасрэдна з творамі абодвых паэтаў, ніколі ня згодзіцца з вышэйшай характарыстыкай, якую аўтар **apriori** дае Я. Коласу.

Затым, каб дапоўніць такую агульную характарыстыку, а разам з гэтым, каб паказаць, мабыць, як сама беларуская крытыка ацэнівае Я. Коласа, аўтар прыводзіць адрыўкі з крытычных заметак, памечаныя 1913 і 1911 г. г. (гл. стр. 286 і 309), у той час як гэтыя крытычныя заметкі ў сучасны момант, г. зн. праз 10 год творчай працы Я. Коласа, калі з-пад яго пяра паказалася цэлы шэраг новых твораў, утрацілі абсолютную вартасьць і прыстаюць да паэты так, як гарох да сьцяны.

Характарызуючы прырода-апісальную лірыку Я. Коласа, аўтар спыняецца выключна на самых раньніх вершах, каб пацьвердзіць, мабыць, свой апрыорны вывад, зроблены ім ужо на 255 старонцы:

«Дѣйствительно, и его поэзія, рисующая намъ *бѣдную бѣлорусскую природу* (курсіў наш. Ул. Дз.), забитое населеніе...» і г. д.

Як вядома, у раньняй прырода-апісальнай лірыцы Я. Коласа належыць шукаць не тыпізацыі беларускай прыроды, не фатаграфічных адбіткаў з яе, а зусім чаго іншага. Справа ў тым, што прырода ў раньніх творах Я. Коласа, праламаўшыся праз прызму яго паэтычнага духу, агорнутага ў той час вельмам пэсымізму і чорнай тугі над нацыянальна-сацыяльным няшчасьцем бацькаўшчыны,—страціла свой запраўдны выгляд і ахварбавалася ў чорныя і панурыя колеры псыхікі паэты.

Аднак аўтар стараецца ўбачыць тут запраўдныя адбіткі прыроды і гэткімі раньнімі вершамі характарызуе беларускую прыроду. На стр. 290 чытаем:

«Родная бѣлорусская природа нашла въ Мицкевичѣ вѣрное отраженіе какъ въ общемъ, такъ и въ подробностяхъ. Вотъ въ какихъ нѣжныхъ тонахъ онъ описываетъ родной край (31):

Я ня знаю, чым мне дораг?
Від палёў благенькіх,
Нудны воклік ў родных горах,
Вербаў рад крывеньніх і г. д.

А сколько искренности и простоты въ другомъ стихотвореніи на ту же тему (34):

Край наш бедны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок... і г. д.

Чаму-жа аўтар не пацікавіўся пазьнейшай прырода-апісальнай лірыкай Я. Коласа? Чаму ня прыцягнуў сюды абразкоў прыроды з «Сымона Музыкі», з «Новай Зямлі» і г. д.? Чаму, напрыклад, аўтар, ня хоча прызнаваць беларускай прыроды ў наступных адрыўках:

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсьць ў сьвеце божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе ўвясну лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуцль?!

Праўда, гэты адрывак прыводзіцца і аўтарам, але з цалкам іншай мэтай і ў зусім іншым месцы. Тут аўтар ня хоча бачыць «отраженія бѣдной бѣлорусской природы», а папераджае гэты адрывак (пры разглядзе паэмы «Сымон Музыка») наступным комэнтарыем:

„Часты лирическія отступленія, выражающія чувства поэта либо по поводу красот природы (увага: не беларускай прыроды, а прыроды наогул. Ул. Дз.), либо по случаю разныхъ обстоятельствъ изъ жизни главных героевъ. Очень типично въ этомъ отношеніи начало III-ей части, гдѣ изливаются чувства автора при мысли о судьбах Бѣлоруссіи. Вот начало этого мѣста:» (стр. 306).

Або чаму аўтар не ілюстраваў „бѣдной бѣлорусской природы“ наступным адрыўкам з паэмы „Новая Зямля“ („Адраджэньне“, стр. 290):

. . . . . . . . . . . . .
Лес наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся.

А дзе прыгожыя загібы
Так міла йшлі каля сялібы,
Што проста-б імі любаваўся.
Ўнізе кустоўнік расьсьцілаўся
Ды густа з лесам ён сплятаўся.
. . . . . . . . . . . .
Цякла тут з лесу невялічка,
Травой зарошчая крынічка,
Абодва берагі каторай
Лазьняк, алешнік абступалі,
А ў іх цяньку бруіліся хвалі...
Зялёны луг, як скінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Ад хаты зараз пачынаўся
І ўшыр і ўдоўж ён расьсьцілаўся
Ды йшоў квяцістай раўніною
З высокай мяккаю травою...

А гэтыя два адрыўкі зьяўляюцца папраўдзе тыповымі для прырода-апісальнай лірыкі Я. Коласа ў пэрыяд самага росквіту яго паэтычнай творчасьці. Тыповымі яны зьяўляюцца і ў стасунку да беларускай прыроды. Такіх буйных недахватаў нельга даравацъ аўтару, які імкнецца быць гісторыкам беларускай літаратуры, хаця-б, нават, «отчасти» (гл. «Прадмову»).

А вось як аўтар адзываецца аб вядомай у сваіх адрыўках паэме «Новая Зямля»:

«Новая земля» («Вольная Беларусь» 1918 г.)—подъ этимъ заглавіемъ объединено нѣсколько разсказовъ, напр.: „Як дзядзька сэьдзіў у Вільню і што ён там бачыў“. Въ банкѣ, куда онъ пришелъ подать прошеніе на разрѣшеніе купить землю, представлены сцены въ духѣ разсказовъ Пщелко...» і г. д.

Кожны, хто знаёмы з адрыўкамі гэтае паэмы (друкаваліся ў „Нашая Ніва“, «Вольная Беларусь», «Вольны сьцяг», «Адраджэньне»), няволна будзе „ашарашаны“ гэткай «характарыстай». Па велічы ідэі, па шырыні бытавых гарызонтаў, па стройнасьці і разнакалёрнасьці мастацкай кампозыцыі «Новая Зямля»—паэма, і не абы якая паэма! У гэтай паэме талент Я. Коласа дасяг нязвычайнай вышыні, разьвінуўся ва ўсю шырыню сваёй мастацкай магутнасьці; гэтая паэма можа лічыцца адным з найвыдатнейшых дасягненьняў у сучаснай беларускай літаратуры наогул. І ўсе гэтыя вывады можна зусім пэўна і сьмела зрабіць на падставе толькі тых адрыўкаў яе, якія ўжо паявіліся ў друку.

Аднак аўтар ня бачыць у ёй нічога больш, як злучэньне некалькіх «разсказовъ», і якіх яшчэ «разсказовъ»... у духу Пшчолкі!

Тут ужо ўсякія словы, усякія крытычныя ўвагі лішні: застаецца толькі пацiснуць плячыма.

Разглядзеўшы паэму «Сымон Музыка», аўтар робіць гэткі вывад:

«...По своему построенію произведеніе это приближается къ роману Пушкина „Евгеній Онѣгинъ“. Автор началъ писать его отдѣльными частями, съ большими перерывами съ 1911 г., и закончилъ только въ 1918 г.» (стр. 305).

Мы згаджаемся з гэткай думкай, толькі ў іншай крыху фармуліроўцы, а іменна: паэма «Сымон Музыка» падобна да роману «Евгеній Онѣгинъ» тым, што яна пісалася паасобнымі часткамі і з вялікімі перапынкамі, як і апошні. Але-ж шукаючы падабенства на падставе гэткіх даных, мы патрапім урэшце утоесаміць кітайскую літаратуру з Байронам! Бо як там, так і тут ёсьць творы, якія пісаліся паасобнымі часткамі і з вялікімі перапынкамі.

Ня зусім правільна аўтар зразумеў і агульную мастацкую концэпцыю ў паэме «Сымон Музыка», але з гэтым яшчэ паўбяды.

Цяпер некалькі слоў аб агульным уражаньні, якое ўзьнікае пасьля прачытаньня ўсяго аддзелу аб Я. Коласе. У агульных рысах тое самае, што і пасьля Я. Купалы. Кляпы, гузікі і... больш нічога, апрача некалькі, як мы вышэй бачылі, яўных недарэчнасьцяў. Брак пэўнага навуковага мэтаду, прымітыўны спосаб выкладу, нейкі дзіўны мясцамі стыль шкодзяць працы на кожным кроку. Возьмем, дзеля прыкладу, некалькі адрыўкаў:

На стр. 292 чытаем:

«Много и другихъ родныхъ картинъ запечатлѣно въ поэзіи Мицкевича, при чемъ некоторые изъ нихъ сопровождаются выраженіемъ чувства нашего писателя; такъ, напр., даже такой непривлекательный предметъ, какъ бѣлорусская проселочная дорога, описанная вообще правдиво, дала возможность сравнить съ нею нашу жизнь»... падаецца адпаведны ўзор, Далей чытаем:

«При видѣ непривѣтливого кладбища, авторъ не преминулъ сказать:

Вось дзе ад гора мужык адпачыне,
Вось дзе ён думкі і сьлёзы схаваў!

А на старонцы 312 знаходзім вось якую пэрлу стыльнага звароту:

«Здесь автор обнаружилъ знакомство не только съ человѣческими нравами, *но даже съ жизнью хлѣва...*» (курсіў наш. Ул. Дз.).

Затое, калі аўтару рэдка ўдавалася абрысаваць Я. Коласа, як паэту і пісьменьніка, то як этнографа яго акад. Е. Ф. Карскі абрысоўваў з нязвычайнай дакладнасьцю, некалькімі сьмелымі штрыхамі. Напрыклад:

„Разсказы «Прапаў чалавек» и «Грушы—сапежанкі», не представляя ничего особенного по замыслу, даютъ вѣрное изображеніе народныхъ нравовъ, точныя картинки быта, исполненныя человѣкомъ, хорошо знакомымъ съ послѣднимъ» (стр. 298).

А ў іншым месцы аўтар гэтак адзываецца аб нашым паэце:

«Вообще взгляды его на жизнь *довольно здравые* (курсіў наш. Ул. Дз.). Чтеніе его произведеній не требуетъ отъ насъ особаго напряженія вниманія и не утомляетъ насъ».

Па гэтых адрыўках чытач сам ужо патрапіць судзіць аб мэтадзе, стылю і форме выкладу.

На тым, як абрысованы ў гэтай працы наступныя пісьменьнікі і паэты: М. Багдановіч, Альбэрт Паўловіч, Г. Леўчык, З. Жылуновіч, К. Буйло, Ядвігін Ш., А. Прушынскі,—спыняцца ня будзем. Адзначым толькі, што ў выкладзе аўтара ўсе яны выходзяць надзвычайна да сябе падобнымі і блізкімі. Атрымліваецца ўражаньне, быццам чытаеш бясконца ўсё адно й тое самае, быццам топчашся ў нейкім зачараваным коле. Адны й тыя-ж характарыстыкі, адны й тыя самыя вывады застасаваў аўтар да кожнага пісьменьніка. Усе яны правільна адбіваюць «бѣдную бѣлорусскую природу и несчастныхъ ея жителей» (гл. стр. 316, 322, 331, 341 і інш.), у лірыцы кожнага з іх старанна адшукоўваецца біографія (часта зусім без патрэбы, бо некаторыя з іх яшчэ жывуць і могуць самі больш конкрэтна дапамагчы ў біографічных дасьледваньнях), пагляды кожнага паэты на паэзію засноўваюцца на першых стрэчных вершах і г. д., і г. д. Здаецца, быццам аўтар апрацаваў нейкую агульную для ўсіх іх схэму, з агульнымі рубрыкамі і агульнымі «итогами» (вывадамі) і падстаўляў у кожным асобным выпадку толькі імёны ўласныя і нумары старонак з адзначэньнем розных выданьняў.

Яшчэ некалькі слоў аб Бядулі-Ясакару. Ён у параўнаньні з усімі іншымі нашымі паэтамі і пісьменьнікамі асьветлены аўтарам найгорш; яго вы-

гляд, як паэты і пісьменьніка, найбольш скрыўлены і папсуты. Не вымагаючы ўжо ад аўтара якіх-колечы агульных концэпцый у гэтым кірунку, не вымагаючы, нават, характарыстыкі найбольш выдатных рысаў паэты, мы ўправе вымагаць, каб прынамсі тое нямногае, што ім дадзена, не супярэчыла яўнай рэчаіснасьці. На стр. 365 чытаем:

„Плавнику принадлежитъ *и нѣсколько прозаическихъ статей*“...(курсіў наш. Ул. Дз.).

Гэтак адзываецца акадэмік Е. Ф. Карскі аб пісьменьніку, якога вядома нам у друку да 80 апавяданьняў, агульным аб'ёмам каля 40-50 друкаваных аркушаў. І гэта некалькі «прозаическихъ статей». Нечага сказаць, добрая рэгістрацыя паэтычных матар'ялаў (гл. Прадмову)! Да слова кажучы, адзначым, што аўтар ва ўсёй сваёй працы па гісторыі беларускай літаратуры старанна ўнікае агульна прынятай тэрміналёгіі па літаратурнаму мастацтву. Узяць хоць-бы вышэйшы выраз «прозаическихъ статей!» Што павінна разумець пад гэтым выразам? Невядома. Літаратурная стылістыка гэткага тэрміну ня ведае. Праўда, публіцыстыка і навуковая літаратура карыстаюцца гэтым тэрмінам, але-ж хіба аўтар у вышэйпададзеных радкох ня хоча аднесьці З. Бядулю да публіцыстаў ці вучоных, бо й самі «прозаическіе статьи», якія прыводзяцца аўтарам там-жа дзеля прыкладу («Сьвіст Маладога Габрусіка». «Пяць лыжак заціркі», «Сон Анупрэя» і інш., гл. стр. 365), ня маюць ані публіцыстычнага, ані навуковага характару. А калі аўтар адносіць іх да краснага пісьменства, то абавязаны ўжываць і такую тэрміналёгію, якая прынята ў красным пісьменстве. Тое самае мы бачылі і на стр. 321, калі аўтар разглядаў М. Багдановіча:

„И прозаическія статейки М. Богдановича идейны. Такъ въ „Музыкѣ“...» і г. д.

Гэтыя „прозаическія статейки“ мы спатыкаем і ў іншых пісьменьнікаў.

Паэму Я. Коласа „Новая Зямля“, як мы вышэй бачылі, аўтар гэтак сама не адважыўся назваць паэмай, а назваў тэрмінам невядомым у літаратурнай стылістыцы. Але вернемся да Бядулі-Ясакара. На стр. 363 чытаем:

«Какъ и слѣдовало ждать отъ лица, такъ сказать, близкого къ Библіи, у Плавника есть нѣсколько стихотвореній на библейскіе мотивы:...“ і г. д.

Што хоча аўтар гэтым сказаць? І чаму ён думае, што Бядуля блізкі да біблії? Ці не таму, што Бядуля паходзіць з жыдоў? Але-ж Карл Маркс гэтак сама паходзіць з жыдоў, але нікому ў галаву ня прыходзіць, што ён блізкі да біблії. А Байрон паходзіў з старажытных ангельскіх лёрдаў, нічога супольнага з жыдоўскай нацыяй ня меў, аднак гэтак сама пісаў на... біблейныя матывы. Справа тут ня ў блізасьці ці далёкасьці да біблії, а ў многагранасьці духу паэты, які ўмее знаходзіць усюды матар'ял для свайго мастацкага натхненьня. І аўтару гэтага нельга не разумець, і не павінна забаўляцца ў такія прымітыўныя «характарыстыкі».

А ў якім-жа выглядзе наогул прадстаўлен аўтарам Бядуля-Ясакар? Агульны адказ на гэтае пытаньне мы знаходзім на стр. 259:

«Темы произведеній Плавника разнообразны, *но не выходятъ за предѣлы обыкновенно трактуемыхъ* новѣйшими бѣлорусскими писателями“ (курсіў наш. Ул. Дз.).

Гэтае цьверджаньне паважанага аўтара йзноў ня вытрымлівае ніякай крытыкі. У найноўшым беларускім пісьменстве, кожны паэта і пісьменьнік, (нават, уторазначныя літаратурныя велічыні) у сваёй творчасьці дае нешта новае, арыгінальнае, уласьцівае яму толькі аднаму, закранае тэмы ў большай ці меншай меры гэтак сама новыя, якія выходзяць за межы «обыкновенно трактуемыхъ». Варта толькі прыглядзецца, бліжэй пазнаёміцца, зразумець

творчасьць кожнага з іх, і ніколі тады ня прыйдзе ў галаву такая „характарыстыка“. Што-ж датыча творчасьці Бядулі-Ясакара, які ў беларускім пісьменстве зьяўляецца першараднай велічынёю, які арыгінальнасьцю як ідэёвага зьместу сваёй творчасьці, арыгінальнасьцю й разнастайнасьцю тэм, гэтак і самавітасьцю мастацкай формы—асабліва выдзяляецца з паміж іншых нашых паэтаў і пісьменьнікаў,—дык падобная характарыстыка напамінае сабою нешта ўжо вельмі блізарукае, вельмі наіўнае. Як відаць з розных вынасак, аўтар знаёмы з нядаўна выданым зборнікам вершаў Бядулі-Ясакара „Пад родным небам“. Зборнік зьмяшчае толькі частку вершаваных твораў. напісаных пераважна ў апошнія 2 гады. І вось мы, грунтуючыся пакуль-што толькі на адным гэтым зборніку, пастараемся абвергнуць вышэйшую «характарыстыку».

На стр. 70 памянованага зборніку мы спатыкаем паэму «Зачараваны край». Гэтая паэма зьяўляецца даволі ўдачнай спробай у кірунку мастацкага апрацаваньня беларускага народнага эпосу. На яе літаратурнай вартасьці затрымлівацца тут ня месца. Але мы задамо паважанаму аўтару пытаньне, ці гэтая паэма з тэматычнага боку не зьяўляецца цалкам новай і арыгінальнай у найноўшай беларускай літаратуры? Праўда, у беларускай літаратуры былі спробы апрацаваньня паасобных сюжэтаў, легэнд і г. д. з народнай творчасьці, але хто да Бядулі-Ясакара прабаваў аб'еднаць у пэўны мастацка—закончаны цыкл даволі значную частку нашага народнага эпосу (Казкі Сержпутоўскага), зьвязаць у вадно цэлае, злучыць нейкай агульнай ідэяй цэлы шэраг паасобных народных твораў?

А дзе ў беларускай літаратуры закраналіся тэмы, якія мы спатыкаем у вершах „На Гальгоце“ (ів. 109), „Тамуз і Егова“ (ів. 111), «Голад» (ів. 122), «Я—спадчына вякоў, сын даўных пакаленьняў» (ів. 52) і г. д.?“

А хто ў беларускай літаратуры ўнёс тыя самыя «біблейныя матывы»?

А хто ў беларускай лірыцы патраціў выявіць так хараство прыроды, разьвінуць такія шырокія і далёкія гарызонты перад гэтым хараством, хто, інакш кажучы, гэтае хараство прыроды зрабіў самастойнай тэмай у беларускай лірыцы, як не Бядуля-Ясакар?

І ва ўсіх гэтых цьверджаньнях мы апіраемся толькі на адным вышэй памянованым зборніку, г. зн. на аднэй нязначнай частцы вершаванай творчасьці Бядулі-Ясакара. А калі мы прыцягнем сюды яго працы наогул, то перад намі адкрыюцца без параўнаньня шырэйшыя гарызонты ў сэнсе навізны і арыгінальнасьці тэм, уласьцівых толькі аднаму Бядулі—Ясакару. Хто, напр., з паміж беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў падымаў такую тэму, якая так шырока закранута і сакавітымі хварбамі ў надзвычай сьмелым, мастацка-віртуозным малюнку выяўлена ў апавяданьні «Божыя сьляды»?

А «Малітва малога Габрусіка», а «Дванаццацігоднікі», а «Бондар» і г. д., і г. д.

А кім з беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў уведзен у нашу літаратуру, *ў якасьці самастойнай тэмы псыхолёгічны элемэнт, як не Бядуляй-Ясакарам*? А кім, як не Бядуляй-Ясакарам уведзен у нашу літаратуру *элемэнт містычнага*, у якасьці самастойнай, новай тэмы?

Дый ці можна ў некалькіх словах пералічыць тыя разнастайныя, цалкам новыя арыгільныя тэмы, якімі ўзбагаціў нашу літаратуру Бядуля-Ясакар, і якія, дзякуючы гэтаму, выходзяць «за предѣлы обыкновенно трактуемыхъ»?!

Праўда, тыя тэмы, якія адзначаюцца аўтарам і ілюструюцца тымі ці іншымі ўзорамі, ня выходзяць «за предѣлы обыкновенно трактуемыхъ». Але гэта сьведчыць толькі аб тым, што аўтар самага галоўнага і характэрнага ў

творчасьці Бядулі-Ясакара не даглядзеў, а ўсю сваю ўвагу спыніў на рэчах ўторазначных, на рэчах прыпадковых.

Спыняцца на паасобных дэталях разгледжанай працы больш ня будзем, а пастараемся толькі з разгледжанага зрабіць нейкія агульныя вывады ў стасунку да гісторыка-літаратурнай яе вартасьці.

Даволі значную гісторыка-літаратурную вартасьць, бязумоўна, мае першая частка працы да разьдзелу аб найноўшым беларускім пісьменстве. Паэтычны матар'ял усяго XIX сталецьця зарэгістраваны бадай-што поўнасьцю ў межах магчымага. Комэнтарыяў суб'ектыўна-аўтарскіх там ня лішне многа, дзякуючы чаму спатыкаецца менш абмылак. Дый сама рэгістрацыя паэтычных матар'ялаў зроблена ў гэтай часьці ўмела і навукова. Адзначаны, памагчымасьці, месца і час пахаджэньня кожнага экзэмпляру гэтых матар'ялаў, паказана і месца, дзе знаходзяцца дужа рэдкія, падчас, экзэмпляры нашага пісьменства. І гэтай часткай сваёй працы акад. Е. Ф. Карскі, бязумоўна, зрабіў вялікі ўклад у скарбніцу беларускай гісторыка-літаратурнай навукі.

Гэтак сама вялікую вартасьць мае і апошняя частка працы, у якой сабраны матар'ялы слоўніку беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў.

Горш маецца справа з разьдзелам «Новѣйшая бѣлорусская литература», які на бяду ва ўсёй працы займае галоўнае і цэнтральнае месца. У гэтай часьці працы аўтар не дасягнуў ні аднаго з пастаўленых ім заданьняў: паэтычны матар'ял зарэгістраваны далёка няўпоўнасьці, часта, як мы вышэй бачылі, супярэчыць яўнай рэчаіснасьці; што-ж датыча другога заданьня, а іменна: крытычнай ацэнкі з мастацкага боку, высьвятленьня умоваў творчасьці таго ці іншага аўтара, якасьці яго таленту і г. д., што часткова гэтак сама ўваходзіла ў пляны аўтара (гл. «Прадмову»), то тут, што ні крок—то грубая абмылка, што ні крок—то яўная недарэчнасьць. І гэтых абмылак і недарэчнасьцяў так многа, што яны пераважваюць усё тое дадатнае ў працы, аб чым мы вышэй казалі. І гэтыя абмылкі і недарэчнасьці маюць часта такі прымітыўны характар, што ня ведаеш, часамі, чым гэта вытлумачыць: ці абсолютнай неасьведамленасьцю аўтара ў пытаньнях літаратурнага мастацтва наогул і беларускага найноўшага пісьменства паасобку, ці мо', нават... злой воляй.

Уся найноўшая беларуская літаратура прадстаўлена ў такіх бледных тонах, уся яна прадстаўлена такой убогай, такой аднастайнай, такой, я-б сказаў, грубай і неабцесанай, з такімі вузкімі і абмяжаванымі гарызонтамі, што на чалавека, які беспасрэдна з ёю незнаёмы, яна зробіць уражаньне нейкай запушчанай, няхлюйнай правінцыяльнкі і... больш нічога. А разгледжаная намі праца як раз і разьлічана галоўным чынам на расійскія навуковыя сфэры, на сфэры, незнаёмыя з беларускім пісьменствам. Такім чынам беларуская літаратура атрымала ад акад. Е. Ф. Карскага папраўдзе «медвежью услугу». З гэтага пагляду мы і павінны разглядаць і ацэніваць апошняе зьвяно ў коле вядомых нам прац Е. Ф. Карскага па беларускай мове і славеснасьці—3-ці выпуск III тому «Бѣлорусы». Тут-жа прыходзіцца адзначыць тую бязьмерную колькасьць абмылак, перакручваньняў і недарэчнасьцяў, якімі пярэсьцяцца беларускія тэксты ў працы. Возьмем, напрыклад 360 стр. Тут вершы Бядулі-Ясакара пакалечаны да непазнаньня:

„Вартуйце Дзіў *абтар* лугоў, далін;"
„Буць—брыдуць, бы Нёман з месца рынуў,
Бы грамада узбраных касцоў".

На стр. 365 чытаем «Сьвіст маладога Гарбузіка» замест—Габрусіка і г. д., і г. д.

Засталося нам яшчэ хаця ў самых беглых рысах пазнаёміцца з другой стараной працы, а імена з тым, як у ёй асьветлены беларускі-нацыянальна-адраджэнцкі рух. Гэты рух з самага пачатку свайго істнаваньня грунтаваўся галоўным чынам. на беларускай мове, а нават былі пэрыяды, калі ён цалкам вычэрпваўся ёю. Вось чаму акад. Е. Ф. Карскі ў тых мясцох сваёй працы, дзе ён зачапляе пытаньні, так ці йначай зьвязаныя з беларускай мовай, дзе выказвае свае асабістыя пагляды і адносіны да яе,—гэтым самым выяўляе свой стасунак да беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху ў цэлым, дае тое ці іншае асьвятленьне гэтаму руху, а нават ставіць, як мы ніжэй пераканаемся, пэўныя прогнозы гэтаму руху.

На стр. 5, дзе даецца аўтарам агульны агляд літаратуры на сучаснай беларускай мове, прыводзяцца прычыны, дзеля якіх у другой палове XIX сталецьця не паяўлялася больш-менш значных літаратурных твораў на беларускай мове: з паміж гэтых прычын зьвяртаюць на сябе ўвагу дзьве апошнія:

„3) неблагосклонное отношеніе къ литературѣ на народном языкѣ правительства, такъ какъ, кроме невинных поэтическихъ произведеній, на немъ стали появляться и прокламаціи, возбуждающія народъ противъ господствующихъ въ государствѣ религіи и власти; 4) что самое главное—особенная близость народного бѣлорусскаго языка къ южновеликорусскому, вследствие чего, если опустить въ напечатанномъ этимологически произведеніи дзеканье, цеканье, то получится почти общелитературный языкъ, отличающійся только меншей отдѣлкой, и, слѣдовательно, менѣе достойный вниманія читателя».

Што ні адна з гэтых „прычын“ не адпавядае рэчавіснасьці, што ні адна з іх ня мае пад сабою аніякага навуковага грунту, што абедзьве яны маюць чыста суб'ектыўны характар,—гэта відавочная праўда. Вялікадзяржаўная царская палітыка забараніла беларускі друк не таму, што ў ім пачалі паяўляцца розныя проклямацыі! Такое тлумачэньне або падзіцячаму наіўнае, або... зломысьльнае. Бо забаронай беларускага друку царскі ўрад не дасягаў тае мэты, на якую паказвае аўтар. Проклямацыі заўсёды выдаваліся і распаўсюджваліся падпольна, паміма цэнзуры і паліцэйскага нагляду: значыць, для іх ніякага значэньня ня мела тое, ці забаронена ўрадам друкаваць пабеларуску ці не. Ды й сам царскі ўрад добра гэта ведаў, бо не забараняў ані польскага, ані расійскага друку, хаця і ў гэтых мовах друкаваліся розныя палітычныя проклямацыі і ў ліку ня меншым, чымся ў беларускай мове.

Забараняючы беларускі друк, царскі ўрад імкнуўся зусім да іншай мэты, аб якой ня можа ня ведаць акадэмік Е. Ф. Карскі, а іменна—*да русіфікацыі* Беларусі. Аб гэтым, паўтараем, ня можа ня ведаць аўтар, бо царскі ўрад ніколі з гэтым не таіўся, а заўсёды цалкам выразна падкрэсьліваў свае „истиннорусскіе“ адносіны да «истиннорускаго населенія» «западного края». Чаму аўтар замаўчаў аб гэтай самай важнай, самай галоўнай прычыне, якая зьяўлялася найвялікшаю перашкодаю ў разьвіцьці беларускай літаратуры ў другой палове XIX сталецьця? Яшчэ горш, чаму аўтар стараецца прыкрыць гэтую запраўдную прычыну нейкай байкай аб проклямацыях? Ці яшчэ й дагэтуль акадэмік Е. Ф Карскі ня можа адвыкнуць ад старое прывычкі падчышчаць старанна кожную пляму на вялікадзяржаўнай расійскай царскай шаце? Але-ж такая стараннасьць цяпер абсолютна нікому непатрэбна, дый прашла пара, калі ёй давалі веру!..

Яшчэ больш цікавая агульная характарыстыка беларускае мовы, якая значыцца ў якасьці самай «важнай» прычыны пад пунктам 4: «... если опустить в напечатанномъ этимологически произведеніи дзеканье, цеканье, то получится почти общелитературный языкъ, ...»

Іншымі словамі, беларуская сучасная літаратурная мова ёсьць нішто іншае, як «общелитературный язык (разумей—расійская літаратурная мова. Ул. Дз.), толькі запісаны не паводлуг правіл этымолёгіі. Значыць уся справа ў самым напісаньні, у самым правапісе! Запраўды несцадзяваны вывад для тых, хто знаёмы з II-ім томам «Бѣлоруссы», дзе аўтар на працягу некалькі соцен старонак разглядаў як фонэтычныя, так морфолёгічныя і сынтаксычныя і слоўнікавыя асаблівасьці беларускае мовы. Праўда, і ў вышэйпамяновапай працы аўтар у сваіх паглядах на беларускую мову далей «нарѣчия» не заходзіў, але ўсё-ткі такога «галаваломнага» выводу рабіць не адважваўся. Вось як у гэтай справе выказваўся ў свой час паважаны аўтар:

«Русскій народъ слагается изъ трехъ большихъ группъ: великоруссовъ, малоруссовъ (украинцевъ) и бѣлоруссовъ. Каждая изъ этих частей разнится одна отъ другой и по языку. Представляя одну общую основу, языкъ каждой изъ названной группъ имѣетъ свои діалектическія отличія, иногда очень значительныя». («Бѣлорусская рѣчь». Очеркъ народнаго языка съ историческимъ освещеніемъ, стр. 5).

Для тых-жа, хто знаёмы і практычна і навукова з беларускай і расійскай мовай, такі вывад проста пакажацца толькі сьмешным. Тлумачыць яго звычайнай неасьведамленасьцю аўтара ня прыходзіцца. Карэньняў трэба шукаць глыбей, а іменна, ў тэй тэндэнцыйнасьці, якую ўжо вышэй праявіў аўтар, старанна ўтаіўшы русіфікатарскую палітыку царскіх урадаў. Дый яно зразумела: ня было чаго русіфікаваць, бо й так усё расійскае—вось асноўная аўтарская думка. Але пераходзім далей.

На стр. 144, разглядаючы творчасьць Пшчолкі, аўтар піша:

«... Поэтому, нѣкоторые его разсказы написаны на общерусскомъ литературномъ языкѣ, и только въ нихъ введена масса народныхъ словъ и выраженій; но есть у него очерки и на чистомъ бѣлорусскомъ языкѣ. По тойже причинѣ, чтобы разсказы его стали болѣе доступными для пониманія интеллигенции читателей, у него не выдерживается дзеканье і цеканье, а вездѣ лишь мягкія *д* и *т*:»

Тут мы бачым яўную непаступовасьць і супярэчнасьць з тым паглядам аўтара на беларускую мову, з якім мы пазнаёміліся вышэй. Пшчолка выкідаў дзеканьне і цеканьне, замяняў іх мягкімі *д* і *т*, аднак, ня гледзячы на гэта, некаторыя яго «очерки» трэба лічыць напісанымі «на чистомъ бѣлорусскомъ языкѣ», а не на «общерусскомъ литературномъ», чаго належала-б чакаць паводлуг ранейшай думкі аўтара. Тут аўтар прагаварваецца, што беларуская мова ня вычэрпваецца дзеканьем і цеканьнем, ня вычэрпваецца правапісам.

А вось і пагляд аўтара на асновы нашага правапісу:

«Изданія Общества (гутарка йдзе аб Беларускай Выдавецкай Суполцы «Загляне сонца і ў наша ваконца». Ул. Дз.) дѣлаются русскими и латинскими буквами: первыми—съ пропускомъ *ъ* и *ѣ*, съ замѣной *И* посредствомъ *і*, *щ*, посредствомъ *шч*; а вторыми—съ введеніемъ чешскихъ Ž, Ć, Ś, вмѣсто польскихъ Ż, CZ, SZ: такимъ образомъ, польскій элементъ въ латинской орѳографіі былъ скрашенъ, но зато въ русской *і* и *шч* приблизили написание къ польскому съ ихъ *і* и SZCZ. Вліяниемъ польской орѳографіі слѣдуетъ объяснять и слишкомъ частое употребление *Ь* между согласными для обозначения мягкости въ тѣхъ случаяхъ, гдѣ по-польски надъ согласнымъ стоит знак ' (ср. ёсьць—Jość, чытаньне—ćytannie), а въ русской мягкость сама собой подразумевается» (стр. 160).

Як мы бачым, тлумачэньне цалкам тэндэнцыйнае. Мала таго—тэндэнцыйнае да нейкай нязвычайнай прымітыўнасьці. Бо хто-ж паверыць сёньня

аўтару, што *і, шч, ь* паміж сугалоснымі маюць нейкае полёнофільскае пахаджэньне? Над такім тлумачэньнем толькі ўсьміхнецца любы школьнік, які пасьпеў пазнаёміцца з *фонэтычным прынцыпам* беларускага правапісу. Уся справа тут не ў полёнофільскіх імкненьнях, а ў фонэтычным прынцыпе, які быў чыста стыхійна заложаны ў аснову нашага пісьма яшчэ ў канцы XIX веку, і які прыняў сьцісла азначаную і закончаную форму ў «правапісе» Тарашкевіча. Аб гэтым ізноў акад. Е. Ф. Карскі, які прымаў даволі чынны ўдзел у апрацаваньні «Беларускай граматыкі» Тарашкевіча (гл. прадмову да яе), ня можа ня ведаць; значыць, прычыну такой зьяве трэба шукаць у пэўнай тэндэнцыйнасьці, якая што раз, то выразьней будзе праяўляцца.

А якое-ж значэньне мае беларуская мова наогул? На гэта знаходзім на стр. 181 наступны адказ:

«Тогда и просто интеллигентные люди и бѣлорусскіе дѣятели разныхъ толковъ увидѣли бы, что бѣлорусскій народный языкъ, долгое время развивавшійся въ забытомъ и забитомъ народѣ безъ литературной обработки, является однимъ изъ важнѣйшихъ факторовъ въ изученіи русской филологіи, сохраняя въ себѣ, какъ и вообще народные говоры, много старины, важной для пониманія дѣйствующихъ въ языкѣ законовъ лингвистическихъ и психологическихъ.»

Іншымі словамі акад. Е. Ф. Карскі стараецца пераканаць чытача, што беларуская мова мае значэньне, як кожны архаізм, які дае матар'ял для асоб, робячых сабе навуковую кар'еру, што беларуская мова зьяўляецца тым гноем, на якім могуць узрастаць навуковыя «знаменитости». У гэтым, па думцы аўтара, захована галоўнае значэньне беларускай мовы і яе галоўнае назначэньне. Апрача гэтага прынцыпова-галоўнага, маецца яшчэ і чыста практычнае застасаваньне беларускай мовы:

«Держась строго педагогических методов, *въ самыхъ захолустныхъ мѣстахъ* съ этого языка можно бы начать и начальное обученіе» (курсіў наш. Ул. Дз.) (стр. 181).

Такім чынам акад. Е. Ф. Карскі ў сваёй апошняй працы ўсё-ж ткі аддае дань сваіму часу, калі проблемы нацыянальных культур ва ўсю шырыню пастаўлены і разьвязаны сучаснай сацыяльнай рэвалюцыяй. Але і гэтую уступку робіць у фармуліроўцы папраўдзе «акадэміцкай»—«въ самыхъ захолустныхъ мѣстахъ». Выразна і дакладна! Ніякіх непаразуменьняў быць не павінна. А далей чытаем:

«Конечно лишь увлеченіемъ крайнихъ вожаковъ бѣлорусского движенія, преслѣдовавшихъ цѣли скорѣйшаго приближенія бѣлоруссовъ къ культурѣ западныхъ сосѣдей можно объяснить требованіе (во время польской оккупаціи 1919--1920 г.г.) сейчас-же ввести преподавание всѣхъ наукъ во всѣхъ учебныхъ заведеніяхъ, даже высшего типа, на этомъ языкѣ».

А чым-жа вытлумачыць акад. Е. Ф. Карскі тое, што прадстаўнікі Савецкай улады, прадстаўнікі Камуністычнай партыі ў асобе Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі ўвялі беларускую мову ў якасьці выкладовай ня толькі «въ самыхъ захолустныхъ мѣстахъ», ня толькі бадай-што ва ўсіх пачатковых школах на Беларусі, ня толькі ў значнай часьці сярэдніх школ, але, праўда пакуль што часткова, і ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсітэце, дзе тры катадры вядуцца ў беларускай мове, і ў Беларускім Дзяржаўным Сельска-гаспадарчым Інстытуце, дзе маецца ўжо гэтак сама дзьве катадры з выкладовай беларускай мовай? Лічыць гэтых прадстаўнікаў „крайними вожаками бѣлорусскаго движенія" акад. Е. Ф. Карскі хіба не асьмеліцца? А тым больш не асьмеліцца прыпісаць ім, што яны «преслѣдують цѣли скорѣйша-

го приэлученія бѣлоруссовъ къ культурѣ западныхъ сосѣдей» (пад «западными сосѣдями» разумей палякоў. Ул. Дз.)?

Значыць, ня ў гэтым сабака зарыты, ня «увлеченіемъ крайнихъ вожаковъ» трэба тлумачыць проблемы беларускай мовы, а разам з ёю і проблемы беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху.

Спынімся яшчэ на асьвятленьні аўтарам беларускага руху ў сэнсам яго значэньні. Перш-на-перш, акад. Е. Ф. Карскі ўсюды ў сваёй працы тэрмін «беларускі рух» наперадзкае эпітэтам „так называемое“. Гэтак ужо на староньцы 6 чытаем:

„...и началось такъ называемое бѣлорусское движеніе“.

На стр. 151 ізноў чытаем:

„Новѣйшая бѣлорусская литература находится въ тѣсной связи съ такъ называемымъ *бѣлорусскимъ движеніемъ* (курсіў аўтара).

Што належыць разумець пад эпітэтам «такъ называемое»: ці звычайную стылістычную шурпатасьць, ці тое, што мы прывыклі разумець, а іменна: адмоўнасьць, недарэчнасьць, «нарицательность»? Нам здаецца—апошняе, бо гэтак разумець прымушае нас уся лёгічная пабудова працы. А калі так, то акад. Е. Ф. Карскі толькі лішні раз падкрэсьлівае, што яго інтэлект, яго псыхіка ня можа вырвацца з рамак таго недалёкага мінулага, калі гэты эпітэт меў шырокае застасаваньне да ўсяго таго, што не згаджалася з «оффиціальной» палітыкай і «оффиціальной народностью», і ў цэрпы чарод да нацыянальных рухаў.

Але—consuetudo—altera natura. Нічога не параіш.

На стр. 163 чытаем:

«Она („Наша Ніва“) безъ стѣсненія указываетъ бѣлоруссамъ-католикамъ, что они не поляки; но въ то же время недостаточно ясно подчеркивается, что бѣлоруссы такая-же вѣтвь русскаго народа, какъ и великорусы и малорусы: вѣдь если распространять въ народѣ свѣтъ науки, то ужъ полностью, а не односторонне».

Так, паважаны аўтар! Калі гаварыць, то ўжо поўнасьцю, а не аднабочна. Што акад. Е. Ф. Карскі разумее пад «русскимъ народомъ»? Здаецца, —той конгломэрат, які тужылася ўтварыць чарнасоценна-царская палітыка з «три девяти языцевъ», якія гвалтам былі ўпхнуты ў межы «великодержавной». Але-ж расійскім царом і яго прылізьнікам чарнасоценцам не ўдалося стварыць такога конгломэрату, аб чым сьведчыць развал «великодержавной» пасьля ўпадку царызму, калі ўсе нацыі ўсімі сіламі стараліся адарвацца ад гэтага конгломэрату, які быў нічым іншым, як гегемоніяй вялікарасійскай нацыі ў асобе яе памешчыкаў і буржуазіі. Праўда, сацыяльная рэвалюцыя паўстрымала такі антогонізм да пануючай нацыі, пачала нанова зьбіраць у адзін палітычны арганізм гэтыя нацыі, але ўжо на цалкам іншых прынцыпах: самавызначэньне і роўнасьць усіх нацыяў.

Іншага „русскаго народа“ гісторыя ня ведае. Беларускі, украінскі, маскоўскі або вялікарасійскі—вось гістарычныя народы. А „русскій народъ“—гэта злая выдумка, або, лепш кажучы,—гэта тая мэта, да якой імкнуліся расійскія «самодержцы», але зьдзейсьніць якой ім не ўдалося.

І вось акад. Е. Ф. Карскі нездаволены тым, што «Наша Ніва» не дапамагала „истинно русскимъ“ у прапагандзе гэтай «истинно русской» ідэі аб «русском народѣ». Гэтае сваё нездаволеньне ён асабліва выразна падкрэсьлівае і тлумачыць у наступных радкох:

„Одно, кажется намъ, не гармонируетъ съ принятымъ газетой тономъ, это—нѣсколько холодное отношеніе къ главной народности въ государствѣ: въ «Нашей Нивѣ» постоянно выступаютъ «расейцы», вездѣ слово «расейскі»—термины, которые народу неизвѣстны, онъ всегда говоритъ «русскіе»,

«русскій». Без нужды слишкомъ много мѣста удѣляется въ газетѣ для народа сообщеніямъ объ отрицательныхъ сторонахъ русской жизни.» (стр. 163).

Тут аўтар паставіў кропкі над і. Тут выяўляецца поўная солідарнасьць аўтара з даўнейшай чарнасоценнай клікай. Прыпамінаецца, колькі грапак «Нашай Нівы» было выкінута ў свой час цэнзарам якраз з гэтай самай матывіроўкай: за «холодное отношеніе къ главной народности» і за „сообщеніе отрицательныхъ сторонъ русской жизни".

У другім месцы, гаворачы аб чыннасьці царскай адміністрацыі на Беларусі, аўтар адзначае:

«Правильно видя въ бѣлорусской народности только разновидность русскаго племени, они и старались во всемъ сравнять её съ остальнымъ населеніемъ Россіи, въ чемъ въ сущности не было никакой нужды» (стр.177).

Гэта другіварыянт на тую самую тэму. «Разновидность» таго «русскаго племени», што абымала сабою ўсе народы, насяляўшыя „великодержавную". Па гэтай схэме ў «русское племя» ўваходзяць і башкіры, і тунгузы, і чувашы і інш.

Вось больш-менш тыповыя адрыўкі, якімі перапляцена уся праца акад. Е. Ф. Карскага. Як мы бачым, перад намі ўскрэсьлі думкі і пагляды, якія мы лічылі ўжо зьніштожанымі пажарам сучаснай рэвалюцыі. Дыфірамбы царскім і чарнасоценным ідэалам і г. д. знайшлі сабе прытульнае месца на старонках гэтае працы. Гэтак, на стр. 71, аўтар, разглядаючы верш Каратынскага, адзначае:

«Въ этомъ стихотвореніи, кромѣ призыва крестьянъ къ дружной работѣ на дорогѣ, по которой долженъ былъ ѣхать император, есть указаніе и на тяжелую участь крестьян, на желаніе равенства и братства, что могло бы послѣдовать, когда у них наступит «день», «взойдет солнце свободы, которое разгонитъ туманъ, окутывающий народ» (у двукосьсе ўзяты аўтарам думкі і выразы вершу Ул. Дз.) Этим солнцемъ и оказался современемъ освободитель крестьянъ Александр II.

Такім чынам, акад. Е. Ф. Карскі надзявае на разьвенчанае чало манархізму сонечную карону, замест даўнейшай залатой; «смотрите, дескать, и преклоните ваши колѣни»!

А вось як акад. Е. Ф. Карскі адзываецца аб вядомых чарнасоценных лістках, якія заклікалі народ да паслухмянасьці царом і папом, якія займаліся часта правакацыйнай і пагромнай агітацыяй:

„Мнѣ извѣстны лишь одна брошюра и два стихотворенія, вышедшие изъ интеллигентной среды, имѣющіе въ виду распространеніе среди крестьянъ-белоруссовъ здравыхъ взглядовъ относительно видовъ правительства при освобожденіи крестьянъ отъ крѣпостной зависимости и надѣленія ихъ землей» (стр. 90).

Тут-жа падаецца пачатак з такой брашуры, якая па думцы акад. Е. Ф. Карскага пашырала паміж беларускіх сялян «здравые взгляды»:

«Слово царское ни абы якое. Нашъ братъ цадъ нишы часъ абицаиць, чаго пасля сполниць и нявсючыць и ня вможыць, а Царъ што сказавъ— свята..." (ів. 91).

А вось адрыўкі з вершу, які гэтак сама пашыраў „здравые взгляды"

„Братцы, братцы! надаждзеця,
На всіо въ свѣци іо свой часъ;
Ня гукайце ни гаманеця:
Цар ни забудзицца пра насъ,

Бо царска слово ни абы якоя,—
Што тольки скажыць Царъ кому,
То завсягды суповниць тоя;
Бо іонъ и слову царъ свойму". (гл. стр. 92).

„Паны Цару и краю служаць,
Въ совѣци изъ Царомъ сидзяць,
За всихъ насъ думаюць и тужуць
Законы супавниць хацяць.
Паны защитою для края,
У кожным дзѣлѣ всіо паны"... і г. д. (стр. 94).

З гэтымі думкамі чарнасоценных лісткоў 60 гадоў адкрыта солідарызуецца акад. Е. Ф. Карскі, называючы іх «здравыми взглядами».

Што-ж датыча дзеячоў рэвалюцыйнага стану, ворагаў манархічнага дэспотызму, то аб іх акад. Е. Ф. Карскі гэтак адзываецца (стр. 178):

„А при такихъ условіяхъ здѣсь легко было дѣйствовать разнымъ партійнымъ работникамъ, дающимъ одностороннее и даже ложное освѣщеніе фактам, особенно національным вопросам; это было тѣм легче дѣлать, что среди такихъ лицъ попадались и *дѣятели злой воли, сводившіе свои личные или партійные счеты съ правительством* (курсіў наш. Ул. Дз.).

Мы лічым, што прыведзеных намі прыкладаў выстарчыць, каб больш-менш выразна прадставіць сабе палітычнае аблічча акад. Е. Ф. Карскага. А для тых, хто прадставіць сабе гэтае палітычнае аблічча, гэтую сацыяльную ідэолёгію акад. Е. Ф. Карскага, усе вузлы, завязаныя апошнім на беларускім руху, самі сабой разьвяжуцца, уся гразь і мана, якою акад. Е. Ф. Карскі стараецца апаганіць беларускі рух, або зьвясьці яго на польскія ці нямецкія маркі,—зьвернуцца на самога аўтара.

Цяпер пераходзім да апошняга акорду разгледжанай працы, да „Послѣсловія". У гэтым „Послѣсловіи", як у фокусе, сабраліся ўсе тыя расьсееныя думкі і ахварбаваліся ў спэціфічныя ноткі «лірызму», дзякуючы чаму „Послѣсловіе" напамінае «послѣднюю пѣсню умирающего лебедя».

Тут аўтар перш-на-перш накідаецца на тых, хто:

«... пытались создать изъ бѣлоруссов особую славянскую, отличную отъ русских націю; старались подчеркивать «славное прошлое" Бѣлорусского народа; выдвигали своеобразныя особенности языка бѣлорусского, избѣгая и преслѣдуя названіе его нарѣчіем и видя въ немъ также не русскую разновидность». (стр. 439).

Яно й зразумела, усё гэта пярэчыла таму чарнасоценна-царскаму ідэалу, каб з усіх народаў, насяляўшых «великодержавную», утварыць «единый и нераздѣльный русскій народъ съ единой православной церковью и единымъ неограниченнымъ монархомъ». І як-жа не ненавідзець за гэта дзеячоў беларускага руху!

Далей чытаем:

«Но этого мало. Въ бѣлоруссахъ сильно заложены основы общерусской культуры; необходимо было ихъ какъ нибудь вытравить; средство для этого придумано настоящее—нужно было приняться за уничтоженіе русской школы»—(падаецца адпаведны адрывак з газ. «Беларусь» 1920 г.).

Як-жа йзноў не ненавідзець гэтых беларускіх дзеячоў, якія руйнавалі ў беларускім народзе „основы общерусской культуры», заложаныя расійскімі царамі пры шчырай дапамове «истинно-русскихъ» акадэмікаў! Кожны цэніць сваю працу і пратэстуе, калі яна руйнуецца іншымі. Тым больш, што ў працэсе беларускага руху прыйшоў чарод і да расійскіх школ, гэтых

рассаднікаў на Беларусі „истинно-русскихˮ ідэалаў. Тут і нямы пачне крычаць.

А вось і агульны прогноз у стасунку да беларускай культуры:

«Литература белорусская, отличающаяся жизненностью, как провинціальная, будет существовать и развиваться» (стр. 442).

Дзякуй і затое акад. Е. Ф. Карскаму, што дазваляе істнаваць беларускай літаратуры хоць у рамках правінцыяльных! З усяго вышэйшага можна было чакаць і горшага!

«Что-же касается бѣлорусскаго языка, которымъ говоритъ простой народъ, то желая ему всякаго процвѣтанія въ будущемъ даже до мірового значенія, я по вопросу о введеніи его сейчас въ науку, какъ языка высшего и даже средняго преподаванія, держусь приблизительно того-же взгляда, какой былъ высказанъ въ послѣднее время и однимъ безпристрастнымъ полякомъ (проф. И. А. Бодуэномъ-де-Куртенэ, „Варш. Словоˮ 1920, № 93), а именно, «что бѣлорусскій языкъ столь близокъ къ языку великорусскому, что ему навряд ли удастся удержаться рядомъ съ этимъ послѣднимъ. Для нуждъ изящной литературы и для нуждъ науки бѣлоруссы будутъ вѣроятно пользоваться и впредь общерусскимъ языкомъ, выросшимъ на великорусской почвѣ»—прибавимъ отъ себя—не безъ участія другихъ русскихъ нарѣчій, въ томъ числѣ и бѣлорусскаго, особенно въ прежнее время“. (стр. 442).

„Уста глаголютъ“ адно, а ў думках другое, паважаны аўтар! Калі-б акад. Е. Ф. Карскі быў запраўды перакананы, што і «впредь общерусскій» будзе панаваць на Беларусі, то не выліваў-бы гэтулькі жоўці з прычыны «такъ называемаго» беларускага руху, ня псуў-бы сабе гэтулькі сваёй вучонай крыві, не ламаў-бы сваіх вучоных мазгоў над рознымі софістыкамі і не компромітаваў-бы сябе, згарача, перад вачыма сучаснай улады! Уся бяда, усё няшчасьце ў тым, што ў душу акад. Е. Ф. Карскага, як відаць з яго працы, закраліся сумненьне і страх за гэтыя „общерусскія основы“ ў беларускім народзе, над якімі нямала ў свой час «потрудился» й сам аўтар. Тым больш злуецца аўтар, бачачы, як працоўны беларускі народ рукамі сваіх прадстаўнікаў—савецкай улады—дарэшты разрывае лахманы «общерусскихъ основъ» на сваім адмалоджаным і ўзмоцненым сацыяльнай рэвалюцыяй целе; і гэтая злосьць, ня маючы адвагі скіравацца супроць тых, у чыіх руках сёньня знаходзіцца беларускі рух, рыкашэтам адскаквае назад, у мінуўшчыну, якой ужо перасталі цікавіцца і аб якой, нават, часта й забыліся. У рэзультаце гэтай злосьці і ненавісьці да ўсяго, што пярэчыць традыцыйным ідэалам «официальной народности» з-пад пяра акад. Е. Ф. Карскага вышаў той злосны памфлет на беларускае адраджэньне, які займае значную частку яго апошняй працы.

З гэтага пагляду трэба й падыходзіць да тае часткі гэтай працы, у якой так ці йначай адбіваецца і асьвятляецца беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух.

Што-ж сказаць аб 3-ім выпуску III-га тому наогул? Мы ўжо вышэй мелі магчымасьць адзначыць і дадатнія і адмоўныя якасьці гэтай працы. Тут толькі дадамо, што яна, дзякуючы сваёй павярхоўнасьці, вельмі мала дасьць новага для тых, хто больш-менш знаёмы з гісторыяй беларускае літаратуры і з гісторыяй беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. Для тых-жа, хто мала або зусім незнаёмы з імі, гэтая праца акад. Е. Ф. Карскага прынясе кдўную шкоду: паасобныя моманты ў гісторыі беларускай літаратуры і ў гісторыі беларускага руху найчасьцей атрымалі ў ёй асьвятленьне тэндэнцыйнае, цалкам адваротнае й супярэчнае рэчаіснасьці, а ў найлепшым выпадку—атрымалі асьвятленьне ненавуковае і не паакадэміцку дылетанцкае.

**Ул. Дзяржынскі.**

# Першы крок зроблены.

**Уражаньні з конфэрэнцыі настаўнікаў беларусазнаўства, якая адбылася ў г. Слуцку 15 і 16 студзеня г. г.**

Будаўніцтва савецкай працоўнай школы наогул ёсьць справа нялёгкая. Брак пэдагогаў-марксістаў, брак запраўды асавечаных настаўнікаў не даюць магчымасьці разьвінуць гэтае будаўніцтва ва ўсю шырыню й глыбіню. А з другога боку—старыя пэдагогічныя традыцыі, старыя школьныя ідэйкі, якія шмат дзе яшчэ ня выветрыліся—труюць здаровую атмосфэру новай савецкай школы, ставяць перашкоды й замінкі ў будаўніцтве яе.

Што-ж датыча будаўніцтва савецкай працоўнай школы ў нас на Беларусі, то тут прыходзіцца перамагаць яшчэ асаблівыя перашкоды, якіх няма ў цэнтральных раёнах С.С.С.Р. Справа ў тым, што чарнасоценна-абрусіцельная царская палітыка калечыла ў нас школьную справу дашчэнту. Самыя элемэнтарныя вымаганьні пэдагогікі былі адкінуты ў бок, як лішняя непатрэбшчына.

Пэдагогіка вучыць—у зразумелай дзецям мове пачынай навучаньне з рэчаў ім блізкіх, свойскіх, знаёмых. У нашых школах рабілася якраз наадварот—навучаньне пачыналася й праз увесь час праводзілася ў мове незразумелай і аб рэчах далёкіх, чужых, невядомых школьнікам. І гэткае калечаньне было ўведзена ў прынцып, у аснову кожнае школы на Беларусі.

Зразумела, чаму Савецкая ўлада ў сваёй школьнай палітыцы зьвярнула ў гэты бок вялізную ўвагу. Прынцып мацярынскай мовы і прынцып краязнаўства (радзімазнаўства) заложаны ў аснову савецкае працоўнае школы. Гэтым трэба й тлумачыць тую вялізную прыхільнасьць Савецкай улады да прадметаў беларусазнаўства ў працоўнай школе на Беларусі: гэтыя прадметы (беларуская мова, гісторыя Беларусі, геаграфія Беларусі і беларуская літаратура) зьяўляюцца першымі цаглінкамі ў будынiне радзімазнаўства.

Але пры практычным застасаваньні гэтых прадметаў у школьным жыцьці спатыкаюцца йзноў значныя перашкоды: брак настаўнікаў-беларусазнаўцаў, адсутнасьць пэдагагічных мэтадаў у стасунку да гэтых прадметаў, адсутнасьць падручнікаў і г. д. Дзеля гэтага кожнаму настаўніку-беларусаведу прыходзіцца адначасна рабіць у меру магчымасьці і напоўнавуковыя досьледы ў галінах беларусазнаўства, і вынаходзіць ў гэтых прадметах самае важнае і галоўнае і ўстанаўляць пэўныя школьныя мэтады пры выкладаньні іх і г. д. і г. д. Зразумела, што пры такім становішчы на паасобнай, індывідуальнай працы кожнага настаўніка-беларусаведа далёка не заедзеш. Патрэбна супольная праца, патрэбна колектыўная творчасьць.

І вось Слуцкі павятовы аддзел асьветы ўзяў ініцыятыву, зрабіў першы крок у гэтым кірунку. На 15 студзеня г. г. склікаў гарадзкую і павя-

товую конфэрэнцыю настаўнікаў беларусазнаўства. Мэтай гэтага артыкулу і ёсьць падзяліцца з чытачамі ўражаньнямі, якія вынесены з гэтай конфэрэнцыі.

У павестцы конфэрэнцыі былі пастаўлены такія тэмы: 1) даклады з месц, 2) месца і значэньне прадметаў беларусазнаўства ў праграме сямігодкі, 3) беларуская мова, 4) гісторыя белар. літаратуры, 5) гісторыя Беларусі, 6) географія Беларусі, 7) бягучыя справы.

Асабліва цікавымі для нас зьяўляюцца даклады з месц. Справа ў тым, што й дагэтуль яшчэ няма пэўнага сталага пагляду на тое, як спатыкаюцца прадметы беларусазнаўства ў сялянскіх гушчах, як адносяцца сялянскія дзеткі да выкладаньня ў беларускай мове і г. д. І вось тут, у гэтых дакладах мы й атрымліваем адказна ўсе гэтыя пытаньні.

Ува ўсіх бяз выключэньня дакладах з месц (а іх было каля 30), адзначалася, што прадметы беларусазнаўства і выкладаньне наогул у беларускай мове, як вучнямі, гэтак і бацькамі вучняў спатыкаюцца вельмі прыхільна. Школьнікі выяўляюць вялікую да іх зацікаўленасьць. Далей падкрэсьлена было, што і іншыя прадметы, якія не ўваходзяць у межы беларусазнаўства, як матэматыка, прыродазнаўства, калі іх выкладаць у беларускай мове, то куды лягчэй усвайваюцца вучнямі, асабліва ў малодшых групах, чымся па-расійску. Гэтак сама ў шмат дакладах было адзначана, што і школьнікі не-беларускай нацыянальнасьці, як, напр., жыдоўскія дзеці вельмі ахвотна йдуць насустрэч прадметам беларусазнаўства і часта, нават, выпярэджваюць у гэтым кірунку беларускіх дзетак.

Такім чынам грунт да працы ў школе настаўнікі-беларусаведы маюць вельмі добры. Здавалася-б, што й вынікі іх працы павінны быць значныя.

Аднак, бадай-што ва ўсіх дакладах адзначалася, што практычныя рэзультаты атрыманы зусім нязначныя. Тлумачылася гэта найчасьцей бракам падручнікаў па беларусазнаўству. Але ў працэсе самых дакладаў выяўлялася, што галоўнай віною зьяўляецца малая падгатоўка настаўнікаў—беларусаведаў (некаторыя з іх вельмі слаба гавораць, а то й зусім ня ўмеюць гаварыць пабеларуску): апрача гэтага, хаця праўда вельмі далікатна і бегла, было адзначана, што настаўнікі—беларусаведы даволі часта прымушаны змагацца з тэй няпрыхільнасьцю, якую ім прыходзіцца ў сваёй працы спатыкаць з боку іншых настаўнікаў—ворагаў усякай беларушчыны.

У рэзалюцыі, якая была прынята конфэрэнцыяй па дакладах з месц адзначаны ўсе вышэйпамянованыя моманты: і прыхільнасьць вучняў і бацькоў да прадметаў беларусазнаўства, і малыя вынікі працы ў гэтым кірунку, і слабая падгатоўка настаўнікаў—беларусаведаў, і брак падручнікаў і г. д.

Пасьля дакладаў з месц быў заслуханы даклад аб значэньні і месцы прадметаў беларусазнаўства ў праграме сямігодкі. Дакладчыкам быў т. Д. Сабалеўскі. Сам па сабе даклад не прадстаўляў нічога асаблівага. Вялікім недахватам яго можна лічыць адсутнасьць практычных і конкрэтных падходаў да пастаўленай тэмы. Спрэчкі па дакладу былі даволі цікавыя. Прымалі ў іх удзел прадстаўнік Наркомпроса Б. С. С. Р. т. Чаржынскі, загадчык УОНО т. Акулік, настаўнікі Барташэвіч, Кацярыніч і інш. У рэзультаце спрэчак была прынята рэзалюцыя прыблізна гэткага зьместу:

Заслушаны даклад т. Д. Сабалеўскага і тых прамоўцаў, якія прымалі ўдзел у спрэчках па дакладу, конфэрэнцыя пастанавіла: тэрмін «беларусазнаўства» ў стасунку да савецкае працоўнае школы на Беларусі лічыць архаічным і неадпаведным, бо ўся наскрозь савецкая працоўная школа на Беларусі павінна будавацца на прынцыпах радзімазнаўства (інакш. «беларусазнаўства»); тыя прадметы беларусазнаўства (белар. мова і літаратура, гісторыя і географія Беларусі), якімі дагэтуль прывыклі абмяжоўваць бела-

русазнаўства наогул, зьяўляюцца толькі часткай апошняга. і, як гэткія, не павінны замыкацца ў нейкую асобную групу, а павінны ўзаемна дапаўняцца іншымі прадметамі радзімазнаўства (беларусазнаўства), як, напр., прыродазнаўства і інш. Загадчыкі школ павінны няўхільна выводзіць школы на шлях радзімазнаўства і ўсімі спосабамі падтрымліваць тыя з галін радзімазнаўства, якія там ужо маюцца (беларуская мова, белар. літаратура, гісторыя і географія Беларусі).

Як мы бачым, рэзалюцыя надзвычай цікавая, а разам з гэтым надзвычай глыбокая й справядлівая. Настаўніцтва зразумела асноўныя прынцыпы савецкай працоўнай школы, зразумела асноўныя вымаганьні пэдагогікі, і колектыўна выразіла свой пагляд у зусім яснай і дакладнай фармуліроўцы. У стасунку да савецкае працоўнае школы на Беларусі тэрмін «беларусазнаўства» зусім лішні, як лішнім быў-бы тэрмін „руссоведение" ў стасунку да працоўнай школы ў цэнтральных губэрнях Расіі. Уся наскрозь працоўная школа будуецца на прынцыпах радзімазнаўства (краеведения),— значыць нельга выдзяляць у асобную групу тых прадметаў, якія зьяўляюцца толькі часткай радзімазнаўства.

Затым загадчык Грозаўскай сямігодкі т. Пратасэвіч зрабіў судаклад на тую-ж самую тэму, у якім прапанаваў цэлы шэраг практычных крокаў, а разам з гэтым у вельмі яскравых хварбах абмаляваў становішча як настаўнікаў—беларусаведаў, гэтак і прадметаў беларусазнаўства ў школах. У спрэчках па гэтаму дакладу прымалі ўдзел некалькі настаўнікаў з месц. Адзначалася варожасьць часткі настаўніцтва да беларусізацыі школы і вялікая прыхільнасьць да яе дзяцей і бацькоў. Па дакладу прынята рэзалюцыя.

Наступным пытаньнем на навостпы конфэрэнцыі—беларуская мова ў сямігодцы.

Беларуская мова ня ёсьць мэта, а толькі сродак—вось асноўная думка дакладу. Але як сродак *яна неабходна, яе нельга абмінуць*, нельга адкінуць у бок як нейкую непатрэбшчыну, бо паміма яе нельга прышчапіць шырокім працоўным грамадам на Беларусі ідэалаў камунізму, нельга падняць гэтых грамадаў на ўзровень матар'ялістычнага сьветаразуменьня, *нельга будаваць савецкай працоўнай школы, якая мусіць грунтавацца на мацярынскай мове*. Гэткім чынам ня можа быць індыфэрэнтным да беларусізацыі школы кожны, каму дарагі ідэалы камуністычнай партыі, каго блізка абыходзяць імкненьні савецкай улады. Бо шлях беларусізацыі нашай школы ёсьць найкарацейшы і найбольш пэўны шлях, на якім мы патрапім выгадаваць маладое пакаленьне ў духу марксізму. Але разам з гэтай беларусізацыя школы не павінна даваць месца чыннасьці шовінізму. Дый кожны настаўнік-беларусавед павінен ведаць, што шовінізм ня толькі не дапамагае беларусізацыі школы, а страшэнна шкодзіць гэтае справе, кладучы на яе чорную ганебную пляму і гэткім чынам дыскрэдытуючы яе ў вачох працоўных грамад. Далей у дакладзе адзначаецца: школьны працаўнік, які публічна выпаўняе тыя ці іншыя рэлігійныя культы, ня можа быць правадніком марксіцкіх ідэй і наогул працаўнікам аўтарытэтным у савецкай школе, а гэтым самым ня можа у больш-менш значнай меры дапамагаць беларусізацыі школы.

Гэты пункт дакладу ўвайшоў і ў рэзалюцыю; ён можа й ня мае сьціслага й беспасрэднага стасунку да беларускай мовы ў сямігодцы, але ён сьведчыць аб паступовасьці настаўнікаў—беларусаведаў. Яны першыя на павецэ выявілі свой пагляд на «настаўніка-царкоўніка», яны першыя запратэставалі супроць таго, каб настаўнік рабіў супярэчнае таму, чаго ён навучае ў школе, і гэтым ламаў асноўныя вымаганьні пэдагогікі, а іменна—што настаўнік павінен ва ўсім быць прыкладам для дзяцей, якіх ён вучыць і

выхоўвае. Гэтым самым настаўнікі беларусаведы падкрэсьлілі сваю запраўды шчыра савецкую плятформу, сваю праўдзівую прыхільнасьць да ўсіх пачынаньняў савецкай улады ў школьнай справе.

Што-ж датыча чыста практычных прапавыцый мэтодычнага характару, якімі-б можна было карыстацца пры выкладаньні беларускай мовы ў школе, то ў памяняным дакладзе іх бадай што зусім ня было. І толькі ўжо ў працэсе спрэчак па дакладу былі зроблены наступныя прапазыцыі, якія і ўвайшлі ў рэзалюцыю: 1) пры выкладаньні белар. мовы ў малодшых групах пераважна трэба карыстацца гаворкай тае мясцовасьці, дзе знаходзіцца школа: пры выкладаньні беларускае мовы ў старэйшых групах зьвяртаць галоўную ўвагу на беларускую літаратурную мову, а гэтак сама па магчымасьці знаёміць вучняў з асноўнымі момантамі гісторыі беларускае мовы; 2) знаёмячы вучняў з беларускім правапісам, зьвяртаць асаблівую ўвагу на фонэтычныя прынцыпы, які заложаны ў аснову беларускага правапісу; 3) адсутнасьць падручнікаў па беларускай граматыцы й правапісу ня лічыць перашкодай пры выкладаньні і прахаджэньні апошніх.

Вось і ўсё практычнае і конкрэтнае, што дала конфэрэнцыя ў стасунку да пастаноўкі выкладаньня беларускай мовы ў сямігодках. Пэўна, што гэтага вельмі мала, але... першы крок зроблены.

Усьлед за мовай, конфэрэнцыя спыніла ўвагу і на пастаноўцы выкладаньня гісторыі беларускай літаратуры. Дакладчык настаўнік Лістапад апрацаваў тэзісы на падставе рэзалюцый, прынятых на ўсерасійскім зьезьдзе выкладчыкаў-славесьнікаў. У прынятых тэзісах адзначаецца, паміж іншым, што беларуская літаратура ў школьным жыцьці мае вялізнае выхаваўчае значэньне; яна дапамагае азнакамленьню з мясцовым бытам, звычаямі, прыродай, ляндшафтам і г. д.; яна навучае школьнікаў вобразна мысьліць і вобразна выказваць свае думкі; далей падкрэсьліваецца, што, знаёмячы вучняў са зьместам паэтычных твораў, настаўнік павінен удзяляць галоўную ўвагу грамадзянска-клясавым ідэям, якія там спатыкаюцца, а гэтак сама павінна асаблівую ўвагу зьвяртаць на пашоўшае беларускае пісьменства рэвалюцыйна-клясавага кірунку. Цэнтр цяжару пры выкладаньні беларускай літаратуры павінен упасьць на найноўшае пісьменства. З другога боку конфэрэнцыя падкрэсьліла, што выкладаньне літаратуры павінна мець сьціслы практычны нахіл, павінна грунтавацца галоўным чынам на самых творах, а не на падручніках. І вось тут, конфэрэнцыя была пастаўлена перад такім запытаньнем: а як весьці выкладаньне вуснай народнай творчасьці (славеснасьці)? Справа ў тым, што настаўнікі - беларусаведы ня маюць магчымасьці карыстацца зборнікамі сырых матар'ялаў па беларускай народнай славеснасьці (як Раманаў, Шэйн і інш.), а трэці том акад. Е. Ф. Карскага, дзе можна-б было знайсьці больш-менш апрацаваны матар'ял па беларускай народнай славеснасьці, зьяўляецца вялікай рэдкасьцю і мала-хто з настаўнікаў - беларусаведаў можа яго мець. Дакладчык рабіў прапазыцыю, каб кожны настаўнік сам зьбіраў і запісваў, а гэтак сама заахвочваў школьнікаў зьбіраць і запісваць творы беларускай народнай славеснасьці—песьні казкі, прыказкі і г. д.—і на гэтых запісах весьці пасьля ў школе выкладаньне. Але дзеля гэтага патрэбна, каб настаўнік сам быў вельмі добра знаёмы з беларускай народнай славеснасьцю, бо йнакш ён не патрапіць кіраваць такой практычнай працай—зьбіраньнем і запісваньнем—школьнікаў. А такіх добра падгатаваных у гэтай галіне беларусазнаўства настаўнікаў ня надта шмат. Дзеля гэтага конфэрэнцыя пастанавіла прасіць Наркамprос Беларусі, каб ён у магчыма хутчэйшым часе выдаў падручнік па беларускай народнай славеснасьці, а гэтак сама і хрэстаматыю да яго, бо бяз іх

няма магчымасьці абыходзіцца настаўнікам - беларусаведам у школьнай працы.

Чарговым за літаратурай пытаньнем на павестцы конфэрэнцыі было настаўлена і гісторыя Беларусі ў сямігодцы. Дакладчык т. Рапуцька выставіў цэлы шэраг тэзісаў, у якіх падкрэсьлівалася вялікае значэньне, якое павінна заняць паміж галін радзімазнаўства ў нашай школе гісторыя Беларусі. Бяз веданьня гісторыі Беларусі, шмат што будзе незразумелым у быце, у сацыяльных адносінах працаўнікоў на Беларусі, ня будзе зразумела наогул беларуская этнографія. Выкладаючы гісторыю Беларусі, настаўнік не павінен выходзіць с марксіцкага шляху: не павінен тлумачыць тых ці іншых гістарычных падзеяў гістарычнымі асобамі, а на першае месца высоўваць эканамічныя фактары; усюды павінна падкрэсьліваць клясавае змаганьне; старанна ўхіляцца ўсякага намяненьня на шовінізм і г. д. Лекцыі на гісторыі павінны па магчымасьці мець больш практычны нахіл, чымся тэорытычны; настаўнік павінен пры выкладаньні гісторыі выкарыстоўваць усе помнікі старасветчыны, якія маюцца ў бліжэйшай пры школе ваколіцы, у бліжэйшым горадзе і г. д.

Настаўнік Кацярыніч зрабіў кароценькі даклад аб тым, якое месца павінна заняць у праграме сямігодкі географія Беларусі. Было падкрэсьлена, што паміж прадметаў радзімазнаўства, географія Беларусі па праву павінна займаць першае месца, тым больш, што савецкая працоўная школа мае выразны нахіл у бок прыродазнаўчых навук, да ліку якіх адносіцца й географія. Падрастаючае пакаленьне павінна даскапала ведаць тую старонку, дзе яму прыдзецца жыць і працаваць, павінна ведаць усе багацьці гэтае старонкі, каб затым разумна й мэтазгодна іх выкарыстаць. Аб мэтадах выкладаньня географіі Беларусі дакладчык бадай што нічога не ўспамінаў.

У бягучых справах конфэрэнцыя заслухала справаздачу прадметнай камісіі, заснованай настаўнікамі - беларусаведамі гор. Слуцку. Прыняўшы да ведама справаздачу, конфэрэнцыя пастанавіла арганізаваць прадметную камісію, правамоцную для ўсяго Слуцкага павету. Тут-жа быў выбраны і асабовы склад гэтае камісіі. У наказе прадметнай камісіі конфэрэнцыя паміж іншым падкрэсьліла, што ў абавязках камісіі ёсьць падрабязнае апрацаваньне агульных месц, якія маюцца ў праграме сямігодкі ў стасунку да галін радзімазнаўства, апрацаваньне мэтадаў, найбольш адпаведных пры выкладаньні галін беларусазнаўства і агульнае пэдагогічнае кіраўніцтва школьнай працай настаўнікаў-беларусаведаў.

На гэтым і закончылася праца першай конфэрэнцыі настаўнікаў-беларусаведаў Слуцкага павету. Як мы бачым, шмат повага яна не дала, пытаньні, якія стаялі ў парадку конфэрэнцыі, былі закрануты вельмі бегла і павярхоўна. Тлумачыцца гэта тым што ўся праца конфэрэнцыі падгатаўлялася й праводзілася выключна мясцовымі сіламі, настаўнікі з павету самі падгатаўлялі даклады і тэзісы да іх. Цэнтр-жа (Наркомпрос Беларусі) здаволіўся тым толькі, што дэлегаваў на конфэрэнцыю свайго прадстаўніка, не паінфармаваўшы яго, нават, аб заданьнях конфэрэнцыі. Зразумела, што гэты прадстаўнік абмяжаваўся чыста экспромтавым удзелам у конфэрэнцыі. А нам здаецца, што падобнымі конфэрэнцыямі павінен кіраваць якраз цэнтр, дзе згуртаваны ўсе найлепшыя сілы па беларусазнаўству; тут-жа ў цэнтры павінны быць апрацаваны хаця ў агульных рысах тэзісы, а намагчымасьці і даклады; нельга ўсю працу па правядзеньню такіх конфэрэнцый узвальваць на плечы саміх месц. Другой прычынай пасьпешнасьці й павярхоўнасьці працы конфэрэнцыі трэба лічыць тое, што настаўнікі зьехаліся ў Слуцк на свой кошт, на «сваіх» конях, і прымушаны былі пражываць на сваіх „хлебах“ у нанятых на свой кошт памяшканьнях. Зразумела, убогае матар'яльна

настаўніцтва лічыла кожную хвіліну і ўсімі сіламі старалася прысьвяціць працу конфэрэнцыі.

Цяпер аб саміх настаўніках - беларусаведах. Большасьць—людзі ўжо зусім сталыя, з вялікім настаўніцкім стажам. Спакойна, але непарушна-цьвёрда перакананы ў тым, што робяць вялікую, разумную й карысную працу; перакананы, што толькі праз мацярынскую мову, праз радзімазнаўства патраціць працоўная школа стаць на цьвёрды і поўны грунт, а гэтым самым патраціць падняць працоўныя грамады Беларусі на вышэйшую ступень як матар'яльнага дабрабыту, гэтак і духоўнай культуры; упарта крок за крокам праводзяць у жыцьцё прынцыпы савецкай працоўнай школы—мацярынскую беларускую мову і беларусазнаўства, не зьвяртаючы асаблівай увагі на тыя злосныя выпады, якія робяць часта з-за вугла, праціўнікі беларушчыны, прыхільнікі старых русыфікатарскіх традыцый — «истинно-русские».

Другая частка настаўнікаў-беларусаведаў—моладзь, поўная энтузіязму, запалу; яна горача парываецца да справы, з налёту здабывае пазыцыі, з налёту крышыць спарахнелае старое, з налёту ўводзіць у школу новыя прынцыпы.

А ўсе разам настаўнікі-беларусаведы — гарачыя прыхільнікі савецкай улады, якая асаблівай апекай акружае іх працу, усе яны шчыра й сумленна аддаюць усе свае сілы на карысьць працоўнай клясе. Настаўнікі-беларусаведы — гэта сапраўдны авангард у будаўніцтве савецкай працоўнай школы.

Што-ж датычыць праяваў шовінізму, які прыпісваецца часамі настаўнікам-беларусаведам ворагамі беларушчыны, то трэба адкрыта сказаць: конфэрэнцыя ў Слуцку пацьвярдзіла, што шовінізм абсолютна чужы і далёкі настаўнікам-беларусаведам: аб гэтым сьведчаць як даклады і тэзісы, як спрэчкі на дакладах, гэтак і прыватныя размовы, якія прыходзілася весьці з паасобнымі настаўнікамі. Наадварот, у далёка большай меры праяўляецца велікарасійскі шовінізм, з якім, трэба сказаць, вядзе наўхільнае змаганьне павятовы аддзел асьветы.

Вялікай перашкодай у працы настаўнікаў-беларусаведаў, трэба лічыць няўстарчаючую іх падгатоўку ў галінах беларусазнаўства. Каротка-тэрміновыя летнія курсы ня могуць даць настаўнікам патрэбнай веды; гэткія курсы прабуджаюць толькі ініцыятыву, адчыняюць толькі агульныя пэрспэктывы, намячаюць агульныя шляхі, по якіх ідучы, настаўнік - беларусавед патрапіў-бы здабыць сам неабходную веду. Патрэба, каб Наркомпрос Беларусі паклапаціўся ня толькі аб падручніках для школ, але каб паклапаціўся і аб выданьнях, прызначаных для саміх настаўнікаў, трэба стварыць навуковую літаратуру для настаўнікаў-беларусаведаў, якая-б дала магчымасьць папаўняць пробелі, самаадукавацца, здабываць неабходныя пры штадзённай працы веды. Трэба ў «Вестнике Наркомпроса Б. С. С. Р.» стварыць спэцыяльны аддзел (або перарабіць у гэтым кірунку «Беларускі аддзел», у якім зьмяшчаўся-б навукова-мэтодычны матар'ял, прызначаны спэцыяльна для настаўнікаў-беларусаведаў. Да супрацоўніцтва ў гэтым аддзеле павінны быць прыцягнуты найвыдатнейшыя мясцовыя сілы па беларусазнаўству.

Патрэбна, каб усе наогул беларускія пэрыядычныя выданьні зьвярнулі ў гэты бок большую ўвагу. Трэба даць настаўнікам-беларусаведам навуковую справу, бо йначай яны заглохнуць у тым соку, які мікроскопічнымі дозамі выціскаецца з каротка-тэрміновых курсаў.

Апрача гэтага павінна быць зьвернута ўвага й на палітычнае выхаваньне. Асабліва трэба настаўнікаў - беларусаведаў увясьці ў курс нацыя-

вальнай палітыкі савецкай улады і камуністычнай партыі. Справа ў тым, што не заўсёды наша настаўніцтва добра орыентуецца ў адносінах савецкай улады да нацыянальных проблем, а дзеля тэтага незаўсёды можа скутэчна змагацца з ворагамі беларушчыны, незаўсёды чуе пад нагамі цьвёрды й моцны грунт. Карысна было-б, каб Наркомпрос Беларусі не паскупіўся на адно-два выданьні, дзе-б адбіваліся пагляды й адносіны як савецкай улады, гэтак і камуністычнай партыі да нацыянальнага пытаньня. Такая кніжка зявілася-б настольнай у кожнага настаўніка-беларусаведа, была-б справачнікам у яго працы. Аб гэтым-жа ня шкодзіла-б падумаць і нашаму пэрыядычнаму друку.

Варочаючыся ізноў да конфэрэнцыі настаўнікаў-беларусаведаў Слуцкага павету, трэба адзначыць, што гэтая конфэрэнцыя, зьяўляючыся першай у гэтым кірунку, і дзякуючы таму, што цэнтр прыняў у ёй нязначны ўдзел, —дала не асабліва многа. Але яна паказала настаўнікам-беларусаведам, што толькі колектыўна, толькі супольнымі сіламі яно патраніць выращыць і разьвязаць усё нявыразнае, няпэўнае, што робіць перашкоды ў іх паўсёднай працы. З другога боку—конфэрэнцыя мела магчымасьць заслухаць цэлы шэраг прадстаўнікоў савецкай улады і камуністычнай партыі, якія яшчэ раз выказалі свае прыхільныя адносіны да беларусізацыі школы, прыхільныя і спагадныя адносіны да працы настаўнікаў-беларусаведаў.

Гэткім чынам конфэрэнцыя дала настаўнікам новыя і сьвежыя сілы, з якімі яны й прыступяць да свае паўсёднай працы. У гэтым пакуль-што яе галоўная заслуга. Першы крок зроблены.

**Удзельнік конфэрэнцыі.**

# Кнігапіс.

**Цішка Гартны.** *Песьні працы і змаганьня.* Выданьне Навукова-Літарацкага Аддзелу Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р. Бэрлін. 1922.

Цішка Гартны ў беларускай літаратуры займае асобнае мейсца: яго творчасьць даўно ўжо выявілася, як творчасьць пераважна пролетарскага кірунку. Гэты кірунак выдзяляе Цішку Гартнага з раду іншых беларускіх паэтаў, якія пераважна зьяўляюцца паэтамі селянскімі і па сваёй ідэолёгіі і па галоўных матывах сваёй творчасьці. Новы зборнік Гартнага яшчэ больш замацняе за ім у беларускай літаратуры па праву належнае яму памянёнае асобнае мейсца пролетарскага паэты.

Характар і зьмест зборніка добра акрэсьліваецца самай яго назвай: праца і змаганьне запраўды зьяўляюцца галоўнымі тэмамі вершаў паэты.

Матывы працы ў яго цесна пераплятаюцца з матывамі аўтабіаграфічнымі; паэта часта апісвае тое, што ён, відаць, сам асабіста перажыў, адчуваў—адсюль вынікае жыцьцёвасьць і рэальнасьць яго малюнкаў, шчырасьць і беспасярэднасьць яго настролў. Асаблівымі вартасьцямі ў гэтых адносінах вызначаюцца «песьні гарбара», дзе рысуюцца цяжкія ўмовы скуранога вырабу, досыць вядомыя песьняру з яго ўласнага жыцьця:

Цэлы дзень я за брудным сталом,
Цэлы дзень скуру цьвёрдую скроб,
Стаючы укапаным калом,
Я задушаў атрутнаю соп.
Не глядзеў і ня бачыў нічуць,
Што там ёсьць на дварэ, за вакном:
Ці там ветры халодныя дзьмуць,
Ці зямелька спавіта цяплом...
Дзёгаць і лой мае рукі раз'елі,
Шчокі ў граце і ў духоце шчарнелі:
Краска завяла,
Шчасьце прапала,—
Скура забрала.[1]

Брыдкім умовам майстэрні паэта праціваставуляе адвечнае хараство прыроды:

«Там за вакном ціха неба сінее,
Соўнійка дзіўна і сьвеціць і грэе;
Я-ж у сьпякоце,
У гразі і ў поце—
Я на рабоце.
Цягнуцца к лесу чароўныя далі,
Лугам зялёным ўсю зямлю ўстлалі,
Як дыванам:
Там ноччу і днём
Вясельле кругом...
А я адарваны ад гэтай красы,
Запёрты нядоляй ў чатыры сьцяны
З сабакай, з нажом
І ноччу і днём
Стаю за сталом.[2]

Зразумела, што паэту цягне на ўлоньне прыроды: там ён адпачывае душой, набіраецца новых сілаў для сваёй цяжкой працы. Гэта праціваставленьне працоўных працэсаў і малюнкаў прыроды зьбліжае Цішку Гартнага з расійскім пролетарскім паэтаю

[1]) Песьні працы і змаганьня, стр. 8 і 9.
[2]) ibidem

Казіным, у якога часта трапляюцца падобныя прыёмы.

Наш паэта наогул яшчэ адувае сваю сувязь з вёскай; У яго мы знаходзім малюнкі і чыста сялянскай працы: падобны характар маюць «песьня жняі», «касьба», «на збанок і йдзі». Гэтыя вершы, ў якіх даецца паэтызацыя сялянскай працы, часткова ўяўляюць сабой водгукі народніцкай музы, і ў творчасьці Цішкі Гартнага яны стаяць асабняком.

Больш часта і падрабязна Гартны спыняецца на маляваньні працоўных працэсаў дробнага рамяства. Апроч працы гарбара, ён дае апісаньне работы грабара, каваля, ткачых. [1]) У падобных апісаньнях паэта зазначае цяжкае становішча рамесьніка, паднявольны характар яго працы, якая адбываецца ў дрэнных надворных умовах і прадстаўляе сабой суровую жыцьцёвую прозу без усялякага намёку на паэзію, аздабляючую сабой працу селяніна. У сваіх малюнках працы Цішка Гартны застаецца пераважна паэтаю-рэалістаю: ён апісвае толькі тое, што сам назіраў, что сам перажыў; яго вершы-гэта адбіткі рэчаўістасьці без усялякіх украсаў і суб'ектыўных дадаткаў. Праўда, кола назіраньняў нашага паэты досыць вузкае. Ён ня ведае арганізованага пролетарыяту буйных прадпрыёмстваў, ня ведае колектыўнай працы буйных фабрык з іх волатамі—машынамі. Каханы герой Гартнага гэта адзінокі рамесьнік, у якога бязрадасная праца ў гадкай і цёмнай майстэрні высасывае апошнія сілы.

Цяжка гэтаму рамесьніку за працай, яшчэ горш бяз працы. Становішчу беспрацоўя Гартны ўдзяляе не мала ўвагі. Ён рысуе нам гарбара на вандроўцы бяз прытулку, бяз грошы і бяз хлеба.

Дожджык накрапляе,
Дзень стаіць халодны:
Шпаламі клыпае
Ў пуць гарбар галодны,
Ногі чуць клыпаюць
І грабуць нясьмела:
Вочы пазіраюць
Сумна, асавела.
Апусьціліся рукі
Ад цяжкой утомы...
Дзе-ж скапчэньне мукі
Яго—невядома.
Сэрца болем рэжа,
Сэрца болем плача...
Ў зношанай адзежы
Холадна, аднача!
Косьці боль ламоча,
Цяжар дапінае...
Гарбар есьці хоча,
Хоча—ды ня мае. [1])

Шукаючы працы, гарбар пераходзіць з месца на месца, але ўсе яго шуканьні дарэмны: людзі бязьлітасны, яны не ўваходзяць у становішча небаракі:

Але што-ж, ня чуюць,
Як браты гаруюць
І ў нядолі плачуць.
А на крык: «работы»!
— «У нас няма!» гукаюць,
Й з дзікаю ахвотай
Далей адсылаюць.
Ня спытаўшы брата,
Ці ён есьці хоча,
Ці ён знойдзе хату
Адпачыць у ночы. [2])

Верш «Гарбар на вандроўцы» такім чынам малюе жудаснае матар'яльнае становішча беспрацоўнага. Але гэтае становішча жудасна ня толькі ў матар'яльных адносінах: беспрацоўе нясе з сабой цяжкую маральную пакуту. Толькі работа дае жыцьцю пралетарыя сэнс, толькі ў ёй ён бачыць сваё назначэньне і чалавецкую вартасьць. Пазбавіўшыся работы, пролетары адчувае сябе лішнім у сьвеце, і гэтае сузнаньне вялікім цяжарам кладзецца па сэрца беспрацоўнага. Падобная маральная пакута знайшла сваю абрысоўку ў Цішкі Гартнага. У яго беспрацоўны разважае:

І ня тое, што работа
Голад прыпыняе,

[1]) Песьня працы... стр 14—17.

[1]) Песьні працы.,. стр. 13.
[2]) Песьні працы... стр. 13.

Ва мне родзіць усе клапоты
Й нэндза забірае,—
Не ня тое. Хоне з гэтым
Сіл ва мне зьмірыцца,
Але тое, што ля сьвету
Нечым прыгадзіцца.
Што задарам марна гіне
Хенць мая й ахвоцьце
Дні і почынпяўпынна
Аддаваць рабоце.
Няма працы... Цяжка гэта
Мне цярпець бяз меры,
Бо ў ёй зоў мой, мая мэта—
Ў ёй спадзеў і вера. [1])

У гэтым вершы паэта такім чынам пяе гымн працы і разам з тым ўскрывае псыхолёгію працоўных мас, для якіх работа ўяўляе сабой галоўную маральную аснову жыцьця, яго сэнс і назначэньне. Часта праца прадстаўляе сабой вялікі цяжар, пераварачаецца ў бяссмертную пакуту і кару, але ў гэтым праца сама па сабе невінавата: вінавата ненармальнае сацыяльнае становішча, якое стварае ненармальныя брыдкія ўмовы працы.

Барацьбе за лепшае сацыяльнае становішча, за лепшыя ўмовы працы пасьвечаны ў Гартнэга песьні змаганьня. Гэтыя песьні злучае ў адно цэлае агульная рыса—рэвалюцыйны пафос аўтара. Стыхія барацьбы—кожная стыхія паэты, у якой расчыняецца яго душа. Нават у жыцьці прыроды яму больш за ўсяго падабаюцца не супакойныя зьявішчы, а грозныя магутныя зьявішчы змаганьня. З замілаваньнем сэрца паэта спыняецца на абрысоўцы нявольніцы [2]), завірухі. [3]) Гэтыя зьявішчы ў душы паэты адбуджаюць сугучныя струны, выклікаюць адпаведныя жаданьні самому акунуцца ў стыхію барацьбы, і ён кажа:

Я хацеў-бы гусьці
Як гудзе
Вецер буры—навалы узьнятае,
Каб нашчэнт разьнясьці
Па лясох, па вадзе
Панства долі—нядолі заклятае.
Я хацеў-бы ўладаць
Хоц-бы мігам адным
Непакорнай, магутнаю сілаю,
Каб змагчы, эруйнаваць
Усё ліхое вакол
І ўжыць шчасьце над гэтай
магілаю [1])

Ахоплены рэвалюцыйным пафосам паэта рысуе дынаміку рэвалюцыі ў сымболічных вобразах полымя [2]), звоу [3]), будоўлі новай хаты [4]) і г. д. Асабліва трапная вобразнасьць заўважываецца ў вершы «Чырвоны мак». З хварбай гэтай кветкі паэта злучае розныя асоцыяцыі, дае зьмену сьвятла і ценяў. Чырвоны мак, пасаджаны на градах,

З зямлі выносіць чырвань kроўны
Людзкіх праліўшых кроў грамадаў
Ў прыгон цяжкі, многавякоўны.
Чырвоны мак—чырвоная надзея,
Красу ідучых дзён раджае,
Жывым штандарам пламянее
Прад тым, хто к сьветлым днём
шагае. [5])

За вынятkамі падобнай вобразнасьці у мастацкіх адносінах песьні змаганьня ніжэй песьняў працы: тут часта, замест псыхолёгіі, рэвалюцыі абрысоўкі яе проста трапляецца дэклямацыя—заклікі да барацьбы—альбо даюцца фотографічныя зьнімкі з дзейнасьці, мала прэтвароныя ў мастацкія вобразы («Сельскі Рэўком», «Дэманстрацыя»).

Падводзячы ітогі нашаму кароткаму агляду зборніка, трэба заўважыць, што ў ім не знайшлі сабе адбітку многія звычайныя тэмы пролетарскай паэзіі: колектыўныя працоўныя працэсы, машынныя вырабы, абрысоўка горада і г. д.—што мы знаходзім у Кірылава, Герасімава, Садофьева, Гасьцева—Дазорава і іншых. Але і тое пямногае, што даў нам Цішка Гартны—асабліва добра выяўленая ім псыхолёгія дробнага рамесьніка—дае нам падставу чакаць ад яго далейшага пасьпеху, далейшага разьвіцьця яго музы.

**М. Піотуховіч.**

---

[1]) Песьні працы... стр. 21.
[2]) стр. 62.
[3]) ibidem.

[1]) стр. 13.
[2]) стр. 64.
[3]) 96.
[4]) 31.
[5]) стр. 68 і 69.

**«Наша будучына».** *Беларуская Тыднёвая Часопісь. 1922 г. № 1. Выдаецца ў Вільні. Адказны рэдактар і выдавец Амельяновіч.*

Першы нумар вышаў 8 сьнежня. Рэдакцыя не паведамляе аб тым, што прыняла на сябе абавязкі й традыцыі якое-небудзь беларускае часопісі зачыненай або якая зачынілася. Гэта значыць, што часопісь новая і мае сказаць нейкае новае слова. Але дарма вы будзеце шукаць у часопісі гэтага новага слова. Папярэдні артыкул «Наша будучына» зразу вядзе вас па старой, добра знаёмай «незалежніцкай» сьцежцы. «Нас жджэць яшчэ шмат перажываньняў, шмат момантаў—і сумных і радасных. Але ні пры якіх варунках не павінны мы губіць з нашых вачэй нашага найвышэйшага «незалежніцкага» ідэалу і г. д. і г. д. На што спадзявацца, ад каго і чаго чакаць гэтай «незалежнасьці»? Адказ даецца такі: «Каб раздрабіць уціск народаў у часьці Усходняй Эўропы, патрэбна была сусьветная вайна». І болей нічога. Аб рэвалюцыі, якая дала волю нацыянальнасьцям быўшай Расійскай імпэрыі, у тым ліку й беларусам—ні слова. Аб тым, што ад рэвалюцыі трэба чакаць вызваленьня яшчэ прыгнечаным—ні слова. На каго спадзявацца, з кім злучацца, з кім змагацца—ні слова. От, сядзі сабе й працуй над тым патроху, што ў галаву прыдзе. Хочаш кніжкі пісаць беларускія—пішы. Школу будаваць—будуй. Коопэрацыяй займацца — займайся. Вольнаму воля—ды і ўсё тут. Так і раіць газэта. «Наша барацьба—гэта тварэньне нацыянальнае школы, гэта друкаваньне беларускіх кніг, гэта закладаньне эканамічных арганізацыяў і г. д...» «Ва ўсіх гаспадарствах, дзе жыве Беларускі народ, беларусы ідуць па вызначанай намі тут дарозе»... Дарогі, па праўдзе кажучы няма, бо якая гэта дарога, калі хто ідзе ў лес, а хто па дровы... Ды й «Наша будучына» у гэтым прызнаецца. Яна гаворыць: «Наш нацыянальны ідэал—ідэал не сягодняшняга дня, а ідэал нашае сьветлае, *хоць мо' і далёкае будучыны*». Адным словам цераз сто гадоў дачакаецяся на тым сьвеце угалькамі. Пасьля такога папярэднята артыкулу вы чакаеце нейкай хоць бы «незалежніцкай» вытрыманасьці. Але так сама дарма. Бяз усякіх тлумачэньняў зьмяшчаюцца весткі аб Лёзанскай конфэрэнцыі, аб Польскім Сойме, весткі з Расіі, Англіі... Шмат перадруку з нашае «Сав. Беларусі», за што мы павінны дзякаваць. Уражаньне ад першае старонкі такое, што часопіс нібы то, нават, лайяльны да нас. Але на другой і на трэцяй старонцы вас чакае зусім неспадзяванае. З аднаго боку надрукавана заметка аб тым, як улада «Крэсаў» зьдзекуецца над сялянствам—„*Няпісьменных* дягчэй няволіць“,—а з другога боку «*Успаміны аб Слуцкім паўстаньні*», якое апісваецца такімі хварбамі: «Бадай уся Эўропа (?!) прыслухоўвалася да баёў першай Беларускай Брыгады Войск Беларускае народнае рэспублікі з чужацкай арміяй. Ясна было, што ня ўтрымацца сьмельчакам - барацьбістам... Апроч таго гэнэрал Булак-Балаховіч рабіў розныя інтрыгі, каб разваліць паўстаньне... Але цікава было з іншага боку й ясна стала, што беларускі народ асьвядоміўся настолькі, што прызнаў патрэбнасьць з аружжам у руках дабівацца свае незалежнасьці»...

«Астаўшыя ў жывых змаганьнікі разбрыліся па сьвеце» і г. д., і г. д., і адзін з іх забрыў у рэдакцыю «Нашае Будучыны»...

Наогул часопіс «Наша Будучына» робіць такое ўражаньне, што у рэдакцыі яе сядзіць шмат рэдактараў, адзін з якіх піша кнігі беларускія, другі займаецца коопэрацыяй, трэці слуцкімі паўстаньнямі, чацьвёрты меціць цамазаць ногі салам і ўляпятнуць у Савецкую Беларусь, пяты марыць аб «незалежнасьці» цераз сто гадоў. А калі там сядзіць адзін адказны рэдактар, то трэба прызнаць, што ён проста «Леанарда-да-Вінчі», які ў сваім горадзе заблудзіўся...

N

**«Вясковы Пролетары».** *Беларуская пролетарская часопісь. № 1—2. Выдасцца ў Горадні. Адказны рэдактар выдавец Сакалоўскі.*

Першы нумар «Вясковага Пролетарыя» вышаў 29 кастрычніка 1922 г., як раз перад выбарамі ў Польскі сойм, а другі толькі 10 сьнежня, цераз паўтара месяцы. З гэтага відаць, што „Вясковы Пролетары“ выданьне *неперыядычнае*. Хто ў гэтым вінават—сказаць трудна. Магчыма, што жандары і дэфензыва, якія жадаюць «В. П.» сьмерці, а магчыма што адсутнасьць матар'яльных сродкаў на выданьне. …арэй і то і другое разам. Фармат часопісі—звычайная газэта на чатыры старонкі, такога-ж разьмеру, як і «Савецкая Беларусь».

Зьмест: лёзунгі, артыкулы, корэспандэнцыі, хроніка.

*Лёзунгі.*

Увагу чытача зьвяртаюць на сябе ў першую чаргу лёзунгі. Яны надрукаваны вялікімі літарамі, каб было відаць і лёгка чытаць селяніну. Пад загалоўкам красуюцца грунтоўныя «*Няхай жыве саюз гарадзкога пролетарыяту і бяднейшага сялянства*» і ўсьлед за ім „*пролетарыі ўсіх краёў злучайцеся*“. Паміж тэкстам раскіданы праграмныя і штодзенныя лёзунгі, як, напрыклад: «*Малазямельныя і бязьзямельныя сяляне! Калі жадаеце зямлі, волі і лепшай долі то ўсе, як адзін, галасуйце за сьпісак № 5. «Падтрымлівайце сваіх паслоў Саю у Гарадзкога Пролетарыяту і бяднейшага сялянства і паведамляйце іх аб усіх вашых крыўдах*». З праграмных лёзунгаў большасьць аб зямельным пытаньні. У другім нумары, напрыклад, надрукаваны такі: „*Уся абшарніцкая зямля павінна быць бяз выкупу перадана малазямельнаму і безьзямельнаму сялянству*“. Аб падатках «В. П.» піша так: «*Ад усіх пад ткаў бяднейшае сялянства павінна быць зус..м звольнена*». Нам здаецца, што пералічаныя лёзунгі досыць высьвятляюць твар часопісі «В. П.»

*Артыкулы.*

Зьмест і характар большасьці артыкулаў—полемічны. У першым нумары к такім належаць: папярэдні артыкул «*Каго-ж выбіраць?*» Ён займае ўсю страніцу і тлумачыць сялянству ашуканства польскіх буржуазных партыяў і «Беларускага выбарчага камітэту»; «*Абое—Рабое*»—найбольш удачны з артыкулаў, у якім пішацца аб «Вызваленьні» і „Беларускім выбарчым камітэце» і добра выкарыстоўваецца іх палеміка паміж сабою. Далей ідзе артыкул «*Як разрашаюць зямельнае пытаньне розныя партыі?*» У гэтым артыкуле Алесь Безьзямельны разьбірае праграму «Вызваленьня» і беларускіх груп: «актывістаў» і «незалежнікаў». Асоба стаіць у першым нумары артыкул «*Адзіны ратунак*», у якім рэдакцыя прабуе свае тэорэтычныя здольнасьці. Ён напісаны не для сялянства, а для беларускае інтэлігэнцыі і мае на мэце скласьці яе на свой бок—клясавага змаганьня і пролетарскай злучнасьці бяз розьніцы нацыянальнасьці. *Каму-ж як ня нам, беларусам, шукаць роўнай і лепшай долі пролетарскім шляхам?*—так канчаецца артыкул. З артыкулаў другога нумару трэба адзначыць «*Ад незалежніцтва да аўтанамізму*» і «*Рана птушачка засьпявала*». Абодва проціў віленскіх незалежнікаў.

Чытаючы часопісь, як першую рабочую, клясавую беспартыйную газэту, мы аднак павінны адзначыць і яе хібы. Усе артыкулы надта доўгія, расьцягнутыя. Напр. «*Каго-ж выбіраць?*»—больш як 500 строк; «*Ад незалежніцтва к аўтанамізму*»—больш 400 строк і т. д. Гэта агульны недахват. Відаць, што маладыя журналісты «В. П.» добра ведаюць беларускую мову, але ня ўмеюць яшчэ, як сьлед, скарыстаць яе багацьцяў. Трэба пісаць артыкулы кароткія, выразныя. У поляміках трэба больш жывасьці. Ня трэба захапляць у адным артыкуле шмат пытаньняў. Гэта сушыць часопісь і робіць яе «тэорэтычнай» і незразумелаю для сялянства, якое патрабуе конкрэтнасьці

жывых прыкладаў з жыцьця. Замест доўгага артыкулу, лепей расказаць пра зьдзекі над сялянамі ў той ці іншай вёсцы, пра таго ці іншага абшарніка, які абурвае сялян арэндаю, прадажаю зямлі і інш.

Наогул другі нумар выглядае лепей за першы і будзем спадзявацца, што трэці нумар будзе яшчэ лепшы за другі. Між іншым мушу зазначыць аўтару артыкулу «Ад незалежніцтва да аўтанамізму», што ён перахваціў трошкі, дапусьціўшы ў полемічным артыкуле такія выр зы: «ахрышчаны прэм'ер-міністрам, ён (Луцкевіч) весела праводзіў час у Парыжы з «найясьнейшаю» княгіняю Лівэн. Ведама, што благаслаўляў такі прэм'ерскі труд ксёндз Станкевіч»...: Сялянству й рабочым такія падрабязнасьці чыста інтымнага характару зусім не патрэбны... Да й наогул у полемічным артыкуле газэты пролетарскае ня варта так пісаць...

Корэспандэнцый у часопісі зусім мала. Відаць, што сувязь з вёскай не наладжана. Хроніка бедная і мала цікавая. Калі-б строга крытыкаваць, то можна было-б знайсьці і яшчэ шмат нед хватаў,—але трэба прыняць пад увагу, што першы крок заўжды бывае ня лёгкі і ні ў адзін дзень Масква будавалася.

М.

**«Вестник Народного Комиссариата Просвещения С. С. Р. Б», выпуск 11 12, настр.—лістапад.** *Выданьне Камісарыяту Асьветы Беларусі, Менск.*

У агульным аддзеле (Общий отдел) зьвяртаюць на сябе ўвагу артыкулы Д. Жарынава і В. Пічэты. Першы артыкул пад загалоўкам «Культурно-исторический круж к при современной школе». Тут у аснову працы такіх гурткоў прапануецца класьці вельмі цікавы, і бадай-што адзіны рацыянальна-навуковы мэтад: „*ознакомление с жизнью края, к которому члены кружка принадлежат национально и политически и в условиях культуры которого слагается вся их собственная школьная и внешкольная жизнь*" (стр. 12). Затым ад гісторыі свайго краю перайсьці да „истории других местностей, с ней так или иначе исторически связанных: в какой, напр., степени при изучении Белоруссии приходится считаться с историей Великороссии?"

Азначыўшы такім чынам прынцыпова-мэтодычны бок працы ў гуртках, Д. Жарынаў далей дае вельмі каштоўныя інструкцыі чыста практычнага характару, пры чым усюды падкрэсьліваецца, што праца ў культурна-гістарычных гуртках павінны мець на сабе выразны мясцовы колёрыт.

Можна толькі шчыра прывітаць такі падход да культурна-гістарычнай школьнай працы у нас на Беларусі, дзе царскім урадам то-ж старанна нішчылася і сьціралася ўсякае намяненьне на нашую гісторыю, і дзе школьнікам прыходзілася сушыць мазгі над усім, што ня мае ніякага значэньня да гістарычнага жыцьця Беларусі, апрача самой Беларусі.

Як-бы далейшым этапам пытаньня, закранутага Д. Жарынавым, зьяўляецца артыкул В. Пічэты. Калі Д. Жарынава цікавіць гістарычная праца ў рамках школьных, то В. Пічэта ў сваім артыкуле «Очередные вопросы белорусской историографии» ставіць пытаньне на сьцісла навуковы грунт.

„История белорусской территории рассматривалась либо как одна из составных частей киевско й державы, либо как демонстрирующая часть в составе литовско-белорусского государства, либо как нераздельная часть Российской империи" — гэтак характарызуе В. Пічэта ўсю ранейшую навуковую працу па гісторыі Беларусі. І далей, з нязвычайнай лёгічнасьцю, нязвычайна сьціслымі і сьмелымі рысамі аўтар разьбівае дашчэнту такі падыход да гісторыі Беларусі, даводзіць усю павярхоўнасьць і ненавуковасьць, усю аднабокасьць, а часта і проста тэндэнцыйнасьць так званых кіеўскай, пецярбурскай і маскоўскай гістарычных школ у пытаньнях гісторыі Беларусі, іншымі слов мі, дае адкрытую бойку тым гістарычным традыцыям,

якія, здавалася, моцна былі асталяваліся.

І ў гэтай бойцы В. Пічэта праявіў выдатную навуковую эрудыцыю, глыбокае разуменьне асноўных гістарычных фактараў наогул і таго, як гэтыя фактары адбіліся на гісторыі Беларусі паасобку, шырокі і сьмелы размах навуковай мыслі, якая не заплясьнела ў рамках якіх-колечы „традыцый", а —што найважней—цалкам об'ектыўны, пазбаўлены ўсякай аднабокасьці і тэндэнцыйнасьці, сьціслa навуковы падход да проблем гісторыі Беларусі.

«От историков белорусского народа в настоящий момент потребуется применение ревизионистского метода по всему фронту» —вось вуглавы, па думцы аўтара, камень, які павінен быць заложаны ў будынку новай навуковай працы над гісторыяй Беларусі.

Як мы бачым, гісторыка-беларуская навука мае ў асобе В. Пічэты вельмі здольнага і, адначасна з гэтым, вельмі шчырага прыхільніка.

Затым у часопісі ў гэтым-жа агульным аддзеле даволі багата прадстаўлена „Библиография".

«Беларускі аддзел» у гэтым выпуску часопісі прадстаўлены даволі ўбога. Апрача артыкулу Бядулі „Беларускі тэатр", навуковай тэрміналёгіі, бадайшто нічога цікавага.

Зьвяртаюць на сябе асаблівую ўвагу артыкулы З. Бядулі па гісторыі беларускага тэатру, якія ўжо блізка году рэгулярна паяўляюцца ў розных мясцовых часопісях, а ў тым ліку й найчасьцей у „Вестнике Наркомпроса". Як відаць, аўтар задаўся мэтай больш-менш навукова высьвеtліць той гістарычны шлях, па якім крочыць наш тэатр, каб пры дапамозе пэўнай гістарычнай пэрспэктывы можна было ставіць тыя ці іншыя прогнозы ў стасунку да будучыны нашага тэатру, можна было надаваць найбольш арганічна адпаведны кірунак у паступовым яго разьвіцьці.

Пры абсолютнай адсутнасьці навуковых прац, якія-б больш-менш сыстэматычна і закончана абымалі гісторыю нашага тэатру, — працы З. Бядулі ў гэтым кірунку маюць характар піонэраў, і ў гэтым іх першая заслуга.

Другая заслуга ў лёгкасьці і сакавітасьці стылю, у жывасьці і цікавасьці формы, у якой аўтар патрапляе ажывіць падчас сухі і чужы нашай псыхіцы матар'ял.

У ліку недахватаў можна адзначыць, што аўтар ужо залішне бегла, і разам з гэтым залішне популярна падыходзіць да гістарычных проблем беларускага тэатру. Прыцягваецца сюды матар'ял (аб гэтым сьведчыць і артыкул, зьмешчаны ў гэтым нумары часопісі), які даволі часта пасьпеў ужо спопулярызавацца ў расійскіх выданьнях (напр., працы акад. Е. Ф. Карскага), а ў той-жа час, як відаць, не выкарыстоўваюцца па магчымасьці поўнасьцю іншыя сьпісла-навуковыя і спэцыяльныя ў гэтай галіне крыніцы. Апрача таго адчуваецца часта больш суб'ектыўнай інтуіцыі, чымся навукова-дасьледчай об'ектыўнасьці.

У гэты бок, па нашай думцы, З. Бядуля павінен зьвярнуць большую ўвагу ў сваіх досьледчых працах па гісторыі беларускага тэатру.

Ня лішне будзе зьвярнуць увагу рэдакцыі „Вестника" на тое, каб «Беларускі Аддзел» не праяўляў у будучыне хістаньняў, каб ня быў у адным нумары бяднейшым, чымся ў папярэднім, а паступова павялічваўся і пашыраўся, паглыбляючы і высьвятляючы гэткім чынам проблемы беларускай культуры.

З другога боку рэдакцыя павінна зьвярнуць увагу на тую вялізную колькасьць друкарскіх абмылак у беларускіх тэкстах, якія калечаць зьмест і псуюць агульны выгляд часопісі.

**Ул. Дзяржынскі.**

**«Праменьчык».**—*Літаратурна-навуковая штомесячная часопісь. Выданьне Беларускай павятовай хаты беларускае культуры і мастацтва, № 1.*

Маленькі, машынкаю надрукаваны сшытачак, аздоблены вокладкаю і рознымі малюнкамі ў зьмесьце—выказвае сабою пільную і старанную працу бабруйскай беларускай моладзі. Разам з

гэтым ён адбівае ў сабе тую прагу й зацікаўленасьць, якія цяперака выклікала ў моладзі беларуская культура. Цяга акунуцца ў яе ўлоньне, прыняць удзел у яе адраджэньні вельмі шырока захапіла беларускую моладзь. Ды й ня дзіва таму: умовы свабоднага культурнага самавызначэньня, якія даравала беларускаму працаўніку акцябарская рэвалюцыя, даюць поўную магчымасьць для працы на ніве беларускай культуры. Блізасьць і роднасьць беларускай культуры да рэвалюцыйнага руху—прычына таго, што беларуская моладзь гэтак натхненна й прагавіта кідаецца ў ахоп новай і блізкай ёй справы. Тэатральныя колкі, асьветныя гуркі, якія шырока раскінуліся па абшарах Савецкае Беларусі і старанная праца ў гэтых колках ды гуртках сьведчаць аб грунтоўнасьці нашай думкі.

Часопісь „Праменьчык"—яскравы прыклад. Варта прагледзець яго, каб праканацца ў паважнай, сур'ёзнай працы яе супрацоўнікаў. Так можа працаваць той, хто палае шчырасьцю да данае справы.

З надворнага боку—мілае ўражаньне ад «Праменьчыку»; з сярэдзіны, з боку зьместу, часопісь так сама выклікае да сябе ўвагу. Некаторыя з напісаных рэчаў, як „Апавяданьне старога Пятра" Алеся Новага і верш «Восень» А. Бяздольнага—адмячаюць здольнасьць аўтараў, якія пры старанннай працы над сабою могуць падаць надзеі.

У сшытку зьмешчана тры вершы, апавяданьні, адзін артыкул публіцыстычнага зьместу і артыкул ад рэдакцыі. У гэтым апошнім гаворыцца: «З праменьчыку загарэлася сонца. З невялічкага расьце вялікае, сьветлае, калі ў яго шчыра вераць, калі яму аддаюць свае сілы й пачуцьцё».

Гэтак, калі вераць. У творах аўтараў „Праменьчыку" ня відаць іх веры; бадай у кожнай рэчы—адзін смутак. А гэта ўжо ня вяжацца з маладою душою. павінна быць ужыта радаснае й бядзёрае пачуцьцё.

Усё-ж, нарэшце, пажадаем маладой часопісі і маладым яе супрацоўнікам прадаўжаць іх працу, прыемную і карысную. Праца згладзіць усе шурпатасьці.

З.

# Хроніка Беларускае Культуры.

## Асьвета.

*Беларуская школа на Усходняй Беларусі.* Беларускае Цэнтральнае Бюро Асьветы пры Наркамаце Асьв. РСФСР зьвярнулася ў Калегію НКА з прозьбаю выдаць спэцыяльны цыркуляр аб стварэньні больш нармальных варункаў дзеля разьвіцьця беларускай культурна-асьветнай працы на ўсходзе этнографічнай Беларусі. Такі цыркуляр быў выданы. Ніжэй мы друкуем поўны пераклад яго. У цыркуляры гаворыцца ня толькі аб губ. Вітабскай, Гомельскай, Смаленскай, але таксама і аб Томскай губ., бо процант беларусоў перасяленцаў у некаторых паветах гэтай губ. дасягае значнай велічыні.

Гэты цыркуляр павінен адзначыцца пераломам у разьвіцьці беларускай творчай культурна-асьветнай справы на ўсходзе этнографічнай Беларусі. Пакуль што ён сказаўся толькі на Гомельшчыне і Смаленшчыне. Што тычыцца да Вітабшчыны, то пакуль што становішча там застаецца бяз зьмен. Патрэбна чынная праца мясцовых працаўнікоў дзеля дырэктывы кіруючага культурнага органу РСФСР.

*Цыркуляр Наркамату Асьветы РСФСР да Вітабскага, Гомельскага і Томскага губэрскіх Аддзелаў Народнай Асьветы.* Згодна з рэзалюцыяй, прынятай на 3-м Ўсерасійскім Зьезьдзе Загадчыкаў Губ. Аддзел. Нар. Асьветы і зацьверджанай Калегіяй Н. К. А. ад 26/х (пратакол № 34/496), Наркамат Асьветы прапануе Вам:

1. Зьмяніць ня досыць уважлівыя адносіны мясцовых павятовых і гарадзкіх аддзелаў народнай асьветы да культурна-асьветных патрэбаў беларускага жыхарства і ўчыніць крокі дзеля стварэньня нармальна-правідловых варункаў працы.

   *Увага:* Параграф гэты асабліва датычыць Вітабскай губ.

2. Зьвярнуць увагу ўсіх органаў Н. К. А. на мясцох, што асноўнай працай, дзеля немагчымасьці пашырэньня сеткі беларускіх школаў, зьяўляецца неаб однасьць учыненьня фактычных крокаў да пераводу выкладаньня ў школах І-ай ступені з пераважным лікам беларускіх дзяцей на родную мову.

3. Увесьці ў школах ІІ-ой ступені, якія знаходзяцца ў вабласьцёх, губэрнях і паветах, населеных пераважна беларусамі, як абавязковы прадмет (ня менш 2-х гадзін у тыдзень у кожнай групе), выкладаньне беларусазнаўства (беларуская мова, літаратура, гісторыя, географія і культура).

   *Увага:* Беларусазнаўства ўводвіцца таксама і ў тых школах, дзе вучні-беларусы складаюць больш 50%, хоць-бы ў гэтай мясцовасьці беларускае жыхарства складала меншасьць.

4. Увесьці на ўсіх курсах па падгатоўцы і перападгатоўцы пэдагогічнага пэрсаналу, як адчыненых, так і намечаных да адчыненьня ў бягучым годзе па тэрыторыі, населенай беларусамі,—выкладаньне курсу беларусазнаўства.

   *Увага:* У адносінах да падгатоўкі пэдагогічнага пэрсаналу для беларускіх школаў пацьвярджаецца пастанова Главпрафобру аб увядзеньні выкладаньня курсу беларусазнаўства ў пэдтэхнікумах і інстытутах народнай асьветы на тэрыторыі, населенай беларусамі (пастанова Пэдагогічнага Аддзелу Главпрафобру 3/IV—22 г., журнал № 2).

Просім паведаміць аб учыненым Губэрскім Аддзелам Народнай Асьветы дзеля ажыцьцяўленьня гэтага цыркуляру.

Нам. Наркамасьветы (*Хадароўскі*).

Загадчык Галоўсацвыху (*Бём*).

Нам. Старшыні Саўнацмену (*Росен*).

Сэкратар (*Наумаў*).

(«Сав. Бел.»)

*Нацыянальны аддзел Прыамурскай Вобласной* Управы зьвярнуўся да беларускага прадстаўніцтва ў Маскве з прозьбаю выслаць яму беларускай літаратуры для здавальненьня духоўных патрэбаў беларускіх жыхароў Прыамурскай вобласьці. Нацыянальны аддзел паведамляе, што патрэба беларускай літаратуры дзень-ад-дня расьце.

Так сама надаслана просьба на беларускую літаратуру *ад амэрыканскіх беларусоў*.

*) *Народны Камісарыят Асьветы Беларусі* цыркулярам ад 26 сьнежня мінулага году вызвальніў ад платы за навучаньне дзяцей служачых Наркамасьветы.

*) Прыказам № 405 *Наркамасьветы Беларусі* пастанавіў пачаць з другога паўгодзьдзя ва ўсіх чыгуначных школах на абшары Савецкай Беларусі выкладаць беларускую мову. Да гэтага часу ў чыгуначных школах беларуская мова ўпарта не дапускалася служачымі чыгункі, сярод якіх шмат расійцаў і русыфікатарскіх чыноўнікаў старога закалу.

*) Пры *Пятроўска-Разумоўскай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Маскве* яшчэ з 1920 году заснавана «Беларуская Асоцыяцыя» (аб'еднаньне). Мэта Асоцыяцыі—культурна-эканамічнае адраджэньне Беларусі. Заданьні—усебаковае пазнаньне краю. Адно з заданьняў—барацьба з нацыялістычнымі ўхіламі беларускіх шовіністаў і выразумленьне беларускага нацыянальнага руху шляхам падтрыманьня яго паступовых у агульна-людзкім сэнсе элемэнтаў.

Зараз Асоцыяцыя налічвае ў сабе 195 сяброў, галоўным чынам гомельчан і менчан. Апроч беларусоў у Асоцыяцыі маюцца жыды, татары й велікарусы; большасьць сяброў—не партыйныя, камуністаў звыш дваццаці. Асоцыяцыя і раз два гады свайго існаваньня зрабіла трохмесячную агранамічную практыку дзеля 74 сяброў на Меншчыне. У 39 мясцох этнографічнай Беларусі зроблены супольныя спробы з лубінам і серадэля й, якія далі цікавыя скуткі. Гурток сяброў у 10 чалавек пад кіраўніцтвам праф. Н. Оганоўскага працуе над пазнаньнем беларускага народнага гаспадарства. Складаецца бібліяграфічны ўказьнік па беларусазнаўству. Часткаю падгатаван да друку зборнік «Балоты Беларусі» з артыкуламі праф. Дубаха, Вільямса, Касьцякова, Рыбнікава і інш. Пятроўцы дапамаглі ўтварыць падобныя сваёй асоцыяцыі ў іншых навуковых установах Масквы, зьяднаўшы іх у адно Бюро.

(«Новая Пятроўка», № 1—22 г.)

*) У *Дзьвінску* (*Латвія*) адчынілася беларуская гімназія. Гімназія мае 4 клясы з 90 вучнямі. Ёсьць інтэрнат. Пры гімназіі знаходзіцца яшчэ пачатковая школа з 170 вучнямі і гадавыя вучыцельскія курсы з 32 курсантамі.

(«Сав. Бел.»)

*) *Прэзыдыум беларускіх студэнтаў у Празе* зрабіў захады перад чэскім урадам аб адкрыцьці ў Празе (сталіца Чэхіі) Беларускага Настаўніцкага Інстытуту.

## Літаратура й Мастацтва.

*) *Пясьняр М. Чарот* пачаў пісаць п'есу з эпохі польскага паўстаньня 1863 году. Канвою для п'есы аўтар бярэ рэвалюцыйную чыннасьць беларускага гэроя паўстаньня Костуся Каліноўскага, які кіраваў атрадамі беларускіх сялян, ставячы мэтаю звольніць Беларусь ад Маскоўскіх цароў і польскіх паноў.

*) Ц*ішка Гартны* перадаў сваю п'есу «Сацыялістка» для пастаноўкі Беларускім Дзяржаўным тэатрам у

юбілей беларускага артысты Крыніцы. Ужо прыступлена да рэпэтыцыі п'есы, якая пойдзе ў скорым часе.

*) *С. Некрашэвіч* працуе над першаю часткаю хрэстаматыі «Роднае Слова» — першая пасьля лемантара кніжка для чытаньня.

*) *М. Пятуховіч* падгатаваў да друку том крытычных нарысаў беларускае літаратуры. У том пакуль-што ўвайшлі крытычныя разгляды шасьці беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў, як Янка Купала, М. Чарот і інш.

*) *З. Бядуля* канчае апрацоўку «Гісторыі беларускага тэатру». Гэту працу ад аўтара набывае Інстытут Беларускае Культуры для выданьня.

*) *Е. Канчар* напісаў эканамічную географію Беларусі. Кніга мецьме да 20 друкаваных аркушаў. Аўтар прапануе выдавецтву «Савецкая Беларусь» купіць яго працу для выданьня.

*) *Беларуская паэтэса П. Арсеньева* занята перакладам на беларускую мову вядомай паэмы польскага паэты А. Міцкевіча «Dziady».

## Тэатр.

*У г. Вітабску пад кіраўніцтвам Міхася Зарэцкага* заложана беларуская трупа, якая складаецца з беларусоў—вайсковых і працуе, галоўным чынам, у вайсковых клюбах сярод гарнізоннага войску. Спэктаклі праходзяць са значным пасьпехам. Некаторыя з артыстаў граюць вельмі здольна. Але на дарозе працы ёсьць шмат перашкодаў, з якіх галоўныя— гэта адсутнасьць сродкаў. Трупе патрэбна дапамога. («*Сав. Бел.*»)

*Другая беларуская трупа пад загадам В. Галубка* з тым-жа пасьпехам, што і ў 1921 г., працавала і ў 1922 годзе. За мінулы год ёю дадзена 112 спэктакляў у розных мясцох Менску і на павеце. З гэтага ліку на цэнтр гораду прыходзіцца толькі 7 спэктакляў (у Беларускім клюбе), а ўсе іншыя, што пастаўлены былі ў Менску, выпадаюць на ваколіцы гораду. Гэтак 48 спэктакляў дадзена ў Серабранцы, 28 на Ляхаўцы, 12 на чыгунках, 3 на Пярэсьпе, 2 у вастрозе, 5 у прытулку № 4 і 1 у земскай больніцы. 12 апошніх з ліку 112—у павеце. Гэткім чынам выходзіць, што В. Галубок беларускі тэатр шчыльна зблізіў з тымі беларускімі коламі рабочых, служачых, мяшчанаў і сялянаў, якія складаюць сабою галоўную базу яго і ўсёй беларускай культуры. З гэтага боку праца В. Галубка дужа значная й карысная і займе пачэснае месца ў змаганьні за асьвету й культуру.

## Выдавецкая справа.

*Выдавецтва «Савецкая Беларусь»* мае выдаць «*Беларускі-Работніча-Сялянскі каляндар*» на беларускай мове. Каляндар будзе мець у сабе багаты зьмест матар'ялаў па розных пытаньнях. Асабіста поўны аддзел сельска-гаспадарчы, які рэдагаваўся Бонч-Асмалоўскім.

Гэтае-ж В-ва прыгатавала да друку «*Зборнік сцэнічных твораў*», кніжка першая. У зборніку будуць зьмешчаны такія п'есы: «Прымакі» Я. Купалы; «Мікітаў Лапаць», «Слуцкая варона» М. Кудзелькі; «Пінская шляхта» В. Марцінкевіча; «Зьбянтэжаны Саўка», «Конскі партрэт», «Паслапец» Л. Родзевіча. Падгатаўляюцца да друку чародныя кніжкі сцэнічных твораў.

*Коопэрацыйнае выдавецтва «Савецкая Беларусь» ахвяравала* для бяднейшых вучняў беларускіх школаў па 300 экз. выданых ім падручнікаў і па 9 экз. прыгожай пісьменнасьці— ўсяго семь назваў падручнікаў і пяць назваў прыгожай пісьменнасьці. Агулам звыш 2000 экзэмп. кніг.

Апроч памянёных у № 1 «Полымя» падгатаваных да друку выданьняў выдавецтва «Савецкая Беларусь», апошняе ў бліжэйшыя часы здае ў друк «Зборнік апавяданьняў» *З. Бядулі*.

* У *Віленскім беларускім выдавецтве* вышаў з друку збор твораў Л. Родзевіча—«Беларусь».

* У Вільні вышаў з друку *зборвершаў Уладзімера Дубаўкі—„Стромы“*.

* *Беларуская літаратурная хрэстаматыя.* Пісьменьнік М. Гарэцкі напісаў хрэстаматыю беларускай літаратуры за парыяд ад XI стагодзьдзя да 1905 г. Хрэстаматыя ўжо вышла з друку.

* *Жыдоўская сэкцыя замежнага аддзелу (Бэрлін) Госиздата* пачала друк беларускіх казак, пераложаных на жыдоўскую мову й апрацаваных для малых дзяцей жыдоўскім пісьменьнікам Л. Квітко. Казкі будуць выданы ў аднэй кніве (9—10 аркушаў) з ілюстрацыямі Лісіцкага. Апрацаваны гэткія казкі: 1. Хлеб, 2. Два маразы, 3. Музыка, кот і сабака, 4. Дудар, 5. Сож і Дняпро, 6. Чудадзейны гарох, 7. Хлопчык з кулачок, 8. Вайна, 9. Эканом, 10. Іван Беларускі. Апошняя вялікая народная казка разьбіта на 5 асобных частак: 1. Выгнаны Іван, 2. Івашка—шэрая сярмяжка, 3. Іван—Бязрукі і Іван—Бязногі, 4. Баба ў ступе, 5. Заклад.

# Прывітаньне „ПОЛЫМЯ“.

Гэтым шлём сваё шчырае прывітаньне новавыходзячай беларускай часопісі «Полымя». Спадзяёмся, што« Полымя» асьветліць усе бакі нашага сучаснага культурна-нацыянальнага жыцьця і, асабліва, яго палітычны бок, у чым да гэтага часу адчуваўся вялікі недахват. Так сама спадзяёмся, што ў гэтым напрамку новавыходзячая часопісь дасьць значны крок уперад беларускай працоўна-пролетарскай культуры.

Няхай жыве і яскрава гарыць «Полымя»!

*Ад імя беларускіх настаўнікаў Цялядаўскае воласьці—*
*настаўнік* **Янук Шаблюк**.

М. Пясочня па Случчыне. 25 сьнежня 1922 г.

---

## ПАПРАЎКІ:

I

Сьпяшаючыся з перапісваньнем свайго артыкулу **„Чым выклікаецца эканамічнае аб'еднаньне Савецкіх Рэспублік“** (гл. «Полымя» № 1), я ня прыкмеціў у свой час, што мною былі абмылкова прапушчаны два радкі чарнавіка. Абмылка прайшла і ў друку, а дзеля гэтага прашу ў № 2 «Полымя» надрукаваць вось якую папраўку: на 18 радку спачатку ўпамянёнага артыкулу на 50 стр. № 1 «Полымя», замест слоў «8 незалежных савецкіх сацыяльных рэспублік», трэба чытаць:

...«8 значнейшых незалежных ці шырока-аўтаномных рэспублік, якія маюць выразныя гаспадарчыя асабістасьці і якія для простасьці будзем лічыць пад агульнаю назваю незалежных савецкіх сацыяльных рэспублік»...

**Я. Пятровіч.**

II

Павінен направіць той досадны ляпсус, які быў допушчаны мною ў артыкуле «Навакол Польскага Сойму» у першым нумары «Полымя». Дзякуючы кепскаму знаёмству з польскаю мовою, я ня прымеціў у польскіх газэтах, з якіх браў матар'ял для артыкулу, *што Сойм, памаліўшыся богу у касьцёле сьв. Яна, адчыніўшыся у касьцёле прамоваю ксяндза, на пасяджэньне перайшоў у сваё памяшканьне,* па суседству з касьцёлам. Хоць ляпсус сэнсу артыкулу і не мяняе, але мушу адзначыць яго. **М. Маразоўскі.**

---

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная калегія.**
*Выдавец:* **Коопэрацыйнае т-ва «Савецкая Беларусь».**

# ДРУКАРСКІЯ АБМЫЛКІ.

| *Стар.* | *Радок* | *Надрукавана* | *Павінна быць* |
|---|---|---|---|
| 69 | 13 зьнізу | меры | леры |
| 70 | 4 зьверху | меры | леры |
| 70 | 15 „ | пралёнамі | пракленамі |
| 71 | 7 зьнізу | спыхнула | сьпіхнула |
| 71 | 4 „ | правідкасьці | пракідкасьці |
| 72 | 15 „ | ...і якіх равалюцыя кастрычніка ня ўсілах была разагнаць. З першых дзён свайго жыцьця... | ...і якіх рэвалюцыя кастрычніка ня ў сілах была разагнаць з... першых дзён свайго жыцьця |
| 72 | 2 зьнізу | залётамі | залёталі |
| 73 | 17 „ | пёмнай | цёмнай |
| 74 | 14 зьверху | Комрадзь | цемрадзь |
| 75 | 1 „ | (ясакар) | (Ясакар) |
| 75 | 13 зьнізу | клятаЛі | клякатлі |
| 76 | 1 зьверху | дзяржаўнась | дзяржаўнасьць |
| 76 | 16 зьнізу | дазваляля | дазваляла |
| 76 | 5 „ | сьвец | сьвет |
| 78 | 4 зьверху | выгляд ла | выглядала |
| 81 | 4 „ | рэвалюцый | рэвалюцыі |
| 83 | 4 „ | кроманьню | Кроманьню |
| 83 | 5 „ | кразіва | Крапіва |
| 84 | 11 „ | ральні | ральлі |
| 95 | 5 „ | Ма | мы |
| 95 | 4 зьнізу | годзе | зьезьдзе |
| 97 | 18 зьверху | калодзеж | калодзезь |
| 100 | 6 зьнізу | паднімецца | паднімацца |
| 101 | 1 зьверху | Універсітэт | Ўнівэрсытэт |
| 103 | 2 зьнізу | Огаповск | Огаповскі |
| 104 | 2 „ | нўзабаво | неўзабаве |
| 106 | 7 „ | прымушаша | прымушана |
| 109 | 8 „ | рэспубліка | рэспублік |
| 112 | 18 „ | ахв рбоўку | ахварбоўку |
| 116 | 15 зьверху | шэў | меў |
| 118 | 12 зьнізу | яні | ані |
| 119 | 26 „ | кожныма | кожным |
| 125 | 5 зьнізу | Вартуйце | Вартуе |
| 132 | 9 зьнізу | Павярхоўнасьц | павярхоўнасьці |
| 135 | 20 зьверху | вельлі | вельмі |
| „ | 16 зьнізу | беларусызацыя | беларусызацыяй |
| „ | 14 » | гэтае | гэтай |
| 137 | 4 зьверху | т. Рапуцька | т. Ракуцька |
| » | 21 зьнізу | сямігодіі | сямігодкі |
| 138 | 18 » | по якіх | па якіх |
| 140 | $12^2$ » | праны | красы |
| » | $10^2$ » | з сабажай | з сабачкай |
| 141 | $3^1$ зьверху | адувае | адчувае |
| » | $7^1$ » | па збанок | на збанок |
| » | $19^2$ » | небараакі | небаракі |
| 142 | $9^1$ » | ночьняўпынна | ночы я няўпынна |
| » | $22^1$ » | бяссмертную | бязьмерную |
| » | $15^1$ зьнізу | няволыніца | павальніца |
| » | $9^2$ зьверху | сымоблічных | сымболічных |
| 144 | $5^1$ зьнізу | пад ткаў | падаткаў |

# ЗЬМЕСТ 2 га НУМАРУ.




Главліт № 730. Менск, I Сав. друк. з. № 504. Друк. у ліку 1000 экз

## ЗЬМЕСТ № 1 (сьнежань 1922 г.)

# „ПОЛЫМЯ“



Кошт нумару 5 рублёў грашыма 1923 году.

---